чамадан. Трэба думаць, што ў час, калі Максім хадзіў развітвацца да Сцяпураў, ён і Віктуся паспелі штосьці, зразумелае ім абаім, сказаць адзін аднаму вачыма, такія іх былі годы. Мікалай Хадыка падумаў цяпер, бачачы Вікцю ў сябе на двары: «Знойдзе Максім сабе і ў Мінску, вучоную». Нейкая непрыязь да ўсіх Паступовічавых заварушылася ў ім.

У нядзелю ён пайшоў да Паступовіча, каб напісаць пісьмо. «Вікця ў Сцяпуры»,— сказаў Паступовіч. Ён рушыў да Сцяпуры і ўбачыў там Вікцю: яна сядзела за сталом поплеч Ліды і каля іх маладзы, крыху як бы таўсматы хлопец у сінім фрэнчы, з выгляду старэйшы за Вікцю і як бы Лідзін аднагодак. Ён жартаваў, рагатаў і як мог увіхаўся каля дзяўчат. Убачыўшы Хадыку, ён дастаў з кішэні газету «Чырвоную змену» і прачытаў: «На Мінскай раённай канферэнцыі камсамола выбран новы райком». І прачытаў спіс нававыбраных членаў райкома. У гэтым спісе быў і Максім Хадыка. Прачытаўшы, малады чалавек падцягнуў да кален хромавыя халявы ботаў і зарагатаў, гледзячы на Хадыку: у таго на твары не адлюстравалася ніякага пачуцця. Твар гэты быў штучна-халодны, і гэта было ім сумысля так выстарана, і той, у сінім фрэнчы, бачыў гэта. Раптам Хадыкаў твар пачырванеў і губы перасмыкнуліся. Наглядальны чалавек мог бы здагадацца, што стары Хадыка стрымлівае сябе, каб не сказаць штонебудзь зняважлівае хлопцу ў сінім фрэнчы.

Але тут была справа не ў рогаце гэтага хлопца. Тут была іншая акалічнасць.

## III

Ёсць людзі з падвойнымі прозвішчамі, а тут было аж патройнае, і склалася яно апошнімі часамі, але тут трэба ведаць што-нішто пра мястэчка Сумлічы. Гэтае мястэчка стаіць вельмі блізка ад старое Маскоўска-Варшаўскае шашы, праз самае ж мястэчка праходзіць шырокі гасцінец з захаду на ўсход. Тут, навокал Сумліч, у полі і лясах і ў самым мястэчку ў тысяча дзевяцьсот пятнаццатым годзе, увосень, была вялікая папаска бежанцаў. З фурманкамі і набыткам людзі стаялі тут падоўгу. Між іншага, з гэтай стаянкі астаўся тут назаўсёды Мікалай Хадыка. Стоячы тут, людзі давалі ціхі час памерці сваім хворым, хавалі памерлых, спродвалі адзежу, набытак і жывёлу. Выбраўшы далейшы шлях, людзі пускаліся ў яго, хто без маёма-

сці, а хто без блізкіх і родных. Такім парадкам сумліцкае поле і ўзлескі за той час укрыліся магіламі і крыжамі. Сумліцкая зямля чула на сабе енк і плач людзей, якія ўпершыню бачылі яе. Так праехала тут Заходняя Беларусь, польскае сялянства, і траплялі сюды людзі з Холмшчыны. У тую восень і з'явіўся сюды з параконным возам нейкі чалавек з прозвішчам Сінябрыцкі. Быў з ім хлапчук, ужо добры падростак. Ніхто ніколі не ведаў, адкуль Сінябрыцкі быў родам і дзе тая мясціна на зямлі, да якой ён навек прывязан душой. Гаварылі, што ён недзе не то з-пад Бранска, не то з-пад Крычава. Але калі так, то чаго ён заехаў сюды на захад, калі тады якраз усе ехалі з захаду на ўсход? Як бы там ні было, ён з пустым сваім параконным возам стаяў месяцаў два ў самай бежанскай гушчы, і калі бежанцы прадавалі што маглі, то ён купляў у іх. Накупляўшы паўнютка, ён ад'язджаў праз Слуцк і Бабруйск на Гомельшчыну, там усё перапрodваў і варочаўся зноў у Сумлічы купляць, і так многа разоў. Расказваюць, што за тую восень хлопец яго вельмі падрос, а сам ён так нажыўся, што да самага канца вайны і першы час пасля рэвалюцыі жыў з гатовага, палец аб палец не выцяўшы. Нейк ён усім убіўся ў вочы, заўсёды заклапочаны мітусіўся то ў мястэчку, то на бежанскіх стаянках, то чагосьці ездзіў то ў Мінск, то ў Магілёў, то мог праседзець нерухома цэлага паўдня на высокім ганку сумліцкіх крам. Усюды ён мог дапасці і «ўставіць свае тры грошы». Адным словам, без яго і Сумлічы не былі б Сумлічамі. І нарэшце ён тут астаўся і жыць. Трэба думаць, што або тут яму спадабалася, або пакінула падабацца там, дзе ён дагэтуль жыў ці быў. І тут выявілася нейкая дзіўная рэч: хто гэта сказаў, што гэтага чалавека прозвішча «Сінябрыцкі», калі, астаўшыся ў Сумлічах, ён пачаў пісацца «Папсуеў», і спачатку пусціў погаласку, што ён родам з Клімавіч, а пасля, што з-пад аршанскіх Горак? Аднак жа неўзабаве пачалі гаварыць, што ён і не з Горак, і не з Клімавіч, а з Клінцоў, хоць, праўда, былі і такія, што выводзілі яго паходжанне з сяла Вялікі Двор, што каля Паўлавага Пасада. Не можа быць, каб сумлічане самі выдумалі гэта. Хто з сумлічан ведае, што ёсць на свеце такое сяло? А калі хто і ведае, то чаму канешне выдумляць, што Сінябрыцкі-Папсуеў адтуль родам? Мусіць, гэта ён сам, калі-небудзь з-за сваіх інтарэсаў дапаў быў да гэтага сяла, уведаў яго і цяпер пахваліўся, што ён тамашні. Таксама, як цяпер, пабыўшы ў Сумлічах, ён мог бы дзе казаць, што ён сумліцкі. Але не паспеў

ён на ўсю сваю моц разгарнуцца ў Сумлічах, як немаведама адкуль пайшла погаласка, што «які ён там к чорту Папсуеў, калі ён проста «Папсуй», і не з Вялікага Двара, а з-пад той станцыі за Оршай, якая называецца Хлюсціна. А што сумлічанам да таго, адкуль з'явіўся да іх Папсуй? І ці не ўсё роўна — Папсуеў ён ці Сінябрыцкі? Так яго і звалі заўсёды: «Сінябрыцкі-Папсуеў-Папсуй». І няхай сабе ён будзе хоць «з багна-балота-сухога-чарота». Яго рухавасць вызначыла яму і далейшы лёс у Сумлічах. Сакавік і красавік семнаццатага года ён займаўся арганізацыяй у Сумлічах спажывецкага таварыства, старшынёй якога сам і зрабіўся. У гэтай кааперацыі ён прадаваў і свае ўласныя тавары, якія заўсёды меў зручнасць недзе даставаць. Неўзабаве, аднак, ён кінуў кааперацыю для новай дзейнасці. Сын яго Вацік Папсуеў к гэтаму часу яшчэ больш выцягнуўся, хоць быў яшчэ зусім зялёненькі і хадзіў у галіфэ і фрэнчыку з кааперацыйнай мануфактуры і шаўровых боціках. Хто ведае, да чаго рыхтаваў яго бацька і аб якой будучыні для яго дбаў тады, калі Мікалай Хадыка і Міхал Сцяпура дзеля будучыні сваіх дзяцей заводзілі сталыя дамоўкі, каб і сабе на старасць і дзецям на доўгі век. Праз кароткі час Папсуеў стаў начальнікам мястэчковай міліцыі, але не ўбыў тут доўга: у хуткім часе пачалі гаварыць, што ён нейкаму засцянковаму шляхціцу прадаў канфіскаваны ў яго ж самагонны апарат. Прыйшлося ўжыць увесь спрыт, каб выкруціцца з бяды. Справу ўдалося замяць, але і з пасады начальніка міліцыі паляцець. Але ці мала на свеце спосабаў жыць? Папсуй-Сінябрыцкі пачаў чакаць. А тым часам Сумлічам суджана было перажыць нямецкую і польскую акупацыі, а пасля, кіламетраў за дванаццаць ад Сумліч, прайшла граніца з Польшчай. Многія сумлічанкі, што павыходзілі былі замуж у той бок, раптам апынуліся навек адгароджанымі ад блізкіх і родных. Браты родныя, што жылі адзін ад аднаго за чвэртку кіламетра, атрымалі страшны лёс век не бачыць і не чуць адзін другога. На сотні кіламетраў людзі праклінalі гэтую граніцу. Сумлічане бедавалі, што, можа, гэта так астанецца на ўвесь іхні і іх дзяцей век. Сінябрыцкі-Папсуй быў чалавек не тутэйшы, блізкіх і родных тут у яго не было. Граніца аднак жа аставалася граніцай, і Папсуй-Папсуеў накіраваў сваю ўвагу на тую акалічнасць, што пагранатрад затрымліваў на граніцы кантрабандыстаў і ўсялякіх іншых падазроных асоб. Сінябрыцкі падумаў: калі гэтая асоба ёсць і калі насельніцтва заклікаецца да

пільнасці, то не можа быць, каб з гэтых асоб і з пільнасці каля іх няможна было хлеба есці. Можа, дакладна ён так і не думаў, але, у кожным разе, узяў сабе за занятак кожнага сумлічаніна падазраваць у якім-небудзь пагранічным граху, хоць яго ніхто на гэта не ўпаўнаважваў і не прасіў. У той меры, у якой ішоў час і падрастаў малады, як казалі сумлічане, Вацік Папсуйчык, станавілася цяжка ўдакладніць, дзе канчаецца стары Папсуй і пачынаецца малады Папсуйчык. Бо сын неўзабаве перавысіў бацьку. Яно і вядома, малады ўвішнейшы за старога і на ногі, і на мазгі.

Дзе стары павінен убачыць на свае вочы, там малады або здагадаецца, або сам прыдумае. Такім парадкам не было такога сумлічаніна, на якога б не было ўскладзена Папсуямі-Папсуевымі-Сінябрыцкімі падазронасці ў шпіёнстве, кантрабандзе, падробцы пашпартоў, перакідцы за граніцу немаведама якіх асоб і падрыхтоўцы ўзрыву шаснаццаці мастоў на рацэ Сумлі, на якой было чатыры масты. Аб усім гэтым пісалі даносы ў форме: «не сцвярджаю, але падазраю, бо чаму ж, калі не так, Язэп Паступовіч так позна, і не адзін раз, варочаецца з поля дадому, гадзін у дванаццаць ночы».

Спачатку Вацік Сінябрыцкі нідзе не вучыўся, а пасля падаўся ў адзін з апошніх класаў сямігодкі і скончыў яе. Ён умеў добра і бегла пісаць, складаць афіцыйныя паперы (ніхто не ведаў, дзе ён гэтаму так навучыўся, калі каму трэба было чаго-небудзь і дзе-небудзь хадайнічаць, ён ахвотна браўся за гэта, сказаўшы: «мы гэта крэпенька, што называецца, правярнём і ўміг прапясочым». Ён быў рухавы хлапчына, і каб штосьці не сапсавала яго ў першыя маладыя гады, з яго мог бы выйсці чалавек, а то з яго выйшла вялікае зло. Пасля, калі па сумліцкіх вуліцах і па сумліцкім полі здорава-такі патапталася нямецкая навалач і калі ўсё тое, што служыць зместам майго апавядання (і я пішу гэтую хроніку), калі ўсё адбылося і крывавым чынам зачапіла блізкіх маёй душы людзей, якіх я выводжу і хачу, каб чытач вызнаў іх за людзей добрых, справядлівых і вартых увагі, цяпер нават і сам Ахрэм Ракавіцкі, галава ўсяго таго раёна, дзе Сумлічы, пра якога я яшчэ не казаў і пра якога зараз скажу, цяпер ужо і гэты чалавек убачыў, што яму трэба было глядзець не на двух Папсуёў, а якраз на тых, да каго ён праз Папсуёў стаў задам. Ахрэм Ракавіцкі ўбачыў, што самы верны спосаб пазнаць чалавека, гэта прыгледзецца, колькі добрага ён

зрабіў людзям, а не колькі ён пасеяў зла. Вялікая памылка заўсёды была ў таго, хто думаў праз нянавісць ажыццяўляць добрыя ідэалы. Сумліцкі Папсуй быў жывым увасабленнем заядлай нянавісці нават і да таго, каго ён і ў вочы не бачыў ніколі. Сумлічане жылі і азіраліся: а ці не накіравана да мяне Папсуева вока? Яго баяліся тым больш, што ён не быў ніколі якой-небудзь афіцыйнай ці службовай асобай, ён быў толькі ахвотнікам да «дзейнасці» і «пільнасці», і на яго і скардзіцца не было каму і як.

Гэтым можна вытлумачыць тое, што Мікалай Хадыка запячатаў свой твар холадам маўчання, калі Вацік Папсуйчык вычытваў яму з газеты пра Максіма. Страшна было што-небудзь сказаць або выявіць да чаго сваё дачыненне. Сінябрыцкі-Папсуй усё вытлумачыць, як захоча, у свой бок. На гэтым і скончылася Хадыкава жаданне пісаць пісьмо свайму Максіму. Праз некалькі дзён аднак жа ён вельмі радаваўся, што не напісаў таго пісьма. Шчаслівыя думкі яго сыходзіліся на тым, што ён тым сваім дурным, як сам цяпер лічыў, пісьмом не збіў Максіма з дарогі. Справа такая, што ў тыя дні прыйшло ад Максіма поўнае радаснага захаплення пісьмо. Шпаркімі і разгоністымі літарамі Максім пісаў: «Бацька! Будзь вясёлы і шчаслівы! Зайдзі да Сцяпуры і перакажы яму і Лідзе ад мяне прывітанне, а таксама Паступовічу і яго Вікці. Каб ты ведаў, як у мяне ўсё добра ідзе! Перш за ўсё скажу табе, што я ўжо, як самы сталейшы («з яго робіцца нейкі хвалько!» — з прыкрасцю падумаў Хадыка), выступаў на адкрыцці навучальнага года, і я гаварыў, каб ніхто з гэтых маладых студэнтаў не забываўся, што ён належыць да вялікага беларускага народа. А калі ён мае свае вочы, каб бачыць, і вушы, каб чуць, то ён не можа не належаць партыі, <якая змагаецца> за шчасце свайго народа. Мая прамова зрабіла на ўсіх вялікае ўражанне». Ён хваліўся, гэты зялёны юнак, сваімі поспехамі. Дачытаўшы пісьмо, недаверлівы бацька ўзнёс да бога шчырае слова: «Божа, дай яму быць добрым настаўнікам і не аддаляй яго ад мяне». Пасля ён падумаў: «Ён думае аб дзяўчатах — Лідзе і Віктусі». Але дзіўная рэч: невядома з чаго нейкая трывога лягла на душу Мікалая Хадыкі, і гэта нейкім чынам ядналася з Сцяпуравай Лідай і Вацікам Сінябрыцкім. Ён быццам адчуваў, што ў сувязі з імі нейкае няшчасце і яму будзе. Хоць беспрычынная трывога яго неўзабаве і прайшла, але думкі пра Сінябрыцкіх не выходзілі ў яго з галавы. Ён яшчэ больш іх узненавідзеў, але не за іх спра-

вы, якіх ён на сабе не спрабаваў, хоць і яны мелі тут месца, можа з іх усё і пачыналася. Сінябрыцкія жылі, як бяздомныя птушкі, якія круцяцца ля чужых гнёздаў. Тады калі Хадыка, Сцяпура, Паступовіч і не менш сотні іншых сумлічан і прышлых сюды людзей узводзілі з паўднёвай сумліцкай старапы будоўлю і, разам усе, стварылі новыя тры вуліцы, Сінябрыцкія займаліся сваімі справамі і не шманалі. Яны арандавалі пейкую трухлявую даміну пры местачковым рынку, і некалькі гадзін штодзень стары Сінябрыцкі праседжваў на ганкавых усходах свае кватэры. Што ж да Ваціка, то гэты, здавалася, адначасна мог быць відзён на ўсіх местачковых канцах, і заўсёды з рогатам і жартам. У простых людзей з веку ў век была нянавісць да таго, хто рагоча і гуляе, калі ўсе займаюцца работай. Бяздом'е бывае вымушанае, з гора, але бывае і з-за нядбайства. Але гэта да Сінябрыцкіх не належыць. Нядбайнікамі яны не былі. Яны дбалі так, што за сваё жыццё маглі хваліць бога. І бяздомнікамі яны не былі. На галаву ім дождж не ліў, і вецер не дзьмуў ім у косці. Кватэры яны, праўда, часта мянялі, але жытла паспрабавалі і ў новых дамах, пастаўленых у гады рэвалюцыі, і ў старых, пастаўленых дзядамі цяперашніх сумлічан. Яно і так, калі падумаць: той, хто паставіў дом, даўно памёр, а дом стаіць. Трэба ж, каб у ім хто-небудзь жыў. А тым часам тры новыя сумліцкія вуліцы даходзілі да свайго завяршэння. Хаты трох пачынальнікаў іх ужо скрыліся сярод маладых садоў, новых дамоў і хат. Ужо высока ўзніmaліся пасаджаныя скрозь клёны, бярозы, каштаны і ясені. Вясною густа цвілі маладыя ігрушы і яблыні. Улетку, здаецца, веццє гнулася ад вішань, у жнівені цэлымі начамі стукалі яблыкі, падаючы з дрэў у траву. Пасля жніва і прыборкі з поля і да халадоў за садамі і агародамі ў полі аж бялелася ад гусіных чародаў. З іржышча і паплавоў гусіны гергет чуўся аж па другі бок мястэчка. Зімовымі вечарамі аж да трэціх пеўняў ніяк не магла асталявацца цішыня на гэтых трох вуліцах: духавы аркестр сумліцкай пажарнай дружыны бесперапынна развучваў свае маршы. Вацік Папсуйчык тут граў на самай большай трубе, якая вухае і грукае і тоўстым колам ускладаецца музыканту цераз плечы і грудзі. Можна сказаць, што гэта быў адзіны занятак, якога малады Папсуйчык упільчыста трымаўся, а то ён усё скакаў, як верабей, з месца на месца.

Новыя тры вуліцы сумлічане чамусьці назвалі Сумліцкі Прысынак, а пасля проста Прысынак, можа таму, што

гэты пасёлак, як хлапчук да маткі, прытуліўся да старога мястэчка. Але якая б там назва ні была, на Прысынку заўсёды было добра і весела. Вясною тут пахла садамі і яблычным цветам, улетку полем, увосень садавінай, а ўзімку смольнай хвояй з Сумліцкіх лясоў. Але прысынкаўскія пахі гэтым не канчаліся. З канца сакавіка і па май месяц тут трымаўся пах, які ў кожнага новага чалавека неміласэрна гнаў сліну. Бадай што на кожным агародзе курылася вяндлярня, і дух ад венджаных шынак, каўбас, паляндвіц і сальцэсонаў забіваў далікатную духмянасць яліны і хвоі на ўзлессях і лясных дарогах аж за некалькі кіламетраў ад Сумліч. Чым больш праходзіла часу, тым больш Прысынак тануў у гушчырні дрэў і больш абрастаў садамі, агародамі, кветнікамі, выцягваўся ў поле загарадзямі, сцежкамі і прыбудовамі. І ўсе прысынкаўцы заўсёды былі на воку адзін у другога. Відзён быў заўсёды павольны і разважлівы Міхал Сцяпура, цягавіты, працавіты, спакойны, сталы, удумлівы, заўсёды схільны ўміліцца душой над вялай ад спёкі травінай. То ён часаў бервяно, то дніў кадушку, то рабіў колы, то правіў загарадзь. Юзя Паступовіч стаў любіць сябрыну і кампанейства. Ён вельмі шкадаваў, што Сцяпура не курыць: у кампаніі з суседам ахватней курылася б. К гэтаму часу Целяфун стаў нейкі як бы па-дзіцячаму наіўны. Расказвалі пра яго, што ён мог цяпер добрую гадзіну прыглядацца да рухавай ад ветру аўсянай мяцёлкі і раптам, адумаўшыся, ірвануцца да якой-небудзь работы.

Што да Мікалая Хадыкі, то да таго часу, калі яго Максім у поўнай маладой сталасці з'явіўся ў Сумліцкім Прысынку, як ацэншчык усіх тут справаў і з'яваў, з старым Хадыкам адбылася змена. Яго нянавісць да Сінябрыцкіх перавысіла ўсе межы. Раптам ён агледзеўся і жахнуўся: «Сінябрыцкі жыве на чужым і на гатовым, нават кала сам не зачасаў. Дык і я ж, як той пустадомак, так і асталося ўсё ў мяне не даведзенае да ладу: я не канчаў дому свайго, а збіраў грошы на Максімаву навуку, а Максім без грошай вучыцца». Хадыка ўстрапянуўся, як уражаны жахам. Быццам бы ўсяго і мэты было на свеце ў чалавека, каб не быць падобным да Папсуевага-Сінябрыцкага. Хадыка габляваў дошкі, заганяў цвікі, вычэсваў кліны, выпілоўваў штыкеты, акорваў жэрдкі, дзёўб пазы ў шуллі, умацоўваў карантышы на штылёх, падганяў ліштвы, прыстоліў сенцы і нават вешала прыбіў над ганкам. Якой дамавітасцю дыхнула цяпер ад яго рамесніцкай сялібы!

Можна было падумаць, што Мікалай Хадыка раптам надумаўся вярнуць раней страчанае праз сваё абібоцтва, так ён дзень пры дні стараўся каля дому, і дзіўна было, што не відно тут жанчыны. Такая на гэтага чалавека напала руплівасць, што, здавалася, ён абсеўся вялізарнай сям'іскаю, якая ўся і сядзіць на яго шыі. Тым часам явіўся і Максім. Ён даўно не быў у Сумлічах, нешта гадоў са два. Ён часта пісаў бацьку, але і з гэтых частых пісем відно было, што ён стаў скупейшы на слова. Яно і вядома, ён сталеў з ходам часу, і цяпер ужо бацька не пачуў бы ад яго наіўных тых словаў аб замілаванні, аб народзе, аб удалым выступленні на пачатку навучальнага года. Стары Хадыка хадзіў чытаць гэтыя пісьмы і да Сцяпуравай Ліды, і да Паступовічавай Вікці. Абедзве яны заўсёды пыталі яшчэ, а што так, без пісьма, чутно пра Максіма і чаму ён падоўгу не прыязджае. Бацька адчуваў, што яго Максім стаў перайначвацца, а як і што — не яму было ўцяміць. Даходзілі, праўда, чуткі, што Максім і адно і другое лета выязджаў кудысьці з Мінска. Ён і сам пісаў: «Выязджаю на цэлае лета ў экспедыцыю». У якую гэта «экспедыцыю»? І што такое «экспедыцыя»? Цяпер Максім прыехаў. Высокі, тонкі, смуглявы, у чорным гарнітуры, які на Прысынку здаўся ўсім шыкарным. Ён галіўся два разы на тыдзень, хоць і без пільнай патрэбы. Стары Хадыка наглядаў за ім і бачыў, што ён часта сядзе, паглыбіцца ў думкі і так сядзіць і гадзіну і дзве. Бацька не вытрымаў:

— Скажы ты мне, куды ты гэтыя леты ездзіў і на каго ж ты, урэшце, вучышся?

— Ездзіў я па ўсёй Беларусі вышукваць і глядзець помнікі і сляды беларускай гісторыі. Мне ўдалося далучыцца да дзяржаўнай экспедыцыі. Педагагічны тэхнікум я скончыў і ўжо маю права быць настаўнікам, хоць бы сабе і ў Сумлічах. (Ён ведаў патаемныя думкі бацькі і, любячы яго, сказаў апошнія словы.) Але я ўжо на першым курсе універсітэта. На гістарычным факультэце. Я хачу быць гісторыкам.

Бацька заўважыў, што сын ужо не выварочвае перад ім свае душы, а зніжаецца ў гаворцы да яго ўзроўню. І ён уздзякваў бога, што Максім вырас, і самастойны чалавек.

— А гарэлку ты п'еш? — сказаў Хадыка.

— П'ю,— адказаў Максім.

Бацька дастаў гарэлку, і з сынам удвух яны выпілі. Усю ноч пасля шчаслівае ўзбуджэнне не дало заснуць

Мікалаю Хадыку. Адчуванне таго, што ніякі клопат не гняце яго, было ў яго. З таго дня Мікалай Хадыка пачаў інакш жыць, быццам ён дзеля самога сябе ніколі не жыў і цяпер, успомніўшы гэта, стараўся злавіць удёклае. Смешна было б глядзець староннямy чалавеку. Хаваючыся ад Максіма, ён штодзень даставаў з поўнай збожжам кадушкі адпітага паўлітра і каштаваў гарэлку «нашча, на апетыт і на здароўе, бо жыць і не хварэць трэба доўгія годы, жыць добра стала». Максім пажыў у бацькі з месяц і паехаў. Бацька астаўся адзін. Выгляд яго нейк змяніўся. Ён стаў павальнейшы, цяслярскае работы не браў, а сталярскую выбіраў, каб не абы-якая, а тонкая, далікатная, і неўзабаве пачаў рабіць толькі мэблю, шуфляды аконныя, зрабіўся майстрам на веранды і ганкі. Вельмі можа быць, што з лёгкай Хадыкавай рукі сумлічане ўзялі моду будаваць дамкі з верандамі. Усе тыя гады мястэчка ўсё забудоўвалася. Усе сумліцкія веранды былі parоблены Хадыкавымі рукамі. У яго ўжо і заваду не было той ранейшай патрэбы рабіць дзеля кавалка хлеба, і ён пачаў вымышляць: ужо і сталярства занядбаў, а стальмахом стаў: малатарні ставіў і млыны рабіў. Сваю хату ён перарабіў нанава. Сенцы і клець перасыпаў і пераімшыў, павырэзваў вокны, вымаляваў падлогу, і выйшлі два пакоі, і столь у хаце падняў на два вянкі. Пераставіў печы і ўсюды філянковыя дзверы. Ён ужо курыў добрыя гатунковыя папяросы, і ў яго абудзілася рэўнасць да славы свайго сына перад тымі, хто таксама сачыў за Максімам. Аднойчы Сцяпурава Ліда і Паступовічава Вікця прыйшлі да яго з газетай. Адна перад другой навыперадкі яны сказалі:

— Пра Максіма.

І Ліда прачытала: «Малады гісторык, студэнт гістарычнага факультэта Максім Хадыка, зачытаў на навуковым гістарычным таварыстве даклад: «Помнікі беларускай гісторыі як паказчыкі вялікасці беларускага народа». Гэтыя дзяўчаты былі ўражаны тым, што знайшлі Максімава імя. І ў душы старога Хадыкі абудзілася рэўнасць. Ён выпісаў газету і кожны дзень чытаў, але больш як год не спаткаў там нічога пра Максіма, а там зноў быў падобны на той першы допіс. Ліда і Вікця часта прыходзілі да яго пытаць, што піша Максім, і чыталі яго пісьмы. Хадыка бачыў: абедзве яны любяць Максіма. І гэта была праўда. Вось якое месца занімаў Максім у душах гэтых дзяўчат. З імі ён бачыўся бадай штодзень, калі апошні раз быў у Сумлічах. Гады яго былі такія, што ён выехаў з Сумліч

з сумам па іх абедзвюх, па ўсіх сумліцкіх дзяўчатах, па саміх Сумлічах, па сумліцкіх зорных начах, летніх днях, бацькавай хаце і па ўсім тым, што кожную хвіліну магло ўразіць яго душу. Як ён паехаў, і Ліда і Вікця адчулі, кожная па-свойму, што ён быццам штосьці адарваў ад душы і павёз з сабою. Тым часам ішла восень, і дзень за днём беглі, і агледзецца цяжка было, як прыйшлі доўгія ночы. Гэта якраз і была тая восень, у якую Ліда ўпершыню засумавала, што ёй ужо не васемнаццаць год. Ёй не спалася начамі, але ж ёй і не гулялася разам з усімі сумліцкімі дзяўчатамі. І нават блізкая ёй, як сястра родная, Паступовічава Віктуся, не заходзіла па яе, каб разам ісці гуляць на мястэчка. Віктуся, калі не заўважала, то здагадвалася і адчувала, што Лідзіна душа неспакойная, што яна трывожыцца і мае непатрэбныя думкі. І чамусьці яна старалася, каб не сустракацца так, як раней, часта з Лідай, і ёй было нядобра глядзець сваёй старэйшай дружбоўцы ў вочы. Чаму? З чаго? З якой прычыны? Хіба гэта злачынства перад Лідай думаць пра Максіма Хадыку? Але тут якраз і выявілася вельмі выразна тое, што яны не роўныя гадамі, што адна з іх маладзейшая за другую на некалькі год. Вікця вельмі нядоўга была ў такім настроі і з лёгкім сэрцам ужо адна хадзіла на мястэчка, не прапускала ніводнага танцавальнага вечара і самая першая ў Сумлічах пераняла таемную навіну: факстрот, які камсамолкі танцавалі ўкрадкам, каб ніхто не паглядзеў і каб не даведаліся ў райкоме.

Можна было падумаць, што Лідзе раптам вельмі спадабалася адзінота. Восень тая была ціхая і цёплая. Доўгімі начамі льга было выстаяць босаму ў тумане на мокрай зямлі і не мерзнуць. Ужо ўсё спустошвалася да зімы. Здавалася, што ўвесь Сумліцкі Прысынак засыпаўся жоўтым і чорным лісцем з ігруш і яблынь. Мокрая саломіна з пустым коласам звісала дзе-небудзь з-пад страхі і як бы сведчыла, што парадку ў сялібе і ў полі не будзе аж пакуль не падзьме веснавы вецер. Босая, у кароткай ватоўцы, у гаматной вялікай хустцы на галаве, Ліда вельмі часта заседжвалася адна на лаўцы пад ігрушамі ў глыбіні двара. Часамі з задуменасці яе выводзілі першыя пеўні. Яна ўваходзіла ў сонную хату і запальвала лямпу і яшчэ і тут сядзела доўга, тады бацька казаў ёй:

— Чаму ты ўсім як ёсць ганьбу даеш. Табе ж ужо, сказаць, на трыццаць год ідзе.

Раз яна яму адказала на гэта горача і злосна:

— А што ж, мне не даваць ім ганьбы?! Можа, мне за гэтага Папсуйчыка пайсці, якога ўсе людзі знявідзелі? А можа, за Антося Трундзіцкага, які дзесятае слова стараецца на польскі лад выгаварыць? Ці, можа, за Ахрэма Цівунчыка, што з скуры лезе, каб не быць так сабе чалавекам, а каб начальнікам, хоць дзе ў пажарнай дружыне, абы камандаваць, а не жыць з людзьмі. Мне гадка глядзець на яго гэтую кіраўнічую зялёную рубашку з раменным поясам! Ці, можа, за Юліка Гультая?

— Нашто ж ты Юліка Гультая сюды прыплятаеш? Ён адзін, а каля яго паўсотні да цябе сватаюцца. А Віктар Цяслёнак?

— А Віктар, а Віктар!..

Яна нічога не магла сказаць на Віктара Цяслёнка, і гэта было ёй тым горш і балючай.

Што да Віктусі, то нейк так ішлося, што яна ўсё больш аддалялася ад Ліды і нейк зыначвалася. Падыходзілі і ў яе гады да спелай маладосці, і нават больш. Ці даўно яшчэ Віктуся, вёрткі падлетак, ганяла прутам гусей па ржышчы, а гэта, хоць і да факстрота была падкая, але і хада яе ўжо набывала сталую роўнасць. Але і гэта ўсё — як каму здаецца. Некаторыя казалі, што Вікця ў гэтыя годы стала не тое што легкадумнай (глыбакадумнай яна ніколі не магла дагэтуль быць, бо толькі цяпер вырасла), але заўважалася, што яна як бы цалкам належыць да [1]

[1] На гэтым рукапіс абрываецца.

# СМАГА [1]

*(Аповесць. Раман)*

## 1

Мястэчка Якубавічы стаяла кілометраў за шэсць убаку ад вялікай Мінскай дарогі, у лясістай і глухой мяйсцовасці. Тут было ўсяго тры вуліцы і заўсёды здавалася, што адгэтуль далёка да якога-небудзь кіпучага і шумнага мейсца на свеце. Можна было думаць, што тут ніколі ніякае страшнае ўтрапенне не кране чалавечай душы. Усё так ціха і спакойна. Паабапал мястэчка стаяла па ветраку. Праз самае мястэчка цякла вузкая рачулка і выйходзіла ў паплавы. За паплавамі пачынаўся лес, вялікі, кілометраў на сем скрозь паўз дарогу. Мінская дарога была язджалая. Калісці па ёй стаялі карчмы і ў іх не змаўкала людская гамана. Карчмы даўно мінуліся, дзеці і ўнукі тых колішніх балаголаў і вазюроў сталі калгаснікамі. Па Мінскай дарозе пайшлі грузавікі і аўтобусы, але аб карчмах успаміналі, хоць-бы сабе з бацькаўскіх апавяданняў. Была нават дробная вёсачка кілометраў за дваццаць ад Якубавіч, якая мела назву «Шастакоўская карчма». Казалі што некалі яна называлася проста «Шастакоўцы», але там з'явіўся быў карчмар, паставіў добрую хату і пры ёй стадолу і вёску сталі зваць інакш. Апошні гаспадар карчмы ў Шастакоўцах памёр гадоў праз чатыры пасля рэвалюцыі, незадоўга пасля таго як скончылася вайна з Польшчай. Яго ўспамінаюць і цяпер. Гэта быў нейкі Сёмка Жардэцкі, родам аднекуль з пад Вілейкі. Чалавек гэты быў рухавы і напэўна меў натуру, якая выпрацавалася пад уплывам таго, што ён не меў на свеце сталага аселішча. Трэба думаць што ён многа кідаўся па свеце, пакуль дапаў да Шастакоўскай карчмы. Быў ён ужо не малады, і халасцяк, зусім адзінокі. Карчму ён адкупіў у ранейшага карчмара, нейкага Ёські Доўгіна, які назаўсёды выехаў у Амэрыку, каб там жыць лепей як тут, і каб аддаць замуж шасцярых сваіх дачок за маладых і добра яму вядомых амэрыканцаў, усё з гэтай жа самай мяйсцовасці, якія там ужо жылі багата. Гэта ўсё так расказваюць тутэйшыя людзі. Сёмка Жардэцкі, зрабіўшыся добрым і ўвішным карчмаром, дастаў сабе аднекуль са стараны ма-

---

[1] Друкуецца ўпершыню з захаваннем аўтарскага правапісу.

ладую служанку, за яго маладзейшую год нешта на дваццаць пяць. Гэтая працавітая і бязродная Тэкля, як бы прыбітая і прыглушаная жыццём, была такая маўклівая і ціхая, што яе тут пачалі зваць «без'языкая Тэкля». І раптам усіх аглушыла навіна: у нядзелю зранку, пад Якубаўскую царкву пад'ехаў на сваім кані ў выяздных драбінках Сёмка Жардэцкі, разам з Тэкляю. Ён быў у новай ватоўцы з тонкага сукна. Тэкля была ў светлым шарсцяным плацці, занадта ўжо нейкая выфранчаная. Сёмка Жардэцкі прывязаў каня да царкоўнага паркану і пайшоў з Тэкляй у царкву. Гэтая пара выстаяла ўсю абедню. Усё было вельмі дзіўна. Жардэцкага ўсе тут ведалі, але ніхто ніколі не бачыў яго ў царкве. Аж пасля абедні людзі ўбачылі, што Тэкля вянчаецца з Жардэцкім. Пра гэты шлюб доўга гаварылі, а пасля прывыклі, і ўсё ўвайшло ў сваю абыкласць. Тэкля як і дагэтуль з цямна да цямна завіхалася ў рабоце, а сам Сёмка Жардэцкі нейк раптам пачаў хварэць і старэць. Ён пачаў скардзіцца на «сіберны раматус» і на «дыхавіцу» і так скрыпеў яшчэ нейкі час, ужо не могучы рабіць і з гэтай прычыны трымаючы парабка.

Гэта быў малады хлопец Мікалай Цішкевіч. Як у Шастакоўцах і ў Якубавічах казалі, што ён знайшоў тут сабе спосаб каб жыць. «Зачапіўся ў жыцці і асеў пакуль што». Бо і сапраўды ў яго не было сталага мейсца. Гэта быў выгнанец разам з бацькамі з роднага мейсца недзе з пад Вільні ў часе першай імперыялістычнай вайны. Ён расказваў што бацькі яго змерлі яшчэ ў той дарозе, а ён вырас бадзяючыся па людзях. Трэба думаць што ён быў рад новаму свайму прыстанку. Ён адчуваў сябе ў гаспадарскай карчме поўным гаспадаром сам. Жардэцкі ляжаў хворы, а Мікалай Цішкевіч, заўсёды ў шапцы набакір, камандаваў без'языкай Тэкляй, гэта значыцца сваёй гаспадыняй, трымаў у руках увесь карчомны рух, таргаваўся, лаяўся, жартаваў, рагатаў і выпіваў з сваімі начлежнікамі — балаголамі, вазюрамі і ўсялякімі іншымі падарожнымі людзьмі. Аднойчы Тэкля заўважыла, што ён нібыта нешта на яе прыглядаецца. І вось ён пачаў заўважаць, што Тэкля кожны раз, калі ўбачыць яго, кідае на яго ўкрадкам вачыма. І з тых часоў заўсёды ў яго вачах стаяла белая і такая прывабная яе шыя. Але ніякіх гаворак паміж людзей не было анізвання. Нават і тады ніхто нічога не заўважаў калі памёр Сёмка Жардэцкі. Прайходзіў месяц за месяцам, і тут раптам усе загаварылі, што Тэкля ходзіць цяжарная. Балаголы, якія тут часта начавалі і папасвалі

коняй, асмялеўшы ў гэтай безгаспадарнай карчме, пачалі паджартоўваць і пакепліваць з Тэклі, але Мікалай Цішкевіч сашчапіў кулакі і так абазваўся, што ўсе змоўклі.

— Яна мая жонка, і я тут гаспадар! — заявіў ён і патрос кулаком, і з таго часу Тэкля адчула, што нават нешта падобнае да павагі абкружыла яе.

У тыя самыя часы праязджаў тут нейкі малады чалавек у ваксаваных ботах і ў модным паліце з поясам. Ён пачуў, што гаспадыня карчмы зацяжарала пасля таго, калі пахавала свайго старога мужа. Яму гэта вельмі спадабалася, і ён пачаў падлабуньвацца да Тэклі. Мікалай Цішкевіч, нічога не кажучы, хапіў невядомага яму маладога чалавека за валасы і працягнуў праз усю карчму ў стадолу. Страшэнны рогат грунуў і ў карчме і ў стадоле. Белатвары малады чалавек сашчаміў кулакі і закрычаў:

— Карчмар няшчасны! Паразіт! Эксплаататар!

Мікалай Цішкевіч хапіў маладога чалавека за тулава ўпоперак і шпурнуў яго праз адчыненыя дзверы на двор. Праз хвілін дзесяць той усадзіў у акно твар і папрасіў:

— Аддай пальто, там вісіць на цвіку.

Цішкевіч кінуў яму праз вакно пальто і пасьля гэтага ад маладога чалавека тут не асталося і следу. Пра гэтае здарэнне ўсе тут навокал доўга гаварылі і — дзень за днём, тыдзень за тыднем, Тэклю пакінулі зваць «без'языкай», а казалі на яе — Цішкевічыха, або Мікалаіха. Мікалай разважліва і заўзята аберагаў гонар свае жонкі, і ўсе пачалі шанаваць яе і яе цяжарнасць. Праз некалькі месяцаў настала ёй пара раджаць. Два дні яна мучылася і нарадзіла дзяўчынку, а сама ляжала ў гарачцы, упала ў бяспамяцтва і слабела з кожнай гадзінай. Спалоханы Цішкевіч кінуўся да дактароў. На чацвёрты дзень яна памерла. Расказвалі, што Мікалай выйшаў у сенцы, высокі, схуднелы за гэтыя дні, моўчкі прыпёрся ілбом да шафы і зарыдаў. Але праз момант ён адумаўся, азірнуўся, быццам баючыся, што пра гэта пасля будуць гаварыць. Абцёр хустачкай твар і падаўся ў клопат аб пахаванні свае Тэклі. Назаўтра перад вечарам, вярнуўшыся з могілак, ён узяў на рукі сваю дачку і ўпершыню за час яе жыцця, пачаў глядзець на яе. Рысы яе тварыка былі яшчэ такія невыразныя, што быццам бы іх і зусім не было. Але ён хацеў знайсці ў іх падабенства да твару нябожчыцы і доўга разглядаў іх. З таго часу ён, на колькі мог, стараўся не спускаць з вока сваю малую дачку. Ён назваў яе Алесяй і можна сказаць сам на сваіх руках яе выняньчыў і выгадаваў. Нешта праз паўго-

да пасля жончынай смерці ён сцураўся карчмы, узяў сабе праз сельсавет кавалак зямлі і асеў на ёй. У тыя часы ён стаў пануры і маўклівы. Нават цяжка было паверыць, што яшчэ нядаўна ён быў такі вясёлы і жартаўлівы. Дзень пры дні яго бачылі на полі, то каля сялібы, якую ён складаў сабе і збіраў па саломіне. Ён сабе паставіў невялікую хату, без бакоўкі і без кухні, на чатыры вакны і з гонтавым дахам. Ён не глядзеў на хараство ў хаце, вядома — чалавек без гаспадыні. Але ён з працы рук меў хлеба і да хлеба. Але і не гэта было самае важнае. Самы большы яго клопат быў аб Алесі. Усе думкі яго былі аб тым, як яна расце і дужэе. Яна сапраўды добра расла і — можа гэта было толькі яго самаперакананнем, але з кожным годам Алеся ўсё больш рабілася падобнай на сваю маці.

Хата Мікалая Цішкевіча была другая ад канца Шастакоўскай вуліцы. Далей к полю стаяла яшчэ адна новая хата. Навокал было поле, і з паўночнай стараны, крокаў за дзвесці ад Цішкевічавай хаты, на самай Мінскай дарозе — лес. Лес быў грыбны і ўвесь зялёны. Стогоднія хвоі скрозь густа на многа кілометраў. Паміж імі, найбольш к дарозе, дубы як каменныя горы. Бярозы і асіны траплялiся скрозь, часта. Сустракаўся граб і клён. Увосень спелыя жалуды, буйныя і жаўтаватыя, сыпаліся з дрэва на зялёную траву. Доўгімі тыднямі стаяла грыбная духмянасць. Вострая вільгаць, і само чыстае паветра пахне. Жоўтае лісце бяроз і чырвоны асіннік здалёк вырысоўваецца на хвойным зяленіве. Стаяла ясная цішыня. Восень была ў самай сваёй сіле. У вяршалінах хвояў ледзь трымаўся вечны іх шум. Неабдымнае і чыстае неба распасцерлася высока. Дарога роўна ішла ў сваю далячыню. Можа неўзабаве назаўсёды скончацца цёплыя і ясныя дні гэтай восені і цэлы год трэба будзе чакаць гэтай пары. Дробныя кветкі на высокім сцябле яшчэ цвілі на каляінах палявых дарог. На ўзлессі была яшчэ густая трава, зусім зялёная. Здавалася, што і шум хвояў зусім ужо сціх і быццам бы звінела сваёй цішынёй прастора зямлі. Здавалася, вечнасць застыла на момант і час спыніў сваю хаду, каб пакінуць свой след у чалавечай душы і памяці.

Можа гэта і быў той першы момант, з якога малая Алеся пачала ўжо ўсё памятаць назаўсёды. Ужо больш не было правалаў у памяці, ужо ўсё ішлося адно за адным сваім вечным парадкам. З гэтага моманту яна ўжо дзень за днём і крок за крокам памятала свайго бацьку. Ён ужо стаў для яе жывой рэальнасцю. Ужо ведала яна тую ра-

дасную ёй праўду, што ён бацька яе. У той дзень ён узяў яе за руку і ішоў так полем — ён глядзеў як узышло жыта. Усходы былі зусім свежыя. Яшчэ нават трымаўся на руні чырвонаваты колер. Ён узяў яе на рукі і так пранёс палявой дарогай да самага лесу. Вельмі мала яны што і гаварылі паміж сабою. Яны слухалі цішыню зямлі. Здавалася, што толькі ўпершыню яна бачыць і лес, і поле навокал сябе, і сярод высокай травы сцежку да свае хаты. З гэтага моманту пачыналася яе прывязанасць да роднай мясціны. Ужо дзень хіліўся к захаду, калі яны варочаліся да хаты. Ён перажываў вялікую радасць, што з Алесяй ужо можна гаварыць пасапраўднаму, як быццам і з дарослым чалавекам. З гэтага дня ён быццам яшчэ больш замкнуўся ў сабе: у яго быў ужо вечны друг, яго малая дачка. Пачалася новая пара ў іх жыцці. Ціхі дзень яснай восені з гэтага часу заўсёды прымушаў яе адчуваць шчасце хадзіць па зямлі. Запомніўся ёй і куст травы на ўзлессі, і высокае сцябло асенняй кветкі. Яе радасць дапаўнялася кожнай кропляй вады на роснай травіне і кожнай голкай на ядлаўцовым кусце. Мінская дарога, якая прайходзіла каля іх хаты, была для яе, малое, дарогай у далёкую таемную невядомасць. У той меры, у якой прайходзілі год за годам, і ў якой абсяг яе ведання свету рабіўся шырэйшы, і тая невядомасць увасаблялася ў выразнасць, трацілася і ператваралася ў звычайнасць. Але адчуванне невядомасці, якая як-бы ідзе побач чалавека, часамі прыйходзіла да яе. Калі яна вырасла зусім, яна не страціла жадання заглядваць у далячыню.

Можа гэта была натура, якая жыла адцятымі ад суровай праўды марамі? Мусіць не, бо пакуль яна не паднялася добра на ногі, ведала толькі самую штодзённую рэальнасць. Яна бачыла, як бацька яе малаціў цэпам, трос салому, ездзіў у млын, паймаўся часам, калі здаралася, у фуртманку ў Мінск і на сутак трое выязджаў з дому, і яна тады сама карміла свіней і выганяла пастуху карову. З малых год яна прывучылася гаспадарыць на цесным дворыку, каля бацькаўскай хаты. Зімой яна вучылася ў Якубаўскай сямігодцы і кожную суботу бацька прыязджаў і забіраў яе на нядзелю дадому. Яна палола грады, сачыла каб не наляцеў на куранят каршак. А пасля пачала жаць, складваць у копы сена і спяваць песні. Бацька быў яе першым другам, але ён быў маўклівы з таго часу як памерла Тэкля. У яго толькі калі-нікалі з'яўлялася патрэба пагаварыць уволю. І ён гаварыў усё з сваёю ж Алесяю. Яна

навучылася да канца разумець яго маўчанне і тым больш любіла яго. Калі яна канчала сямігодку, бацька сказаў ёй, што хоча яе «вывесці на вучонага чалавека», і павёз яе ў Мінск. Яна ўпяршыню ўбачыла тую дарогу да самага Мінска. Больш з таго, каб дагадзіць бацьку, як з уласнай прагнасці, яна старалася быць так як ён хоча, і стала студэнткай беларускага педагагічнага тэхнікума. Калі зімой прыйшоў час ехаць ёй дадому ў госці, ён сам прыехаў па яе і не верыў сваім вачам: яна ўжо зусім дарослая. За гэтыя тры ці чатыры месяцы, яна вельмі змянілася, бадай што ўжо сфармавалася як маладая жанчына. Калі Мікалай Цішкевіч ішоў з ёю вуліцай, ён заўважаў, што ўсе на яе азіраюцца. З гордасцю за сваю Алесю, ён абыйшоў Мінскія крамы і выфранціў яе ў модную адзежу. Шчаслівыя абое, яны прыехалі дадому і тут ёй, праз некалькі дзён, здалося даволі такі сумна. Ёй ужо хацелася назад у Мінск і ледзьве прычакала яна канца свайго водпуска. Яна паехала з дому радасная, і ён заўважыў на яе твары пячаць як бы нават нейкага лёгкадумства. На развітанні ён угаварваў яе быць сталаю і трымацца добрага сяброўства. Пасля таго ён пачаў ёй пісаць часта пісьмы і адчуваў сябе вельмі адзінокім. Невядома адкуль у яго з'явілася і мучыла яго страшнае адчуванне, што ён яе для сябе страціць. Прайшло месяцаў два, ужо бралася пара на вясну, і раптам настала вялікае няшчасце. Страшнае гора навалілася на Мікалая Цішкевіча і на яго Алесю.

## 2

У тыя часы з'явіўся ў Якубавічах нікому тут раней невядомы чалавек, які перажываў першыя годы пасля свае мінулай маладосці. Зваўся ён Віктар Лагіза. Прозвішча гэтае было тут незнаёмае, аднак жа пасля выявілася, што ў часы свайго першага юнацтва ён ужо быў тут раз. Хтосьці з тутэйшых людзей сказаў, што многа год таму ён сустракаў такое прозвішча на Чэрвеншчыне, а гэта было не так ужо блізка адгэтуль. Віктар Лагіза прыехаў сюды як начальнік Якубаўскага раёна. З двух суседніх раёнаў тут было вылучана некалькі сельсаветаў і стварыўся глухі Якубаўскі раён, з раённым цэнтрам у мястэчку Якубавічах. Лагізу было год пад трыццаць два, і меў ён выгляд чалавека вельмі рухавага і на ногі, і на словы. Некаторыя адразу ўбачылі ў ім нявычэрпную крыніцу энергіі. Нават адзін якубаўскі псіхолаг сказаў быў раз, што тут якраз

такі чалавек і патрэбен, каб «ускалыхнуць павольны тэмп жыцця гэтага мядзведжага кутка».

Калі прайшлі гады і Лагіза здорава пастарэў і азірнуўся на сваю маладосць, і калі ўжо яму стала усёроўна што пра яго думаюць, ён пачаў больш выказваць шчырасці да самога сябе і тады льга было ўразумець, што якраз у гады свайго прыезду ў Якубавічы, ён перажываў сваю ўласную трагедыю. Першая яго маладосць, праўдзівей сказаць зялёныя годы, прайшлі ў яго лёгка, нават весела і ў лёгкадумнасці. Дзве яго старэйшыя сёстры пайшлі ўжо замуж, а ён быў трэці і цяпер ужо адзіны ў бацькоў. Ён не памятаў, каб бацька яго жыў дзе небудзь доўга на адным мейсцы. Бацька яго быў чалавек у поўным сэнсе слова службовы. Ён з службы еў свой хлеб, і значыцца, без службы ніяк абыйсціся не мог. Быў ён калісці пісьмаводам у гімназіі. Маладзейшы брат яго скончыў духоўную семінарыю і служыў пакуль што чыноўнікам у Чэрвенскім (Ігуменскім) павеце наконт народных школ, пакуль знойдзе сябе нявесту. З рэкамендацыі гэтага брата, гімназісцкі пісьмавод стаў эканомам у духоўнай бурсе. Праз год ён стаў сядзельцам у манапольцы. Праз два гады аканомам у панскім маёнтку. Яшчэ праз два гады заарандаваў дробны фальварак і на гэтым прагарэў. Каб паправіць свае справы, ён за пазычаныя грошы стаў перакупшчыкам дробнай жывёлы. Недзе было ў яго пяць дзесяцін бацькаўскай зямлі і добры дом. Але ён выпускаў усё гэта ў арэнду і сам не жыў там, каб, як сам ён казаў, не «апусціцца да мужыка і каб не страціць сваю інтэлігентнасць». У часе імперыялістычнай вайны ён засноўваў у адным мястэчку, недзе пад Мінскам, «вольнае каапeратыўнае таварыства». У часы Керанскага быў пісцом у земскай управе, а пасля дажываў сваю старасць у замужняй дачкі. Яго Віктар змалку дзён прывык не аседжвацца доўга на адным мейсцы. Мястэчкі і дробныя гарадкі мільгацелі перад яго вачыма з года ў год, не пакідаючы ў яго душы якіх бы там не было глыбокіх уражанняў. Яму жылося не цяжка, і ён не ведаў ніякага такога кутка, да якога б ён прывязаўся усёй душой сваёй. Ён прывык бачыць людзей як бы на момант, і нават сам сябе пачуваў тым момантам, які перажываў. Усё што мінула — тое мінула, а што будзе — тое прыдзе. Ён недзе вучыўся. Ён пісаў вельмі шпарка і прыгожа; у часы паходу на Варшаву раптоўна пайшоў дабравольцам у кавалерыйскую часць і даехаў на кані да Валкавыска. Яго захапіла экзотычная прываб-

насць паходу. Пасля ён апынуўся ў Бабруйску і там увайшоў у камсамол.

У тыя часы, калі Мікалай Цішкевіч абараняў ад злых вачэй і языкоў гонар свае Тэклі, ён, васемнаццацігадовым хлопцам праязджаў па Мінскай дарозе з Бабруйска. І гэта яго быў Цішкевіч выкінуў з карчмы. Ён ехаў назаўсёды развітацца з сваім бацькам. Сястра, якая была замужам кіламетраў за трыццаць убок ад Якубавіч, выклікала яго тэлеграмай. Ён праехаў з выпадковай фурманкай праз незнаёмыя яму Якубавічы і к вечару таго дня быў у сястры. Гэтая сястра была замужам за простым чалавекам, які пасля рэвалюцыі асеў на зямлі і быў шчаслівы гэтым. Віктар застаў свайго бацьку зусім хворым. Ён ужо не ўставаў з пасцелі. Гэты чалавек вельмі ўзрадаваўся, калі ўбачыў свайго сына. Твар яго ўзгарэўся, вочы заблішчэлі.

— Я вельмі рад, сынок, што ты добра жывеш. Адзет ты хораша... Ты пісаў, што ўпісаўся ў камсамол. Ты мне скажы: гэта трывалая рэч? І з гэтага можна будзе табе жыць?

Гэты чалавек усё на свеце расцэньваў з пункту погляду службы. Сын пакрыўдзіўся на бацьку за такое яго глупства. Ён адказаў:

— Я ўвайшоў у камсамол не на тое, каб займацца сваімі шкурнымі справамі.

— А як жа ж! Кожны ж павінен знайсці сабе спосаб каб жыць!

— Гэта сам ты пражыў як падхалім на ўсялякіх службах! Што мне цяпер брыдка прызнацца, чым ты займаўся ўсё сваё жыццё. Чорт яго ведае, як мне цяпер у анкетах і аўтабіяграфіях пісаць, чый я сын: сядзельца з манапролькі? Панскага аконама? Гандляра жывёлай? Эксплаатататара?

Бацька сціснуў зубы, адвярнуўся да сцяны і сказаў:

— Хоць для цябе бога і няма, але ён цябе пакарае. Хто ўзняў на бацьку слова, той узніме на яго і руку. Гэта не даруецца.

Пасля гэтага паміж бацькам і сынам не было сказана ні слова. Праз шэсць дзён бацька памёр. Сын не верыў у бацькаву смерць і не дачакаўся яе на два дні. Ён паехаў на чацвёрты дзень свайго прыезду сюды.

У тыя самыя часы ён перажываў першае сваё каханне. Гэта была самая, калі льга так сказаць, экзатычная камсамолка на ўвесь горад. Чарнявыя пышныя валасы, мерная дзябёласць, прынадная паходка і як вытанчаная да-

сканаласць твару. Хоць яна была і занадта яшчэ маладая, толькі што выбілася з падросткаў, аднак жа яна так кідалася ў вочы паміж усіх сваім выглядам, што з лёгкага слова нейкага іранічнага жартаўніка яе пачалі зваць поўным імем: Фаіна Навумаўна. А прозвішча яе было — Кешнік. Фая Кешнік была дачка вядомага ў горадзе майстра рамантаваць бляшаную пасуду. У Навума Кешніка было адзінаццацера дзяцей і Фая было другая па ліку, пасля свае старэйшай сястры. Здарылася так, што незадоўга да таго калі яе агарнула Лагізава каханне, памерла яе маці, і Кешнік астаўся адзін з сваімі дзецьмі. Няшчасны бляхар яшчэ пільней узяўся за сваю работу, каб як мага больш накалупаць свайго штодзённага заработку, а ўвесь клопат аб хаце і аб дзецях узваліўся на старэйшую яго дачку. Тая, яшчэ зусім маладая дзяўчына, пачала прыціскаць да работы сваю маладзейшую сястру Фаю і гэтая як мага старалася, з гэтай прычыны, як найменш заседжвацца дома. К таму ж, яна два разы выступіла на клубнай сцэне ў аматарскім спектаклі і з вялікім поспехам у публікі. З таго моманту ў яе кружылася галава ад лаўраў артысткі і хатняе корпанне пры кухеннай печы і вajданне з малымі братамі і сёстрамі было для яе сумнай прыкрасцю. Яна нават раз сказала сястры:

— Ты хочаш, каб я дабрахвотна пахавала сябе ў гэтай магіле?

— Ты яшчэ, дачушка, не бачыла сапраўднай магілы,— буркнуў бацька.

— Гэта старая песня,— заўзята адказала Фая.

— Якая песня?! — усхапіўся бацька, патрэсаючы папругай.

— Праблема бацькоў і дзяцей. Дзеці ідуць наперадзе бацькоў. Бацькі незадаволены. Выходзіць канфлікт.

— Чорт цябе ведае што гаворыш! — закрычаў бацька, чуючы занадта разумныя словы сваёй дачкі, якая паспела сяго-таго нахапацца, але не начытацца.

Так яно і абышлося. Фая Навумаўна стала самай заядлай актывісткай і вядомай усім у горадзе асобай. З драматычнага гуртка яна адыходзіла ўсё больш і больш, як яна сама казала, на палітычную работу. Яна ўжо не іграла ў спектаклях, а выступала з прамовамі перад падняццем заслоны. Яна адчыняла «культасветныя пікнікі», экзаменавала выкладчыкаў матэматыкі ў сямігодках як у іх настаўлена ў класах фізкультура, на акруговым агра-

намічным з'ездзе выступіла з палітычнай прамовай, пасля якой аграномы некалькі месяцаў хадзілі як атручаныя. Некаторыя з іх нават усвядомілі сваю памылку: яны занадта многа думалі аб капусце і пшаніцы, замест таго каб падумаць як мае быць аб змаганні з мяшчанскімі поглядамі на грамадскае харчаванне і на вызваленне жанчыны ад індывідуальнага выхавання дзяцей. Фая Навумаўна трымалася самых прагрэсіўных поглядаў. Белатвары Віктар Лагіза доўга схіляў яе да свайго сэрца і нарэшце такі схіліў. Увесь горад з захапленнем глядзеў на гэтую пару. Абое прыгожыя, маладыя, стройныя, і даволі такі відныя работнікі. Праўда, яго ведалі менш, нават, калі сказаць праўду, зусім не ведалі. Ён корпаўся на нейкай дробнай рабоце, тады калі яна запраўляла ўсюды. Некаторыя казалі, што сваім вылучэннем на вышэйшыя пасады ён абавязан быў ёй, калі стаў яе мужам. Але можа гэта і не так, можа гэта толькі пустая гаворка. У кожным разе ён нейк раптам пайшоў угару, хоць праўда, вышэй інструктара не падняўся, але затое ў даволі аўтарытэтных установах. Яна ж нарэшце, зусім яшчэ маладзенькая жанчына, трапіла на работу ў райком. Божа мой, колькі ў яе было энергіі! На раённым з'ездзе саветаў яна гаварыла ў спрэчках па дакладу райздрава адну гадзіну і шэсць хвілін. Яна да глыбака кранула ўвесь комплекс пытанняў і прамова яе была лагічная ва ўсіх пунктах. «А цяпер пяройдзем да разгляду таго, як нашы раённыя органы аховы здароўя, пад кіраўніцтвам райздрава, працуюць на карысць працоўнага чалавецтва». Так пачала яна апошні раздзел свае прамовы і скончыла момантам антысанітарыі ў горадзе. «Калі гэты дом стаіць з дзіравым дахам, дык ён пачынае даваць свае расткі, бо ён гніе. А хіба, я вас пытаю, гніль абыходзіцца без антысанітарыі?»

Год чатыры ў іх не было дзяцей, а пасля нейк выпадкова радзілася дзяўчынка. Праз два гады, таксама выпадкам, радзіўся хлопчык. Гэта было вялікім няшчасцем для гэтай сям'і. Справа такая, што грамадства яшчэ не дайшло было да такога стану свайго развіцця, калі выхаваннем дзяцей займалася б дзяржава, калі нават і не зусім так можна сфармуляваць гэтае чалавечае няшчасце, то ў кожным разе трэба мець на ўвазе што двое гэтых дзяцей на доўгі час адарвалі Фаю Навумаўну ад грамадскай і палітычнай дзейнасці. Пачаўся вялікі сум, што яна абмяшчанілася ў сямейным быце. Аднак жа яна знайходзіла магчымасці адрывацца ад дзяцей і дарывацца да раней-

шай свае дзейнасці. Але гэта былі ўжо бессістэмныя кіданні. І пакуль дзеці не ўзняліся крыху на ногі, яна змарнела, змучылася і высахла. Віктар Лагіза сумнымі вачыма глядзеў на сваю жонку. Прайшоў аднак жа нейкі час, дзеці апынуліся ў яслях, а пасля дзеўчынка пайшла ў школу, і ўсё пачало ўваходзіць у ранейшую каляіну. Да гэтага часу і належыць з'яўленне гэтай сям'і ў Якубавічах. Яна была гараджанка, ён — цяжка сказаць хто ён такі быў. У гаворцы з людзьмі яны лёгкадумна заяўлялі, што ім Якубаўская глуш не страшная. «Куды партыя пашле і на які вучастак работы паставіць — усё добра». Але яны сумавалі ў Якубаўскай глушы, і асабліва яна. Трэба яшчэ ведаць, што ў яго было ў душы і іншае гора. На ранейшай сваёй рабоце ён нарабіў многа промахаў, меў вымову і нават з папярэджаннем і сваё пазначэнне ў Якубавічы на пасаду старшыні райвыканкома, у гэтым глухім нова-створаным раёне, лічыў нават чымсці накшталт высылкі. Усё залежыць ад таго, як я тут пастаўлю сябе на працы, тады зноў магу вярнуцца ў горад. У гэтыя часы горкіх расчараванняў, ён з крыўдай думаў, што за гэтулькі год працы ён дайшоў не да сталіцы, а да глухога раёна. І вось паўстала перад ім трывога і аб сваім як бы не зусім трывалым паходжанні. У сваёй біяграфіі і ў сваіх анкетах ён напісаў што ён сын сярэдняга селяніна, які меў пяць дзесяцін зямлі. Яго бацька і сапраўды меў пяць дзесяцін, але як ён з гэтай зямлёй абыходзіўся? І вось яго раздражненае ўяўленне пачало ўсё перабольшваць і пачаў адчуваць сябе так, быццам яго бацька быў нейкі злачынец, нейкі адшчапенец ад людзей і трэба саромецца нават і памяці яго. Каб той няшчасны бацька мог толькі праз які небудзь цуд уведаць гэта, ён, небарак, перавярнуўся б у сваёй магіле. Віктару Лагізу пачало здавацца, што яго зараз жа абвінавацяць, што ён не напісаў злой праўды аб сваім бацьку. Усё адно да аднаго сышлося. І промахі на працы, і вымова з папярэджаннем, і ўласнае хворае ўяўленне. Іншае рады не было як дзейнічаць заўзята і рашуча. Трэба толькі быць адкрытым, шчырым і выжаць з сябе ўсе хістанні, якія могуць быць у класава нячыстага чалавека. Так думаў ён. І гэта было яму самому навіной, што ён думае. Дагэтуль ён не раскідаў шырока думкамі і ў кожным разе не займаўся як бы там не было аналізам.

Вельмі можа быць, што ён да Мікалая Ціткевіча і прычапіўся з той прычыны, што не было да каго іншага тут прычапіцца. Цяпер, калі ўсё прайшло і стала на сваё

мейсца, лёгка разважаць аб праўдзе і няпраўдзе, а тады — хіба мог Віктар Лагіза паставіць перад сваімі вачыма сваё сумленне? Чалавечае сумленне хіба не можа протэндаваць на вялікае сваё мейсца ў кожнага таго, каму даручан, так ці інакш, лёс другога чалавека? Наконт гэтага Мікалай Цішкевіч, у рашучую хвіліну, сказаў у вочы Віктару Лагізу:

— Чалавечага сумлення ані каліва няма ў цябе.

Цяжка сказаць. Можа прыступы пакут сумлення і з'ўляліся да Віктара Лагізы. Калі так, то ён быў вялікім баязліўцам. Ён ахвяроўваў сумленнем з баязлівасці перад бядой, якую ён можа сам сабе і ўявіў.

Ён выпадкова дазнаўся, што ў яго раёне жыве, і нават у стане калгасніка, былы ўласнік карчмы. Ён накруціў хвост старшыні Шастакоўскага сельсавета: чаму ў цябе былыя карчмары раскашэльваюцца ў калгасах. Довады старшыні, што Цішкевіч добры чалавек, сумленны і працавіты, заеда Лагізу. Тут ужо дайшло «да прынцыпа», як з некаторага часу пачаў гаварыць Лагіза. Ён прабраў старшыню за тое, што ён «паслабіў пільнасць». Ціхманы Цішкевіч меў неасцярогу верыць у справядлівасць, як быццам бы яна гатовая з неба падае. Вядома просты чалавек! «Я ж, таварыш Лагіза, не злодзей і не забойца. Калі нада мной хто кулак падніме, то я магу і па кулаку даць». Значыцца не вытрымала Цішкевічава сэрца. Лепш бы ён ужо ўзяў і пракусіў свой язык. Праз некалькі дзён яго выкінулі з калгаса і пра гэта, як і пра самога Цішкевіча, Лагіза напісаў дакладную запіску ў нейкую наступную па дарозе ўгару, інстанцыю. Вельмі можа быць, што на гэтым усё і скончылася б, каб Цішкевіч аціх і пашукаў сабе якога небудзь рамяства, каб пражыць на свеце без калгаса. Але яго заядаў гонар. Нешта было падобнае на тое, як некалі ён бараніў ад дурных кпін сваю нябожчыцу Тэклю. Ён пачаў дамагацца свайго. Каб ён адразу рушыў да якога небудзь вышэйшага начальства, ён напэўна выграў бы справу. Але ён, з свайго няўмельства ў такіх справах, пачаў абіваць раённыя парогі, якія штодзённа ведалі на сабе Лагізавы начальніцкія ногі. Неўзабаве Цішкевічавы вушы пачулі грозьбу, што ён за такія свае дзёрзкасці можа пайсці пад раскулачванне. Як гром даў у вушы Цішкевічу. Ён прыціх, угнуўся і нікуды не паказваўся з свае хаты. Узрадаваны Лагіза наконт гэтага тут жа сказаў, што калі класавы вораг прытаіўся, то ён чакае нейкага зручнага моманту, каб усадзіць нож у спіну

савецкай улады. Ці верыў ён сам у гэтыя словы. Не верыў, і ў той жа час верыў. Справа ў тым, што ён належаў да той катэгорыі людзей, якія канкрэтна нават і ўявіць сабе не маглі, што такое класавы вораг, і што азначае «нож у спіну савецкай улады», і як гэты нож можа быць усаджаны, і з чаго гэты нож зроблен, і ці ён спецыяльна натое зроблен, каб яго ўсаджваць у савецкую ўладу, ці ім можна яшчэ і хлеба і сала накроіць, каб пачаставаць ад шчырай душы прадстаўніка гэтай улады. Лагіза дзейнічаў механічна, паводле тых адцятых ад жывой рэчаіснасці паняццяў і тэрмінаў, якія для яго самога даўно ўжо страцілі ўвесь сэнс. Стаіўшыся, ён чакаў моманту, каб Цішкевіч што небудзь хоць сказаў крамольнае, або каб хоць зірнуў якім небудзь нетрывалым парадкам. А той як на злосць тую маўчаў. Моўчкі перажываў сваю крыўду, кудысці рваўся душой, каб хоць паспавядацца каму небудзь разумнаму і нарэшце надумаўся паехаць у Мінск і дайсці да самага высокага начальства, у якое ён верыў, як у непахісны аўтарытэт. Але тут прыйшло пісьмо з Мінска ад Алесі, і пісьмо гэтае ўвяло яго ў такі жах, і ў такі боль душы, што часамі ім пачало запаноўваць жаданне ўзяць вяроўку і павесіцца. Але ў гэтыя цяжкія хвіліны яго стрымлівала толькі думка аб Алесі. Як яна застанецца адна з сваім горам, будучы яшчэ такой маладой і не спрактыкаванай у жыцці. Тое, што напісала Алеся ў пісьме, пахіснула яго веру ў аўтарытэты. Гэты просты і мала бывалы на свеце чалавек падумаў, што калі і ў Мінску так робіцца, то, значыцца, яму ўжо няма як там шукаць ратунку і праўды. Яму здавалася, што кожная мінская справа вядома ўсім мінскім аўтарытэтам.

Вось што пісала Алеся ў сваім пісьме. «Татачка, родны мой. Мяне выкінулі з камсамола. Мне паставілі ў віну, што я дачка «карчмара», што ты меў уласную карчму і быў непрацоўным элементам і эксплаатаваў рабочых і сялян. І што наконт гэтага прыслалі матар'ял з раёна. Мяне могуць аднавіць у камсамоле толькі ў тым выпадку, калі я публічна выракуся цябе як свайго бацькі. Але і гэта яшчэ невядома. А як будзе са стыпендыяй — не ведаю яшчэ. А можа і вучыцца мне нельга будзе. Як бы там не было, а на мяне легла пляма. Ад мяне ўсе адшатнуліся. Хоць бяры і вешайся...» Пісьмо было доўгае. Яно было поўна ласкавых слоў да бацькі. Яна бажылася-клялася што любіць яго і ніколі не пойдзе на тое, каб публічна вырачыся яго як роднага бацькі. І што яна не верыць,

што ён быў калі небудзь эксплаатататарам. І што яна просіць ад яго парады што ёй рабіць.

«У такія годы гаварыць, што лепш бы ёй павесіцца?» — падумаў Мікалай Цішкевіч і хапіўся за галаву. Што ён мог параіць сваёй Алесі, калі ён сам ужо ўцягнуў галаву ў плечы і рабіўся як сляпы? Двое сутак ён нічога не рабіў і ўсё думаў. А на трэція суткі, незадоўга пасля таго як развіднела, з'явілася дадому Алеся.

Стаяла позняя восень. Алеся была ўся ў вадзе і ў гразі. Яна ішла босая. Размоклыя чаравікі яна трымала ў руцэ. Пераступіўшы парог хаты, яна адразу заплакала і з выглядам такім як бы яна зрабіла штосці не меншае як забойства і цяпер гатова прызнавацца і каяцца, стала ў парозе. Наогул, то яна была яшчэ падросткам. А цяпер здавалася зусім малым дзіцем, з страшнай маршчынай старасці на ілбе. Яна стаяла ў парозе і маўчала. Ніжняя палова яе твару дрыжала.

— Алеся, ну як гэта...— пачаў гаварыць ёй насустрач бацька.— Ты не захацела мяне вырачыся і цябе прагналі з тэхнікума?

— Я цябе выраклася пазаўчора на агульным сходзе... перад усімі... узяла і сказала... прачытала па пісанаму...

— Дык чаго ж ты дадому?..— не скончыў сказу Цішкевіч, раптам спалатнеўшы тварам.

— Пасля таго як я цябе выраклася, я больш не магла там быць. Я ўжо не магу там быць.

— А вучыцца?

— Як жа я там буду вучыцца, калі я цябе адцуралася?

— А ў камсамоле?

— Як жа мне быць у камсамоле, калі я выраклася роднага бацькі?

— Дык як жа цяпер?

— Дык... ніяк...

І яна ўпала тварам на стол, уся калоцячыся.

— Нічога... нічога, ...— гаварыў ён, стоячы над ёю як над свежай яе магілай.

Яна ўстала на ўвесь рост, выцерла твар і сказала:

— Няхай яны згараць з сваёй навукай, і з сваім тэхнікумам.

Гэта быў страшны прыгавор і самой сабе, і свайму бацьку. Ён адчуў гэта і ведаў, што гэта ідзе наконт лёсу яе па ўсё жыццё, але разам з тым ажыла ў яго душы струна радасці: ён зноў неразлучан з сваёю Алесяй. Як у сма-

гу ніць ён прагнуў разам з ёю ўвайсці ў ранейшую звыклую каляіну дзён і пачаў з таго што запытаў:

— З кім жа ты прыехала?

— Я пехатой прышла. Як толькі я сказала, што выракаюся цябе, я там ужо мала і была. Я пасля сходу пабегла да камсамольскага сакратара і сказала яму: бяру свае словы назад! Бацькі я не выракаюся! Гэта ўсё няпраўда, што пра нас з ім выдумалі. Мой бацька лепшы за ўсіх!

— А ён што?

— А ён сказаў што, калі гэта няпраўда, дык каб я сабрала дакументы, што на майго бацьку напаклёпнічалі. Я яму адказала: збірайце дакументы вы самі! Я сказала перад усімі, што выракаюся бацькі і гэтага не адменіш, маіх слоў. Я пайшла ў інтэрнат, апранулася і адразу выйшла ў дарогу.

— Увесь жа час дождж ліў!

— А я ішла. А паміж дажджамі, хоць я і мокрая была, так добра было калі лес дзе пры дарозе. Зялёны мох пад дрэвамі і, здаецца, падобна што грыбы.

— Якія там грыбы, у канцы лістапада.

— А мне здавалася.

— Наплюй на ўсё. І забудзь гэта ўсё. Пераадзявайся ў сухое. Лажыся адпачывай. Ні пра што не думай.

Яна стала мыцца і пераадзявацца, і ён, каб не замінаць ёй, выйшаў з хаты. Дождж скончыўся, неба расчышчалася, у садзе была мокрая і зялёная, сашчыпаная курамі трава. Раптам ён убег у сенцы і, каб не перашкаджаць ёй, запытаў праз зачыненыя дзверы:

— А ўночы ты, мусіць, дзе поблізу начавала, што так рана прыйшла.

— Я ўсю ноч ішла,— адказала яна.

— Як? Увасень? Паўз лясы?

— Ага... нічога...

Ён зноў пайшоў выйшаў на двор, думаючы як кепска яе душы, калі яна адна ішла ўсю ноч такой дарогай. Калі ён увайшоў у хату, яна ўжо ляжала ў пасцелі і ўсміхнулася яму насустрач.

— А ў калгасе сёння хіба работы няма, што ты дома? — запытала яна.

— З калгаса мяне выкінулі,— адказаў ён, думаючы: што ўжо тут перад ёю таіцца?

Абое яны зрабілі выгляд, што гэта іх не ўразіла, і пастараліся паміж сабою быць так, як бы нічога і не здары-

лася. Настаў вечар. Прыйшла ноч. Алеся пачала кідацца ў пасцелі. Да раніцы яна была зусім хворая. К вечару яна пачала гаварыць з гарачкі. Цішкевіч прывёз доктара. Доктар прызнаў і запаленне лёгкіх, і яшчэ штосці, што ён дакладна выясніць не мог. Ён здагадваўся аб нейкім нэрвовым хворым узбуджанні. Апанураны Цішкевіч не адыйходзіў ад пасцелі свае Алесі. Так прайшло тыдняў два. Алеся перанесла хваробу. Яна была вельмі слабая і ледзьве магла ўставаць. Мікалаю Цішкевічу прынеслі павестку: яму дадзена цвёрдае заданне наконт ільну, як аднаасобніку. Ён жахнууўся. Нават тады, калі яшчэ не было калгасаў і ён сядзеў на сваёй зямлі, ён ніколі не меў гэтулькі ільну, колькі яму цяпер здаць трэба было. Ён пакінуў на цэлы дзень Алесю адну ў пасцелі і рушыў у Якубавічы ў райвыканком апраўдвацца. Павестка была проста адтуль. Ён дабіўся да самога Віктара Лагізы. Той цяпер упяршыню ўбачыў гэтага класава-варожага карчмара, з якім павёў нястомнае змаганне. Ужо з першых-жа слоў Цішкевіч убачыў, што ніякай рады няма і трэба або аддаць лён, або расплаціцца чым небудзь большым. Дзеля спакою свае Алесі, ён затаіў у сабе крыўду і моўчкі выйшаў з Лагізавага габінэта, думаючы што каб не Алеся, то ён добраахвотна пайшоў бы ў турму, але затое пераламаў бы рэбры гэтаму Лагізу, каб той нават стаў дыхавічны і гарбаты.

Як толькі Цішкевіч выйшаў, Лагіза ўпаў у одум. Дзе ён мог бачыць раней гэтага Цішкевіча. Ага! Карчмар? І тут Лагіза ўспомніў: хоць ён ужо і пастарэў здорава, але гэта той самы, што калісці выкінуў яго з карчмы. Як не дзіўна, але штосці затрапяталася ў Лагізавай душы: а ці не выйдзе тут як бы асабістая помста? А што, калі так растлумачаць? Гэта будзе нядобра. За гэта можа ўляцець. Быў момант што Лагіза хістануўся: а ці не зняць з яго гэты лён? А пасля падумаў што позна адступаць. У яго задача быць пільным і ачысціць раён ад класава-чужых элементаў.

Мікалай Цішкевіч прыйшоў дадому позна ўвечары. Алеся ціха ляжала. Ён расказаў ёй пра ўсё і запытаў ці льга было б пакінуць яе адну на дзён два ці тры. «А чаму ж не можна»,— адказала яна.— «Я сабе буду ціха ляжаць. З кожным жа днём я здаравею».

Назаўтра зранку Мікалай Цішкевіч узяў у кагосці з шастакоўцаў каня і выехаў па сёлах апытаць, дзе купіць і здаць у нарыхтоўку лён. Грошай у яго не было і ён па-

думаў, што трэба будзе прадаць што-небудзь лепшае з адзёжы. Ад усёй свае душы ён ужо ненавідзеў савецкую ўладу.

### 3

Мікалай Цішкевіч адразу пайшоў на тое, каб перайначыць ранейшы ход свайго жыцця. Дзень за днём і пачуццё крыўды пачало тупець у яго душы, і ён наважыўся дзеля свайго спакою не зачэпацца з Віктарам Лагізам і, у якой меры гэта льга, не трапляцца яму на вочы. Што ж да самога Лагізы, то ён сваю справу зрабіў. Усюды вышэй ведалі, што ён работнік і чалавек нецярплівы да ўсяго класава нетрывалага. У кожным разе, пасля справы з Цішкевічам, ён стаў верыць у тое, што ён давёў што стаіць на вышыні і што цяпер яму толькі трэба старацца не аседжвацца тут доўга і перабірацца куды небудзь у большыя маштабы.

Мікалай Цішкевіч у калгас больш не пайшоў.

## СМАГА

Можна пэўна сказаць што на пачатку часу пасля таго як па Беларускай зямлі прайшла граніца з Польшчай, праз цэлыя годы словы шпіён і дыверсант не маглі ўдзябціся ў вушы нашага простага чалавека. Гэтая граніца дваццаць год была нашым вялікім няшчасцем, і цэлае пакаленне людзей нарадзілася і вырасла, якому злы лёс наканаваў дрыжаць таго каб як, барані божа найвышшы, не трапіць на кілометр на ўсход ці на захад. Бо тады [1]

---

[1] На гэтым рукапіс абрываецца.

## НАРОДНАЯ НЯНАВІСЦЬ

Яны ішлі лясными сцежкамі і глухімі закуткамі. Ішлі з дзецьмі. Меншых неслі на руках. Яны былі маўклівыя. У гэтай маўклівасці іх было адно-адзінае для ўсіх іх пачуццё — вялікае і наймацнейшае ад усяго, што было цяпер у іх жыцці. Гэта была нянавісць, агністая і неперыможная нянавісць да подлага забойцы і бессаромнага злодзея, нянавісць, якой няма канца і межаў і якая не можа скончыцца раней таго, пакуль хоць адна пара акаваных жалезам капытоў каго-небудзь з гітлераўскай банды будзе таптацца на роднай зямлі.

Найбольш гэта былі жанчыны. Былі маладыя, былі і сярэдніх год, і пажылыя. Але ішла сярод іх адна «жанчына» з «сваімі дзецьмі», у якой адной з'ядналася бадай што ўсё, што было напісана на многіх тварах, што жыло ў многіх душах. Гэтай «жанчыне» было год трынаццаць. Вяла яна з сабой двое дзяцей. Большаму хлопчыку было год сем, меншай дзяўчынцы — год пяць. Гэтую дзяўчынку яна нават разы са два спрабавала падносіць на руках. Я гэта сам усё бачыў. Было гэта поблізу і раўналежна Н-скай шасэйнай дарогі. Бадай што кожны з гэтых людзей перажываў сваю «асабістую» крывавую драму. Адзін не ведаў, дзе ў страшную мінуту дзеліся бацькі, другі не ведаў, дзе дзеліся дзеці. Дзеці, якія ішлі адны, не ведалі, дзе дзелася маці. Але ўсе ішлі, не жадаючы астацца ў ворага. Усё асабістае ў кожнага злілося ў адно агульнае і злівалася з пачуццямі і імкненнямі ўсяго народа.

Трынаццацігадовая «жанчына», якая вяла «сваіх дзяцей», не ведала, што гэта за дзеці. Яна іх спаткала на дарозе адных і ўзяла іх пад сваю апеку. Калі выйшлі на палявую дарогу і калі з'явіўся над галовамі нямецкі драпежнік, яна цвёрдым голасам загадала «сваім дзецям» упасці на зямлю ў жыта і ўпала сама. Увесь натоўп жан-

чын і дзяцей ляжаў на зямлі, пакуль пералятаў далей крывавы ненаеднік. Здавалася, што ён ужо мінуў гэтае месца. Але раптам выпусціў на дарогу град куль з кулямёта. Бессаромны забойца не мог вытрымаць, каб не пасеяць смерць сярод жанчын і дзяцей.

Што ж у гэтую мінуту рабіла трынаццацігадовая жанчына? Упаўшы грудзьмі і тварам на зямлю, каб перачакаць бяду, яна на гэты момант заснула самым сапраўдным сном. Трэція суткі яна не спала і ўсё ішла.

Насустрач нямецкаму драпежніку ўзвіўся наш знішчальнік. Немец павярнуў назад і неўзабаве знік. Можна было ісці далей. З нейкага інстынкту трынаццацігадовая жанчына адразу прачнулася, паднялася на ногі, падняла «сваіх» дзяцей і стала ў ланцуг усяго натоўпу. І неўзабаве яна ўжо ішла далей — прысутуленая, маўклівая, з завостраным носам, у стракатай хустачцы на мілай дзіцячай галоўцы. Твар яе сабраўся ў адну рысу — непарушная ўпартасць паклала на яго сваю пячатку. Вочы накіраваны былі ў адзін-адзіны пункт — глядзелі туды, што ўжо было знойдзена і вядома.

Усё было вядома і ўсё ішло з душы! Вядома стала, што прыйшла пара вялікага выпрабавання, смутку, упартасці, непахіснасці і непакорнасці. У душы воля да жыцця і радасці, а над душой — крывавы забойца! І свавольная жыццярадаснасць трынаццацігадовай дзяўчынкі ператварылася ў сталасць спрактыкаванага чалавека, які многа ведае і да многага імкнецца. І мілы, пакутлівы твар яе, з тым, што на ім напісана,— гэта твар усіх гэтых людзей, з якімі яна ідзе. І тое, што яна падабрала па дарозе невядомых ёй дзяцей і апякуецца над імі,— гэта выяўленне адной вялікай агульнай свядомасці.

З гэтым адзіным — у душы і ў сэрцы — людзі гоняць жывёлу далей, каб не патрапіла яна ворагу, ідуць у народнае апалчэнне, нясуць варту на дарогах і ў вёсках, правяраюць кожнага невядомага чалавека, вылоўліваюць дыверсантаў і шпіёнаў і збіраюцца ў партызанскія атрады ў тыле ворага.

Адно вялікае імкненне і воля з'яднала ўсіх, увесь наш народ. Разгневаная душа народа ў пакутах гартуе вялікія сілы, якім няма і не будзе межаў і перашкод. Хітрасць і каварнасць ворага натыкаецца ўсюды на народную азлобленасць, на народны розум і кемлівасць. І гора будзе ворагу ад народнай нянавісці!

У вёсцы Н. з выглядам пераможцаў і гаспадароў нем-

цы пайшлі па хатах і загадалі людзям ставіць на стол усё самае лепшае з яды. Вядома, хто мог іх не паслухаць? Але ў адной хаце, дзе два немцы жэрлі смятану з тварагом, двое пажылых мужчын падабралі зручны момант і з аднаго ўдару кіямі палажылі няпрошаных гасцей на месцы.

У мястэчку Ц., пасля заняцця яго немцамі, бадай што ўсё насельніцтва некалькі дзён хавалася ў лясах. Але, нарэшце, адзін за адным пачалі варочацца дадому. У хатах усё ўжо было разграблена і перавернута драпежнікамі. Аднак штодзень з'яўляліся няпрошаныя госці і вымагалі яды — самай адборнай. Калгаснік Х. паставіў на стол усё, што меў. Але немец, які арудаваў за сталом, быў вельмі нездаволен. Тады Х. выйшаў у сенцы і кашлянуў. З гары паказаўся твар мала вядомага яму чалавека, які за дзень да гэтага папрасіўся, каб яго схавалі ад немцаў. Цяпер Х. выразна паказаў чалавеку вачыма на немца. Чалавек цішком злез з гары і з-за сенечных дзвярэй забіў з вінтоўкі немца.

Усё новыя і новыя прыходзяць весткі з тылу ворага аб тым, што расце і шырыцца партызанскі рух народа. Атрады не даюць спакою ворагу. Народ адгукнуўся на заклік правадыра, слова якога злілося з душой і імкненнем народа. Подлыя забойцы, крывавыя фашысцкія зладзеі знойдуць сабе магілу на нашай зямлі, поўнай народнага гневу.

# ЖЫЛА І ЖЫЦЬ БУДЗЕ БЕЛАРУСКАЯ ЗЯМЛЯ!

Заўсёды жыла і жыць будзе Беларуская зямля!

Заўсёды жыў і жыць будзе Вялікі Беларускі народ! Жыў і жыць будзе на сваёй зямлі як гаспадар!

Не званым, не прошаным чужынцам ніколі ён не адчыняў дзверы свайго дома, а заўсёды спатыкаў іх вялікай сваёй нянавісцю і такой жа вялікай сваёй сілай. Няма і не будзе меры гэтай нянавісці і сіле цяпер!

Ніводзін немец не астанецца на нашай зямлі! Як паганая сука, будзе ён лізаць свае раны — і здохне пад няўмольным позіркам нашага чалавека. Косці яго сатлеюць пад нашымі вятрамі, чорная кроў яго ўгноіць наша поле; галавы свае не паспее ён вынесці з нашага дома. Калі хто з іх, ненавідных чужынцаў, выць будзе аб літасці — не адгукнецца яму чалавечае сэрца! Перад ім будзе камень, вечна цвёрды і вечна няўмольны! Подлым фашысцкім прахвостам нічога не будзе даравана! Адна слязіна беларускай жанчыны аб сваіх замучаных дзецях перацягне на вазе справядлівасці ўсю гітлераўскую Германію — гэтую дзяржаву двуногай жывёлы і звяр'я. Голас кожнага асірацелага беларускага дзіцяці гучыць вялікім заклікам да няўмольнай помсты. Яго будуць чуць і дрыжаць перад ім нават бацькі і мацяркі тых, хто прыйшоў тантаць нашу зямлю і раніць яе.

Помсце за родную зямлю не будзе канца! За раны нашай радзімы расплацяцца гітлераўскія прыспешнікі і сляпыя выканаўцы яго волі. Расплацяцца тыя, што паслухмяна ішлі на нас. Хто прынёс Беларускай зямлі гора — адчуе ў сто раз большае гора!

У дзень вялікай расплаты народная ярасць напоўніць жахам кожную фашысцкую істоту. Народная ярасць, народная помста ўжо выходзіць з сваіх берагоў. Беларускі народ падняўся на поўнае знішчэнне агіднага чужынца.

Час расплаты блізка!

Загартуем нашы сілы і нашу волю! Усе, як адзін, будзем цвёрдымі і нязломнымі! Ні адзін нямецкі салдат не павінен выйсці жывым з нашых рук! Смерць кожнаму фашысту на нашай зямлі! Ачысцім ад ворага Беларускую зямлю, залечым яе раны, і зноў будзе радасць і шчасце!

# БЛІЗАК ЧАС РАСПЛАТЫ

На Беларусі ад Брэста і да Оршы, і ўздоўж усяго гіганцкага фронту ад Ленінграда і да Адэсы, па ўсіх раёнах, часова захопленых акупантамі,— усюды-ўсюды тырчаць перад вокам магілы і насыпы над масавымі магільнікамі нямецкіх салдат. Ужо звыш двух мільёнаў гітлераўцаў гніюць у нашай зямлі.

У гэтыя дні найвялікшых баёў, на полі вайны, і на поўначы і на поўдні, ляжаць непахаванымі дзесяткі тысяч немцаў. Побач з гнілымі разбухлымі трупамі, над якімі кружыцца груганнё, ляжаць тысячы раненых і хворых, вывезці якіх нямецкае камандаванне не можа з прычыны недахопу транспарту і лячыць якіх не можа з-за недахопу медыцынскага персаналу. Магільныя чэрві ядуць тут і мёртвых і жывых, і смурод ідзе ад гэтых чыстакроўных арыйцаў і вісіць над полем.

Арыйскі шал сядзіць у галаве нямецкага ваякі толькі тады, калі ён грабіць мірныя вёскі, замучвае насмерць нашых жанчын, страляе нашых дзяцей і адсылае к сабе ў Германію награбленыя туфлі і шаўковыя плацці. Упаўшы на лініі фронту, з дзесяткамі тысяч яму падобных, ад нашага агню, гэтая недабітая гадзіна ператварылася ў кучу гною, напоўненую адным толькі жывёльным страхам. Гэта не чалавек памірае за вялікую сваю ідэю! Уся душа гэтай навалачы вычарпалася ў тым, што ён паслаў дадому некалькі пасылак награбленага дабра.

Яго бялявая немачка, атрымаўшы пасылкі, не можа прыняць да сэрца тое, што гэтыя рэчы здзёрты з акрываўленага цела замучанага чалавека. Яна шчаслівая. А як жа! Яна ж належыць да «вышэйшай» расы. Яна нават пісала на фронт свайму Фрыцу, каб ён там пабольш набраў для яе. Такіх пісем многа бывае ў кішэнях палонных гітлераўцаў. Што там цырымоніцца! Там жа «ніжэйшая раса»! Горыч душы толькі тады яе апануе, калі прыйдзе паведамленне аб смерці яе Фрыца. І вось яна надзене сарванае Фрыцам з акрываўленай беларускай дзяўчыны плацце, а на рукаў таго ж плацця начэпіць жалобную павязку па Фрыцу. Атручаная гітлерызмам і закаранелая ў ім, яна з гэтага абсягу не выйдзе.

Яна яшчэ не ведае, што чалавечая справядлівасць, вылілуўшыся ў форму бязлітаснай помсты, неўзабаве засцігне яе ў самой Германіі.

У Германіі не ведаюць, што сапраўды робіцца на палях вайны. Толькі найбольш ясныя галовы здагадваюцца аб праўдзе па тым, што ўсё больш і больш «фрыцы» пакідаюць слаць «пасылкі» і пісьмы, і без канца ідуць эшалоны з раненымі. Усё іншае затуманьвае гебельсаўская прапаганда.

Цяпер адбываюцца гіганцкія сражэнні, якім не было роўных у гісторыі. Перад тварам зімы і зацяжкі вайны фашысцкія орды ідуць на апошнія патугі, каб як найхутчэй дабіцца чаго-небудзь рашучага. Гітлер бесперапынна кідае ў пекла смерці свае дывізіі. Няма таго дня, каб нямецкія салдаты не лажыліся дзесяткамі тысяч. Іншага выхаду нямецкаму камандаванню няма. Пасля таго як лягло звыш двух мільёнаў гітлераўцаў і скрозь у тылах узнялася супроць іх народная нянавісць і паўстанні — пасля ўсяго гэтага нічога не астаецца, як лезці на ражон. І так дзень за днём кладуцца нямецкія дывізіі.

Час вядзе Гітлера да пагібелі. Ён захапіў некаторую частку нашай тэрыторыі, а перамогі няма. Наадварот, з кожным днём ён слабее, яго полчышчы сцякаюць крывёю, а Чырвоная Армія мацнее.

Гэтымі днямі Чырвоная Армія заняла горад Ельню, дзе немцы стварылі ўмацаваны плацдарм для руху на Маскву. Там Гітлер палажыў 8 сваіх дывізій, мізэрныя астачы якіх, кінуўшы ўсю зброю, беглі далёка ў тыл без аглядкі, чуючы за сабой магутны рух чырвонаармейскіх часцей.

Блізіцца час, калі Чырвоная Армія ачысціць ад нямецкай погані нашу зямлю. І, страціўшы арыйскую прывычку грабіць і забіваць жанчын і дзяцей, двуногая нямецкая жывёла папрэ назад, другі раз угнойваючы нашу зямлю сваімі трупамі. Таксама як і «фрыц» цяпер пад Адэсай, якога зажыва ядуць чэрві і дзяўбуць груганы, бялявая яго немачка страціць тады сваё «арыйства» і, апанованая жывёльным страхам, сарве з сябе плацце беларускай дзяўчыны. Але будзе позна. Расплата не міне і яе.

Расплата будзе не толькі ад аплёваных цяпер Гітлерам народаў. І сам просты нямецкі народ, калі толькі ён зразумее, якая вялікая адказнасць ляжыць на ім за тое, што на яго зямлі выраслі зграі двуногіх звяроў, якія так многа зрабілі пакут і няшчасця многім народам свету,— і сам нямецкі народ расправіцца з усімі гітлераўскімі packed задкамі.

Чырвоная Армія рыхтуе прыход дня вялікай расплаты.

## В РАЗВЕДКЕ

Пришли мы с Пантелеем в разведку в свою деревню. Притаились в огороде, видим — стоит во дворе ихний часовой, а другой прохвост настраивает на крылечке радио. Тут радио как гаркнет. Слышу — по-белорусски нас старается околпачивать. Но как-то не то выходит.

Был у нас когда-то пан Смердяцкий. Ненавидел он наш язык и точно так же изображал наш разговор, когда хотел высмеять нас.

— Не пан ли это Смердяцкий,— подумал я,— зарабатывает у Гитлера хлеб?

Прислушиваюсь — ох как гладко брешет! Была у меня когда-то бесхвостая сука, могла она обрехать за ночь двадцать деревень, слава о ней шла от Турова до Пинска. Но так нежно и умилительно, как этот ее племянник, и она никогда не брехала.

А он все расхваливает своего фюрера: Гитлер, говорит, первый из первых.

— Когда бежит стадо ослов,— соглашаюсь я с ним,— то один из них обязательно бывает первым.

Вдруг вижу: выходит из хаты какое-то длинное рыло в блестящих сапогах со скрипом. Торчит рыло из-под седого уса и на ходу сухую корку гложет.

— Эге-ге,— подумал я,— да у тебя, видно, на ноге сапог скрипит, а в горшке беда кипит. Видно, тебе боком вылазит то, что наши люди, когда уходили в лес, сожгли хлеб дотла.

Толкаю Пантелея, а он все и сам понимает. Обошел он заднюю стену сарая и через изгородь как прыгнет на часового. А я на радиста и в тот же момент, тоже с клинком. И выстрела не слышно, и оба лежат мертвые. А из соседних дворов слышно, как гергечут немцы, не знают, что у них под боком произошло.

Стоит перед нами одинокое длинное рыло, а мы его уже в огород приглашаем. Мычит, а не идет. Тут я как махну ему в ухо! Мычит, но пошел. В огороде приказали мы ему ползти — не хочет. Тут Пантелей сжал кулаки и вежливо попросил. Перестал мычать и пополз. За огородами пустили мы его вперед и так пришли в наш партизанский отряд. Первым делом ощупали мы его офицерские знаки и стали допрашивать.

## СПОР ОБ АРИЙСКОЙ КРОВИ

ЧЕРВЯК: Вот уже два месяца, как я питаюсь только арийцами. Смотри, как я разжирел. Я переродился. Я сам стал чистокровным арийцем.

ВОРОН: Эх ты, гитлеровский выскочка. Я живу уже свыше 300 лет и еще в 1613 г. едал мясо немецких баронов на этой самой земле. А если бы ты знал, сколько арийского мяса здесь было в 1918 году! А знаешь ли ты, что мой отец и мать лакомились самим королем Фридрихом? А знаешь ли ты, что мой дед объедался немецкими рыцарями на Чудском озере? А ты — тоже ариец! Много вас таких развелось!

# БЕЛАРУСКІ НАРОД ЗМАГАЕЦЦА З АКУПАНТАМІ!

### Грабежніцтвы

У Любаньскім і Старобінскім раёнах, як і ва ўсіх іншых акупіраваных месцах, немцы па-зверску гаспадараць і чыняць здзекі з насельніцтва.

Сваіх прадуктаў у акупантаў няма. Яны стараюцца жыць за кошт нашага сялянства, забіраюць у яго апошняе.

Быў такі выпадак. Жанчына толькі што пасадзіла ў печ хлеб. У хату ўвайшлі немцы і дасталі з печы сыры хлеб.

Там, дзе немцы пастаялі дзён 10, там яны паспявалі аграбіць усё, аставалася толькі тое, што людзям удавалася схаваць. Навакол сябе немцы ўсё глумяць і разбураюць.

### Здзекі і забойствы

Невыкананне самага нязначнага загаду немцы караюць расстрэлам. За тое, напрыклад, што гаспадыня не дасць фунта масла (калі ў яе нават масла няма), яе расстрэльваюць.

Старшыні калгаса «Ударнік» немцы загадалі прывезці ім сена. Сена прывезлі, але з невялікім спазненнем. За гэта нямецкія звяры да смерці збілі старшыню.

Грамадзянка з Любані Гідрыновіч не захацела ўпакаваць тыя прадукты, якія забралі ў яе немцы. За гэта яе так білі, што яна ледзь асталася жывая.

### Расстрэлы

Многа людзей замучылі, забілі і расстралялі немцы ў Любаньскім і Старобінскім раёнах.

Загадчыцу калгаснай фермы Каратчэню Ганну немцы застрэлілі за тое, што яна накарміла падарожных людзей.

Немцы расстралялі старшыню Асавецкага сельсавета Клімовіча, дырэктара МТС Бондарава, кладаўшчыка калгаса «Чырвонае Палессе» Вішнеўскага.

Старшыню Турокскага сельсавета Прушака немцы прымусілі капаць самому сабе яму і над ямай расстралялі яго.

Народ ненавідзіць акупантаў.

Аднойчы дарогай ішоў партызан, а насустрач яму ста-

ры селянін. Паабапал дарогі паспяваў багаты ўраджай. Гэта ўсё было на асушаных балотах Любаньшчыны. Партызан запытаў у старога:

— Тут, здаецца, раней былі балоты?

— Вялікія балоты былі,— адказаў чалавек,— я сам бывала выносіў з іх панскае сена. А вось прыязджала да нас нядаўна нейкая нямецкая сволач і брахала, што нас нібыта Савецкая ўлада ашукала. А хто нам гэтыя балоты асушыў, як не Савецкая ўлада? Мы сталі багатымі людзьмі. І ўсё таму, што ў нас была Савецкая ўлада. Яна ў нас і далей будзе.

Гэты селянін выказаў тое, што жыве ў душах людзей. Людзі ненавідзяць немцаў і працівяцца ім. Найбольш актыўная частка насельніцтва змагаецца з акупантамі.

Народную нянавісць да сябе немцы бачаць у кожным чалавечым позірку, а яшчэ больш у дзейнасці партызан.

## Народная помста

Як толькі пачынае змяркацца, немцы спыняюць усякі рух на дарогах. Яны баяцца ночы. Уначы іх хутчэй насцігае народная помста.

Немцы баяцца лясоў і кустоў. Кожны прыдарожны лес, кусты немцы заўсёды абстраляюць, перад тым як прайсці каля іх.

У калгасе імя БВА партызанскі атрад быў акружаны немцамі. Быў бой. Партызаны забілі 12 немцаў, ранілі каля 25, забілі афіцэра.

За Любанню партызаны закідалі гранатамі групу матацыклістаў. Партызаны жорстка распраўляюцца з нямецкімі стаўленнікамі, якія назначаюцца з былых кулакоў або з уталоўнікаў.

Усе чакаюць моманту, калі паганыя гітлераўскія гады пачнуць уцякаць з нашай зямлі. Настрой сялянства такі, што ніводнаму немцу не ўдасца выратаваць сваю галаву.

## ЧИСТОКРОВНАЯ ВОШЬ

Офицеры они были, как им и полагается: и погоны, и шнурки какие-то, и крестики... и даже пытались они храбриться передо мной. Сначала отмалчивались. Что ни спрошу — молчат.

— Выходит, что вы перестали понимать по-русски,— сказал я.— Но ведь мои хлопцы слышали, как вы по-русски разговаривали в деревне, когда требовали кур и одеял?

Молчат.

— Значит, вы и есть чистокровные арийцы? — спрашиваю.— Правда ли, что чистокровным арийцам не может считаться тот, кто не умеет убивать, грабить, резать и жить на чужой шее? Молчите? Молчание — знак согласия. Значит, вошь тоже чистокровная арийка, она ведь иначе и не живет, как на чужой шее.

Тут они переглянулись между собой.

— Ага, поняли? Так отвечайте: где стоит ваш штаб?

Тут Пантелей схватил их за ворот, потряс и опять поставил передо мной. И они не только рассказали, где их штаб, а еще указали, где стоит обоз с награбленным у крестьян добром.

И выходит, что эта чистокровная вошь силится обосноваться на нашей шее. А известно, что делают со всякой вошью.

## ПЕРАМОГА БУДЗЕ ЗА НАМІ!

Наш родны беларускі народ!

24 гады прайшло з дня Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, якая дала беларускаму народу свабоду, нацыянальную дзяржаўнасць, шчаслівае жыццё. Беларускі народ усе гэтыя 24 гады быў поўным гаспадаром сваёй роднай зямлі. Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка ў брацкай сям'і народаў Савецкага Саюза за прайшоўшыя гады дабілася гістарычных поспехаў у гаспадарчым і культурным будаўніцтве.

За гады свайго існавання БССР стала перадавой індустрыяльна-калгаснай рэспублікай. Наша поле было багата ўраджаямі, нашы заводы і фабрыкі выраблялі многа тавараў і прадуктаў. Пры Савецкай уладзе беларускі народ выпраміў плечы, вырас, пачаў жыць заможна і культурна і з кожным годам ішоў к усё большаму росквіту.

У 1941 годзе, як і ва ўсе папярэднія годы, у нашай рэспубліцы будаваліся дзесяткі новых заводаў і фабрык, на калгасных палях спеў багаты ўраджай, вялікі народ наш вёў сваю напружаную творчую працу ў імя росквіту сваёй дарогай Радзімы. Згодна пастановы Савета Народных Камісараў СССР і Цэнтральнага Камітэта Усесаюзнай Камуністычнай партыі (бальшавікоў) у Беларусі намячалася грандыёзная праграма асушкі беларускіх балот і асваення асушаных зямель на карысць народна-гаспадарчага будаўніцтва.

З якой радасцю і энтузіязмам узяўся наш народ за ажыццяўленне гэтай грандыёзнай праграмы! Народ ведаў, што ажыццяўленне гэтай праграмы прынесла б яму новыя незлічоныя багацці.

Шчасліва, заможна жыў беларускі народ!

Але подлы вораг не даў нам мірна жыць, працаваць, весяліцца і радавацца. Крывавы Гітлер вераломна напаў на нашу Радзіму.

Вось ужо больш чатырох месяцаў азвярэлыя нямецкія зграі топчуць нашу родную зямлю. Па ўсёй Беларусі чуюцца стогны замучаных людзей, чуюцца енкі асірацелых дзяцей. Над беларускімі лясамі, палямі і азёрамі, над спаленымі вёскамі і зруйнаванымі гарадамі, уздоўж беларускіх рэк вісіць няшчасце і гора. Там, дзе стаялі паселішчы, дзе цвілі сады, дзе радаваўся жыццю чалавек — вецер узнімае хмары халоднага попелу. Па адзічалых

дарогах бадзяюцца сіраты — ад бацькоўададбраў жыццё няпрошаны, ненавісны фашысцкі бандыт.

Але не забывайце, браты і сёстры, усе ведайце, што слаўная геранчная Чырвоная Армія вядзе ўпартае змаганне з ворагам, ведайце, што змаганне гэтае з кожным днём набліжае нас да канчатковай перамогі над нямецкімі захватчыкамі.

Фашысцкія бандыты, каб запалохаць нас, каб пасеяць сярод нас паніку і безнадзейнасць, распаўсюджваюць ілжывыя чуткі, што нямецкія войскі забралі Маскву, Ленінград, што Чырвоная Армія нібыта разбіта, што нібыта знішчана савецкая авіяцыя. Гэта няпраўда, гэта пустыя выдумкі ворага, які адчувае, што пад яго нагамі няма моцнай глебы, які адчувае сваю пагібель.

За прайшоўшыя месяцы вайны германская армія страціла больш чатырох з палавінай мільёнаў сваіх салдат. Яе двухмесячныя спробы ўзяць Ленінград скончыліся тым, што немцы страцілі там некалькі сот тысяч салдат, а цяпер Чырвоная Армія пачынае адціскаць іх ад Ленінграда.

Увесь кастрычнік месяц вораг стараўся прабіцца к Маскве. Ішлі самыя крывавыя за ўсю вайну баі за подступы к Маскве. Чырвоная Армія затрымала ворага. Нямецкае наступленне на Маскву спынена. Як вораг ні рвецца к Маскве, усе яго атакі адбіваюцца, і ён ужо не ідзе наперад ні на крок. На подступах да сталіцы ляжаць ужо сотні тысяч забітых немцаў.

Горы нямецкіх трупаў ляжаць на ўсіх іншых франтах. Нягледзячы, аднак, на такое пагібельнае знішчэнне нямецкага войска, Гітлер гоніць у бой усё новыя часці. Ён не шкадуе сваіх салдат, ды і іншага спосабу ў яго ўжо няма, бо пайсці назад — гэта значыць загубіць сваю ўладу.

Набліжаецца жорсткая руская зіма, якое так баяцца немцы. Вораг завяз на нашай тэрыторыі, і тут скора пачнецца яго пагібель.

Наш народ ваюе з нямецкімі фашыстамі не адзін. У Савецкага Саюза ёсць такія магутныя і вялікія саюзнікі, як Англія і Амерыка. Гэтыя дзве магутныя дзяржавы шлюць нам танкі і самалёты, узбраенне і ваенныя матэрыялы. Англійская авіяцыя бамбіць нямецкія гарады, прамысловыя цэнтры ў Германіі, ваенныя заводы і фабрыкі. Пачаўшы ваенную авантуру супраць усяго свету, Гітлер апынуўся на краю бяздоння. Яго ненавідзіць увесь свет.

Партызанская вайна супраць немцаў разгараецца ва Францыі, у Бельгіі, Нарвегіі, Чэхіі, Польшчы, Грэцыі.

Браты і сёстры! Беларускія партызаны ўжо зрабілі вялікія справы. Лепшыя сыны беларускага народа са зброяй у руках паўсталі на змаганне з лютымі фашысцкімі бандытамі.

Па ўсёй нашай краіне прагучэла слава пра мужных беларускіх партызан, іх храбрасць і адвагу, пра іх бязлітасную барацьбу з нямецкімі фашыстамі. Савецкі ўрад высока ацаніў заслугі выдатных беларускіх партызан. Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР прысвоіў званне Героя Савецкага Саюза партызанам т. т. Бумажкову і Паўлоўскаму, узнагародзіў многіх партызан ордэнамі і медалямі Саюза СССР.

Будзем жа мацней дапамагаць слаўнай Чырвонай Арміі хутчэй расправіцца з ворагам. Усе пойдзем у партызаны! Усе, як адзін, будзем памагаць партызанам!

Савецкая Беларусь жыла і будзе жыць! Ідзе той час, калі недабітыя рэшткі нямецкай навалачы без агляд кі папруць назад з нашай зямлі. Але мала катораму з іх удасца дабегчы да сваёй Германіі, узненавіджанай цяпер усім светам. Нашы разбураныя гарады, нашы спаленыя паселішчы, усё, што немцы ў нас зруйнавалі і стапталі — усё яны адновяць і адбудуюць самі, усё яны нанава зробяць сваімі рукамі.

Браты і сёстры! Перад намі ясная будучыня! Ідзе час нашага вызвалення! Наблізім жа гэты час нашым дзейным змаганнем з ненавіснымі чужынцамі-немцамі! Узнімайце барацьбу супраць ворага! Бязлітасна знішчайце яго жывую сілу, танкі і аўтамашыны, пускайце пад адкос варожыя паязды, узрывайце масты і дарогі, псуйце тэлефонную і тэлеграфную сувязь, падпальвайце склады і абозы нямецкіх захватчыкаў!

Гарачае прывітанне слаўным беларускім партызанам!

Няхай жыве вялікі беларускі народ!

Няхай жыве свабодная, шчаслівая Савецкая Беларусь!

Няхай жыве слаўная наша Радзіма — Савецкі Саюз!

# У ІМЯ БУДУЧЫНІ

Шчаслівы час маленства! Залатыя гады! У гэты час жыцця і ўражанні глыбейшыя, і ўспрыяцці жыццёвых з'яў непасрэдныя! І пачуццё Радзімы пачынаецца ў гэтыя гады. Дзе прайшло маленства, там пачынаецца Радзіма. Блізасць і замілаванне да роднай прыроды, да роднай зямлі, да самага важнага — да свайго народа — пачынаецца з малых і маладых год.

Дзяцей нашага народа, беларускіх дзяцей, у лепшыя годы іх яснага маленства спасцігла вялікае няшчасце ўбачыць сваю Радзіму пад жудаснай акупацыяй. Дзіцячая душа на ўсё жыццё захавае ў сабе малюнак залітай крывёй травы, попел пад ветрам на месцы роднай хаты і трупы замучаных. А часта — гэта труп бацькі ці маці.

Дваццаць чатыры гады таму назад адбылася Вялікая наша Кастрычніцкая рэвалюцыя, якая шырока адчыніла перад нашымі дзецьмі дзверы ў жыццё, у будучыню. Чалавек вырастаў як чалавек, як вольны гаспадар таго, што яму роднае, што з самых малых год на векі вечныя стала жыць у душы як радасць і шчасце. Родная зямля! Радзіма! Ад аднаго гэтага слова пачынае мацней біцца сэрца! І адразу раптоўна паўстала над нявінным дзіцём змрочная постаць азвярэлага чужынца.

Тое, што не пад сілу было б перажыць самаму моцнаму духам і целам мужчыну, на тое асуджае нашых дзяцей подлы нямецкі прышэлец. Што адчувала няшчаснае дзіця настаўніцы Кустановіч, з Петрыкава, калі нямецкі афіцэр укінуў яго ў агонь?

Нашы дзеці бачылі, як тлела ў агні хараство роднай зямлі. Нашых дзяцей расстрэльваў немец з самалётаў, калі яны з маткамі ішлі дарогамі, шукаючы ратунку ад нямецкай навалы. Нашы старэйшыя дзеці неслі на руках меншых, калі падала ад нямецкай кулі маці.

Сутнасць нямецкай акупацыі відна на муках, на енках кінутага ў агонь дзіцяці і на парыве жывой маці, якая ў гэты момант стаіць над агнём і душа якое папялее на векі вечныя.

І тады беларускае дзіця старэйшага пакалення становіцца героем. Няма нічога страшнейшага, калі на дзіцячым ілбе мы бачым маршчыну старасці. Але няма нічога больш вялікаснага за тое, калі дзіця, на хвалях пакут і змагання сваіх бацькоў, свайго народа, узнімаецца да сапраўдна-

га гераізму. Мы ведаем хлопчыка Сашу са Жлобіна, які адпомсціў немцам за смерць сваіх бацькоў тым, што ўзарваў гранатай нямецкую штабную машыну з афіцэрамі і пры гэтым загінуў сам.

Нямецкі фашызм пагражае нашым дзецям не толькі знішчэннем. Нямецкая гадзіна яшчэ мае намеры залезці ў душы нашых дзяцей. Выцягнуць душу, спустошыць яе, пасеяць у ёй атруту абыякавасці да роднай зямлі. Гітлераўская навалач будзе спрабаваць анямечыць нашых дзяцей і пустошыць, і аддаваць на згубу і забыццё роднае, беларускае.

Будзем усімі сіламі берагчы нашых дзяцей! Нашы дзеці — гэта дзеці вялікага гераічнага народа. Гэта дзеці бацькоў і ўнукі дзядоў, якія заўсёды змагаліся за сваю чалавечую годнасць. Савецкая Беларусь будзе жыць! Нямецкія арміі будуць знішчаны да апошняга салдата. Заваёвы Кастрычніка жылі і жыць будуць на Беларусі! І аб гэтым мы скажам сваім дзецям.

Скажам ім аб нашым вялікім замілаванні да роднай краіны, да памяці бацькоў і дзядоў нашых. Скажам нашым дзецям аб нашай любві да родных дарог, да жоўтых асенніх лясоў, да азёр і рэк нашых. Спынім іх увагу на яснотах сонечных праменняў, калі яны кладуцца ціхім хараством на траву і верасы, на бярозы і хвоі. Давядзём і пакажам нашым дзецям справамі нашымі, як мы любім іх. Няхай справы нашы пакажуць, што наша адданасць Радзіме зліваецца з нашым замілаваннем да нашых дзяцей. Паможам нашай Чырвонай Арміі вынішчыць усіх нямецкіх акупантаў у імя нашай будучыні. Час вызвалення блізак. Будзем яшчэ больш любіць, берагчы і ратаваць нашых дзяцей; адпомсцім нямецкім гадам за скалечанае маленства!

# БУДЗЕМ АДЗІНАДУШНЫМІ І НЕПАХІСНЫМІ

Браты беларусы!

Па нашай зямлі ходзіць няшчасце і гора. Па нашай роднай зямлі топчацца двуногая нямецкая жывёла, тупая і азвярэлая. Нашы беларускія гарады ляжаць у руінах. Вецер узнімае хмары халоднага попелу там, дзе жыў чалавек у шчасці і радасці.

Наша поле было багата ўраджаем. Нашу краіну ўзбагачалі нашы заводы і фабрыкі. Пры Савецкай уладзе беларускі народ моцна стаў на ногі.

Але гітлераўская навалач не дала нам жыць. Банда прахвостаў і жулікаў хоча падняволіць сабе вялікі беларускі народ, народ мужнага Каліноўскага, народ шматлікіх змагароў за нацыянальную самастойнасць свае Радзімы — Андрэя Блажко, дукорскіх партызан, слуцкіх партызан, усіх іншых вядомых і невядомых герояў; народ, які ў самыя цяжкія часы сваёй гісторыі заўсёды быў самім сабою.

Гітлераўская Германія вымуштравала зграі тупых салдафонаў, якім убіта ў галаву, што яны маюць права жыць на шыі ўсіх народаў. І вось зграі гэтых атупелых людаедаў рынуліся на нашу зямлю. Яны скалечылі маленства нашых дзяцей. Яны спапялілі душы нашых сёстраў, жонак і матак, якія бачылі смерць сваіх дзяцей у агні і громе. Я быў разам з народам, бачыў яго пакуты, яго кроў, яго пакутнікаў. Па дарогах ад Мінска і да Смаленска я бачыў чатырохгадовых і васьмігадовых дзяцей, якія паднімалі ўгару замест рук акрываўленыя косці і крычалі: «мама». Мы ўсе бачылі няшчасную маці, вялікую беларускую жанчыну, якая ў гэты самы момант канала на дарозе пад кулямі арыйскага прахвоста, напоўненага прагнасцю па нашых касцях здабыць сабе ў Беларусі маёнтак. Я бачыў дзесяцігадовых і дванаццацігадовых дзяцей, якія неслі на руках меншых, не могучы адарваць вачэй ад дарагога твару забітай маці.

Я бачыў, як трашчалі ў агні беларускія кнігасховішчы, як гінула гордасць нашай рэспублікі і гордасць Савецкага Саюза — Ленінская бібліятэка ў Мінску. Я бачыў, як гарэла і гінула ў агні беларуская кніга, як падала ў руіны сталіца нашай рэспублікі — Мінск, як гінуў Гомель і Віцебск і іншыя нашы гарады.

Але разам з тым, перад усім светам, збіраўся на вялікае змаганне наш народ, вечна непакорны перад ворагам.

Браты беларусы! Кожны, хто любіць сваю беларускую зямлю, хто сын свайго народа, ведай, што вялікая няслава і ганьба таму, хто не выйдзе на расправу з ворагамі і на помсту.

Час расплаты пачаўся!

Наша слаўная Чырвоная Армія ўжо гоніць немцаў з савецкай зямлі. Нямецкія зграі ўжо коцяцца назад. Яны хацелі ўзяць Маскву, а замест гэтага знайшлі сваю пагібель.

Будзем адзінадушныя і непахісныя ў змаганні і помсце ворагу. Ніводзін немец не павінен астацца на нашай зямлі. Як паганая сука будзе кожны з іх лізаць свае раны і здохне пад няўмольным позіркам нашага чалавека. Косці яго сатлеюць пад вятрамі. Чорная кроў яго ўгноіць наша поле. Не павінен ён вынесці галавы з нашага дома! Як толькі можам, будзем рабіць смерць кожнаму з іх. Калі хто з іх выць будзе аб літасці, не павінна адгукнуцца яму чалавечае сэрца!

Ніводнаму немцу нічога не павінна быць даравана! Адна слязіна беларускай жанчыны аб замучаных дзецях перацягне на вазе справядлівасці ўсю гітлераўскую Германію, гэтую дзяржаву двуногай жывёлы.

Вечна жыў і вечна жыць будзе вялікі беларускі народ на сваёй, вызваленай ад нямецкай гадзіны, беларускай зямлі!

Браты беларусы! Усе, дзе б хто з нас ні быў — і хто на роднай зямлі перажыве яе пакуты, і хто выйшаў ад нямецкай навалачы! Ведайце, усе ведайце: скора мы зноў збяромся дома, на радзіме, на сваёй зямлі ў шчасці і радасці. Гэты час падыходзіць.

Смерць кожнаму немцу на нашай зямлі!

Няхай жыве наша родная зямля, наша Радзіма — Беларусь, наш вялікі беларускі народ!

Няхай жывуць вялікія магутныя савецкія народы, якія куюць нашу перамогу!

Няхай жывуць вялікія і магутныя — рускі і ўкраінскі народы, якія з намі плячо ў плячо робяць нашу перамогу!

Няхай жыве наша слаўная, грозная ворагу Чырвоная Армія!

7 Зак. 2701

# НЕМЦЫ ЎСТАНАЎЛЯЮЦЬ ПАНШЧЫНУ

Дагэтуль нямецкі зброд, які навалокся на нашу зямлю, як ліхая плойма, займаўся тым, што забіваў і грабіў нашых людзей. Увесь час немцы выцягвалі жылы з нашага народа і абабралі яго да ніткі. Больш ужо няма чаго і грабіць, усё зжэрлі паршывыя ненаеднікі. І вось цяпер хітрая нямецкая шэльма спрабуе ўскласці на нашу шыю новае ярмо — сваю, як яны кажуць, зямельную рэформу. Жэрці ім трэба, браць больш няма адкуль, дык яны ўгаварваюць нас, каб мы сваю ўласную зямлю засеялі для іх, а яны спадзяюцца пасля ўвесь ураджай забраць к сабе ў Германію і там будуць жэрці і карміць сваё вашывае войска, якое тут сядзіць на нашай шыі.

Падышла вясна. Блізка пара араць і сеяць, дык вось яны і заварушыліся каля нашай зямлі, як чэрві.

Наўрад ці знойдзецца такі дурань на свеце, які б на сваёй уласнай зямлі ахвотна рабіў, каб якая-небудзь прыблудная гадзіна забрала сабе ўраджай і зжэрла яго, нават дзякуй не сказаўшы.

Немец гаворыць, што будзе надзяляць нас нашай зямлёй! Вось дзядзька знайшоўся! Але паглядзім, што гэта за надзел такі.

Нямецкія газеты і нямецкае радыё тлумачаць пра гэта так, што пакуль ідзе вайна, зямля павінна апрацоўвацца «абшчынай», гуртам, талакой. І трэба, каб усё было засеяна, бо трэба карміць нямецкую армію. А кіраваць гэтай «абшчынай» прыедзе з Германіі немец-інструктар. Гэта значыцца — з'явіцца з Германіі пан, ды яшчэ і чужаземны. За працу ж у гэтай «абшчыне» людзі не атрымаюць хлеба і якіх бы там ні было прадуктаў, а грошы. А гэтыя грошы значаць — акупацыйныя маркі, за якія нічога нідзе не купіш. У той жа час беларускіх хлопцаў і дзяўчат будуць гнаць у Германію, на катаржныя палявыя работы, гэта значыцца, з іх зробяць прыгонных мужыкоў нямецкіх паноў. Нямецкая газета так проста і піша: «Беларутэнія (так яны называюць Беларусь) ужо цяпер можа пасылаць у Германію тысячы сваіх маладых людзей і дзяўчат ва ўзросце ад 18 да 25 год, як сельскагаспадарчых рабочых». Германіі цікава мець звыклага да цяжкай працы рабочага.

Немцы тлумачаць яшчэ і на далейшае. Надзяленне сялян зямлёй,— крычаць яны,— будзе пасля вайны, і гэта

будзе спадчынная арэнда. Гэта значыць, што беларус будзе арандаваць у немцаў сваю ўласную зямлю.

А далей тлумачыцца, што не ўсе будуць мець права арандаваць зямлю. На гэта будзе мець права толькі той, хто прыдбае к таму часу жывёлу, сельскагаспадарчыя прылады і машыны.

Гладка скроена! Каму ж гэта будзе пад сілу купіць жывёлу і машыны, седзячы галодным і абрабленым? Значыцца, ніхто гэтай арэнды і ў вочы не ўбачыць. Ды да гэтага ўсё так і падведзена, каб не даць нам нашай зямлі і панюхаць, а каб на яе пасадзіць нямецкага пана, а нас зрабіць яго прыгоннымі парабкамі.

Вось і ўся нямецкая «зямельная рэформа». Яна ёсць самая страшная і лютая паншчына, якое не ведалі нават нашы дзяды і прадзеды.

Нямецкая шэльма прывыкла дзейнічаць ашуканствам і гвалтам. Нямецкае гадаўё не лічыць нас за людзей. Мы для іх толькі рабочая жывёла. Яны думаюць, што тут як з тым канём, з якім цацкаюцца, пакуль увядуць яго ў аглоблі. Але наадварот — мы людзі і мы не паддаліся двуногаму нямецкаму звяр'ю.

Не верце вы ні ў якую гітлераўскую зямельную рэформу, не слухайце абармотаў, якія селі на вашу шыю. Ведайце, што Чырвоная Армія ўжо блізка і нядоўга немцу асталося таптацца па нашай зямлі. Не дажджэ ён забраць наш ураджай! Не слухайце яго, тое, што пасееце — тое пажнеце самі. Не слухайце немцаў і не верце ім, а ўсе ўзнімайцеся на іх. Нямецкія гады вельмі добра гінуць і ад кулямётаў, і ад віл, калі іх усадзіць у нямецкае чэрава. Чырвоная Армія з кожным днём усё больш цісне немцаў на Захад. Блізак час вызвалення Беларусі. Ведайце гэта і памятайце, што тры аршыны магільнай зямлі для немца — самая найлепшая зямельная рэформа.

## СУПРАЦЬ ЗВЕРА

На перасыльным пункце палонныя немцы некалькі дзён чакалі адпраўкі ў глыбокі тыл. З палоннымі гаварылі людзі, якія сабраліся паглядзець на іх. Прыйшлі сюды і чырвонаармейцы, сярод якіх былі і рускія, і беларусы, і ўкраінцы, і казахі. Мясцовы настаўнік сказаў да палонных такія словы:

— Мы хочам, каб народы ўсяго свету жылі ў дружбе. Каб чалавек чалавеку быў брат.

Пачуўшы гэта, чырвонаармейцы з яснымі тварамі пераглянуліся. У вачах іх свяцілася гордасць за гэтыя словы, сказаныя савецкім чалавекам. З насцярожанасцю яны павярнулі твары да немцаў — што яны на гэта скажуць, ці хочуць яны, каб чалавек быў чалавеку братам?

Немцаў было каля трыццаці, і толькі два з іх (адзін аўстрыец) праясніліся тварамі і пачалі ківаць галовамі, як толькі перакладчык растлумачыў ім сказаныя словы. Усе ж астатнія са змрочнай злосцю апусцілі вочы ў падлогу і так і застылі ў гэтай звярынай паставе. Тое, што яны пачулі, было чужое ім і непатрэбнае.

І вось чырвонаармейскія твары пачалі хмурнець. З вачэй спала надзея на тое, што ў нямецкага салдата асталіся чуйкія рэшткі чалавечнасці. Не. Усё чалавечае яму чужое. Гэта толькі звер з воўчымі зубамі і свінячай натурай.

Губы ў чырвонаармейцаў сціснуліся. Вочы сталі суровымі. І суровасць ператварылася ў непрымірымую нянавісць.

Гэтую карціну я наглядаў у другім месяцы пасля пачатку вайны. З таго часу прайшло ўсяго паўгода, але з нямецкім салдатам адбылася вялікая змена. Цяперашні палонны немец не падобен на таго, які быў у пачатку вайны.

Цяперашняму палоннаму немцу можна гаварыць, што хочаш, нават тое, што яго маці ёсць пярвейшая сука. І немец ужо не будзе з пагардай і самаўпэўненасцю глядзець у падлогу, як калісьці. Цяпер ён, як збіты сабака, будзе лісліва зазіраць табе ў вочы і, цярэбячыся за каўняром ад вошай, будзе згаджацца з усім.

Аднак жа ніякіх чалавечых рыс у ім не з'явілася. Ёнastаўся той жа двуногай жывёлінай, толькі бітай, абскубленай і апаршыўленай. Яго самаўпэўненасць выбіла з яго наша артылерыя, наша авіяцыя, наш штык. К таму ж яго

яшчэ падмарозілі нашы марозы. Цяпер яму не да таго, каб думаць, што ён быццам бы лепшы за ўсіх на свеце. Цяпер ён выскаляецца ўсёй мордай і робіць выгляд, што быццам бы нічога і не здарылася: што ён не грабіў і не забіваў, не гвалціў і не кідаў у агонь нявінных дзяцей. Наша наступленне і нашы перамогі здорава прыпяклі яму.

На яго наступае і яго б'е вялікая сіла. Няма чаго і казаць, што Чырвоная Армія моцная сваёй зброяй. Наша авіяцыя ўжо даўно давяла сваімі баявымі справамі, што яна пануе над ворагамі па ўсім фронце і ў нямецкіх тылах. Наша артылерыя наводзіць жах на гітлераўскія дывізіі. І нашы танкі, і нашы штыкі ёсць грозная для ворага зброя. Чырвоная Армія бязлітасна знішчае нямецкія полчышчы і гоніць іх з савецкай зямлі. На Заходнім фронце ад немцаў ужо цалкам ачышчаны Маскоўская, Тульская вобласці. Чырвоная Армія падышла ўжо да самай Беларусі, і хутка пачнецца ачышчэнне ад немцаў нашай роднай Беларускай зямлі. На Паўднёвым і на Паўднёва-Заходнім франтах наша армія б'е і гоніць ворага. Ачышчаецца ад немцаў Украіна. Вораг убачыў, што нас ён не пераможа, і ў дзікай злосці, перад сваёй пагібеллю, яшчэ заядлей чыніць свае зверствы, на сваёй галаве адчуваючы сілу нашай зброі.

Але ў нас ёсць і яшчэ адна сіла, недаступная немцам. Гэта — чалавечнасць і патрыятызм. Наша Чырвоная Армія носіць у душы імкненне да брацтва ўсіх народаў, а на вялікія подзвігі і гераізм яе натхняе найвялікшае замілаванне да сваёй радзімы і да свайго народа. З нашага сэрца гэтага не вырвеш, і гэтым тлумачыцца тое, чаму Чырвоная Армія — гэта армія герояў, здольных перамагчы ўсякія выпрабаванні і давесці вайну да поўнага знішчэння ворагаў, усіх да аднаго.

Гэтай сілы няма ў немцаў. Там толькі кругавая парука забойцаў і шэльмаў. Які там к чорту патрыятызм, калі кожнаму нямецкаму ваяку ўбіта ў галаву, што ён пасля вайны будзе мець маёнтак на заваяванай зямлі. Заўважым: натхняючы сваіх салдат на вайну, бандыт Гітлер не шукаў у немцаў пачуцця радзімы, а пачуцця грабежніцтва і нажывы на чужым. Так крывавы забойца Гітлер выхаваў сваю салдатню, дык інакш і быць не магло, бо ён сам ёсць прайдзісвет і злая шэльма.

І ў гэтым пагібель яго і яго войска. Вашывы і паршывы напоны немец не мае ў сваёй душы якога б там ні бы-

ло апірышча для свайго спакою. Гэта злодзей, якога зла-віді, збілі і якому няма чым апраўдацца.

Так ідзе іх пагібель. Так у імя брацтва народаў, у імя шчасця свайго народа, любві да роднай зямлі, у імя высокага, благароднага патрыятызма кожны чырвонаармеец — герой.

Так набліжаецца наша перамога і гібель гітлераўскай Германіі.

Будзем ведаць усе гэта. І дзеля нашай чалавечнасці будзем знішчаць і душыць кожнага немца, аж пакуль на нашай зямлі сляды яго не расплывуцца пад дажджамі і вятрамі.

## ЛЕЎ ДАВАТАР

Натура вялікага чалавека не вычэрпваецца якой-небудзь адной рысай. Яна шматгранная. І асабліва гэта выяўляецца ў тых выдатных асоб, якія ў сваёй дзейнасці абапіраюцца на масы жывых канкрэтных людзей, якія кіруюць калектывам, калектыўнымі арганізмамі чалавечага грамадства. У іх галаве і сэрцы знаходзяць поўнае адлюстраванне індывідуальныя помыслы і асаблівасці ўсіх членаў калектыву. Да такіх людзей належыць Герой Савецкага Саюза генерал-маёр Леў Міхайлавіч Даватар, за баявыя заслугі ўзнагароджаны ўрадам СССР ордэнам Леніна і медалём «Залатая Звязда».

З самага пачатку Айчыннай вайны Л. М. Даватар камандаваў вялікімі вайсковымі злучэннямі. Пад яго камандай біліся з ворагам тысячы байцоў і камандзіраў, тысячы людзей жылі баявым жыццём, перажывалі свае радасці і смуткі разам са сваім камандзірам — генералам. Генерал ведаў душу сваіх людзей, іх патрэбы і асаблівасці. Баец быў для яго чалавекам-воінам. Генерал быў бацькам сваіх байцоў. Кажучы простай мовай, гэта заўсёды быў добры чалавек.

Тут пачыналася і другая грань яго душы. Гэта быў суровы генерал, у войску якога жыла самая цвёрдая дысцыпліна, часці якога пад яго камандай крышылі ворага і наводзілі жах на яго.

У паходах, пераходах, у паўзах паміж сражэннямі і паміж вырашэннем стратэгічных планаў, хітрых ваенных ходаў, суровы і разумны генерал знаходзіў хвіліну, каб пацешыць вока лясным краявідам і каб падняць галаву і з прыемнасцю прыслухацца да порсткага шчэбету дробных птушак. А праз дзесяць хвілін генерал вёў свае вайсковыя злучэнні ў самае небяспечнае месца на патрэбную баявую аперацыю.

Суровы, добры, жартаўлівы, задуменны — вось некаторыя рысы яго натуры.

Гадамі — гэта «малады» генерал. Сваімі ведамі і справамі — гэта спрактыкаваны генерал.

Вышэйшым камандаваннем генерал Даватар быў прысланы камандаваць вялікім кавалерыйскім злучэннем і выканаць баявое заданне — прабіцца ў тыл ворага і дэзарганізаваць яго на вялікім участку фронту. Пачалася аперацыя. Некалькі дзён вялі разведку. А потым пайшлі ў

атаку і прарвалі нямецкі фронт на ўчастку ад У. да П. Масы кавалерыі спешыліся, вялі бой.

Варожыя часці былі разбіты і рассеяны. Часці Даватара рушылі ў тыл. Прайшлі балота, замасцілі дрыгвяпую грэблю на балотным пераходзе. Конны рэйд у тыл ворага закончыўся бліскуча.

На ўсіх навакольных дарогах, на ўсёй разлегласці ўстанавілі засады. Пачалася ліквідацыя асобных нямецкіх груп, знішчаліся цэлыя часці, разбураліся варожыя камунікацыі, знішчаліся эшалоны, сеялася паніка ў асяроддзі ворага.

Па нямецкіх часцях пайшла чутка, што ў тыле ў іх дзейнічае стотысячная савецкая конная армія. Даватар загадаў падтрымліваць гэтыя чуткі сярод немцаў. Немцы ўпадалі ў паніку. Многія часці рассейваліся і адступалі, не ўступаючы ў бой. У раёне Р. зняўся з свайго месца і ўцёк у паніцы штаб 6-й нямецкай арміі.

Генерал Даватар сам знайшоў сабе праваднiка па ўсіх навакольных месцах. Гэта быў калгаснік-канюх Б. Ён быў і разведчыкам, і вызнавальнікам дарог. Хадзіў ён заўсёды з аброццю цераз плячо і гаварыў, што шукае сваіх коней. Так не раз ён выратоўваўся ад немцаў. Гэты просты чалавек многа памог генералу Даватару ў справе арыенціроўкі на мясцовасці і ў справах разведкі. Калі пасля заканчэння аперацыі Даватар выводзіў сваю групу з нямецкага тылу, яго праваднік тав. Б. астаўся там у родных мясцінах. За свае дзеянні ён узнагароджан ордэнам Чырвонай Звязды. Даведаецца ён пра гэта скора, калі Чырвоная Армія ачысціць ад немцаў яго мясцовасць.

Дзейнічаць у тыле была нялёгка. Часта не было чаго есці. Жывіліся ягадамі і грыбамі. Генерал Даватар падсартоўваў:

— Папасецеся на ягадах. Ягада такая рэч, што з яе нават найлепшы спірт гоняць.

Першага верасня, пасля заканчэння аперацыі, з вялікімі баямі выходзілі з нямецкага тылу. Немцы замініравалі дарогі, парабілі завалы і пасткі. Даватар сам займаўся справамі разведкі, сам бываў на ўсіх участках баёў — гэты рухавы чалавек малога росту, добры бацька і друг для байцоў і суровы, хітры, разумны і здагадлівы іхні генерал.

Выдатны камандзір бліскуча правёў вялікую аперацыю ў тыле ворага і вывеў адтуль сваіх байцоў.

Увосень 1941 года і зімой 1942 года генерал Даватар

узначальваў ужо новыя баявыя аперацыі на іншых участках фронту ў вялікіх баях за Радзіму.

Ва Указе Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР сказана: «За ўзорнае выкананне баявых заданняў камандавання на фронце барацьбы з нямецкімі захопнікамі і праяўленыя пры гэтым адвагу і геройства прысвоіць званне Героя Савецкага Саюза з уручэннем ордэна Леніна і медаля «Залатая Звязда» генерал-маёру Даватару Льву Міхайлавічу.

Вялікая Айчынная вайна нараджае герояў — людзей мужных, адважных, разумных, адданых народу. Народ любіць іх і шануе. Іх імёны астануцца ў гісторыі змагання народа за сваю Радзіму, за яе славу. Імя Льва Міхайлавіча Даватара залатымі літарамі ўпісана ў гісторыю Вялікай Айчыннай вайны.

# ЖЭНЯ ПАЛТАЎСКАЯ

Яна яшчэ толькі ўвайшла ў сваё юнацтва, у самую лепшую пару чалавечага жыцця. Вырасла яна ў савецкія часы. Эксплуатацыі чалавека чалавекам, прыніжэння чалавечай асобы яна не бачыла і не ведала. Як патрэба вады ў гарачую смагу, як спелы колас у канцы лета — так шчасце жыць у сваёй Радзіме было натурай для Жэні Палтаўскай, народнай гераіні, ясны вобраз якой зліваецца з вобразам усяго народа, з душой народа. Маладое жыццё яе загубілі гітлераўскія вылюдкі, жыццё яснае і раднасае, якое дала ёй Савецкая краіна. У пару самых лепшых маладых імкненняў і надзей перад Жэняй Палтаўскай паўстала суровая неабходнасць аддаць жыццё за родную Савецкую краіну. Толькі так магла стаяць справа: у душы пакалення гэтай маладой савецкай дзяўчыны жыве праўда таго, што чалавечае жыццё мысліцца толькі як жыццё ў такой краіне, якую чалавек пазнаў з маленства пасля Кастрычніка 1917 года.

Камсамолка Жэня Палтаўская была студэнткай мастацкага вучылішча. Пачалася вайна. Вораг ірваўся на Усход. Пад Смаленскам тысячы савецкіх людзей узводзілі ўмацаванні. Жэня добраахвотна пайшла на гэтую неабходную радзіме справу. Дзень пры дні яна працавала з рыдлёўкай на земляных работах. З ранку да вечара бачылі яе сярод занятых цяжкай работай людзей. Сваёй рыдлёўкай яна то пад спёкай, то пад дажджамі выкідала наверх грунт.

Надышла восень. Вораг люта рваўся да Масквы. Жэня была цяпер у Маскве. Савецкія патрыёты бралі зброю і ішлі на дапамогу Чырвонай Арміі. Яшчэ не сышлі мазалі з Жэніных рук пасля земляных работ. У іншы б час спрацаваныя рукі і плечы прасілі б адпачынку, але цяпер маці-радзіма клікала сваіх дзяцей на вайну супроць крывавага чужынца. Жэня Палтаўская ўзяла ў рукі вінтоўку і разам з групай моладзі пайшла да лініі фронту. Гэта было 4-га лістапада 1941 года.

Восем маладых герояў, сярод якіх была і Жэня, мелі на ўвазе перайсці лінію фронту і зайсці ворагу ў тыл. Фронт перайшлі. Пайшлі далей, браліся да штаба нямецкага войска. Непадалёку ад Валакаламска, на могільніку, наткнуліся на нямецкую засаду. Немцаў было ў дзесяткі разоў больш, аднак жа маладыя героі не здаліся во-

рагу. Пачалася перастрэлка. Біліся, пакуль былі патроны. Немцы выклікалі падмацаванне, акружылі і забралі ўсіх, калі ў іх не было ўжо чым страляць і некаторыя былі ранены. Палонных павялі ў Валакаламск. Паставілі ўсіх на двары, далёка адзін ад другога. На допыт уводзілі ў дом па адным. Дапытваў нямецкі генерал. Жэня не ведала, як і аб чым дапытвалі тых, каго ўводзілі раней за яе. Яна не ведала, і што адказвалі таварышы на допыце. Яна нічога аб гэтым не ведала. Яна маўкліва чакала свае чаргі. Нарэшце ўвялі ў дом і яе.

Генерал сказаў ёй:

— У вас, мусіць, ёсць маці.

Гітлераўскі гад, пачынаючы допыт, думаў разварушыць душу маладой дзяўчыны, якая вялікай практыкай апошніх месяцаў пазнала жыццё ва ўсіх гранях яго суровай праўды, але на твары і ў вачах якой так многа было яшчэ дзіцячай наіўнасці. Чыноўны нямецкі кат думаў давесці да смутку аб жыцці і да болю маладую душу, каб тады залезці ў яе сваімі гадаўскімі капытамі.

— Так, у мяне ёсць маці,— ціха адказала Жэня.

— Вам шкода сваёй маці? — спытаў гітлераўскі генерал.

— Вы лепш сябе пашкадуйце,— адказала Жэня.

— Хіба вы не баіцеся смерці? — спытаў немец.

— Хочацца жыць,— адказала Жэня, але калі трэба памерці за Радзіму — памру.

Усе помыслы гітлераўскага прахвоста разбіліся аб мужную душу савецкай дзяўчыны, як аб цвёрдую скалу. Нічога ён не дазнаўся. Нічога яму ніхто не сказаў, нічога ён не выпытаў. У страшнай ярасці ён загадаў пакараць усіх восем чалавек смерцю.

Усіх паставілі ў шарэнгу. За іх плячыма сталі нямецкія салдаты. Стрэлілі. Сем чалавек упалі. Восьмы павярнуўся тварам да людзей, якіх немцы сагналі глядзець на гэты крывавы малюнак.

— Дарагія, не пакутуйце за нас, знішчайце фашыстаў праклятых! Не бойцеся. Чырвоная Армія прыйдзе! — крыкнуў ён людзям.

Некалькі раненых паднялося і з імі Жэня.

— Няхай жыве наша Радзіма!

— Смерць нямецкім катам!

Такі быў перадсмяротны кліч герояў. Зноў залп з аўтаматаў. Немцы пачалі расстрэльваць камсамольцаў, а пасля пацягнулі іх да шыбеніцы. З шыбеніцы іх знялі чыр-

вонаармейцы, калі выгналі з Валакаламска нямецкую навалач. Чырвонаармейцы іх і пахавалі. Восем герояў пасмертна ўзнагароджаны ўсе ордэнамі Леніна.

Жэня Палтаўская!

Слаўная дачка савецкага народа!

Хіба, можа, словы народнай пахавальнай песні, створаныя вякамі ў нетрах народа, могуць вычарпаць глыбіню болю нашай душы, глыбіню замілавання і пашаны да твае светлай памяці:

«Ніц падаю лістам у лесе» — перад памяццю аб табе, перад тваім імем!

Ты — гордасць народа! Ты — слава яго — і цяпер, у вялікім змаганні, і ў блізкай будучыні нашай, калі разбітае Чырвонай Арміяй нямецкае звяр'ё сваімі касцямі ляжа пад нашы ногі.

## ВЕРНАЯ ДАЧКА БЕЛАРУСКАГА НАРОДА

Яна была заўсёды жыццярадасная і энергічная. Яна любіла быць на людзях, быць у атмасферы вясёласці. Вырасла яна ўжо ў савецкія годы, і маладосць яе не бачыла змрочных часоў старога свету, калі чалавек прыходзіў у жыццё з страшнымі думкамі: дзе знайсці месца ў жыцці і як пражыць на свеце. Свае жыццёвай долі Шура Луковіна-Грыбкова не шукала. Ясная доля была знойдзена і дадзена рэвалюцыяй. Шурына маладосць была светлай маладосцю, ніпто не абмяжоўвала яе шчырых і ўзвышаных парываў.

Шура вучылася ў мастацкім вучылішчы, яна была камсамолкай, яна любіла працу. Усё, за што яна бралася, даводзілася да канца старанна і дасціпна.

Добра было жыць і працаваць у мілай вольнай радзіме.

Калі пачалася вайна, Шура пайшла працаваць на фабрыку. Трэба было замяніць людзей, якія пайшлі на фронт. Пайшоў на фронт і Шурын брат. Шура пісала пісьмы брату, і самой ёй здавалася, што яна, камсамолка, студэнтка, працуючы на фабрыцы, усё ж занадта мала робіць для радзімы ў часы цяжкай і вялікай Айчыннай вайны. Такая гэта была натура — благароднай, скромнай савецкай дзяўчыны. Яна была патрабавальная да сябе — гэтая чыстая душа. І вось яна піша заяву:

«...Прашу паслаць мяне ў Дзеючую Армію».

Так склаўся невялікі атрад з 8 чалавек моладзі, які перайшоў лінію фронту і накіраваўся на баявую работу ў варожы тыл. У гэтым атрадзе была і Шура і яе падругастудэнтка таго ж мастацкага вучылішча Жэня Палтаўская.

Каля горада Валакаламска атрад наткнуўся на нямецкую засаду. Немцаў было ў многа разоў больш, але 8 смельчакоў пачалі бой. Біліся да апошняга патрона. Двое былі ранены.

Пачыналася раніца. За асеннімі туманамі адчувалася сонца. Нямецкія аўтаматчыкі выклікалі падмацаванне і акружылі 8 герояў. Павялі ў Валакаламск.

Іх дапытваў генерал. Усякімі спосабамі ён стараўся выпытаць у Шуры, хто яны, усе 8 чалавек. Спосабамі хітрага пэльмы і бессардэчнага ката ён стараўся выпытаць пра чырвонаармейскія часці, пра ўзбраенне. Страшны до-

пыт цягнуўся доўга, і Шура вытрымала. Яна не сказала ні слова. Разам з усімі яе павялі страляць.

Сваю апошнюю дарогу да страшнага месца пакутнай смерці ад рук гітлераўскіх забойцаў Шура прайшла, абняўшыся з сваёй падругай Жэняй Палтаўскай. Думаючы аб жыцці і Радзіме, маладыя героі цвёрда прыйшлі на месца і ў апошнюю сваю хвіліну, прабітыя ўжо кулямі катаў, знайшлі ў сабе сілы крыкнуць:

— Няхай жыве наша Радзіма!

— Смерць нямецкім катам!

І памерлі пад кулямі. Іхнія трупы немцы павесілі. Чырвонаармейцы, заняўшы горад Валакаламск, знялі іх з шыбеніцы і пахавалі маладых герояў з воінскімі почасцямі.

Так загінулі ад рук подлых нямецкіх акупантаў 8 герояў. Так аддала сваё маладое жыццё за Радзіму слаўная дачка беларускага народа, яго гордасць і слава, Аляксандра Луковіна-Грыбкова.

## НАША АРМІЯ І НАРОД — АДЗІНЫ

У часе Вялікай Айчыннай вайны з вялікай сілай і ясней, як калі, выявіліся самыя глыбінныя тайнікі душы народа. Тое, чым заўсёды жыў народ і праз што выяўляліся твар і душа яго, тое — у вялікія, цяжкія і гераічныя часы вайны вылілася ў непераможнае імкненне адстаяць сваю Радзіму і назаўсёды знішчыць ворага. Гэтае магутнае імкненне злітых у адно цэлае народных сіл ёсць вынік вялікай любві кожнага нашага чалавека да роднай зямлі. А ў цэлым — гэта неадрыўнасць народа ад яго тэрыторыі, на якой, ад самага пачатку фармавання народа і праз вякі, праходзіла гістарычная яго дзейнасць.

Усёй душой і сэрцам мы любім сваю зямлю за тое, што тут мы нарадзіліся, што тут упершыню пазналі шчасце жыць, што тут адкрываюцца вялікія магчымасці для дзейнасці чалавека. Мы ганарымся прыродным хараством роднай зямлі і яе непаўторнымі асаблівасцямі. Паводле сваіх патрэб і жаданняў мы пераўтваралі сваю зямлю, удасканальвалі яе прыроду, клапаціліся аб дрэвах і рэках, аб полі і раслінах, аб гарадах і сёлах. Жоўтая восень цешыць наша вока, смольны пах хвойнага лесу робіць прыемнымі нашы дні. У нас было многа хлеба з нашага поля і многа тавараў з нашых заводаў. І тут зліваліся ў адно цэлае — і карысць з працы на патрэбу жыцця, і радаснае адчуванне роднага нам навакольнага хараства.

Мы не сухія практыкі, якія могуць толькі выцягваць матэрыяльную карысць з зямлі. Калі б гэта было так — наша жыццё было б сытым існаваннем, а не шчасцем жыць на роднай зямлі багата і па-чалавечы. Замілаванне да Радзімы — вялікая сіла, і яна ўсёй сваёй магутнасцю спрыяла таму, што тры родныя браты — рускі, беларускі і ўкраінскі народы з стагоддзя ў стагоддзе ніколі не скараліся перад чужынцамі-захопнікамі, а заўсёды крышылі іх і гналі вон, а самі раслі, мацнелі і ўзвышаліся на агульначалавечых дасягненнях свае нацыянальнай культуры.

Кастрычніцкая рэвалюцыя вызваліла на вялікую дзейнасць сілы народа, якія скоўваліся царызмам. І для абароны волі народа на вольнай роднай зямлі 24 гады таму назад з народных жа нетраў нарадзілася Чырвоная Армія — носьбіт народных ідэалаў і абаронца іх. У першыя свае годы Чырвоная Армія разграміла шматлікіх чужаземных інтэрвентаў і акупантаў, якія стараліся задушыць

маладую савецкую рэспубліку, хоць Чырвоная Армія была тады горш узброена за сваіх ворагаў і дрэнна адзета — у часе разрухі і матэрыяльнага абяднення ўсёй краіны. Але Чырвоная Армія была моцная духам і любоўю да абноўленай рэвалюцыяй роднай краіны.

Цяпер Чырвоная Армія ўзброена лепшай у свеце ваеннай тэхнікай — сваім узбраеннем гэта адна з самых магутных у свеце першакласных армій. Але Чырвоная Армія перавышае любую ў свеце армію сілай свайго поўнага зліцця з народам, адзінствам з ім у сваіх імкненнях, мэтах і любві да Радзімы. Чырвонаармейцы ідуць у бой са смуткам у душы за кожны метр занятай ворагам савецкай зямлі і з поўнай рашучасцю — знішчыць і скрышыць да канца ворага. Пакуль не будзе адпомшчана народная крыўда і кроў, датуль чырвоны баец не пакладзе зброі — так мысліць кожны чырвонаармеец.

Маладзейшае пакаленне беларусаў ваюе з ворагам у радах Чырвонай Арміі, а ў той жа самы час бацькі іх ваююць з ворагам у тыле, на роднай Беларускай зямлі, з самага пачатку вайны пайшоўшы ў партызаны. І гэта ёсць поўнае адзінства нашай Чырвонай Арміі з сваім народам, і гэтага адзінства не вытрымае вораг.

Чырвоная Армія і народ — адно цэлае і непадзельнае. Такога адзінства яшчэ не ведае гісторыя, і ў гэтым наша перамога.

## ДЗЕНЬ ДОБРЫ, БЕЛАРУСКАЯ ЗЯМЛЯ!

За лета і восень нямецкая навалач прайшла з агнём і жалезам Беларускую зямлю, і па ёй скрозь крывавіліся свежыя раны. Ад Брэста і да Оршы па іх тапталася нямецкая двуногая жывёла, і смутак і жальба мацярок і бацькоў аб пакутах замучаных дзяцей ператварыліся ў нянавісць. У позпюю восень часамі высвечвала сонца, і абмытая дажджамі трава пры дарогах была зусім зялёная і чыстая. Жоўты лісток прыносіўся ветрам з-пад лесу і прыліпаў да земляной глыбы над выбітай нямецкай бомбай ямай. На чорных краях гэтага земляного калецтва бялелася парванае карэнне палявых раслін, і, хоць была восень, вызначаліся ўжо на ім пачаткі новых парасткаў. Жывое жыццё не спынялася ні на момант і рыхтавалася вясной зелянець і цвісці. Глыбы ўзарванай зямлі раўнаваліся і аплывалі, дажджы змылі з іх кроў дзяцей і жанчын, асірацелыя дзеці пахавалі трупы бацькоў. Усё цягнулася да свае ранейшай абыкласці. Зямля імкнулася хутчэй зняць з сябе калецтва.

Месяц за месяцам і год за годам — і ўдзірванеюць абочыны дарог, і каля іх — на полі і ўзлессях і на рэках, і на вуліцах вёсак і гарадоў — усюды, дзе разыгралася і прайшла крывавая драма беларускай зямлі, будуць панаваць і шырокія летнія дні і праплываць будзе грукат колаў і мелодыя песень, пахнуць будзе маладым жытам у палявым коласе, і дымам прытульнага чалавечага жылля, і дымам з фабрычнага коміна. Будзе жыць каханне і праца, і нараджэнне пакаленняў, і ўдасканаленне чалавечага быту. І вершаліны бяроз і хвояў будуць асвятляцца ціхім асеннім і быстрым летнім сонцам, і выростаць будуць выведзеныя чалавекам новыя расліны. Усхвалёванае вайной людское мора ўвальецца ў свае берагі, але беларуская зямля не астанецца такой, якой была. На яе мілым, родным, дарагім твары прыбавіцца новая пячаць і астанецца навекі.

Астанецца навекі новы гістарычны вопыт нашага народа, і астануцца сведкі сённяшняй крывавай драмы, так як яны асталіся ад самых пачаткаў і праз вякі нашай гісторыі. Ёсць на беларускім полі, скрозь ад Брэста цераз Мінск і за Оршу, і ад Пінска цераз Слуцак і за Гомель, нечапаныя плугам насыпы. Месцам іх так многа, што яны могуць быць элементам беларускага пейзажу. На гэтай

адвечнай удзірвапеласці калышацца пад ветрам жоўтая піжма і цвіце чабор, а пад сподам, у зямлі, акамянелі косці і старадаўніх, і пазнейшых імкліўцаў заўладаць беларускай зямлёй. У наш час адтуль выкопваліся з'едзеныя ржой сякеры і дзіды. Храбрых ахвотнікаў да чужой зямлі патачылі чэрві, і шкілеты іх ляжаць у шлемах і латах, а над імі ідуць вякі, і народ беларускай зямлі астаецца самім сабою. Усё, што імкнулася сюды з крывавымі мэтамі, гінула ад сілы гаспадара гэтай зямлі, вялікага народа. Час за часам і новыя «заваўёнікі» кляліся тут парыць зямлю сваімі касцьмі, а народ тварыў сваю гісторыю і развіваўся ў сваіх непаўторных нацыянальных асаблівасцях.

Тут быў стык захаду і ўсходу. На гэтых землях і поблізу іх тры вялікія родныя браты — рускі, беларускі і ўкраінскі народы, змагаліся з чужаземцамі за сваю нацыянальную свабоду і гордасць. У крывавых схватках тут часта вырашаўся лёс многіх народаў Еўропы. Тут непадалёку ад Барысава Напалеон злез з свайго імператарскага каня і перасеў у сані, загадаўшы хутчэй імчаць яго на захад, і назаўсёды пакінуўшы ў руках Кутузава сваю славу, і везучы з сабой сваю гібель. Няпрошаныя чужаземцы заўсёды пачыналі тут адчуваць, што не туды яны зайшлі. Яшчэ і цяпер на вялікім Слуцкім гасцінцы, за трынаццаць вёрст ад горада Нясвіжа стаіць Кукавіцкая карчма, якая бачыла ў сабе смутак і радасць салдат многіх нацыянальнасцей і краін. Сцены гэтай карчмы пасля вайны 1914—1918 гадоў і грамадзянскай вайны былі ўкрыты салдацкімі надпісамі на розных мовах. Выразаныя нажом надпісы асталіся і да нашых дзён. Сярод рускіх, украінскіх, беларускіх, польскіх, татарскіх, аўстрыйскіх, нямецкіх прозвішч і надпісаў, вышэй, злева ад чатырохверш'я з Тараса Шаўчэнкі, уззываў к богу нямецкі надпіс: «Божа, вярні мяне жывога ў Аўстрыю». Тады гэта пісаў палонны нямецкі салдат, які маршыраваў у рускі тыл і начаваў у карчме. Цяпер аб тым жа ныюць на нашай зямлі сённяшнія нямецкія заваёўнікі. Каб як жывым вярнуцца ў Германію — вось чаго прагнуць яны.

Імперыялістычная вайна скончылася на беларускай зямлі. Яшчэ не згладзіліся з яе твару і доўга яшчэ будуць існаваць сведкі змрочнага лёсу ўсё тых жа спрадвечных імкліўцаў да «ўсходніх земляў». Праз беларускую тэрыторыю асталіся нечапанымі тагачасныя нямецкія акопы і залітыя цэментам бліндажы, якія сыходзяцца ў свой цэнтр каля горада Баранавіч. Яшчэ да канца не сатлелі

тут бацькі цяперашніх вашывых заваёўнікаў нашай зямлі. З размытых дажджамі акопных краёў і з прысыпанага аб'ехаўшай глінай іх дна тырчаць паточаныя трупнымі чарвямі і высахлыя ногі і рукі фрыцаў і гансаў, з пачарнелымі ад часу і земляной вільгаці пярсцёнкамі на пальцах. На пярсцёнках выбіты ініцыялы іх каханых бертаў і мартаў, з якімі яны мяняліся пярсцёнкамі ў момант развітання перад заваёўным паходам. Аўдавелыя берты і марты сталі спарахнелымі старымі бабамі, і нічому іх не навучыў лёс іх няўдалых мужоў. Нешта занадта ахвотна іх сыны і зялёнаротыя ўнукі ўверылі ў Гітлера, а яны самі благаславілі іх на новы заваёўны паход. Нешта занадта ахвотна новае пакаленне мартаў і бертаў франціла лета і восень 1941 і зіму 1942 гадоў у плаццях, садраных ім маладымі фрыцамі з плеч замучаных беларускіх дзяўчат і жанчын. І нешта занадта доўга ўсе яны там аставаліся глухімі, каб пачуць енкі і стогны яснавокіх беларускіх дзяцей, якіх нямецкае афіцар'ё і салдатня кідалі жывымі ў агонь.

Што было — тое было, і ў часе яно займае вечнае месца. Можна глядзець на стагодні курган і думаць пра тое, што пад ім ляжаць косці няўдалага заваёўніка, але жывое жыццё падказвае нам, што гэты заваёўнік каштаваў нашым продкам крыві і пакут.

Пакуты і гора ходзяць цяпер па беларускай зямлі, і ў часы вялікіх выпрабаванняў нават само маленства страціла свой адвечны сэнс. Нашы дзеці пакінулі быць дзецьмі. Яны да дна выпілі чашу страшнай горычы ў самыя шчаслівыя свае гады. Калі няпрошаны нямецкі чужынец клаў у руіны беларускія гарады, на дарогах мы бачылі дванаццацігадовых дзяўчынак, якія неслі на руках гадовых і двухгадовых сірат, маткі якіх тут жа на дарозе асталіся навылёт прабітыя нямецкімі кулямі. Дванаццацігадовая дзяўчынка раптам адчула сябе грамадзянкай і ўзяла абавязак ратаваць асірацелае дзіця незнаёмай жанчыны.

Як народны герой, астанецца навекі ў памяці Саша Тышкевіч з-пад Жлобіна, якому ледзьве было 14 год. Увайшоўшы ў сваю хату, ён убачыў трупы ўсёй сваёй сям'і: іх замучылі немцы. Тады Саша ўзяў гранату і пайшоў за пяць кіламетраў у горад Жлобін і доўга там стаяў на вуліцы і чакаў. Ішла штабная нямецкая машына з афіцэрамі. Саша для вернасці падбег бліжэй і кінуў гранату пад машыну. Выбух узрыву, і куча афіцэрскіх касцей. За-

гінуў і сам Саша, але ён адпомсціў. Гэта рысы гераізму нашага народа. У няволі наш народ ніколі не будзе!

Прайшлі лета, восень і зіма вайны, і за гэты час на беларускай зямлі з'явіліся сотні тысяч новых земляных насыпаў. Калі-небудзь нашы патомкі будуць выкопваць з іх ужо не старажытныя мячы і сякеры, а жалезныя крыжы гітлераўскіх ваяк. Гледзячы на гэтыя знакі ўзнагароджання катам і забойцам, нашы патомкі будуць думаць пра тое, як у 1941—1942 гадах пакуты нашага народа ўзнялі яго на новую гістарычную ступень змагання і геройства дзеля волі беларускай зямлі. У вяках будзе стаяць вобраз чатырохгадовага беларускага хлопчыка, таго самага, у якога на Лагойскай дарозе пад Мінскам — відаць дзеля забаўкі, бо іншай мэты тут не магло быць — страляў з самалёта гітлеравец. Хлопчык убачыў, што яго маці раптам упала ў прыдарожную канаву, і штосьці раней нязнанае адчуў у сваіх руках.

— Мама! — закрычаў ён і ўскінуў рукі ўгару.

Але скрываўленая маці была ўжо нежывая, а ў яго не рукі былі ўскінуты ўгару, а патрушчаныя косці, без пальцаў і локцяў. З болю і жаху ён прабег некалькі крокаў і ўпаў на гарачую зямлю ўміраць. Гэты вобраз запішацца ў беларускую гісторыю побач з народнай нянавісцю навекі да немца-гітлераўца.

Будзе ўзнімацца ў вяках вобраз грознага помстніка за раны роднай зямлі — беларускага партызана.

Будзе стаяць у гісторыі народа мужны вобраз воіна Чырвонай Арміі, які ўвайшоў у беларускую зямлю, несучы ёй вызваленне.

Ідзе вясна. І адбываецца вялікі бой за Беларусь. За Савецкую Беларусь! Неўзабаве будзе расці трава на месцы, дзе ўлетку і ўвосень зямля разварочвалася нямецкімі бомбамі. Растане снег, і з'явяцца перад вокам трупы гансаў і фрыцаў. Груганнё будзе выдзёўбваць ім вочы. Наваўсёды ачышчаючы ад сябе беларускую зямлю, няўдалыя заваёўнікі будуць ныць душой аб нямецкай зямлі і аб жыцці. Чалавечы смутак мацеры, сястры і жонкі з вялікай сілай страсяне душу берты і марты. Пачаўся ўжо гэты смутак! Яго абудзіла да жыцця наша артылерыя, наша авіяцыя. Наша зброя, наша доблесная Чырвоная Армія. З жахам і сорамам нямецкая жанчына скіне з сябе здзёртае ў Беларусі з жаночых плеч яе мужам ці братам плацце, і, можа быць, з'явіцца ў яе чалавечая патрэба працягнуць у наш бок руку і сказаць:

— Даруй, беларуская жанчына! Даруй мне, што мой Ганс — гітлеравец!

Пакуль Ганс — гітлеравец і пакуль ён на нашай зямлі, мы яму не даруем. Яго ў нас чакаюць магільныя чэрві і гістарычная ганьба за тое, што ён не быў чалавекам, а ўвераваў у прахвоста Гітлера. Хіба мы калі-небудзь кваpілі на чужую зямлю? Хіба мы ішлі на іх зямлю? Гэта яны на нашу навалакліся і прынеслі ёй няшчасце і гора. І мы ім не даруем. Мы больш, чым яны самі, ведаем мяжу паміж нямецкім народам і Гітлерам. Народу, калі ён адумаецца, мы можам працягнуць руку, а гітлераўцы будуць братацца з магільнымі чарвямі. Змрочны лёс чакае таго, хто не адступіцца ад Гітлера і не адмовіцца ад думкі таптаць нашу зямлю. Не з нашага жадання чорны вобраз нямецкага фашыста лёг пад ногі нашай гісторыі, гісторыі нашай зямлі, якая стаіць на парозе свайго вызвалення, свае новай славы і новай радасці.

# НА НАШАЙ ЗЯМЛІ ХОЧА ГАСПАДАРЫЦЬ НЯМЕЦКІ ПАН

Немцы выцягваюць з нашага народа жылы. Яны абабралі яго да ніткі. Больш ужо няма чаго і грабіць. Усё зжэрлі фашысцкія ненаеднікі. І вось цяпер хітрая нямецкая шэльма ўскладае на нашу шыю новае ярмо. Яны збіраюцца праводзіць на Беларусі «зямельную рэформу». Усё гэта зводзіцца да таго, каб як мага больш выцягнуць з нашай зямлі хлеба, жэрці самім і карміць сваю вашывую армію, якая сядзіць на нашай шыі.

Наўрад ці знойдзецца хто-небудзь такі, хто б на сваёй уласнай зямлі ахвотна араў і сеяў на тое, каб якая-небудзь прыблудная гадзіна забрала сабе і зжэрла ўраджай. А вось немец хоча падахвоціць нас на гэта. Ён выдумаў «зямельную рэформу».

Што ж гэта за «рэформа» такая?

Нямецкая газета і нямецкае радыё тлумачыць гэта так, што, пакуль ідзе вайна, зямля будзе апрацоўвацца «абшчынай», талакой. Кіраваць гэтай «абшчыннай» гаспадаркай прыедзе з Германіі нямецкі інструктар. Гэта значыць з'явіцца з Германіі на нашу шыю пан. За работу сяляне не атрымаюць хлеба і прадуктаў, а ім заплацяць грашыма. А гэта значыць — акупацыйнымі маркамі, за якія нідзе нічога не купіш.

Пасля ж будзе нейкае «надзяленне зямлёй», якое нібыта адбудзецца пасля вайны. Гэта будзе «спадчынная арэнда». Надзел, які каму прыйдзецца, селянін будзе арандаваць у немцаў. Але не ўсе будуць мець права арандаваць у немцаў сваю ўласную зямлю. На гэтую арэнду будзе мець права толькі той, хто набудзе жывёлу, сельскагаспадарчыя прылады і машыны.

А каму гэта будзе пад сілу купіць жывёлу і машыны, седзячы галодным і аграбленым? Значыцца, ніхто гэтай арэнды і ў вочы не ўбачыць. Да гэтага ўсё і вядзецца, каб не даць нам нашай зямлі, а каб на яе пасадзіць нямецкага пана і нас зрабіць яго прыгоннымі парабкамі. Гэта будзе самая страшная і лютая паншчына, якой не ведалі нашы дзяды і прадзеды.

Нямецкая шэльма прывыкла дзейнічаць ашуканствам і гвалтам. Не слухайце абяцанак нямецкіх абармотаў, не верце іхняй брахні, а ўзнімайцеся на змаганне з імі. Ня-

мецкае гадаўё гіне і ад кулямётаў, і ад віл, калі іх усадзіць у нямецкае чэрава. Чырвоная Армія ўсё далей ціспе немцаў на захад і неўзабаве ачысціць ад фашысцкай брыды Беларусь. Ведайце гэта, і ўсе ідзіце ў партызанскія атрады.

Тры аршыны магільнай зямлі для немца — гэта самая найлепшая зямельная рэформа.

# ДА БЕЛАРУСКАГА НАРОДА

Да цябе, вялікі наш, слаўны, гераічны беларускі народ, мы звярачаемся са словам адданасці і любві, з захапленнем ад шчырай душы перад тваёй сілай і тваёй славай.

У гэты час вялікіх тваіх пакут і вялікага ўздыму твае геранчнасці, у час нашага глыбокага гора і такой жа глыбокай волі да змагання і канчатковай перамогі над подлым ворагам, мы азіраемся на ўвесь шлях твае гісторыі і там, ад тысячагодняй даўнасці і да нашых дзён, з гордасцю за продкаў нашых, за нашых прадзедаў, дзядоў і бацькоў, бачым тваю сілу, тваю славу і тваю вялікасць. Нашы сэрцы б'юцца яшчэ мацней і нашы душы гараць яшчэ большай нянавісцю да крывавага чужынца, які ўварваўся на нашу мілую, дарагую нам, як родная маці, беларускую зямлю — і топчацца па ёй сваімі бруднымі капытамі, і залівае яе тваёй крывёй, родны наш народзе.

У далячыні стагоддзяў мы бачым і нашу слаўную Полацкую Русь і ўсю нашу зямлю, на якой вырастаў і фармаваўся наш народ, ва ўсіх сваіх непаўторных нацыянальных асаблівасцях, дзе ад мужнай народнай рукі з стагоддзя ў стагоддзе гінулі чужаземныя захопнікі. З часоў сівой мінуўшчыны даходзіць да нас блізкі нам шум вялікіх бітваў нашых продкаў за сваю свабоду і незалежнасць. Нашы вушы чуюць, як у бітве на Нямізе доблесныя воіны роднага народа ў чужаземных захопнікаў «веялі душу ад цела», як пра гэта сказана ў песні аб паходзе Ігаравым.

Ні ў часы панства, ні ў часы царызма не пакараўся ты, родны беларускі народ, сквапным прыгнятальнікам, не цярпеў няволі і скідаў яе з сябе сваёй сілай і сваім ясным розумам.

За шматвяковую гісторыю тваю мы бачым тваіх герояў, якія ставяць перад намі прыклад мужнасці і адданасці Радзіме. У вяках нашай нацыянальнай славы ўзвышаецца Кастусь Каліноўскі. Жыве памяць аб Вашчыле з Крычава, які падняў і павёў супраць панства простых працавітых людзей. Як святыня, шануецца памяць Андрэя Блажко з Міншчыны. Брацкая магіла слуцкіх партызан будзіць у нашых сэрцах лепшыя пачуцці аб гераізме нашага народа і аб яго дзейным імкненні жыць толькі вольным і свабодным.

Мы бачым рух славянства і рух чалавецтва ў няспынным прагрэсе, бачым напластаванне праз вякі чалавечай культуры. І перад намі ў стагоддзях узнімаецца магутная постаць нашага Францыска Скарыны з Полацка, першага друкара на землях стыку еўрапейскага захаду і ўсходу. Перад намі стаяць тураўскія творцы старaславянскай літаратуры.

Мы бачым дарагога нам Францыска Багушэвіча, які ў сваіх кнігах выразіў тваё гістарычнае права быць роўным з роўнымі ў сям'і народаў Еўропы.

Свабодалюбівы наш народ разам з сваімі роднымі братамі Рускім і Украінскім народамі прайшоў са славай вялікі шлях свае тысячагодняй гісторыі. Упрыгожваючы родную зямлю вынікамі працы сваіх дбалых рук, ён прынасіў у вялікую скарбніцу славянства багатыя свае нацыянальныя здабыткі.

І заўсёды, родны наш народзе, ты быў нацыянальна цвёрды і верны кроўнай роднасці сваёй з рускім і ўкраінскім сваімі братамі. Гэта брацкае адзінства давала табе сілы быць заўсёды самім сабою. І такім ты быў нават у самыя цяжкія часы свае гісторыі і заўсёды выходзіў на ясны свой шлях загартаваным пераможцам. На арэне свае гісторыі ты фармаваў свае нацыянальныя рысы і дзейнічаў як народ шчыры, дбалы, працавіты, імклівы да прагрэсу свае культуры, справядлівы, добры, чулы душой, цвёрды і непахісны перад ворагам, поўны нязломнай волі да змагання за свае права і незалежнасць. Народ-герой, з ясным розумам, вялікім сэрцам і з самым глыбокім замілаваннем да радзімы, да роднай зямлі.

Родная зямля! Перад нашымі вачыма жыве неўміручае хараство і багацце яе прыроды — ад Гродна і да Магілёва, ад Брэста і Пінска і да Гомеля. Па Нёману і Сожу, па Дняпры і Прыпяці, па Дзвіне і Бярозе. Веснавым шумам поўняцца нашы лясы, ажываюць пад веснавым сонцам нашы прасторы, б'е ў берагі звонкая хваля нашых азёр! Тут спелі на ўрадлівым полі нашы багатыя ўраджаі. Заводамі і фабрыкамі багацела наша зямля. Новы светлы дом станавіўся на месца старой хаты. У радасці і шчасці ішло вольнае жыццё нашага народа.

Сваю славу і сваю гордасць ты, родны народзе, напісаў на сцягу свае вялікай Камуністычнай партыі, і як вынік усяго папярэдняга твайго гістарычнага шляху, чвэрць стагоддзя жыла і красавала ў сіле і славе Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка.

І вось цяпер наша нацыянальная сталіца, тысячагодні наш Мінск ляжыць у руінах. У руінах ляжаць усе нашы гарады. На месцы новага дома нашага ўзнімаецца пад ветрам попел. Цудоўныя нашы дарогі сталі сцежкамі смутку і слёз для няшчасных сірат нашых, якія ў адзіноце і бяздом'і бадзяюцца па іх у пошуках прытулку і хлеба. Над тваёй душой, вялікі народзе, стаіць крывавы кат і забойца, чалавекападобны звер, прыгнаны для пакуты нашай пачварным вылюдкам Гітлерам.

Тупая і азвярэлая нямецкая салдатня топчацца па нашых палетках. Тое, што мы сеялі і жалі для сябе, тое зжэрла гэтая паганая саранча і вымагае ад нас больш — жэрці і каменем сядзець на нашай шыі. Яны загарадзілі нам усе дарогі, яны маюць нас не за людзей, а за рабочую жывёлу для іх. Яны хочуць панаваць над намі і на векі вечныя пакінуць нас у нямецкай няволі. Нашу моладзь яны вывозяць у сваю Германію на катаржную паднявольную працу, гвалцяць нашых жанчын, сіраццяць нашых дзяцей. На руінах нашых гарадоў і сёл стаяць шыбеніцы з павешанымі на іх нашымі людзьмі. І пад скрып вяровак на вісельных жэрдках нямецкае гадаўё жарэ наш хлеб і гоніць на сваю сабачую пацеху ў публічныя дамы нашых яснавокіх дзяўчат і жанчын — нашых сёстраў, дачок і матак нашых дзяцей.

Яны прыйшлі на мілую нашу зямлю як тупая і азвярэлая раз'юшаная сіла і сталі перад табою, родны народзе, як самая закончаная супрацьлегласць табе. Ты заўсёды марыў аб вялікім брацтве народаў і волі для кожнага чалавека. Яны ненавідзяць брацтва і баяцца яго і на сваіх паганых сцягах напісалі формулу паднявolення і знішчэння чалавека.

Толькі ў першыя дні нападу на Савецкі Саюз, калі яны клалі ў руіны сваімі бомбамі наш Мінск, і за першыя часы гаспадарання ў ім яны ўмярцвілі ў ім звыш як пяцьдзесят тысяч чалавек. У наступныя ж месяцы гэтая лічба павялічылася ўдвойчы.

Свой наступ на Брэст гітлераўскія банды пачалі з таго, што артылерыйскім агнём зруйнавалі мірныя кварталы горада і вуліцы ўкрылі тысячамі трупаў нашых людзей. У Гомелі нямецкае звяр'ё расстраляла звыш дзесяці тысяч чалавек. У Магілёве немцы расстралялі 24 тысячы чалавек, у Пінску 10 тысяч, у Шклове 8 тысяч, у Крупках 1080 чалавек. У Мінску і Гомелі некалькі дзён чуліся енкі і стогны здушаных руінамі людзей, якія ўміралі пакутнай

павольнай смерцю. Многія тысячы нявінных ахвяр замучаны немцамі па нашых мястэчках і сёлах. У зруйнаваным напалову Віцебску перад домам гістарычнага музея стаяць шыбеніцы, і на іх ужо доўгі час вісяць трупы замучаных дзяўчат.

Звярынай жорсткасці гітлераўскіх прахвостаў няма межаў. Усё больш і больш практыкуюць яны новыя спосабы мучыць нашых людзей. Цяпер ужо вісельную вяроўку яны замяняюць жалезным крукам, на які ўзнізваюць чалавека пад плячо або пад скіўіцу, каб чалавек некалькі дзён паміраў у нечалавечых пакутах. Яны паставілі сабе задачай фізічна знішчыць лепшую частку нашага народа, а рэшту застрашыць і паставіць сабе ў няволю. Яны хочуць уладаць нашай зямлёю і ўстанавіць для нашага сялянства прыгоннае права, вярнуць былую паншчыну, але ў многа разоў цяжэйшую. На нашу зямлю яны прывозяць з Германіі нямецкіх паноў і ствараюць ім маёнткі, а нашых сялян стараюцца зрабіць іх бяспраўнымі парабкамі. Гэтых паноў яны называюць «інструктарамі», а ўсю гэтую жудасную справу «зямельнай рэформай».

Яны зруйнавалі нашу нацыянальную культуру. Знішчылі нашы школы і бібліятэкі, знішчылі нашы беларускія кнігі, пакінулі нашых дзяцей на цёмнае невуцтва, на беспрасветнае існаванне, замест былога шчасця жыць вольна і радасна, калі перад нашай моладдзю былі адчынены шырокія дзверы ў навуку, у шырокі выбар прафесій, у вышэйшую асвету, у вольную працу паводле сваіх густаў і жаданняў. Яны зруйнавалі нашу гордасць — беларускія тэатры. Дзяды і прадзеды нашы, продкі нашы да дзесятага пакалення могуць садрыгнуцца ў магілах ад крывавага жаху, які перажывае беларуская зямля.

Але мы не леглі пад гітлераўскія капыты! Прыблудныя гітлераўскія гады не заваявалі нас і нашай зямлі. Наадварот! Як толькі яны перайшлі нашу граніцу — за імі ўжо стаў цень іхняй гібелі. Бо яны пасягнулі на зямлю і свабоду, на радзіму бяссмертнага народа, народа савецкага, розум і сіла якога вядзе яго толькі да перамогі. Лепш смерць, чым жыццё ў няволі — так заўсёды гаварылі нашы героі, і гэта заўсёды прыводзіла іх да поўнай перамогі і да знішчэння ўсякай няволі. І вось Вялікая Айчынная вайна з нямецкім фашызмам узняла наш народ на новую ступень геройства. Нашы лясы сабралі ў сабе лепшых сыноў Беларускай зямлі — партызан. За кожную кроплю народнай крыві — мора паганай нямецкай крыві — вось

які лозунг нашага змагання! За кожную сірочую слязу нашага дзіцяці — сотні тупых нямецкіх галоў! За боль душы нашай жанчыны аб замучаных дзецях — няхай крывяцца ў дзікіх грымасах страшнай смерці паганыя морды гітлераўскіх прахвостаў.

Па ўсім свеце ідзе слава аб беларускіх партызанах, нараўне з славай Чырвонай Арміі, якая крок за крокам вызваляе ад ворага савецкую зямлю — горад за горадам, сяло за сялом. Чырвоная Армія падышла ўжо да Беларусі і ўжо ўвайшла ў Беларускую зямлю, несучы ёй вызваленне. У радах слаўнай Чырвонай Арміі б'юцца з ворагам сыны беларускага народа. Лепшыя гітлераўскія арміі ўжо знішчаны. Мільёны немцаў параць сабачымі сваімі касцьмі савецкую зямлю. Яны не паднімуцца з магіл і не прынясуць Гітлеру перамогі. Цяпер Гітлер гоніць на фронт зялёнаротых недаросткаў і пажылых немцаў. І яго дывізіі, пабітыя і растрапаныя, кідаючы кожны дзень тысячы трупаў і сваю тэхніку, пад ударамі Чырвонай Арміі паўзуць назад, на захад. І гітлераўскія салдаты ныюць толькі аб адным — каб як выбрацца з вайны і дапаўзці да Германіі. У самой Германіі ўзнімаецца нездаваленне і ныццё. Блізіцца гібель Гітлера.

Па ўсёй Еўропе, па ўсіх акупіраваных ім краінах з кожным днём усё шырэй і магутней кіпіць народнае змаганне супраць крывавага акупанта. Блізіцца разгром гітлераўскай Германіі.

Праз нашу беларускую зямлю нямецкае гадаўё рушыла на Савецкі Саюз, на нашай зямлі яны і зложаць да рэшты свае галовы. Наша зямля бачыла многа чаго! На нашай зямлі, пад Барысавым, і Напалеон пакінуў быць палкаводцам і перасеў з імператарскага каня ў сані, каб толькі вынесці сваю галаву. На нашай зямлі да рэшты сыдзе крывёй і нямецкая гадзіна.

Ніхто нас не адолее! Мы моцныя сваёй сілай у змаганні!

Шырэй жа змаганне з ворагам! Усе, як адзін, у партызанскія атрады!

Родная, любая беларуская моладзь! Ты надзея і будучыня народа, і на табе ляжыць вялікі абавязак быць у першых радах вялікага змагання з ненавісным чужынцам! Гэта перад табой ён, няпрошаны гад, зачыніў дзверы ў жыццё, гэта цябе ён вывозіць у сваю Германію на паднявольную працу дзеля тупога, сытага існавання нямецкага панства — і ад усяго свайго чыстага сумлення і абавязку

перад народам — будзь бязлітаснай і цвёрдай перад ворагам.

Вялікая беларуская жанчына, сястра і маці! Ці не твае гэта папярэдніцы, у часы прыгоннай працы, спявалі калісьці на панскім полі сумныя песні над сваімі дзецьмі? Ці не ты гэта ў цяжкія годы над сваім дзіцем стварыла беларускую песню-калыханку, падобную сумнай вялікасцю свае музыкі на жалобны гімн? І ці не ты гэта яшчэ нядаўна радавалася шчасцю сваіх дзяцей? Твая глыбокая душа і вялікае сэрца заўсёды сагравалі вялікай ласкай усё наша жыццё. Благаславі сваіх дзяцей, выгадаваных табой у шчаслівыя часы, на геройства і подзвігі за шчасце радзімы, і сама высока ўзнімай чырвоны сцяг змагання з крывавымі гадамі!

Беларускія сяляне! Беларускія рабочыя!

Не выпускайце жывымі акупантаў з свае зямлі! Магутнымі партызанскімі ўдарамі памагайце Чырвонай Арміі хутчэй вызваліць Беларусь! Марыце голадам нямецкіх ненаеднікаў, адбірайце ў іх хлеб, не давайце ім грабіць, здзекавацца, гаспадарыць у нас! Біце іх і знішчайце! Псуйце шляхі іх адступлення, пускайце пад адкос іх паязды, знішчайце іх абозы, узрывайце іх склады!

Бязлітасна знішчайце паганых вылюдкаў, здраднікаў народу, якія пайшлі служыць фашыстам, якія сталі паліцэйскімі, старастамі, якія прадаюць народ!

У імя светлай блізкай будучыні — вышэй наш гонар, вышэй нашу славу, магутней нашу сілу! Да зброі ўсе, як адзін!

Смерць подлым акупантам! Сабачая ганебная смерць! Гітлераўскае гадаўё няхай гіне ад вашых вінтовак, ад вашых кулямётаў, аўтаматаў! Паганая чужацкая навалач вельмі добра гіне і ад віл, калі іх усадзіць у нямецкае чэрава!

Смерць нямецкім акупантам!

Слава партызанам!

Слава вялікаму Беларускаму народу!

Слава роднай Беларускай зямлі!

Слава доблеснай, непераможнай Чырвонай Арміі, якая спяшае на вызваленне Беларусі!

Чырвоная Армія ідзе! Чырвоная Армія блізка! Чырвоная Армія хутка будзе на Беларусі!

# БЕЛАРУСКІЯ ЛІТАРАТАРЫ Ў ДНІ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ

Беларуская літаратура нарадзілася ў змаганні гераічнага беларускага народа за сваю сацыяльную і нацыянальную свабоду і незалежнасць. Яна ўзнялася да сваіх вялікіх вышынь у шчаслівыя часы савецкага жыцця. Вялікасць беларускай савецкай літаратуры ў тым, што яе ідэі — гэта жыццё народа, шчасце яго і роднай беларускай зямлі, яго вялікае і пачэснае месца сярод брацкіх народаў Вялікага Савецкага Саюза, яго месца і значэнне ў чалавецтве. Беларускую літаратуру тварылі таленты, якія выйшлі з народа. Мэта ўсяго іх жыцця — гэта служэнне свайму народу.

Гэтай сваёй вялікай мэце яны асталіся вернымі назаўсёды. Яны былі з народам у яго шчаслівыя часы, яны з народам і ў сённяшні пакутны і гераічны час змагання з подлымі нямецкімі чужынцамі, якія, як чорная хмара, навалакліся на нашу зямлю, каб ускласці на наш народ страшнае ярмо няволі і здзеку.

Беларускія пісьменнікі разам з родным народам змагаюцца супраць ворага. Іх беларускае мужнае слова гучыць у народзе, як кліч змагання, гучыць на фронце, дзе доблесная Чырвоная Армія вядзе няспыннае наступленне і з вялікай сілай гоніць ворага з роднай зямлі.

У нашы дні народнага гераізму, у дні вялікіх подзвігаў народных герояў, у дні змагання з гітлераўскай навалай, беларуская літаратура жыве і гучыць сваім магутным словам.

## (НЕ ВЕРЦЕ НІВОДНАМУ НЯМЕЦКАМУ СЛОВУ!..)

Не верце ніводнаму нямецкаму слову!

Не выконвайце ніводнага нямецкага загада!

Нямецкія фашысты гавораць, што яны хочуць устанавіць у нас свой «новы парадак». Які гэта «парадак», відно з таго, як яны страляюць і вешаюць нашых людзей, сірацяць няшчасных дзяцей, адбіраюць апошні хлеб, здзіраюць з плеч апошнюю вопратку і лічаць нас не народам, а быдлам. Яны папалілі і паўзрывалі нашы гарады. Яны прынеслі нам гора і кроў, і няўжо мы будзем верыць ім і слухаць іх?

Праўды мы ад іх ніколі не пачуем. Яны даўно ўжо крычалі і хваліліся, што ўзялі Мінск. А тым часам Маскву яны не толькі не ўзялі, а якраз пад Масквой наша Чырвоная Армія зрабіла ім такі ўдар, што яны пачалі бегчы назад без аглядкі і адступаюць і цяпер. Яны кідаюць сваё ўзбраенне, пакідаюць мільёны трупаў сваіх салдат і адступаюць, а Чырвоная Армія гоніць іх з савецкай зямлі. Бai ідуць ужо на нашай беларускай зямлі. Ідуць баі за Беларусь. У блізкім часе наша родная зямля будзе ачышчана ад немцаў назаўсёды.

Пабітая і абяскроўленая пад ударамі Чырвонай Арміі, нямецкая армія вымагае вялікіх папаўненняў людзьмі і тэхнікай. Вайна выцягвае з Германіі сілы. Германія пасылае ўжо ў сваю армію зялёную моладзь і старыкоў. А ў самой Германіі не хапае людзей для работы на фабрыках, на заводах. І вось з многіх мясцін Беларусі немцы забіраюць нашых людзей і гоняць іх у свой тыл на катаржную працу на фабрыках і заводах.

Немцы забіраюць нашых людзей і гоняць іх у свае ваенныя абозы.

Немцы гоняць нашых людзей на земляныя работы будаваць свае ўмацаванні для таго, каб затрымліваць наступленне нашай Чырвонай Арміі.

Немцы выдаюць аб усім гэтым загады, таксама як загадваюць нам даваць ім хлеб, мяса, малако, шэрсць, лён і ўсё іншае.

Не верце ніводнаму іх слову! Не слухайце нямецкіх загадаў і не выконвайце іх! Супраціўляйцеся нямецкім загадам!

Не давайце немцам прадуктаў! Хавайце ад немцаў усё!

Не ідзіце на іх работы, не паддавайцеся ім, каб яны гналі вас на гібель недзе ў свае тылы! Не ідзіце ў іх абозы, не памагайце ім, сваім заклятым ворагам! Не памагайце немцам устанавіць над вамі сваю волю, запрагчы вас у ярмо, рабіць з вас быдла!

Зрывайце ўсе нямецкія мерапрыемствы! Перашкаджайце ім ва ўсім! І гэтым вы паможаце Чырвонай Арміі хутчэй выгнаць немцаў з беларускай зямлі, хутчэй вызваліць вас з-пад нямецкага панавання.

Ганіце вон кожнага немца!

Скора прыйдзе Чырвоная Армія!

У Беларусі немцы не будуць!

Усе, як адзін, паднімайцеся на праклятых фашысцкіх акупантаў!



Малюнак Кузьмы Чорнага
перыяду Вялікай Айчыннай вайны



Кузьма Чорны з беларускімі партызанамі. 1943

## ФАШЫСТ КУРЦ РАВЕ ЖАЛАСНА

Нейкі гітлераўскі Курц у гітлераўскай газетцы «Дэйчэ цэйтунг ін Остланд» вельмі ж расплакаўся аб лёсе беларускай сталіцы Мінску. Цераз усю курцаву морду ідзе сляза, і з душы яго верне жаль. Ён, небарак, бядуе, што «незадоўга да ўваходу германскіх часцей у Мінск, калоны НКВД падпалілі ўнутраную частку горада», якая была амаль поўнасцю знішчана.

Курц не быў бы гітлераўцам, каб прызнаўся ў чыстай праўдзе, як яно сапраўды было. Было так, што 24, 25 і 26 чэрвеня 1941 г. нямецкая авіяцыя рабіла на Мінск налёты і бесперапынна бамбіла горад. Гітлераўскія банды з паветра падпалілі горад з розных канцоў і забілі некалькі дзесяткаў тысяч мірных людзей. Некалькі дзён з-пад мінскіх руін чуліся енкі і стогны здушаных людзей, якія ўміралі там. А зверху немцы яшчэ сыпалі бомбы.

Курцава сляза — гэта сляза спрактыкаванага бандыта, які ўмее і за горла душыць і ў той жа час спяваць песеньку. Як кажуць,— ён, калі захоча, дык і раве жаласна.

А далей Курц цешыцца, што ў Мінску паміж нямецкімі ваеннымі ўладамі і «мясцовым самакіраўніцтвам» ужо знойдзен кантакт для супрацоўніцтва. Тут Курц напэўна пад супрацоўніцтвам разумее тое, што знайшлося двое прахвостаў, каб языком глянцаваць нямецкія боты. Бо не можа быць, каб Курц хваліўся тым супрацоўніцтвам беларускага народа з немцамі, ад якога нямецкае гадаўё кладзе свае галовы.

Дзеля ўцехі Курца можна сказаць, што скора гэтаму разжалабленаму малайцу не ў галаве будзе плакаць над чужым яму Мінскам, бо трэба будзе плакаць над сваім фюрэрам і над сабою.

# КАТ У БЕЛАЙ МАНІШЦЫ

Дурны суддзя, пра якога расказваецца ў беларускіх народных апавяданнях, ніяк не мог выясніць, хто большы злодзей — ці той, што краў, ці той, што прымаў крадзенае, ці той, што камандаваў і тым і другім і жыў з іх руладзейскай работы. Дурны суддзя паглядзеў на твар і рукі кожнага і сказаў таму, што краў:

— У цябе ж не твар, а такое зладзейскае рыла, якога свет не бачыў! Ад зладзейскай работы ў цябе на пальцах нават і не мазалі, а гузы! Вось табе 25 бізуноў!

А ў таго, што прымаў крадзенае, суддзя ўбачыў твар крыху далікатнейшы і мазалі меншыя. Ён даў яму 15 бізуноў. Калі ж да суддзі падышоў той, што жыў з крадзенага і натхняў зладзеяў, суддзя збянтэжыўся: перад ім быў далікатны твар і замест мазалёў на белых пальцах пярсцёнкі. Суддзя скланіўся і прагаварыў:

— Няхай ваша ласка зробіць ласку выбачыць мне, што я гэтым дурням мала даў. Даю ім яшчэ па 10 бізуноў накідкі!

Яго ласка горда кіўнула галавой і па-панску выйшла з суда, ганарыста паглядаючы на ўвесь свет.

Вы ведаеце, што такое Розенберг, нямецкі барон і гітлераўскі падручны? Гітлер паставіў яго начальнікам над усімі акупіраванымі ім савецкімі землямі. У гэтага Розенберга на белых пальцах пярсцёнкі. Свайго далікатнага пальца ён не запэцкае аб вісельную вяроўку. Ён толькі памахвае стэкам або варухне губамі — і нашым людзям накладаюць пятлю на шыю нямецкія стварэнні са зладзейскімі рыламі, якіх не бачыў свет. А Розенберг, вярнуўшыся ў маёнткі, якімі да рэвалюцыі ўладаў у Прыбалтыцы яго бацька, фатаграфіруецца са сціснутымі губамі, што павінна вызначаць яго ганарыстую цвёрдую волю. Што і казаць! Пастаўце вы яго разам з Гітлерам, а з другога боку з тым дурным папіхачом, які ад шчырай працы каля вісельні панаціраў сабе вяроўкай мазалі на пальцах. Паміж гэтых двух лычоў Розенберг будзе выглядаць, як далікатная паненка, да якое ён не падобен хіба толькі тым, што кожны дзень дае распараджэнні, колькі да заходу сонца падняць вяроўкай людзей на вісельню.

Адным словам, у яго ёсць усё тое, з-за чаго той дурны суддзя не пазнаў пад далікатным абліччам бандыцкага рыла.

Беларусы пад залатымі розенбергаўскімі пярсцёнкамі бачаць крывавыя пальцы бандыта і ката, які ўзначальвае над народам крывавую гітлераўскую ўладу. Дачыненне беларускага народа да гэтай улады такое, што Розенберг павінен быў напісаць у сваім загадзе, што ўстаноўленая ім у Прыбалтыцы сістэма ўпраўлення «не будзе распаўсюджвацца на Беларусь, бо, у выніку 23-годняга прабывання бальшавікоў ва ўладзе, у Беларусі няма яшчэ ўмоў для арганізацыі гэтага ўпраўлення. Калі будуць знішчаны ўсе сляды бальшавізма, то Беларусь будзе рэканструіравана...».

Выходзіць, што вяльможнаму кату Розенбергу так і не дачакацца той пары, калі яму можна будзе, як ён сам захоча, устанавіць на Беларусі сваё ўпраўленне. Па-першае, таму, што беларускі народ ніколі не пакіне быць самім сабою, а гэта значыць,— ніколі не будуць «знішчаны сляды бальшавізма». А па-другое, таму, што яму самому нядоўга суджана з пагардай да народа сціскаць свае губы. З Чырвонай Арміяй і з народным гневам не жартуюць. І замест розенбергаўскіх губ будуць тырчаць толькі вышчараныя сківіцы бандыцкага чэрапа.

## НАША ВЯСНА

Быў такі фрыц, які ўсю зіму вельмі чакаў вясны. Расказваюць, хто яго бачыў, што на ім за зіму расплодзілася вошай, як на валачашчым сабаку. Ён так і пражыў зіму, як той сабака,— залазіў начаваць, дзе цяплей і цішэй, еў, што траплялася вырваць у чалавека з рук. На яго шыі нарасла шышкамі караста. Ён чухаўся, дзёрся, ляскаў зубамі ад холаду і злосці, грэў у прасмердлых анучах звіслае абмарожанае вуха, брахаў на дзяцей і жанчын і дрыжаў перад грозным гаспадаром той зямлі, на якую прывалокся — перад партызанам.

Ён вельмі спадзяваўся на вясну. Вясной ён думаў скінуць з сябе свой сабачы выгляд. Выгадаваўшыся на гітлераўскім сабачніку, ён прывык мець сабачую душу, а зверху меў падабенства да чалавека, і нават гладкага і франтаватага.

Была ў яго недзе там, у Германіі і сука, таксама франтаватая. Фрыц замучыў многа беларускіх дзяўчат і жанчын, паздзіраў з іх шоўкавыя і шарсцяныя плацці і паслаў іх туды, к сабе. Выфранціўшыся ў прысланае плацце, фрыцава сяброўка ганарыста лічыла, што фрыц выконвае высокую нямецкую місію, на якую паслаў яго фюрэр,— заваяваць для Германіі ўвесь свет і з усіх жанчын свету паздзіраць для яе адзежу.

І вось нарэшце прыйшла чаканая фрыцам вясна. Сышоў з зямлі снег, пад цёплым дажджом і ясным сонцам зазелянела першая трава, і на ёй, чыстай і маладой, як пачварнае непатрэбства і паскудная зняважа вясне, вылез з-пад снегу спруцянелы фрыц. Прабіты чырвонаармейскай куляй, яго сабачы чэрап ужо вышчарыў смяротныя сківіцы, і груган ужо вырваў яго сквапныя вочы. Яго франтаватая хаўрусніца ходзіць у жалобе і раптам убачыла, што калі нагу душыць цесны чаравік, то ад шырыні акупіраванага мёртвым фрыцам свету ні карысці, ні ўцехі няма. Яна заныла, заскуголіла і раптам падумала пра тое, што, кружачы, свет пройдзеш, але назад не вернешся. І ў ёй ажыў чалавек, вытраўлены раней Гітлерам.

Не вернецца фрыц, і не паўстануць з магіл гітлераўскія дывізіі, і не прынясуць фюрэру перамогі! Ганс, які разам з фрыцам чакаў вясны і быў пры яго смерці, з сумам глядзіць на чужую яму беларускую вясновую траву, з жахам слухае гром савецкай артылерыі, дрыжыць перад

тварам Чырвонай Арміі і думае пра тое, якая страшная для яго рэч — вясна на савецкай зямлі! Фюрэр гаворыць пра наступленне, а перад яго вачыма выскаляецца смертны фрыцаў чэрап.

Вясна! Май!

Чырвоная Армія ідзе на Беларусь! І хутка вясна беларускай прыроды ператворыцца ў вясну беларускага народа — у час поўнага вызвалення яго ад гітлераўскай погані, якая чакала вясны не дзеля чалавечай радасці, а дзеля сваіх сабачых выгад.

Наша вясна — пагібель подлым прышэльцам!

Наша вясна — нам радасць перамог над імі!

# АБАРОНЦЫ НЯМЕЦКАЙ ТЫФОЗНАЙ ВОШЫ

Немцы ператварылі Віцебск у чорныя руіны. Няшчасныя жанчыны яшчэ і цяпер адкопваюць з-пад руін трупы сваіх дзяцей. У разбураным нямецкім гадаўём Віцебску пануе сыпны тыф. Вашывая нямецкая салдатня навалакла сюды тыфозных вошай. Кожны дзень уміраюць людзі многімі дзесяткамі. Смерць, трупы, калецтва — гэта кожнадзённая з'ява ў абгнюшаным немцамі Віцебску. Ад голаду, ад пошасцей, ад катаванняў, ад зверстваў людзей косіць смерць.

І ў той жа час нямецкія шэльмы і іхнія падбрэхачы, мусіць, дзеля большага яшчэ здзеку з віцебскага насельніцтва, у сваёй газетцы пішуць, што вельмі ж ужо добрая ў іх ахова здароўя ў горадзе. Яны пішуць, што ў горадзе нават ёсць больніца, дзве аптэкі, што ў больніцы ёсць нават венерычнае аддзяленне. А як жа! Фрыцы валакуць з сабой не толькі сваю тыфозную вош. Без публічнага дома немец непаўнацэнны фрыц. Дзе ж яму лячыцца ад арыйскай венеры, каб дзеля яго не адкрылі венерычнага аддзялення?

Далей брудны фашысцкі лісток, у якім наперабой брэша паўдзесятак галаварэзаў і вісельнікаў, выхваляецца, што на санітарнай станцыі захавалася ад грабяжоў абсталяванне. Сапраўды, трэба дзівіцца, як фрыцы не расцяглі яго.

Санітарныя атрады,— захлёбваецца газетка,— у любы час выязджаюць на ліквідацыю ачагоў эпідэмічных захворванняў.

Быў слаўны, прыгожы, багаты, шчаслівы горад Віцебск. Быў ён без эпідэмічных захворванняў, без грабяжоў, без тыфу, без немцаў, без вошай, без публічных дамоў. Былі ў гэтым горадзе цудоўныя клінікі, амбулаторыі, больніцы, мединстытут. Прыпаўзло нямецкае звяр'ё, і ў горадзе з'явілася смерць, тая самая, што нарысавана на рукавах эсэсаўцаў. Хто яе прынёс — з тым яна і пойдзе і таму астанецца навек.

## «ВЫХВАЛЯЎСЯ, ВЫХВАЛЯЎСЯ ДЫ І ЗДОХ»

Кажуць, што раз воўк бляваў лыкам. Не таму, што гэта яму вельмі падабалася, а таму, што ў яго не было чым іншым апаражніцца. Цягаўся ён па шырокім свеце і ўсюды рваў зубамі, дзе што трапіцца. Адусюль яго гналі, усюды ненавідзелі, і ён завалокся ў такую пустэчку, дзе не было ніякай спажывы. З вялікага галаду гэтая схуднелая падла нажэрлася лыка так, што аж назад вярнуць пачало. Пасля гэтага воўк узяў ды і здох.

Якраз тое самае здарылася з нямецкім фюрэрам. Гэты прахвост абышоў палавіну Еўропы, усюды рваў дзе што мог, усюды ліў чалавечую кроў, мінулай зімой атрымаў на савецкім фронце па сваіх вышчараных зубах і 26 красавіка выступіў у рэйхстагу з прамовай. Дзе дзелася яго ранейшая ганарыстая заўзятасць, калі ён, бывала, у кожнай прамове выхваляўся, што заваюе для немцаў увесь свет? Цяпер ён не выхваляўся, а ныў і скуголіў, быццам не гаварыў, а, як той воўк, раскідаў лыка.

Зімой нямецкія дывізіі навекі клаліся ў нашы снягі. Тады Гітлер цешыў немцаў блізкай вясной. Прыйшла вясна, і цяпер ён баіцца і ўспомніць пра яе. Ён сказаў: «Пакуты, якія мы перанеслі зімой, сталі для нас урокам. Намі ўжываюцца захады, каб танкі, бронемашыны і матарызаваны транспарт мог бы працаваць у зімовых умовах».

Вясна не прынесла немцам уцехі, і фюрэр пацяшае іх новай зімой. Нямецкія салдаты крычаць, што яны па горла наеліся вайны, а фюрэр абнадзеіў іх, што збіраецца ваяваць яшчэ і зімой.

Чырвоная Армія выбіла з немцаў дурное шаленства, і многія з іх раптам убачылі, што іхні фюрэр ніякі не асілак, а проста жулік і абармот. Свету ён не толькі не заваяваў, а крывавай дарогай давёў сваё абдуранае двуногае быдла да грані пагібелі. Быдла не хоча гінуць і з грымасай глянула на фюрэра. Фюрэр спалохаўся гэтай грымасы. Ён пачуў і злое маўчанне нямецкага народа. І ён, тонам злоўленага злодзея і з авечым выглядам, спрабуе ў сваёй прамове апраўдвацца. Няўдачы сваіх армій ён узвальвае на зіму. І раптам пачынае пагражаць. Каму? Таму, хто не здаволен, хто маўчыць, хто непаслухмяны!

Адным словам, змучаны вайной нямецкі народ падпаў пад новую няміласць свайго фюрэра. «Зімой я дзейнічаў

рашуча»,— крычыць фюрэр. Гэта ён гаворыць пра тое, як распраўляўся з нездаволенымі ім генераламі. Так будзе і з кожным! — чуецца ў яго прамове. Ён запатрабаваў ад свайго рэйхстага неабмежаваных паўнамоцтваў рабіць, як яму ўздумаецца, над кожным расправу. Ён будзе ўмешвацца ва ўсё сам,— гаворыць ён. З усіх сіл ён стараецца адцягнуць страшны дзень развалу і гібелі свайго фашысцкага парадку. І няма чым яму апраўдвацца за зло і страты, якія наближаюць катастрофу, дык ён спасылаецца і на зіму, і на нездаволеных ім, і на іншыя цяжкасці. Перапалоханыя няўдачамі на фронце, яго падручныя ў рэйхстагу «ўзаконілі» яго паўнамоцтвы на нямецкі народ. Голад і пакуты вайны, новыя горы нямецкіх трупаў на фронце! І хто будзе ў Германіі нездаволен гэтым, фюрэр з тым расправіцца па-свойму.

Апраўдваючыся і каб паказаць сябе разумным дзяржаўным дзеячам, ён, нарэшце, сказаў: «Лёс народаў і дзяржаў не можна давяраць вар'ятам». Святая праўда! Нямецкія акупанты на сваёй уласнай скуры ўжо адчуваюць гэта. Іх шалёны фюрэр у часы свайго назаўсёды сапсаванага настрою, сам таго не думаючы, даў сам сабе найвышэйшую ацэнку перад сваім канцом.

У прамове яго гучаў унылы тон асуджанага забойцы і імкненне хапацца за якую-небудзь надзею.

Ёсць прыказка: «Выхваляўся, выхваляўся ды і здох».

Да гэтага ідзе.

# ДАЛІКАЦТВА КАЛЯ ВІСЕЛЬНІ

Ай, не дурыце галавы,
Сапраўды драма ёсць такая,
Калі ураднік станавы
Лірычным вершам прамаўляе.

*Максім Багдановіч*

Вары Няфёдавай было ўсяго дзевятнаццаць год, яе сястра Ольга была за яе старэйшая на два гады. Увечары да іх у дом увайшлі чатыры п'яныя нямецкія афіцэры.

Яны далікатна прывіталіся і загадалі дзяўчатам ісці за імі. Праз два дні дзяўчат прывезлі ў грузавіку назад. Пальцы на руках і нагах сёстраў былі вывернуты, на спінах была зроблена татуіроўка гарачым жалезам. Перад вокнамі дома паставілі шыбеніцу і павесілі на ёй знявечаных сёстраў. Узяўшы далікатна пад казырок, немец сказаў да старой маці няшчасных дзяўчат:

— Жыві, матка, у гэтым доме і глядзі праз акно на сваіх дачок. Яны маладыя, і за імі трэба наглядаць.

Маці ў той жа дзень звар'яцела.

Стаіць гэтая вісельня з трупамі маладых сёстраў на вуліцы ў Віцебску і цешыць вока Брандта, рэдактара бруднай фашысцкай газеткі, якая там выходзіць. Захлёбваючыся ад захаплення, ён піша: «Кожны салдат германскай арміі лічыць сваім абавязкам, увайшоўшы ў дом, прывітацца... Будзем жа браць з іх прыклад».

Гэты прапаведнік далікацтва так дбае аб культурнасці, што не можа стрымаць свайго рухавага пяра.

Ён піша аб «савецкім стылі абыходжання з людзьмі», пры якім быццам бы «зусім натуральна адштурхнуць жанчыну, а самому прайсці ўперад».

Бачыце, які джэнтльменісты кавалер гэты Брандт! І мае даволі-такі не кепскае вока, бо адразу, шэльма, убачыў, як немец далікатна прапускае жанчыну наперад, калі падводзіць яе да вісельні!

Дбаючы аб культурнасці віцеблян, блізкія і родныя якіх вісяць на шыбеніцах, пастаўленых далікатнымі фрыцамі на віцебскіх вуліцах, фашысцкі пісака даводзіць да ведама, што «пара прывучаць сябе, не будзем гаварыць да заходняга стылю, да гэтага нам яшчэ далёка, але хаця б проста да элементарных правіл абыходжання».

Калісьці царскія афіцэры стараліся вымуштраваць салдата так, каб ён на слова «дурак» адказваў «так точна». А Брандт пайшоў яшчэ далей. Каб дагадзіць свайму

нямецкаму гаспадару, ён сам сябе называе дурнем і паскудствам, якому далёка яшчэ да таго стылю, аб якім ён марыць. Расказваюць, што быў такі падлізнік, які так шчыра вылізваў панскі зад, што аж самому пану надакучыла.

— Даволі! — крычыць пан.

— Паночку, дазвольце яшчэ раз лізнуць у вашу ласку,— папрасіў той.

А гэты Брандт умільна шэпча:

— Далёка мне да панскага стылю, мне хоць бы штонебудзь пераняць ад вашай ласкі. А за гэтыя аб'едкі я вас, паночку, падхвалю ў сваёй газетцы. Гордасці ў мяне няма, паверце, паночку. Я перад вамі не чалавек, вы нават можаце ўзліць мне на галаву цэбар памыяў, а я скажу, што гэта дождж ідзе. Вы толькі пабольш вешайце гэтых віцеблян, якія не маюць аніякага далікацтва.

Далікацтва рэч умоўная. Мы дакладна ведаем, што віцебляне, таксама як і ўсе іншыя беларусы, і сапраўды не вельмі далікатныя. Яны вельмі недалікатна б'юць па мордзе нямецкаму гадаўю. «Далікатнаму» пісаку вельмі страшна такое недалікацтва, бо ён бачыць, што скора скончыцца яго бандыцкі хлеб, які ён зарабляе, расхвальваючы нямецкую вісельную вяроўку.

## ШАРЛАТАНСКІ ЗБРОД НА СЛУЖБЕ Ў НЯМЕЦКІХ АКУПАНТАЎ

Вераломства, ашуканства і авантура — не толькі форма, але і змест нямецкай, з дазволу сказаць, палітыкі. Подкупы, шпіёнства, зладзейства, жорсткасць, бессардэчнасць, здзек — усё гэта жывая натура гэтай палітыкі. Скарыстаць дзеля сваіх мэт усякіх прайдзісветаў, абармотаў і жулікаў — гэта нязменны спосаб дзеяння нямецкіх захопнікаў. Вось чаму каля нямецкіх акупацыйных улад заўсёды знаходзілі і знаходзяць сабе месца цёмныя асобы, у якіх за душой няма нічога святога.

У часы акупацыі Беларусі ў 1918 годзе немцы стараліся жульніцкім спосабам стварыць як-небудзь дакумент, якім яны маглі б пахваліцца, што быццам бы на Беларусі іх вельмі любяць. З гэтай справай яны вельмі спяшаліся, бо ўсюды па Беларусі ўзнімаліся супраць іх народныя паўстанні.

Акупанты знайшлі ў Мінску трох ці чатырох шарлатанаў, якія далі ў Берлін кайзеру Вільгельму тэлеграму, у якой дзякавалі яго за тое, што немцы акупіравалі Беларусь. Гэтых асоб ніхто не ведаў і нічога пра іх ніколі не чуў. Яны падпісалі тэлеграму пад тытулам «беларускія міністры».

Сярод гэтай жульніцкай кампаніі «прэм'ер-міністрам» назваўся канавал Іван Серада, які займаўся сваім рамяством у ваколіцах Мінска і аціраўся па панскіх кухнях. Натурай сваёй гэта быў тыповы лакей. Да «міністэрскага партфеля» неіснуючага міністэрства ён дайшоў праз рэкамендацыю старой мінскай князіні Радзівіл, у якой ён некалькі год быў чымсьці накшталт дамашняга доктара яе ўлюбёных сабачак. Самадурка князіня мела сувязі з акупацыйным начальствам і, дазнаўшыся, што немцам спатрэбілася авантура з тэлеграмай Вільгельму, захацела пацешыцца і парагатаць з таго, як яе прыдворны сабачы лекар назавецца «беларускім прэм'ер-міністрам». Яна яго і парэкамендавала на гэты «высокі пост».

Прыкрыўшыся тэлеграмай Вільгельму так званых «беларускіх міністраў», немцы «ўзаконілі» крывавыя расправы з беларускім народам. Чым скончылася гэтая авантура,— мы ведаем. Народны рух супраць акупантаў увесь час шырыўся. А неўзабаве немцы ўжо выносілі з Беларусі ногі.

Тыя ж самыя жульніцкія способы «ўзаконення» свае крывавай улады над беларускім народам нямецкія акупанты практыкуюць і сёння.

Праводзячы сваю так званую зямельную рэформу, гэта значыцца, адабраўшы ад беларусаў зямлю і зрабіўшы сялян прыгоннымі бяспраўнымі парабкамі, нямецкія акупанты прыдумалі авантуру, вельмі падобную на тую тэлеграму Вільгельму. Яны знайшлі некалькі жулікаў, якія назваліся прадстаўнікамі беларускага сялянства і ездзілі ў Берлін дзякаваць Гітлера за зямельную рэформу. Сярод гэтых «сялян» такія «земляробы», як ксёндз Гадлеўскі і сын царскага чыноўніка Антон Адамовіч, бацька якога, служачы цару верай і праўдай, скалаціў сабе хабарніцтвам і іншымі падобнымі спосабамі круглы капіталец і набыў у Мінску ўласны дом. Радзіўшыся і вырасшы ў гэтым доме ў Мінску, яго недапечаны сынок з белымі ручкамі, здаўна ўжо нямецкі шпік, знайшоў сабе лёгкі хлеб. Ён ніколі не жыў у вёсцы, ніколі не бачыў, як аруць і сеюць, убачыўшы авёс, кажа, што гэта жыта, думае, што булкі, якія ён жарэ на нямецкай кухні, зайшоўшы туды з чорнага хода,— гатовымі растуць на полі. Але яму акупацыйнае начальства сказала назвацца селянінам і падзякаваць ад «імя беларускіх сялян» Гітлеру. Ён гэта зрабіў з такой жа шчырасцю, з якой бы поўз ракам цераз увесь Мінск, каб яму гэта загадалі немцы.

Не памогуць немцам ніякія авантуры! Ніколі яны ім не памагалі. Наконт падобных спраў наш народ склаў прымаўку: «Круцячы, свет пройдзеш, але назад не вернешся». Не будзе дарогі назад ні акупантам, ні ўсякім шарлатанам, якія каля іх аціраюцца! Здружыўшыся, яны астануцца ў цеснай блізасці навекі, пад трыма аршынамі магільнай зямлі.

## «КОСЬ, КОСЬ, ПАКУЛЬ У АГЛОБЛІ»

Нямецкае акупацыйнае начальства абвясціла па Віцебску і ў яго ваколіцах, што кожны тыдзень з Віцебска праз Полацк ідуць у Германію два адмысловых паязды з тымі, хто добраахвотна захацеў паехаць туды.

«Ці не хочаце і Вы паехаць?» — пытае нямецкі абармот у гэтых аб'явах. І так далікатна ён пытае, што нават зварот «Вы» піша з вялікай літары.

На шыбеніцах вісяць трупы павешаных, і тут жа побач такая ліслівая ўсмешачка і такая лагоднасць! Пазнаём хітрую нямецкую шэльму!

У Германіі вельмі мала рабочых рук. Нямецкія салдаты кожны дзень многімі тысячамі кладуцца на фронце. На фронт Гітлер паслаў ужо бадай што ўсіх мужчын, пачынаючы ад самага зялёнаротага фрыца і да таго паважанага нямецкага «таты», з якога ўжо ззаду парахня сыплецца. У сельскай гаспадарцы і на фабрыках няма каму рабіць. Жаночых рук таксама не хапае. А ад гэтага вельмі цяжка прыходзіцца і нямецкаму фронту і нямецкаму тылу. І немцы вязуць у Германію на работу людзей з акупіраваных абласцей. Гэтыя людзі там працуюць суткамі, сядзяць на галодным пайку. Немцы стараюцца выціснуць з такога чалавека ўсё, што можна, а тады ён можа сабе ўміраць.

Так яно і ёсць. Прывезеныя ў Германію рабочыя ўміраюць сотнямі ў дзень — ад голаду, ад непасільнай працы, ад нямецкіх прыганятых, якія стаяць над імі з бізунамі.

Рабочых трэба многа, і немцы робяць усё новыя наборы. Часам яны проста загадваюць збірацца і гоняць сілай. Часам звярынае нямецкае рыла расцягваецца ў ліслівую ўсмешку, і спрактыкаваны нямецкі прахвост зварачаецца на «Вы» з вялікай літары да будучых кандыдатаў на смерць на катаржнай працы ў Германіі. Адным словам — як з тым канём: кось, кось, пакуль у аглоблі.

Ён абяцае проста-такі рай зямны. Ён пацяшае таго, хто яго паслухае, што там яму будзе і кватэра добрая, і есці ён будзе смачна, і нават нямецкай мове ён навучыцца! — ад гэтага, гаворыцца ў аб'явах, «будуць лепшыя магчымасці наперадзе».

«Вы многаму там навучыцеся»,— абвяшчае гітлераўскі абармот.

Перш за ўсё, той, хто паслухае і паедзе ў Германію, навучыцца горкай практыкай бачыць, што калі яго нем-

цы клічуць на пагібель, а гавораць, што ён трапіць на банкет, то ён сам павінен разабрацца, каму і чаму верыць.

Цераз кожныя пяць радкоў у гэтай аб'яве бесперастанку гаворыцца аб тым, што ўсе, хто паедзе ў Германію, вернуцца назад. Каб гэта было так, то нашто было б у гэтым так надакучліва ўпэўніваць людзей? А ўся справа ў тым, што ў Германіі ўсе, хто паехаў туды, мруць як мухі, і гэта немцы стараюцца скрыць ад нашых людзей.

Нарэшце, немец запрашае браць з сабой у Германію балалайкі і гітары, «каб мець магчымасць граць там».

А як жа! Вязі сваю галаву, вязі і балалайку. Для немца ўсё роўна — што галава нашага чалавека, што трохрублёвая балалайка. Ён сам пасля будзе смяяцца з таго, хто паслухаў яго і паехаў туды, куды ён яго кліча.

«Няхай гэты дурань цешыцца з свае балалайкі»,— так думае нямецкая шэльма. Самому яму лепш відно, які лёс чакае таго, хто паслухае яго і паедзе ў Германію. Таму ён, запрашаючы ехаць туды, і робіцца такім лагодным, што хоць ты яго да раны прыкладай.

«Хутчэй спяшайцеся, бо толькі нямногія могуць паехаць»,— лямантуе нямецкі махляр у сваіх аб'явах.

Яму самому трэба спяшацца скора выносіць ногі з Беларусі, а людзей яму трэба чым найбольш вывезці ў Германію. Вось і ўвесь сэнс яго абяцанак і яго запрашэнняў.

# ПАЭТ НАРОДА

Дваццаць пяць год таму назад, 15 мая 1917 года, памёр найвыдатнейшы беларускі паэт Максім Багдановіч. Вялікі грамадзянін і патрыёт радзімы, ён усё сваё кароткае жыццё аддаў служэнню свайму народу. Памёр ён у самым росквіце свайго глыбокага таленту і ў вельмі маладыя гады, калі толькі праходзіла яго юнацтва. Аднак жа ён пакінуў глыбокі след у развіцці беларускай літаратуры. На новыя ступені развіцця ён узняў беларускую паэзію, давёў яе да фармальных дасканаласцей. Чалавек шырокай адукацыі, энцыклапедыст у самым поўным сэнсе гэтага слова, Максім Багдановіч ад самых пачаткаў свае творчасці быў у абсягу перадавых агульначалавечых ідэй, у якіх ён знаходзіў месца беларускай нацыянальнай думцы. Адсюль ідзе вялікая прагрэсіўнасць яго творчасці і яе абсалютная супрацьлегласць рэакцыйнай нацыяналістычнай абмежаванасці.

Ён любіў свой народ і сваю родную зямлю. Шчасце свайго народа ён бачыў у выхадзе яго на шырокую арэну агульначалавечай гісторыі. Як роўны з роўнымі, беларускі народ мысліўся ім сярод усіх іншых народаў, і ў гэтым галоўныя матывы яго творчасці. Адсюль ідзе і яго замілаванне да чалавека, як да асобы, перад якой павінны быць адкрыты ўсе дары жыцця, шчаслівага і радаснага. У гэтым глыбока нацыянальнае значэнне паэзіі Максіма Багдановіча, у якой матывы асобы беларускага чалавека гучаць, як гімн яго імкнення ў прагрэс усяго чалавецтва. Адсюль і матывы нянавісці да ўсялякіх ворагаў народа і да ўсяго рэакцыйнага і цёмнага. І, нарэшце, адсюль ідуць матывы веры ў перамогу народа над усімі цёмнымі сіламі.

Максім Багдановіч жыў і тварыў напярэдадні рэвалюцыі.

Беларусь, твой народ дачакаецца
Залацістага яснага дня.
Паглядзі, як усход разгараецца,
Колькі ў хмарах залётных агня.

Гэтыя словы яго паэзіі гучаць, як адчуванне блізкага выхаду роднага народа на прасторы вольнага жыцця.

«Не хіліцца з бяды, не пужацца агня...» —

характэрнае слова паэзіі Максіма Багдановіча, паэта-змагара, грамадзяніна і патрыёта. І так жа характэрна для яго паэзіі:

І такім парадкам паэзія Максіма Багдановіча з новай сілай загучала ў нашы дні...

Успомнім шэдэўр Багдановічавай паэзіі «Слуцкія ткачыхі»:

Ад родных ніў, ад роднай хаты
У панскі двор дзеля красы
Яны, бяздольныя, узяты
Ткаць залатыя паясы.

Нямецкія акупанты абвясцілі ўсё чалавецтва чымсьці ніжэйшым за нямецкага салдафона, які ад свае тупагаловасці надумаўся запанаваць над усім светам. У сваёй звярынай нянавісці да ўсяго светлага, чалавечага, гітлераўцы імкнуцца ўвергнуць народы ў няволю, дастаць з чалавека яго душу, спустошыць яе, анямечыць усё, што толькі існуе і жыве. Яны знішчаюць народы і стараюцца зрабіць чалавека паслухмяная прыладай дзеля сваіх жывёльных патрэб. Так яны абышліся і з нашым народам. Яны вывозяць нашу моладзь у сваю Германію на паднявольную працу. Але:

Тчэ, забыўшыся, рука
Замест персідскага узора
Цвяток радзімы васілька.

Беларускі народ, так як і ўсе народы, на зямлю якіх уварваліся нямецкія акупанты, не даў і не дасць сваю душу і сваё шчасце на здзек гітлераўскім цемрашалам. Народ — бяссмертны, а ворагі яго згінуць ад яго ж сілы. Усе помыслы нашага вялікага народа накіраваны на бязлітаснае змаганне з ворагам. Воляй да перамогі народам кіруе яго замілаванне да радзімы, яго святое пачуццё нянавісці да подлага чужынца, які задаўся дзікай мэтай вырваць з чалавека яго «я». І грозна, як ніколі раней, гучаць гнеўныя словы вялікага беларускага паэта:

Біце ў сэрцы іх, біце мячамі!

Вось чаму ў нашы дні гераічнага змагання з чорнай сілай, змагання за лёс народаў, за шчасце чалавека, магутная постаць слаўнага беларускага паэта Максіма Багдановіча яшчэ і яшчэ паўстае перад намі. І дарагое нам яго імя жыве ў народзе. І яго светлая асоба ўзвышаецца ў нашай гісторыі, у няспынным руху нашага народа да прагрэсу, да людскога брацтва, да перамог над усімі працоўнымі народу чорнымі сіламі.



Кузьма Чорны *(першы злева)*
на пахаванні Янкі Купалы. 1942



Кузьма Чорны. Малюнак З. Паўлоўскага

## НЯМЕЦКІ ПАСЛУГАЧ ВЫЎ, ЯК СУКА

Вось і вясна прыйшла. І цёпла стала. І зазелянела ўсё. І рэчка пры лесе ачысцілася ад лёду. І ўсё навокал падчысцілася, падхарашылася, паспрытнела, палягчэла, павесялела. І фрыц, худы і доўгі, як жэрдка, надумаўся пазграбнець на вясну. Што ж,— падумаў ён сабе,— пакуль прыйдзецца ў веснавым наступленні, пра якое кажа фюрэр, лыткі стуліць навек, дык хоць тыдняў са два пабыць чалавекам. А вядома, што такое па-нямецку быць чалавекам! Вось ён і пачаў рабіцца нямецкім «чалавекам».

А трэба вам сказаць, што ён за зіму вельмі стаў падобен на валачашчага сабаку. На яго галаве распладзілася вошай гэтулькі, колькі за дзень злятае брахні з языка ў Гебельса. З яго шыі кароста звісала шышкамі. Ён чухаўся, дзёрся і грэў у прасмердлых анучах абмарожанае вуха. А цяпер прыгрэўся на сонцы, выпарыў з галавы вошы, чысцей прыадзеўся і атрымаў нейкі чын пры каменданце ў нашым мястэчку, бо ранейшых чыноў мы такі ніводнага жывога за зіму не пакінулі.

І вось у новым чыне ён, з веснавой прычыны, прыглядзеўся да дачкі местачковага старасты Сымона Пшыкупа. А гэтая Пшыкупоўна ходзіць, як загладуха, пакручваецца перад кавалерам і спадзяецца, што той возьме яе за жонку.

І Пшыкуп стаў дагаджаць фрыцу. Адкарміў яго, адпаіў і зяцем сваім зрабіў. Дык гэты зяцёк тыдняў два нешта, як у мяду, плаваў у Пшыкуповай лагодзе, а пасля павёз маладую жонку ў Германію. Ехала кампанія. Напіліся і нажэрліся, чаго Пшыкуп даў на дарогу, а пасля загаўкалі сваю песню і сапхнулі Пшыкупоўну з поезда пад мост.

Неўзабаве водпуск яго скончыўся, і ён вярнуўся і сказаў, што маладая жонка ўжо ў Германіі. Пшыкуп рад, а фрыц таксама рад, што стаў «чалавекам» — пасыцеў на Пшыкуповым хлебе, аж блішчаць стаў.

Тут мы ў адну ціхую ночку наскочылі атрадам, і камендант толькі ойкнуў, і канцы. Паліцэйскія таксама. А фрыца і старасту Пшыкупа жывымі ўзялі. У нас у атрадзе мы яму сказалі, што ведаем, як яго дачка жыве ў Германіі. У адзін момант ён узненавідзеў фрыца і выў, як сука. Як сука, ён і здох разам са сваім фрыцам ад нашай кулі.

## ПОДЗВІГ ЦІХАГА ЧАЛАВЕКА

Усё тут было роднае і з маленства знаёмае. Цешылі вока хвойныя лясы на ўзгорках, у лагчынах паміж лясоў цяклі рэчкі і ўліваліся ў Днепр. На ўрадлівым полі густа стаялі сёлы. У гэтай прыгожай мясцовасці, на беларускай Магілёўшчыне, гэты чалавек радзіўся і вырас. Прозвішча яго было Манетаў. Ён быў калгаснік. Гэта быў просты беларускі чалавек, які любіў з маленства сваю родную зямлю і сваю радзіму. Шчырая душа, чалавечае глыбокае сумленне, спакойная працавітасць — былі яго натурай. Здавалася заўсёды, што ён вельмі ціхі.

Сонечнымі раніцамі знаёмыя лясы асвятляліся сонцам, палявыя прасторы ляжалі ў золаце. Сонца ўсходзіла і заходзіла, усё было быццам бы як і заўсёды раней, але чалавек жыў, як у магіле. На мастах цераз рэкі стаялі нямецкія часавыя, у мястэчках на шыбеніцах віселі трупы замучаных людзей, у сёлах панавала цішыня, людзі баяліся паказвацца на шырокім свеце. Жыццё стала прыдушаным, абязвечаным. Па ўсёй мясцовасці распраўляўся з людзьмі нямецкі карны атрад. І ў той жа час, то ў адным кутку, то ў другім, то на дарогах, то ў мястэчках і сёлах з'яўляўся грозны для немцаў і няўлоўны партызанскі атрад. Ляцелі пад адкос нямецкія паязды, узрываліся на дарогах грузавыя машыны. Кожны дзень на месцы руху нямецкіх часцей аставаліся новыя трупы акупантаў.

За нядоўгі час было налічана на дарогах 233 нямецкія трупы.

І вось з'явіўся новы карны атрад. Яму было даручана напасці на след партызанскага атрада і разграміць яго. К партызанам пацягнуліся жанчыны і падросткі: гэта насельніцтва папярэджвала атрад аб небяспецы. І атрад падрыхтаваўся спаткацца з ворагам.

Спатканне гэтае адбылося праз некалькі дзён пасля з'яўлення карнага атрада. Звыш сарака мёртвых немцаў асталося ляжаць на месцы бою. Карны атрад ледзьве паспеў уцячы ад тых, каго хацеў знішчыць.

У партызанскім атрадзе асталося некалькі чалавек раненых. Іх трэба было лячыць, іх трэба было пакласці ў цяпле і спакоі. І вось камандзір атрада выбраў дзеля гэтага хату заўсёды ціхага і мала каму дзе знаёмага калгасніка Манетава.

— Ты сам ведаеш, што трэба,— сказаў Манетаву ка-

мандзір.— Людзей трэба вылечыць. Ім трэба спакой. А ты такі чалавек, што на цябе мала хто падумае.

— Ведаю,— ціха кіўнуў галавой Манетаў.

У той жа дзень, як сцямнела на ноч, раненых даставілі да Манетава ў хату.

Усё было ціха, як і заўсёды цяпер у сяле. Ніхто не запальваў агню, людзі спалі трывожна і чула. Ноч прайшла без кепскіх прыгод. Пачаўся дзень. І дзень пачаў праходзіць быццам бы ціха. Раптам у сяло прыехалі немцы. Нейкім парадкам яны пранюхалі, што недзе тут ляжаць раненыя партызаны. Як толькі нямецкія грузавікі чутны сталі на сяле, Манетаў перавёў раненых у svіран, цёмны і стары, а сам, ціхі і як заўсёды незаўважны, астаўся ў хаце чакаць. Яго мучыў смутак ад таго, што так цяжка прыйшлося жыць, што ён не гаспадар у сваёй хаце, што па яго душу могуць з'явіцца каты.

І яны прыйшлі. Увайшоўшы ў хату, нямецкі афіцэр адразу стараўся ўзяць Манетава словам:

— Ты скажы, дзе партызаны. І будзеш тады спакойна жыць.

Спакойна жыць? Які ж можа быць спакой чалавеку, калі на яго роднай зямлі, над яго душой будзе вісець крукам чужынец, самазваны гаспадар?

— Я не ведаю, дзе партызаны,— ціха адказаў Манетаў.

— Дык ты зараз будзеш ведаць! — крыкнуў афіцэр і даў Манетаву кулаком у твар.

— Адкуль жа я магу ведаць,— страсянуўся Манетаў,— калі мне ніхто не сказаў.

— Табе зараз будзе смерць!

— Дык хіба смерць можа што-небудзь зрабіць, калі я не ведаю?!

— Табе жыць асталася адна хвіліна!

— Няхай сабе хоць і паўхвіліны, адкуль жа я магу ведаць, дзе партызаны?

Афіцэр закалаціўся, запырскаў слінаю і прыпёр рулю рэвальвера да грудзей Манетава.

— Прыйшла твая смерць! Але калі скажаш, дзе партызаны, будзеш жыць.

Манетаў хацеў адшатнуцца ўбок ад рэвальвера.

— Стой! — закрычаў афіцэр.

Манетаў уздыхнуў і сказаў:

— Сволач ты нямецкая, няўжо ты думаеш, што ўсіх нас перастраляеш? Скора цябе самога будуць тачыць чэрві.

Немец стрэліў, і Манетаў упаў мёртвы, гэты ціхі, спакойны чалавек. Ён стаў народным героем таксама ціха і незаўважна. З такіх людзей складаецца гераічны беларускі народ. Сваім подзвігам Манетаў выратаваў раненых партызан, і яго вялікае імя навекі асталося жыць у народзе.

Пасля вайны і нашай перамогі мы назавем і тых партызан, і тое сяло ў Магілёўскай вобласці, дзе ўсё гэта нядаўна адбылося.

# БЕЛАРУСКАЕ МАСТАЦТВА Ў ЧАСЕ ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ

Яшчэ ў даўнія часы было сказана: мастацтва — душа народа. Беларускае народнае мастацтва заўсёды здзіўляе яго знаўцаў — вялікай сваёй глыбінёй і шчырасцю. Беларуская народная песня, якая праз стагоддзі нараджалася, бытавала і развівалася ў самых глыбокіх народных нетрах, і ў народным быту была часта як першапачатковы прымітыў, мела ў сабе такія найвялікшыя магчымасці і патэнцыі, на аснове якіх з вялікай сілай і за вельмі кароткі час <нрз> вышэйшыя формы беларускай музыкі.

Пачатак гэтай пары належыць да першых год рэвалюцыі. За гады Савецкай улады ў Беларусі стварылася і атрымала высокае прызнанне шырока за межамі рэспублікі беларуская опера, беларуская філармонія. Была створана і выхоўвала дзеячаў беларускай музыкі Беларуская кансерваторыя. Музычны геній беларускага народа атрымаў <закр.>, выйшаў на прасторы вялікіх сваіх магчымасцей і выявіўся з новай сілай.

Усе галіны беларускага мастацтва дайшлі да высокіх ступеней свайго развіцця. Беларускі жывапіс і беларуская скульптура займалі пачэсныя месцы на мастацкіх выстаўках і ў мастацкіх музеях Савецкага Саюза і заўсёды мелі высокую ацэнку. Беларускія драматычныя тэатры стаялі ў першым радзе тэатраў драмы Савецкага Саюза. Беларуская драматургія вызначалася сваімі сапраўды народнымі чалавечымі характарамі і атрымала поўнае прызнанне і высокія ацэнкі на ўсесаюзных конкурсах і ў самых лепшых тэатрах Савецкага Саюза.

І вось цяпер беларускія тэатры ляжаць у руінах. Майстэрні беларускіх скульптараў і жывапісцаў разбураны, і мастацкія працы, якія былі ў іх, апаскуджаны або раскрадзены гітлераўскімі вандаламі. Беларуская песня змоўкла. Па беларускай зямлі ходзяць нямецкія дзікуны.

Беларускі народ падняўся на сваё вялікае змаганне за сваё жыццё, за сваю радасць, за свой лёс. І тыя людзі, якія больш, як хто, бачылі і чулі глыбокую душу свайго роднага беларускага народа — работнікі беларускага мастацтва, не маглі не астацца вернымі свайму народу ў часіну яго горкага выпрабавання. Работнікі беларускага мастацтва растаться з народам і разам з ім, як гарачыя патрыёты радзімы і змагары за яе, пайшлі супраць ненавіснага ворага.

У беларускім мастацтве за час вайны з новай сілай загучэлі матывы бязмежнага замілавання да радзімы і страшнай сваёй сілай нянавісці да яе прыгнятальнікаў — нямецкіх акупантаў. Работнікі беларускага мастацтва з першых жа дзён вайны дзейна ўключыліся ў змаганне за шчасце радзімы. Частка з іх знаходзіцца непасрэдна ў Чырвонай Арміі, на фронце, частка ў тыле працуе над новымі творамі і над далейшым развіццём беларускага мастацтва.

На фронце, сярод байцоў і камандзіраў, працуе ўвесь час мастацкая брыгада — франтавы ансамбль беларускай песні і пляскі пад кіраўніцтвам т. Прагіна. Артысты жывуць баявым франтавым жыццём. У перапынках паміж баямі і на блізкіх адлегласцях ад фронту ансамбль выступае перад байцамі. Выконваюцца беларускія народныя песні і новыя баявыя песні, створаныя ў ваенны час беларускімі кампазітарамі і паэтамі.

Беларускія кампазітары нястомна працуюць над новымі творамі. Кампазітар Я. Цікоцкі напісаў многа песень, сваім зместам прысвечаных геройству Чырвонай Арміі і народа ў змаганні з ворагам. Напісаны песні на словы беларускіх паэтаў — П. Броўкі, А. Астрэйкі, М. Машары, Я. Коласа. Цяпер Я. Цікоцкі разам з паэтам П. Броўкам працуюць над операй. Кампазітар пачаў пісаць ужо музыку першага акта. Змест оперы — гераізм народа ў Вялікай Айчыннай вайне.

Кампазітар Багатыроў напісаў шмат патрыятычных песень і рыхтуецца да працы над операй.

Ужо ў поўным складзе сабраўся ў г. Горкім Беларускі ордэна Леніна дзяржаўны тэатр оперы і балета і пачаў сваю працу. Тэатр рыхтуе новыя пастаноўкі і аднаўляе свае ранейшыя лепшыя спектаклі.

Народная артыстка БССР Л. Александроўская ўвесь час выступае на канцэртах і радыёканцэртах з выкананнем беларускіх песень і сольных нумароў з беларускіх опер. У другой палове красавіка месяца адбыўся ў Маскве вялікі радыёканцэрт беларускай песні і музыкі. Горда і магутна гучэла ў выкананні народных і заслужаных артыстаў БССР музычнае мастацтва беларускага народа — народа непакорнага і непакоранага ворагам, народа-героя, песня і музыка якога зараз прагучыць гімнам канчатковай перамогі і вызвалення.

Кампазітар І. Любан, будучы многа месяцаў на самых перадавых лініях фронту як камандзір, у самай баявой абстаноўцы напісаў новыя баявыя песні, якія сталі да-

стаяннем байцоў-франтавікоў. Гэта характэрна для нашага мастацтва, якое заўсёды было сапраўды народным у самым лепшым сэнсе гэтага слова. Народная артыстка БССР Млодэк і заслужаны артыст БССР Мурамцаў удзельнічаюць у радыёканцэртах як выдатныя беларускія салісты.

18-га мая адбудзецца ў Маскве вялікі канцэрт беларускай песні і музыкі. Яшчэ і яшчэ загучыць беларускае музычнае мастацтва, як паказнік таго, што створаныя народам яго нацыянальныя духоўныя багацці не могуць ніколі загінуць, якія б выпрабаванні ні выпадалі на долю народа. Бо народ жыве вечна, таксама як асуджан на пагібель кожны, хто пасягае калі-небудзь на жыццё і шчасце свабодалюбівых народаў.

У поўным сваім складзе эвакуіраваны ў глыб краіны і вядуць сваю творчую працу беларускія драматычныя тэатры. Першы Беларускі ордэна Працоўнага Сцягу дзяржаўны драматычны тэатр працуе ў г. Томску. Тэатр стварыў некалькі новых спектакляў, працуе над новымі пастаноўкамі. Другі Беларускі дзяржаўны драматычны тэатр працуе ў г. Уральску. Тэатр аднавіў некаторыя свае ранейшыя пастаноўкі і стварыў новыя спектаклі. Абодва гэтыя тэатры карыстаюцца вялікім поспехам у гледача.

Для драматычных тэатраў пішуць новыя п'есы на тэмы аб Вялікай Айчыннай вайне беларускія драматургі К. Крапіва і К. Чорны.

Усе беларускія тэатры дзейна рыхтуюцца да моманту свайго звароту ў вызваленую ад нямецкіх акупантаў Беларусь. Тэатры прыедуць з новымі спектаклямі.

Асобна трэба сказаць аб творчай рабоце беларускіх скульптараў. Скульптары З. Азгур і Грубэ працуюць над серыяй партрэтаў герояў Айчыннай вайны.

Як жыве і змагаецца вялікі і гераічны беларускі народ, так жыве і яго мастацтва. Работнікі беларускага мастацтва асталіся вернымі народу і ўсе сілы і таленты свае аддаюць радзіме. І разам з народам яны неўзабаве будуць мець ясную радасць перамогі і вызвалення.

Няхай жа хутчэй загучыць на роднай Беларускай зямлі ўрачысты гімн народнай радасці, свабоды і шчасця.

# БЕРЛІНСКІ АНУЧНІК

Мінулым летам і ўвосень ваяўнічыя фрыцы здзіралі з плеч беларускіх дзяўчат плацці і «арганізоўвалі» пасылкі сваім мартам. Шчаслівыя марты змылі з «заваёваных» плаццяў кроў замучаных беларускіх дзяўчат і выфранціліся ў здабыткі гітлераўскай «місіі на ўсходзе». Зімою сумныя марты начапілі чорныя павязкі на рукавы «трафейных» плаццяў і аддаліся жалобе па сваіх фрыцах, якія з вялікім поспехам заваявалі сабе кожны па тры аршыны беларускай зямлі. Яшчэ не паспелі чэрві патачыць іх у магілах, як міністр гаспадаркі Германіі Функ нядаўна апублікаваў адозву наконт збору старой адзежы сярод германскага насельніцтва.

«Усё больш працоўных,— гаворыць ён у адозве,— змяньваюць молат на вінтоўку і плуг на зброю. Іх рабочае месца занялі мужчыны і жанчыны, і яны маюць патрэбу ў адзежы... Здавайце адзежу, якую яшчэ можна насіць».

Коратка і ясна. На савецкім фронце фрыцы ляглі касцьмі. На іх месца фюрэр паслаў новых на трохаршынныя зямельныя заваёвы, зняўшы іх з фабрык. На месца гэтых на работу пастаўлены новыя, без адзежы і без хлеба, але затое з багатымі надзеямі пайсці скора на новую замену на фронце. А тых, што заменяць гэтых на фабрыках, у якія анучы адзене іх спрактыкаваны Функ?

Па ўсёй Германіі цяпер ідзе збор старызны, каб прыадзець даведзеных Гітлерам да жабрацтва нямецкіх рабочых людзей. Затое Гітлер прысвоіў сабе раскошныя палацы і маёнткі, а Герынг нажыў на вайне мільёны і ванну ў сваіх палацах вылажыў залатымі пліткамі. І колькі б Функ ні збіраўануч, ён імі не заткне дзірак у струхлелых сценах гітлераўскай Германіі, якія трашчаць і расшатваюцца з кожным днём усё больш і больш ад таго, што Чырвоная Армія ўсё больш і больш кладзе на фронце фрыцаў.

# ЦУДОЎНАЯ ПЕДАГОГІКА

Жонкі і маці гітлераўскіх фрыцаў вельмі ахвотна блаславілі сваіх мужоў і сыноў на ваяўнічы паход супраць народаў. Гэтыя «жапочыя душы» нават і не спрабавалі задумацца над тым, што ёсць на свеце французская, чэшская, беларуская і ўкраінская жанчына — сястра свайго брата, маці сваіх дзяцей. Для гітлераўскай немкі гэта былі і не жанчыны, і не дзеці, а нейкая туманная для яе разуменняў «ніжэйшая раса». На рабскай працы невядомай ёй беларускай ці чэшскай жанчыны гэтая немка думала гадаваць сваіх дзяцей, любіць, як умее, свайго фрыца і піць асалоду германскай сытасці.

Яна аставалася глухой да стогнаў і енкаў нашых дзяцей, якіх яе фрыц кідаў жывымі ў агонь. Яна не хацела бачыць ні з чым непараўнанага гора беларускай і ўкраінскай жанчыны, калі яна, пракаланая фрыцавымі штыхамі, умірала над трупамі сваіх дзяцей. Немка франціла ў плаццях, садраных фрыцамі з плеч замучаных нашых жанчын.

Што такое вайна — яна не ведала. Вайна адбывалася на чужой для яе зямлі, дзе чужыя ёй «ніжэйшыя» людзі.

На другім месяцы вайны з СССР яна пісала свайму фрыцу на фронт: «Падумаць толькі, што робіць нямецкая зброя! Слава і гонар!»

Мы памятаем той месяц на беларускай зямлі. Яшчэ дыміліся ў агні руіны разбамбёнага і спаленага фрыцамі Мінска. Яшчэ палаў агнём Гомель. Яшчэ на беларускіх дарогах ляжалі непахаванымі натоўпы бежанцаў, перастраляных з самалётаў фрыцамі дзеля вясёлай забавы.

Зімой, калі фрыц пакінуў слаць пасылкі з «трафейнымі» туфлямі і калі Германія да адказу напхалася бязногімі і бязрукімі «заваёўнікамі СССР», у немкі прачнулася трывога. Яна напісала фрыцу: «Калі ж ты, нарэшце, вернешся дадому?»

Але фрыц не вярнуўся. На яго месца паслалі другога. Лёг і гэты. Гітлер пачаў выскрабаць старых і малых. Трывога ў немкі павялічылася, але розум і пачуццё асталіся тыя самыя.

Цяпер ад англійскіх бамбардыровак Кёльн і Эсэн лажацца ў руіны і гараць агнём. Вайна прыйшла ў самую Германію ўпершыню за гэты час. Сваімі вачыма гітлераўская немка ўбачыла, што значаць бомбы над яе горадам.

Як сука, падтуліўшы хвост, яна пабегла з сваімі дзецьмі. Яна пазнае, што такое бежанства, што такое бяздомнасць.

Гітлераўскі кат Гейдрых ляжыць прутам ад кулі чэшскага патрыёта. Польскі народ, пра якога гітлераўская газета пісала, што «ён не мае права мець жыццёвы ўзровень, роўны палавіне нямецкага», зброяй паказвае немцам сваё сапраўднае права. Англічане штодзень крышаць нямецкія прамысловыя гарады авіябомбамі. Чырвоная Армія гатова да апошняга ўдару нямецкаму гадаўю. Амерыка гатова для яшчэ большых удараў, якія нядаўна зрабіла Англія.

Калі вызваленыя народы ў скорым часе вынесуць справядлівы і бязлітасны прысуд Гітлеру і яго бандзе, немка да таго моманту яшчэ больш што пазнае і яшчэ большае адчуе. Мазгі яе тады стануць на месца. У яе з'явіцца і сапраўднае чалавечае пачуццё. Яна будзе рваць на сабе валасы і праклінаць сваю ранейшую бесчалавечнасць.

Ёсць усякія спосабы выхавання. Ёсць слова. Але ёсць авіябомба і гармата. Для сапсаваных Гітлерам немцаў — гэта найцудоўнейшая педагогіка.

# ДУБОВАЯ ГАЛАВА І САБАЧАЯ НАТУРА

Збіраючы нямецкую моладзь у банды для нападу на нашу радзіму, Гітлер сказаў:

— Наша моладзь павінна быць гнуткай не розумам, а целам.

Калі, такім парадкам, у нямецкай моладзі Гітлер адбіў розум, Гімлер сказаў:

— Прадстаўнік германскай моладзі павінен быць адданы фюрэру, як сабака.

Калі, такім парадкам, маладыя немцы сталі сабакамі, Гебельс сказаў:

— Нямецкі хлопец павінен быць стройны, як дуб. Ён не павінен думаць. Ваяўнічы дух павінен ап'яняць яго мазгі, як маладое віно.

Пасля гэтага нямецкі дуб, без розуму і п'яны ад ваяўнічага духу, рушыў у паход. Але тут дуб спаткаўся з людзьмі, якія і думаюць, і ведаюць, што такое чалавек і што такое сабака. І раптам нямецкі дуб працверазіўся. З таго часу яго мазгі пачалі падпойваць ужо не маладым віном ваяўнічага духу, а старым саракаградусным шнапсам. І дубы пачалі хадзіць у атаку п'яныя ўдрызг.

Аднак жа камандзір СС брыгады Фегелен, напалоханы тым, што палавіна яго дубовых салдат адубела ў Пінскіх балотах пад кулямі беларускіх партызан, напісаў слязлівае данясенне свайму начальніку:

«Захоп і знішчэнне гэтых найдрабнейшых партызанскіх груп з'яўляецца немагчымым».

А генерал Роквес паслаў шырэйшае данясенне вышэйшаму камандаванню, у якім ныў, што:

«У асобе партызан мы сустрэлі вельмі дзейнага, рухавага і рашучага праціўніка, які выдатна ўмее карыстацца мясцовасцю і, дзейнічаючы ў сваёй уласнай краіне, падтрымліваецца насельніцтвам. Мы павінны навучыцца такой жа спрытнасці і рухавасці, якімі ўладаюць партызаны...»

Прыемна чытаць гэтае данясенне нямецкага генерала Роквеса аб тым, што беларускія партызаны не даюць яму спакою і што ён марыць хоць каб як-небудзь падвучыцца ў партызан ваяваць. У такой жа меры прыемна бачыць, што нашы балоты ўсцілаюцца нямецкім дуб'ём.

Пакуль гэтыя данясенні дайшлі да вышэйшага нямецкага камандавання, яны апынуліся ў руках партызан, ра-

зам з нямецкім штабам. У гэтай сваёй новай аперацыі партызаны, як людзі гнуткія і розумам і сілай, добрасумленна пацвердзілі данясенне генерала Роквеса, што яны не даюць немцам спакою. Што праўда, тое праўда. Супраць фактаў не пойдзеш. Нямецкага ап'яненне ваяўнічым духам занадта мала перад цвярозым ваяўнічым духам савецкіх людзей, якія любяць сваю Радзіму, як людзі, тады калі нямецкія зграі навучаны быць адданымі Гітлеру, як сабакі.

Нездарма Гімлер з скуры вылазіў, каб укласці ў нямецкага салдата сабачую натуру. Сабачае сумленне памагае нямецкаму салдату грабіць і забіваць жанчын і дзяцей. Сабачая рухавасць языка памагае Гебельсу весці сваю прапаганду. Нямецкія загады і паведамленні можна ўпусціць у адно вуха і тут жа выпусціць праз другое, і ад гэтага яшчэ большая карысць будзе.

У Сіроцінскім раёне на Віцебшчыне немцы навывешвалі многа загадаў і паведамленняў. У адной такой паперцы напісана, што савецкія войскі ўсе як ёсць знішчаны і партызаны ўсе пераловлены. А ў другой паперцы, тут жа побач з гэтай, загад аб тым, каб усе, хто толькі там жыве, памагалі немцам лавіць і знішчаць партызан.

Як усяму свету вядома, сабака брэша не думаючы. Нямецкаму салдату загадана быць верным фюрэру, як сабака, і, барані божа, каб не думаць. Гебельс брэша не думаючы. Не думаючы, нямецкія каменданты пішуць і вывешваюць свае загады. Бо каб сіроцінскі камендант думаў, ён ведаў бы, што няма ніякай патрэбы лавіць партызан, калі яны даўно, як ён кажа, пераловлены. Але дзе ўжо яму думаць, калі ён дрыжыць ад страху.

Затое нашы людзі думаюць. Яны ведаюць цану і нямецкаму загаду, і яго аўтару. Цана яму грош, таксама як і яго загаду, як яго дубовай галаве, як яго сабачай натуры. Яго галава пачынае думаць толькі тады, калі ён здыхае ад партызанскай кулі нашага чалавека. Такім парадкам да кожнага немца ў нашай зямлі рана ці позна з'яўляецца патрэба падумаць, але думаць тады яму ўжо занадта позна. Таксама як позна нямецкаму генералу Роквесу прыйшла ў галаву думка навучыцца ваяваць у нашых партызан.

У чалавека можа вучыцца толькі чалавек. Дубіна ж з сабачай натурай праходзіць навуку ў Гітлера, Гімлера і Гебельса.

## ШТО ПАСЕЕШ — ТОЕ І ПАЖНЕШ

Абармот і злодзей стараецца жаць там, дзе ён не сеяў. А фрыц — дык той яшчэ танчэй удасканаліў гэтыя абармоцкія замашкі: ён хоча жаць там, дзе ён усё спаліў.

У Віцебску немцы прапануюць абрабленаму насельніцтву арандаваць у іх пад гароды віцебскія пажарышчы. Аб гэтым даводзіць да ведама віцеблян фашысцкі «сельскагаспадарчы лісток».

«Гарадская ўправа прапануе ў арэнду пад гароды ўчасткі на пажарышчах. Гэта вельмі добрая справа».

Дзіва што добрая! Прыцягнууўся, спаліў табе хату і бярэ за горла: арандуй у мяне месца, дзе стаяла твая хата.

А далей тлумачыць, чаму трэба віцеблянам арандаваць пад гароды свае пажарышчы:

«Вельмі востра стаіць пытанне, як жа забяспечыць сябе хоць бы самымі неабходнымі прадуктамі, каб захаваць жыццё... Спадзявацца, што германскае камандаванне забяспечыць насельніцтва прадуктамі, трэба менш за ўсё».

Можна сабе ўявіць, да чаго давялі фашысты віцеблян, калі нават самі яны вымушаны пісаць, што трэба думаць, як бы захаваць ад голаду жыццё.

Вядома, не аб «захаванні жыцця» тут ідзе гаворка. Немец «ахоўвае» жыццё віцеблян на шыбеніцах. Там гэтае жыццё задушана вяроўкай. Ён хоча пажаць на пажарышчах і зжэрці. Бо той жа лісток тут жа, побач друкуе такі зварот:

«Давядзіце здачай як магчыма большай колькасці малака, што вы добра ўяўляеце сабе свае задачы і заслугоўваеце назвы свабодных людзей».

Дзіва што ўявіць сабе свае задачы такі «свабодны чалавек». Ён сабе іх і ўявіў. Свабодны ад дома, ад хлеба, ад свабоды чалавек вырашэннем сваіх задач і займаецца. І ад гэтага фрыцаўская морда дрыжыць і азіраецца, каб не спаткацца з партызанам.

Цяжка прахвосту жаць там, дзе ён паліў. І яшчэ цяжэй яму будзе дацягнуць ногі туды, адкуль ён прыцягнууўся.

# ЗЯМЕЛЬНЫ НАДЗЕЛ ДУРНОГА БАДЗІЛЮКА

Быў у нас такі Раман Бадзілюк, няхай яму зямля будзе... як бы вам сказаць... не то што пухам, а... а як ён сам таго заслужыў. Адным словам, гэты Бадзілюк пайшоў немцу служыць за паліцэйскага. І верна служыў, як сабака, ліха яму.

Ну добра. Стаю я раз на дарозе, аж бачу — Бадзілюк конна едзе з воласці, ды яшчэ і падпіўшы ў добрую меру. Папстрыквае сабе вусам, патрэсае лыткамі і сам сабе ўсміхаецца. Што за чорт, думаю, чаго гэты дурань такі вясёлы?

— Пане Бадзілюк! — крычу яму насустрач, а сам у кішэні наган мацаю.

— Што ж гэта ты мяне панам завеш,— вышчарыў зубы Бадзілюк.— Я ж з тваім сынам бадай што аднагодак.

— Мала што,— адказваю я.— Але мой сын просты чалавек, а вы, пане Бадзілюк, сталі нямецкім паліцэйскім.

Бачу — дурному Бадзілюку спадабалася. Засмяяўся.

— Гэта я хачу запытацца ў вашай Бадзілюковай ласкі, што з зямлёю. Чыя яна — наша ці нямецкая?

Вядома, Бадзілюк! Нават і не бачыць, што я насміхаюся з яго. Падправіў вус і пачаў тлумачыць:

— Вы ўсе дурні. Зямлі вы не ўбачыце, як свайго вуха. Не ідзяце служыць. А пра цябе нават чуткі пайшлі, што ты больш недзе ходзіш, як дома сядзіш. Якая ж табе зямля можа быць?

— А вы, пане Бадзілюк, служыце, а зямлі таксама вам не надзялілі,— падштурхнуў я яго на пахвальбу.

— Як не! Пяць гектараў мне далі. Я папрасіў, каб яшчэ два накінуў — дык ён мне тры. От я цяпер і еду ад гэтай справы з воласці.

— Бо вы верна служыце. К таму ж немцу не цяжка было зямлю табе даць. Ды што немец. Нават я магу. Унь бачыш лес. Дык я табе яго аддаю. Бяры яго сабе.

— А што ты такі за начальнік, каб лясы раздаваць? Но!

— Тпр-р! Хлопцы — сюды!

Цімох з Паўлюком выскачылі з кустоў. Праз адну хвіліну мы з Паўлюком глядзелі, як Бадзілюк, са страхам азіраючыся на Цімоха, валокся ў падараваны мной яму лес па новую надбаўку зямлі да свайго надзела.

# БАНДЫЦКАМУ ФЮРЭРУ, КРЫВАВАМУ ЛЮДАЕДУ, СУСВЕТНАМУ АБАРМОТУ І ПРАХВОСТУ, ДУРНОМУ АДОЛЬФУ ГІТЛЕРУ — ПІШУЦЬ БЕЛАРУСКІЯ ПАРТЫЗАНЫ З АТРАДА БАЦЬКІ МІНАЯ

Слухай! Ты! Які гэта чорт паддаў табе ахвоты шукаць сваё згубы на нашай зямлі? Сядзеў бы ты сабе ў сваім берлінскім логавішчы і смуродзіў бы сабе ў сваёй Германіі. Дык не! Павяла цябе твая бандыцкая натура сюды. З свайго фашысцкага свінуха палез ты ў наш зялёны агарод, нават тупога лыча не абскробшы. І ўся твая сабачня перла сюды на злом галавы, як бы яе ззаду пярун гнаў. І ўскочыў ты, сукін сын, у такую калатушу, з якое — здохнеш, а капытоў не выцягнеш.

Берлінская ты свіння, цірольскі шчанюк, смярдзючы разнік, нямецкі асёл, абдрыпаны свінюк, і будзе табе скора каюк. Пляскатая тупіца, трыбухатая падла, пісклявы ты брахун і вялікі ты дурань. Бо каб ты хоць крыху быў разумнейшы, дык ты мог бы падумаць, што не табе зачэпацца з намі.

Не такіх у нас бачылі і галаву ім мылілі. А ты думаў, што ў нас не знойдзецца сілы, каб расквасіць тваю тупую віславухую даўбешку? Хіба дрэнна табе пад Масквой нашы растаўклі нюхаўку?

Ці доўга ты яшчэ будзеш аціраццa па нашых вёсках і гарадах? Вядома, няма ўжо табе іншай рады, як перціся на ражон. У цябе ж цяпер то хвост угразне, то нос увязне. Куды ні паткнешся, усюды цябе лупяць, як сукінага сына, а ты ўсё хвалішся, што бярэш верх. Быў у нас такі Савоська-канакрад. Бывала ўкрадзе каня, дык яго зловяць ды як накладуць па карку, дык ён два тыдні чухаецца, а на трэцім пачне выхваляцца, што вельмі ж назад адбіваўся добра. А нарэшце ён украў кабылу, і яму такіх плескачоў далі, што ён неўзабаве і свой канакрадскі дух спусціў. Вось так — выхваляўся, выхваляўся ды і здох.

Зараз так і з табой будзе. Так штурханем цябе з нашай зямлі, што ты сваіх смярдзючых костак не збярэш. Завыеш ты скора, як паганая сука,— і па сваёй змешанай з зямлёй фашысцкай сабачні, і па сваёй дубовай галаве. Скора ўвесь свет пачуе скрып жэрдкі пад тугой вяроўкай,

на якой будзеш вісець ты, гадзіна, крыважэрная морда, бандыцкі зладзюга і мюнхенскі сабакар.

Вось так мы табе сказалі пра самога цябе праўду, а больш не маем часу, бо па дарозе пруцца дзве роты тваёй задрыпанай брыдоты, і мы яе зараз паложым, як мае быць. Скажы Герынгу і Гебельсу, што ім таксама пара падумаць аб сваіх душах на тым свеце. Станьце вы ўсе ўтрох і пацалуйце адзін аднаму, куды трэба, і на гэтым на векі вечныя закончацца ўсе вашы справы. А ты пабольш выхваляйся, дык хутчэй здохнеш.

Пад дыктоўку 127 партызан запісаў

*Арцём Чамярыца*

## СЁМАЯ СКУРА

Раней справы ішлі не так. У беларусаў раней усяго было многа. З самага пачатку рабілася ўсё куды прасцей. Спаткае, напрыклад, хоць бы сабе мінулым летам, фрыц беларускую дзяўчыну ў шоўкавым плацці і ў дарагіх туфлях. І фрыц адразу камандуе:

— Давай сюды плацце! Давай туфлі!

Калі дзяўчына паспрабуе спрачацца, фрыц адразу страляе і здзірае плацце і туфлі з мёртвай дзяўчыны. Вось і гатова пасылка ў Германію.

Цяпер часы прыйшлі горшыя. З дзяўчыны туфель, а з старога чалавека кажуха не здзярэш, бо і кажухі, і туфлі даўно ўжо апынуліся ў Германіі. Ды, сказаць праўду, і здзіраць менш стала з каго. З таго, каго фрыцы застрэлілі або павесілі,— што ты з яго там лішняе здзярэш? А жывыя не вельмі чакаюць, каб фрыц здзіраў з іх вопратку разам з плячыма. Яны самі займаюцца здзіраннем з фрыцаў шапак разам з іх галовамі.

Так што часы прыйшлі горшыя. Здзіраць жывасілам няма чаго і менш стала з каго. А зусім не займацца гэтым зладзейскім рамяством фрыц не можа. Гэта ў яго ў крыві. Гітлеравец такі: пакуль сёмай скуры не здзярэ, то на пятай не спыніцца.

Дык вось нядаўна фрыц звярнуўся праз сваё радыё да насельніцтва акупіраванай ім нашай зямлі з тым, каб людзі мелі добрае сумленне і самі з сябе здзіралі ўжо сваю сёмую скуру і неслі яе яму.

«Мужчыны і жанчыны ўсходніх абласцей! Перагледзьце свае шафы. Абшукайце ўсе куткі вашых кватэр».

Бач, які спрактыкаваны гэты фрыц! Ведае, ліха яму, дзе можа ляжаць дабро ў чалавека.

«Шэрсць і баваўняныя або шоўкавыя матэрыі. Старыя покрыўкі, паношаныя польты і іншыя рэчы — павінны быць ахвяраваны для больш важных мэт».

Далікатна камандуе сваю просьбу наконт ахвяравання шэрсці і старога пальто: «павінны быць ахвяраваны». Бо калі не, дык... Яго крыклівая просьба: «перагледзьце свае шафы» гучыць як: «падлічыце свае галовы!»

«Вас просяць прынесці толькі маленькую ахвяру».

Сапраўды, маленькую! Наўрад ці хто знойдзецца такі, хто б думаў, што старое, разлезлае пальто вельмі ўжо вялікая ахвяра. Другая справа, што новае пальто даўно ўжо

здзёрта з чалавечых плеч. Але ж на гэта, умеючы, такса-ма льга знайсці апраўданне: тое пальто было першая скура, а старое — гэта ўжо сёмая скура. Ды і сама скура, калі яна сёмая,— якая там ужо скура! Гэта ўжо не скура, а адзін толькі дых, ды і той на ладан. Так, мусіць, думаў немец, калі ён праз радыё камандаваў добраахвотна пры-носіць яму шэрсць, шоўк і старызну. Змучаны і абдзёрты чалавек, думаў фрыц, можа спалохаецца і панясе.

Фрыц добра ўяўляе сабе, што яго справы дрэнныя. У шафе вісіць старое пальто, а сам чалавек з кулямётам падпольноўвае немцаў. Так што, калі фрыц не нажорся новым шоўкам, то не наліжацца і разлезлай старызнай.

Калі злодзей улез у чужую хату і сядзіць у ёй, то рана ці позна яму будзе, як кажа той фрыц, капут.

## НЕ ВЕР ВУШАМ СВАІМ

Ёсць такія простыя людзі, якія думаюць, што калі хто памёр, дык той нежывы, мёртвы; або калі фрыцы каго павесілі, дык той чалавек ужо не жыве на свеце. Прызнацца, я і сам так заўсёды думаў. Думалася, што калі нямецкі афіцэр у горадзе Петрыкаве вырваў у настаўніцы Кустановіч з рук дзіця і кінуў яго жывое ў агонь, дык таго паганага гітлераўца трэба сцерці з твару зямлі. Беларусы ненавідзяць немцаў. Гэтае сваё нефрыцалюбнае пачуццё яны апраўдваюць тым, што немцы папялілі і паўзрывалі беларускія гарады, расстралялі сотні тысяч беларускіх жанчын і дзяцей, скрывавілі беларускай крывёю беларускую зямлю.

Простыя, наіўныя людзі. Так і відаць адразу, што яны прывыклі верыць сваім вачам і вушам. Што бачаць — у тое і вераць. Фрыцы — дык тыя зусім інакш. Берлінская радыёстанцыя зусім не так думае. Гэтымі днямі яна паведамляла, што таўстазады фрыц з вышчаранаю мордаю — гэта вельмі далікатнае і цудоўнае стварэнне, якога трэба любіць самымі ўзвышанымі пачуццямі, бо «немцы прыйшлі ў Беларусь, каб навесці ў ёй парадак».

А што вы думаеце. Хіба гэта быў парадак, калі людзі жылі сабе, як людзі, елі свой хлеб, будавалі сабе новыя дамы, садзілі сады, вучылі сваіх дзяцей у інстытутах і універсітэтах? Які гэта парадак. Вось гэта парадак, калі на месцы дома вецер круціць попел, а маці з дзецьмі валяецца пры дарозе, прабітая нямецкімі кулямі.

«Як самастойная палітычная адзінка Беларусь не існуе. Там прыйшлося ўвесці нямецкае ўпраўленне».

Прыходзіцца паверыць берлінскай радыёстанцыі. Сапраўды, на Беларусі немцы ўвялі сваё нямецкае ўпраўленне, з вісельнямі, з расстрэламі. І сапраўды, хочуць, каб Беларусь, як самастойная палітычная адзінка, не існавала. Яны задушылі Беларускую рэспубліку, але не задушылі і не задушаць беларускі народ, якога яны баяцца.

Берлінская радыёстанцыя гаворыць:

«Важнай праблемай з'яўляецца пытанне аб жывёлагадоўлі, бо пагалоўе жывёлы ў Беларусі вельмі зменшылася».

Чыстая праўда. Калі фрыц выведзе з хлява апошнюю карову, то якое ўжо там к чорту ў тым хляве пагалоўе! Праўда, па Беларусі цяпер валочыцца пагалоўе нямецкай

двуногай жывёлы, але з яе, як той казаў, ні шэрсці, ні малака. Гэтае пагалоўе само стараецца, дзе толькі можа настрыгчы шэрсць і здзерці сем скур. Дзеля гэтага яно і навалаклося на Беларусь.

Далей берлінская радыёстанцыя гаворыць: «Беларусы не маюць ініцыятывы. Таму немцам прыходзіцца рабіць усё самім».

Сапраўды, якія безыніцыятыўныя беларусы! Не падстаўляюць пад нямецкую вяроўку сваіх галоў. Больш таго, на Беларусі немцы дрыжаць за свае галовы. Так што тут беларуская ініцыятыва ёсць, але яна ідзе не ў той бок, у які хацелі б немцы.

«Немцы вымушаны клапаціцца і аб падняцці культурнага ўзроўню беларусаў».

От жа бог даў клопату гэтым фрыцам. Пранёс Гітлер «культуру» вісельнай вяроўкі па Еўропе. Прынёс і ў Беларусь. А беларусы працівяцца гэтаму фрыцаўскаму «культурнаму ўзроўню». Не хочуць фрыцаўскай «культуры», і канец. Вядома, як кажа ў сваёй «гутарцы аб Беларусі» тая берлінская радыёстанцыя,— цёмныя беларусы. Прывыклі верыць сваім вачам, калі бачаць немца над сваёй душою. Больш таго, маюць яшчэ прывычку пускаць пад адкос нямецкія паязды. Таму берлінская радыёстанцыя і вылазіць са скуры, каб навучыць беларусаў не верыць сваім вачам. І гэтае нямецкае навучанне ператвараецца фактамі жыцця ў заклік для кожнага беларуса: не вер вушам сваім, калі брэша берлінскае радыё.

# ГАЎЛЯЙТАР І ЯГО ПАДЛІЗНІКІ

Якое цудоўнае слова «гаўляйтар»! Для беларускага вуха гэта не слова, а «музыка». Гэтае слова абазначае чыноўны тытул таго самага Вільгельма Кубэ, якога Гітлер назначыў генеральным камісарам Беларусі. Гэты гаўляйтар прыехаў на Беларусь пхаць у сваё шырознае нямецкае горла беларускі хлеб і душыць беларусаў вісельнай вяроўкай. Кажуць, што ў гэтага гаўляйтара, з таго часу, калі ён з'явіўся на Беларусь, здорава патаўсцела морда. Так што таўстаморды Кубэ з гаўляйтарскім чынам на Беларусі — важная персона.

Каля гэтай персоны круціцца кампанія гаўляйтарскіх падлізнікаў. Гэта мясцовая драбяза, якая хоча толькі аднаго: падбіраць абсліненыя гаўляйтарам крошкі, якія падаюць з гаўляйтарскага стала. Гэта ўсялякія казлоўскія, адамовічы, ксяндзы гадлеўскія, станкевічы. Яны слова «гаўляйтар» з вялікай радасцю ўставілі ў тую сваю «беларускую мову», на якой выдаюць у Мінску гаўляйтарскую газетку.

З вялікай ахвотай яны ўставяць у беларускую мову ўсё, што толькі загадае берлінскі гаўляйтар. Нават калі гаўляйтар запатрабуе анямечыць беларусаў, а з беларускай мовай абысціся з такой увагай, з якой фрыцы абыходзяцца каля шыбеніцы з беларускім народам, гаўляйтарскія падлізнікі ахвотна выканаюць гэта.

Кат акупіраваных немцамі савецкіх земляў Розенберг сказаў: «Нямецкае кіраўніцтва хоча дапамагчы беларусам так развіць край, каб з яго стаў моцны і квітучы перадкрай Нямеччыны».

Коратка і ясна. Беларусь не мае права быць самастойнай рэспублікай, а толькі «нямецкім перадкраем». І гаўляйтарскі падлізнік Казлоўскі ў сваёй газетцы трашчыць, парашчыць і з скуры лезе, каб гаўляйтарскія словы расхваліць на ўсе лады.

Гаўляйтар сказаў, што беларусам няма чаго рабіць з рускімі, а ім ёсць што рабіць з немцамі. Дык Казлоўскі там жа піша, што гэта святыя гаўляйтаравы словы. Імкненне немцаў задушыць беларускую культуру ён называе спыненнем на Беларусі русіфікацыі. Каб памагчы нямецкай навалачы як найспрытней узяць у ланцугі беларускі народ, гаўляйтаравы паслугачы стараюцца «давесці», што беларусы нічога агульнага не маюць з рускімі, бо

«рускія — славяне, а беларусы — арыйцы». А вядома — раз арыец,— дык калі не немец, то хоць палавіна немца.

Гэта так стараюцца гаўляйтарскія падбрэхачы. Што ж да самога гаўляйтара, то яму не важна — славянін беларус ці арыец. Яму патрэбен беларус не як чалавек, а як рабочая жывёла для Германіі. І чым больш гэтая «жывёла» будзе далей ад культуры, тым яна будзе больш паслухмяная. А калі так — дык падлізнікі рады старацца.

Высокія з'явы беларускай культуры, якія беларускі народ стварыў за час існавання Беларускай Савецкай рэспублікі, для гаўляйтарскіх паслугачоў не культура. Наогул іх дачыненне да культуры характарызуецца іх лакействам перад гаўляйтарам. Яны паводле жаданняў гаўляйтара стараюцца культуру беларускага народа замяніць стагоддзі таму назад аджытымі прымітыўнымі абрадамі, якія былі адлюстраваннем тагачаснага прымітыўнага чалавечага мыслення.

Так у пачатку ліпеня яны ў Мінскім гарадскім садзе наладзілі святкаванне купалля. Расклалі агні і скакалі навакол іх. Гаўляйтар Кубэ быў тут жа і з высакамернай усмешкай глядзеў на нябачаную ім раней фацэцію, наладжаную для яго ж уцехі. Трэба думаць, што яго асабліва цешылі дробныя выкрунтасы, якія выробляў ксёндз Гадлеўскі.

Гаўляйтарскія лізуны могуць усё зрабіць. І народ прадаць, і ракам паўзці да гаўляйтара на паклон. І нават калі хто-небудзь гугнявы ў слове «гаўляйтар» не так выгаварыць літару «л», гандляры народным горам прызнаюць гэта вялікай мілагучнасцю беларускай мовы, якая ім патрэбна ў той меры, у якой за анямечанне яе можна поўзаць каля гаўляйтара.

# НЕМЦЫ ЗНІШЧАЮЦЬ БЕЛАРУСКУЮ КУЛЬТУРУ

У нямецкія планы ўваходзіць панасаджваць скрозь на беларускай зямлі нямецкіх памешчыкаў і каб у іх беларусы былі парабкамі — бяспраўнымі і паслухмянымі. А дзеля гэтага немцы і стараюцца зрабіць так, каб беларускі чалавек стаў цёмны, некультурны, непісьменны, запалоханы — тады яго лягчэй будзе трымаць у ланцугах. Так думаюць немцы.

Дзеля гэтых сваіх мэт яны стараюцца знішчыць культуру беларускага народа. Яны папалілі ўжо і пазакрывалі беларускія школы, інстытуты, універсітэт, разграбілі і разбурылі беларускія бібліятэкі, Беларускую Акадэмію навук, беларускія тэатры. Пазнішчылі і забаранілі беларускія кнігі.

Але нямецкія акупанты ведаюць, што ўсім гэтым яны азлобілі супраць сябе беларускі народ, які не хоча скарыцца ненавіснаму немцу, а пачаў з ім бязлітаснае партызанскае змаганне. І немцы зрабілі выгляд, што яны быццам бы даюць волю нам, беларусам, у нашым нацыянальным жыцці. Нямецкія фашысты пачалі выдаваць на беларускай мове газеты, у якіх нават часам сказана, што беларусы павінны любіць свой край. У той жа час яны называюць Беларусь нямецкім «перадкраем». Гэта азначае, што беларусы, нямецкія паднявольныя, бяспраўныя парабкі, павінны любіць сваю няволю ў сваім краі і маўкліва працаваць на немцаў. І замест свае высокай нацыянальнай культуры мець толькі якія-небудзь просценькія нацыянальныя звычаі.

Напрыклад, мець права ісці на паклон да нямецкага пана ў сваім нацыянальным убранні і прапяяць хвалу гэтай нямецкай таўстамордай гадзіне словам якой-небудзь беларускай прыгоннай песні.

Свае подлыя справы немцы стараюцца прыкрыць тым, што быццам бы гэтую «нацыянальную справу» робяць самі «беларусы». Немцы сабралі каля сябе некалькі мясцовых шарлатанаў, такіх, як усялякія адамовічы, гадлеўскія, казлоўскія, станкевічы, і іхнімі рукамі стараюцца бязлітасна заціснуць у ярмо фізічнай і духоўнай няволі беларускі народ.

Але народ бяссмертны. Не задушыць немцам вялікі беларускі народ! Немцы лягуць паганымі косцьмі на

свяшчэннай беларускай зямлі. Вечна жыць будзе гераічны беларускі народ.

За нашу нацыянальную гордасць, за нашу волю, за родную беларускую зямлю, за шчасце дзяцей нашых — усе, як адзін, са зброяй на паганых немцаў і на іх паслугачоў!

Забі немца! — такі свяшчэнны наказ маці-радзімы.

## ГАЎЛЯЙТАРСКАЯ «АКАДЭМІЯ»

Непадалёку ад Вілейкі, у дробным гарадку Смаргоні, яшчэ задоўга да першай імперыялістычнай вайны, адзін з тамашніх панкоў ушчэнт прасвістаўся ў карты. Яму трэба было нейкім парадкам выцерабіцца з даўгоў. Яго рухавыя мазгі ахапіліся шчаслівай думкай. Ён адчыніў у Смаргоні «акадэмію», у якой налоўленыя ў лясах мядзведзі праходзілі вышэйшы клас танцаў.

У гэтай адзінай на ўвесь свет «акадэміі» была чыгунная падлога, пад якой, у падвале, палілася печ. У «акадэмію» ўганялася чарада мядзведзяў. У той меры, у якой награвалася падлога і прыпякала мядзведжыя лапы, мядзведзі не маглі спакойна стаяць на месцы і скакалі з аднюй лапы на другую. У той жа час за сцяной білі ў бубен. Нарэшце падлога так награвалася, што мядзведзі рабіліся лёгкія і рухавыя, як матылі, і раўлі на ўсе свае жылы. Так што няшчасныя смаргонцы кожны дзень затыкалі вушы і праклінaлі на чым свет стаіць свайго вынаходлівага земляка.

Прайшоўшы курс «акадэмічнай» навукі, касматыя «акадэмікі» прадаваліся за дарагую цану брадзячым балаганшчыкам. Даволі было такому «акадэміку» пачуць грукат бубна, як выпрацаваны рэфлекс прымушаў яго падпімаць лапы і пускацца ў грацыёзны танец. Кажуць, што вынаходлівы смаргонец не толькі выцерабіўся з даўгоў, але нават нажыў круглы капіталік.

Дарэмна некаторыя думаюць, што тое, што калі-небудзь было на свеце, другі раз быць не можа. Няпраўда. Гаўляйтар гер Кубэ нядаўна адчыніў у Мінску «акадэмію», ганаровым прэзідэнтам якой ён і назначыў сам сябе. А неганаровым прэзідэнтам ён зрабіў нейкага доктара Ярмачэнку. Віцэ-прэзідэнтам стаў гестапавец з Берліна. А «акадэмікам» той самы Адамовіч.

Трэба думаць, што ў гаўляйтарскай «акадэміі» абыходзяцца без чыгуннай падлогі, бо гаўляйтарскія «вучоныя» ўжо даўно навучыліся скакаць пад гаўляйтарскі бубен. Ды і чарга іх куды меншая за чараду тых смаргонскіх «акадэмічных студэнтаў». Невядома толькі, які поўны абхват «навук» будзе ў гэтай «акадэміі», калі гаўляйтар падбярэ поўны штат сваіх «акадэмікаў». Бо пакуль што тут мы бачым толькі чатырох спецыялістаў. Сам Кубэ — спецыяліст вышэйшай гітлераўскай школы, каб душыць

беларускі народ. Адамовіч можа з вялікім поспехам узначаліць «кафедру» шпіёнства і прадажніцтва. Доктар Ярмачэнка, які мае ў сваім «навуковым» багажы артыкулец на тэму «Кал хворага чалавека», паводле сваёй спецыяльнасці і гаўляйтарскага загаду, ужо ўзначаліў гэтую «акадэмію». Берлінскі гестапавец напэўна ўзначаліць «кафедру» катаванняў і расстрэлаў.

Астаюцца яшчэ вакантнымі месцы на «кафедрах» такіх, напрыклад, як «кафедра па вывучэнню спосабаў найбольш эфектыўнага аграблення беларускага народа». Або, скажам, «кафедра па дакладнаму ўстанаўленню таго, як лепш вешаць людзей — ці на жалезны крук тварам, ці пятлёй за шыю».

Гаўляйтар нямала можа адчыніць «кафедр» сваёй «акадэміі», абы-толькі яму ўдалося налыгаць чараду адамовічаў.

Хто яго ведае. Падумаўшы — то можа і не памыляюцца тыя, якія думаюць, што былое другі раз не паўторыцца. Сапраўды. Вучоныя смаргонскія мядзведзі прадаваліся брадзячым балаганшчыкам на простую людскую пацеху. Гаўляйтарская ж «акадэмія» сваіх «вучоных» трымае ў сваім уласным крывавым балагане, і не на простую пацеху, а дзеля ланцугоў на беларускі народ.

Ланцугі, ускладзеныя на народ, рэч нетрывалая. Такі будзе і век гаўляйтарскай «акадэміі».

# НЯМЕЦКАЯ ЦАЦА ШЫРОКАГА СПАЖЫВАННЯ

Расказваюць пра аднаго злодзея, які залез к чалавеку ў клецьі ўзваліў ужо на плечы кубел з салам. І раптам убачыў, што тут жа стаіць гаспадар з папруцінаю ў руках і мерыцца перацягнуць прыемнага госця па спіне. Злодзей ад страху вышчарыў зубы і далікатна сказаў:

— Гэта я прыйшоў нацягнуць на твой стары кубел новыя абручы, пане браце.

За такое панібрацтва гаспадар так сцёбнуў злодзея, што той адразу забыўся, як нацягваюцца абручы на чужыя кублы. Так што на свеце адным бондарам стала менш. Але нічога на свеце ад гэтага не змянілася. Добраму чалавеку ўсё адно прыходзіцца стаяць каля свайго дабра, і ўжо нават не з папруцінай, а кулямётам. Да нас у Беларусь гэтулькі навалаклося з Германіі ахвотнікаў да нашага сала, што аж дзіва бярэ, як гэта там магло расплядзіцца гэтулькі зладзеяў.

Яны, як саранча, прайшлі па нашых клецях і свірнах і абчысцілі ўсё. І раптам пачулі над сваёй галавою свіст — не папруціны, а партызанскай кулі. І не адным, а многімі тысячамі нямецкіх зладзеяў стала менш. Дык яны павышчаралі зубы і далікатна гэтымі днямі сказалі праз сваё радыё:

«У Беларусі пачаўся продаж тавараў шырокага спажывання па зніжаных цэнах для рабочых і сялян, якія маюць добрыя вынікі працы».

А вядома, што азначаюць для нас гэтыя нямецкія «вынікі працы». Гэта значыцца, каб мы дазвалялі ім абчышчаць нашы клеці, каб нават самі неслі свой хлеб гэтай нямецкай брыдзе. Каб мы працавалі на іх, сеялі і жалі, а каб яны жэрлі з нашага мазаля. Каб нашы сёстры, жонкі, браты, дочкі паслушна ехалі ў іхнюю паганую Германію і там уміралі на катаржнай працы. Без нашых рук яны абысціся не могуць, бо гаспадарка іхняя за вайну занепала, а рабочых асталося ў іх мала. Усіх іх Гітлер пагнаў на фронт. К таму ж яны дрыжаць ад страху перад нашымі партызанамі. Расстрэламі і здзекамі яны толькі распальваюць нашу нянавісць.

Дык фрыцаўская морда расплылася ў лісліваю ўсмешачку і абяцае за «добрыя вынікі працы» цацу «шырокага спажывання».

Мы ведаем, што ў немцаў і сапраўды ёсць тавары вельмі шырокага спажывання, якія яны, як з меха, шчодра сыплюць нашым людзям: бізуны, ланцугі і шыбеніцы. Аддамо ж ім назад гэтыя іхнія цацы, і ў сто разоў больш, чым яны нам іх нарыхтавалі. Калі немец стараецца табе ўсміхнуцца,— ведай, што гэта грымаса паганай сволачы. Сашчамі зубы і адкажы на яго ўсмешку так, каб яна навек акамянела на яго паршывай мордзе.

## «АКАДЭМІЧНЫ» ФРЫЦ

Каб фрыц кожны дзень мог выцягваць з чужога хлява за хвост парася, яго шчасце было б поўным. Ён выпіваў бы сабе колькі яму трэба шнапсу, нажыраўся б парасяціны, разгадаваў бы тоўсты зад і такую ж морду і пладзіў бы сваіх фрыцанят. На гэтым яго жаданні і канчаюцца. Гэтае парасячае шчасце ў поўнай меры яму абяцаў фюрэр, калі фрыц будзе добра ваяваць і заваюе ўвесь свет.

У Францыі ён абцерабіў усе вінаграднікі, у Нарвегіі пажор усю рыбу, у Беларусі дарваўся да сала. Яму ўсё роўна, на якім канцы свету красці. У гэтым сэнсе чыстакроўны арыец — поўны інтэрнацыяналіст. Яму ўсё роўна — ці румынская ці фінляндская свіння. І гэтую, і тую ён зжарэ з касцьмі і вантробамі. Ён майстар на ўсе рукі: жэрці, і красці, і вешаць, і паліць — усё ён умее. Нездарма некалі казалі, што немец малпу выдумаў.

Калі вы не верыце ў такія універсальныя фрыцаўскія таленты, можаце паглядзець на вельмі паважанага фрыца, таго самага гера Кубэ, які сядзіць у Мінску на пасадзе гаўляйтара над Беларуссю. Таленты ў гэтага таўстамордага малайца не паддаюцца ўліку. Спрытны ядок беларускага хлеба. Найтанчэйшы знаўца вісельнай тэхнікі. Знаўца таго, на якім сметніку знайсці Адамовіча і Гадлеўскага і за якую скулячку ў іх душы тузануць. Майстар дакладнага падліку — колькі ад усходу да захаду сонца павесіць беларусаў.

Як бачым: і хлебазнавец, і тэхнік, і псіхолаг, і матэматык. Дык якое дзіва, што ён выдумаў сабе «акадэмію» ў Мінску, каб быць у ёй ганаровым прэзідэнтам! Маючы гэтулькі «вучоных» спецыяльнасцей, ён з поўным правам можа насіць годнасць «акадэміка».

Дапаў фрыц да шчасця! І морда тоўстая, і чын высокі, і спецыяльнасці аб'яднаных ў «навуковую годнасць», і смажаныя парасяты самі ў разяўленую ляпу бягуць і нават не пішчаць.

Вядома, каб быць ганаровым прэзідэнтам «акадэміі», то трэба, каб былі і «акадэмікі». Дык яны такі ў гера Кубэ і ёсць. Чым кепскі «акадэмік» Адамовіч? Яго шпіёнская спецыяльнасць даходзіць да акадэмічнага ўзроўню. А Гадлеўскі? А Станкевіч? А Ярмачэнка? Кожны з іх з акадэмічнай спрытнасцю шчыра і аддана працуе на тое, каб на беларускай зямлі сядзелі нямецкія паны і каб ня-

мецкая вісельня працавала на Беларусі з акадэмічным размахам.

Ну, добра, скажаце вы. Дык пры чым жа тут Беларусь? З такім жа поспехам нямецкі гер мог бы назвацца «акадэмікам» і ў Турцыі, і ў Швецыі, і ў Бельгіі, і ў Францыі, і ўсюды.

Калі вы так думаеце, то вы такі разгадалі фрыцаву натуру. Яму ўсё роўна, чый жэрці хлеб, абы ён быў чужы. І яму ўсё роўна, на якім канцы свету сабраць каля сябе «акадэмічных» жулікаў, абы яны былі жулікі.

Беларускі народ любіць сваю свабоду. Так што «акадэмічны» фрыц у Мінску, разам з сваімі «акадэмікамі», скора ляснецца касцьмі.

# БЕЛАРУСКАЯ ПРОЗА І ДРАМАТУРГІЯ ЧАСУ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ

Беларускі народ ідзе цяпер праз новы рубеж свае гісторыі. З таго моманту, які мы сёння перажываем, астанецца навекі новы гістарычны вопыт нашага народа, таксама як астануцца навекі сляды той крывавай драмы, якая разыгралася сёння на беларускай зямлі. Набытыя ў жорсткай практыцы вялікага змагання з нямецкім захопнікам, з ненавісным чужаземным прышэльцам на нашу зямлю, новыя рысы ўдасканаляць наша аблічча, узбагацяць нас новымі якасцямі. Нацыянальныя рысы беларускага народа з новай сілай і новымі сваімі гранямі выступаюць сёння перад усім светам. Вядомая з старадаўніх часоў гераічнасць беларускага народа выяўляецца сёння ў новай сваёй магутнасці. Справядлівасць, чуласць, працавітасць, замілаванне да свае радзімы — гэтыя нацыянальныя рысы беларускага народа выліліся сёння ў цярплівае ўпартае змаганне, у непахіснасць і непакорнасць перад ворагам. Воля народа нагартована да апошняй вастрыні. І калі яшчэ ў мінулую імперыялістычную вайну беларускі чалавек меў часам некаторыя адзнакі пакутніка-бежанца, які зносіў сваё нацыянальнае гора, то сёння пакуты нарадзілі бурны пратэст, гнеў і нястрымную волю да крывавай расправы з нямецкай навалаччу, якая навалаклася на святую для ўсіх нас родную беларускую зямлю, каб стаптаць яе, здушыць ланцугамі няволі народ і дамагацца знішчэння яго непаўторных нацыянальных асаблівасцей, дзеля ператварэння народа ў масу парабкоў без твару і імкненняў. Не ўдалося і не ўдасца гэта праклятаму чужынцу. Непакорнасць і змаганне да поўнай перамогі — вось што стала сёння самай яркай нацыянальнай беларускай рысай. Нянавісць да ворага і ўсеабдымная прага пераможна вярнуцца зноў у сям'ю народаў Вялікага Савецкага Саюза — гэта сённяшняя асаблівасць жыцця і дзейнасці беларускага народа. Перажытая апошняя чвэрць стагоддзя ўзняла беларускі народ да вялікай гістарычнай дзейнасці. Існаванне Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі ўзвысіла беларускі народ да свае нацыянальнай дзяржаўнасці. Вялікая партыя Леніна вывела народ беларускі на вялікія прасторы нацыянальнай, гістарычнай дзейнасці. І гэтага ад народа ўжо ніхто не адбярэ. Гэта ніколі не загіне. Яно дало народу новыя сілы

і акрэсліла яго мэты для сённяшняга вялікага змагання з гітлераўскім звяр'ём. Праз сваё змаганне, праз свае перамогі, праз блізкае вызваленне беларускі народ шпаркай і магутнай хадою ідзе да свае новай славы і новай радасці.

Сярод вобразаў беларускай літаратуры, як манумент, узвышаецца трагічны вобраз Міхала з «Новай зямлі» Якуба Коласа. Неўміручая сіла гэтага вобраза, яго манументальнасць у той жыццёвай праўдзе, з якое ён радзіўся пад магутным пяром нашага вялікага пісьменніка. Трагедыя Міхала гэта, можна сказаць, былая нацыянальная трагедыя беларускага чалавека да рэвалюцыі, калі ён на сваёй роднай зямлі не быў гаспадаром яе, а прымушан быў яшчэ шукаць яе. Царскае чыноўніцтва і мясцовае панства ўладалі тым, над чым ён паводле свайго права ад бацькоў і прадзедаў павінен быў бы быць законным гаспадаром. Дамагаючыся і шукаючы ў сваёй роднай краіне сабе месца і прытулку, гэты чалавек надрываў свае сілы і ў той момант, калі ў яго вачах паўставалі цьмяныя абрысы нейкага нязведанага яшчэ берага, да якога ён даплываў у апошніх сваіх намаганнях, перад туманнымі засцiламі гэтага міражу ён уміраў знясілены. З найвялікшай сілай Якуб Колас адлюстраваў той гістарычны перыяд у жыцці беларускага народа. Усё тут сышлося ў трагедыі Міхала. А з гэтай трагедыі, з лёсу гэтага чалавека, нараджалася ў разнавіднасць і самая багатая разнастайнасць, гаворачы ў пэўным сэнсе, дзеячаў народа — малых і вялікіх, заўважных і незаўважных бунтароў, паўстанцаў, пратэстуючых парабкоў, бедных сялян. Нараджаўся тып у жыцці чалавека, які зганяўся нават з тае малое зямлі, якую ён і меў. Ён ішоў у гарады шукаць спосабу жыць. Гэта быў просты беларускі люд, выяўлены ў мільёнах разнавіднасцей, індывідуальнасцей. З гэтай жывой народнай крыніцы нараджаліся і ствараліся нашымі пісьменнікамі іншыя тыпы і вобразы нашай літаратуры, усё яе вялікае рэалістычнае багацце. Твар нашай літаратуры заўсёды вызначаўся той акалічнасцю, што сапраўдныя яе творцы, самыя лепшыя нашы пісьменнікі прыходзілі да свае дзейнасці з народных мас і праз усё сваё жыццё заўсёды былі з народам, ніколі не былі адшчапенцамі ад народа, і гэта давала ім сілу тварыць, гэта надавала аблічча іх творчасці. Айчынная вайна, якую мы цяпер вядзем з паганым нямецкім захопнікам, яшчэ раз пацвердзіла гэта. Ніводзін беларускі пісьменнік не астаўся служыць немцам, ніводзін не пайшоў супраць народа.

Беларуская літаратура нарадзілася ў змаганні гераічнага беларускага народа за сваю сацыяльную і нацыянальную незалежнасць і свабоду. Яна ўзнялася да сваіх вышынь у шчаслівыя годы савецкага жыцця. Вялікасць беларускай савецкай літаратуры ў тым, што яе ідэі — гэта жыццё народа, шчасце яго і роднай беларускай зямлі, яго вялікае і пачэснае месца сярод брацкіх народаў Вялікага Савецкага Саюза, яго месца і значэнне ў чалавецтве. Беларускую літаратуру тварылі і тварыць таленты, якія выйшлі з народа. Мэта ўсяго іх жыцця — служыць народу. Гэтай сваёй вялікай мэце яны асталіся вернымі назаўсёды. Яны былі з народам у яго шчаслівыя часы, яны з народам і ў сённяшні пакутны і гераічны час змагання з подлымі нямецкімі чужынцамі, якія, як чорная хмара, навалакліся на нашу зямлю, каб ускласці на наш народ страшнае ярмо няволі і здзеку. І гэта традыцыі Якуба Коласа.

Зноў вісне над нашым народам здань трагічнага лёсу, з такой сілай адлюстраванага Якубам Коласам праз вобраз Міхала з «Новай зямлі». Сёння гэты персанаж нашай літаратуры стаў яшчэ больш жывы і рэальны: мільёны беларускіх людзей выганяюцца захопнікамі з родных хат, зямлёй іх хоча ўладаць нямецкая прыблудная навалач. Замест царскага чыноўніка на шыі нашай хоча абгрунтавацца гітлераўскі гаўляйтар. І вось пад пяром беларускіх пісьменнікаў нарадзіліся новыя вобразы, якія выйшлі з тых жа вытокаў, з якіх чэрпалі сваё творчае натхненне Янка Купала і Якуб Колас — з самых глыбінных народных нетраў. Гэтыя вобразы ёсць народныя тыпы, народныя характары. Усе яны ёсць тыя сапраўдныя вобразы, важныя і тыповыя, на якіх развівалася і развіваецца беларуская літаратура. У сваёй лагічнай паслядоўнасці яны развіваюць далей літаратуру, уваходзяць у бесперапынны працэс яе жыцця і развою, яны выяўляюць сабой новыя, ужо ў сённяшнюю эпоху народжаныя і адкрытыя грані жыцця народа. І ў той жа самы час маюць непарыўную сувязь з ранейшымі вобразамі беларускай літаратуры. І тут мы можам з радасцю сцвердзіць: працэс развіцця і росту беларускай літаратуры не спыніўся ў часе вайны. Беларуская літаратура жыве і творыцца, развіваецца далей. Яна ёсць магутная і вострая зброя супраць ворага беларускай зямлі і беларускага народа. Мужнае слова беларускіх пісьменнікаў гучыць у народзе, як кліч да змагання, гучыць на фронце, дзе доблесная Чырвоная Армія вядзе няспыннае змаганне. У нашы дні народнага гераізму, у дні подзвігаў

народных герояў, у дні змагання з чорнай гітлераўскай навалай, беларуская літаратура жыве і гучыць магутным сваім словам. І новыя яе вобразы паўстаюць перад намі ва ўсім багацці сваіх нацыянальных рыс, ва ўсёй сіле свае народнасці, паводле традыцый усяго працэсу развіцця беларускай літаратуры.

Беларуская проза і драматургія за апошні год узбагаціліся новымі творамі, якія ёсць выдатная з'ява як у агульналітаратурным сэнсе, так і ў тым, што яны з вялікай сілай адлюстроўваюць бязмежную гераічнасць беларускага народа ў сённяшнім яго змаганні. Адной з самых яркіх з'яваў нашай літаратуры сёння з'яўляюцца навелы Міхася Лынькова. Міхась Лынькоў напісаў цыкл навел, частка якіх ужо апублікавана. У гэтых навелах Міхась Лынькоў паглыбляе далей свае індывідуальныя творчыя асаблівасці: аналіз чалавечай душы, часам самы незаўважаны ў вонкавым сваім выяўленні рух яе. Перад намі ў навелах Міхася Лынькова праходзяць вобразы таго ж, кажучы старым словам, простага народа — тыповыя персанажы і найцікавейшыя літаратурныя вобразы. Старэйшы сваяк іх, Міхал з «Новай зямлі» Якуба Коласа, калісьці раскрыў перад намі сваю тагачасную трагедыю. Гэтыя вобразы раскрываюць перад намі сваю страшную драму, жудасную і крывавую — сённяшнюю драму ўсяго беларускага народа. Перад намі праходзіць тып самаахвярнай вялікай беларускай жанчыны, душа і сэрца якой месціць у сабе гэтулькі справядлівасці, дабраты і ласкі, што яе хапіла б на ўвесь свет. І вось гэтыя вялікія чалавечыя пачуцці раптам нарадзілі сваю супрацьлегласць — ні з чым непараўнаную нянавісць. Нянавісць няўмольная і няспынная, якая не ідзе ні на якія кампрамісы, нарадзілася таму, што з самай сваёй прыроды беларуская жанчына, сястра і маці, адвеку ўстае перад намі, як увасабленне чыстаты, благародства, вялікай душы і вялікага сэрца. Вайна не давяла нашага чалавека да грубасці. Наадварот. Ніколі так, як цяпер, не выяўляецца чулая чалавечнасць душы нашых людзей, мужчын і жанчын, суровых нашых воінаў і іх сёстраў і матак. Чалавек узняўся па знішчэнне звера ў асяроддзі чалавецтва. У імя жыцця чалавека чалавек павінен зрабіць смерць двуногаму зверу, які прыйшоў на нашу зямлю і сам прынёс нам нашу нянавісць да яго, да немца. І той, хто робіць смерць яму, хто задушыць гада, каб не даць яму задушыць нявіннае дзіця, той вырастае перад намі ў

постаць благародную і чулую. І калі на гэты подзвіг ідзе жанчына-маці, яна вырастае перад намі ў святое-святых нашай зямлі. У беларускай літаратуры гэта вобраз пакутнай і велікадушнай жанчыны, падзвіжніцы і гераіні. Гэты вобраз з вялікай сілай ажыў перад намі ў навеле Міхася Лынькова «Ірына». Гэты вобраз не засланяе сабой іншых вобразаў з новых навел Міхася Лынькова, але ён такі значымы і такі глыбокі, што ўяўляецца нам, як нейкі цэнтральны вобраз, ад якога могуць адыходзіць усе іншыя вобразы навел Лынькова. Гэты вобраз быццам бы пакідае рамкі навелы і вандруе ў часе і прасторы. Нам уяўляецца Ірына ў даўно мінулыя часы, калі яна ў гарачыню на панскім полі закалыхвала сваіх дзяцей, спяшаючыся хутчэй да работы, каб не ўгнявіць панскага прыганятага. Яна тады ўдзельнічала ў сялянскіх паўстаннях. Дзеля шчасця сваіх дзяцей яна, усім сваім добрым вялікім сэрцам, ненавідзела праклятага пана. Яна пасля аплаквала свайго сына, які пакутаваў у царскай турме. Цяпер яна ўбачыла паганага немца, які працягнуў крывавую лапу да яе дзяцей. І яе гнеў стаў святым пачуццём. Яна стала носьбітам помсты і змагання. У хаатычным грукаце ўзарванага ёю нямецкага поезда мы чуем музыку яе роднага голасу. «Нешта хацела сказаць Ірына і не паспела. Усё ўзнялося ў вогненным смерчы, патанула ў грукаце, скрыготах». Так скончылася тое, што пачалося тады, калі Ірына, маці, убачыла, «калі суседкі ўнеслі і моўчкі палажылі на ўслончык пасінеўшы дзіцячы трупік» Ірынінага дзіцяці, забітага немцамі.

«Вочанькі вы мае ласкавыя... Нежывыя вы». Гэта смутак усёй беларускай зямлі, і ён канчаецца бурнымі выбухамі гневу.

Гэта характэрнае апавяданне для ўсяго цыкла апавяданняў, напісаных Міхасём Лыньковым. У гэтых апавяданнях усе чалавечыя персанажы вырысаваны ў моманты найбольшага абвострання іх пачуццяў і думак, тады, калі ад чалавечых помыслаў адыходзіць тое, што ў звычайны час бывае як неабходнасць, а цяпер робіцца нецікавым, няважным, як дробнае непатрэбства. Бо прыйшла пара самага важнага, сапраўды цяпер адзінага, ад чаго залежыць усё іншае. Гэта — жалезная неабходнасць сцерці з твару зямлі лютага крывавага звера. Адсюль і ўсе персанажы апавяданняў Міхася Лынькова нарысаваны ў моманты найвышэйшага напружання іх душэўных сіл і ва ўсім іхнім благародстве, у імкненнях да самых

высокіх мэт чалавека. Пісьменнікам выпісаны вобразы нашых жанчын і дзяцей, і суровых мужчын, у душах якіх гарыць многа ласкі і дабраты, тым больш што ў гэтыя моманты яны аддаты дзейнай нянавісці да звера. У гэтыя моманты ў гэтых людзей на вялікім уздыме лепшыя іх чалавечыя пачуцці — каханне, смутак аб страчаным, замілаванне да блізкіх людзей і да роднай зямлі... І пад знакам расплаты за гэтае сваё вялікае, чалавечае, яны не шкадуюць нават самога свайго жыцця ў змаганні з ворагам. Асабліва характэрны гэтым навелы «Салют», «Пацалунак», «Ірына», «Васількі». Жывыя вобразы нашага гераічнага народа адчуваем мы, чытаючы гэтыя навелы. Мы бачым самаахвярнасць нават дзяцей. І гэта жывая праўда аб нашым народзе, які ніколі не будзе ў няволі і які скора ўбачыць пад сваімі нагамі свайго ворага.

У гэты ж час з'явілася ў друку апавяданне Якуба Коласа аб беларускім чалавеку, які стаў партызанам. Гэтае апавяданне мае ўсе адзнакі тае эпічнасці, якая так характэрна ўсім творам Якуба Коласа. Сваімі асаблівасцямі апавяданне быццам бы мае свае вытокі дзесьці ў аповесці «Дрыгва» і ў ранейшых літаратурных вобразах Якуба Коласа. Ціхі чалавек жыве сваім працавітым жыццём. Сваёй працай ён аздабляе родную зямлю, удасканальвае жыццё на ёй. Ён носьбіт чыстага сумлення, працавітасці, дабраты і справядлівасці. І раптам звыклы парадак яго жыцця парушае нямецкая навалач — гітлераўскі тып, істота змрочная і абсалютна супрацьлеглая таму чалавеку, жыццё якога ён прыйшоў задушыць, шчасце ў якога адабраць і шчаслівы лёс якога ператварыць у страшную трагедыю. І ціхі чалавек робіцца гнеўным, няўмольным мсціўцам, ярасці якога няма межаў. Воля яго загартоўваецца для адной толькі мэты: сцерці з твару зямлі таго, хто з звярыным сваім аблічам явіўся сюды.

Тэма ўпартасці нашага чалавека, яго волі да змагання, яго цвёрдасці праходзіць праз усе новыя творы беларускіх пісьменнікаў. Чалавек не гнецца, чалавек дамагаецца свайго. І ў якія б умовы ён ні трапляў, ён усюды знаходзіць, што яму рабіць дзеля ўсё той жа адзінай цяпер яму справы. Гэтая тэма асабліва характэрна для цыкла апавяданняў, напісаных Алесем Стаховічам. І Васіль з апавядання «Васількова бярэт», і Марыся з аднайменнага апавядання, і Дзёмка (апавяданне «Груша»), і док-

тар Сымон Ігнатавіч (апавяданне «Неспакойны гарадок») — усе яны носяць у сабе вялікую ўпартасць. Ніхто і нішто іх не пераканае супроць таго, што яны носяць у сваёй душы. Яны ўпэўнены ў сваёй праўдзе, і іх вера ў сябе і ў свае справы вядзе іх на подзвігі, на геройскія ўчынкі, прымушае іх не думаць пра небяспеку і быць у імя перамогі самаахвярнымі. Васіль знаходзіць у сабе кемлівасць, каб дапасавацца да тых умоў, у якія ён трапіў, і так выратавацца і зрабіць шкоду ворагу. Марыся кідае перад тварам ворага гнеўныя словы, накіраваныя сваім людзям на тое, каб яшчэ больш узняць іхні гнеў:

«Няхай немцы выпрастаюцца на нашай зямлі, пакуль пачуюць хоць адно добрае для іх слова».

Дзёмка — малы падростак, хлопчык, носіць у сваёй душы нянавісць, яна не дае яму спакою, пакуль ён не дае ёй выхаду ў тым, што робіцца змагаром з ворагам. Доктар Сымон Ігнатавіч становіцца бургамістрам дзеля таго, каб выкарыстаць гэты свой стан дзеля партызан, дзеля змагання супраць акупантаў. Гэта ўсё людзі цвёрдай волі і цвёрдых пераконанняў, і яны перамагаюць і канчаткова пераможуць. Жыццё належыць ім, яны яго гаспадары і ў змаганні яны возьмуць верх. Са старонак гэтых твораў павявае аптымізмам. Гэта творы, якія сцвярджаюць тую адвечную праўду, што вера ў сваю праўду, яснасць мэты і воля да перамогі прыносяць чалавеку завяршэнне яго мэт і імкненняў. І гэтая плынь характэрна і для ўсіх новых твораў, якія з'явіліся апошнім часам у беларускай прозе.

Трэба адзначыць бурнае развіццё беларускай публіцыстыкі, бліскучую трапнасць яе слова, сапраўднае высокае майстэрства ў гэтым жанры беларускіх пісьменнікаў і публіцыстаў. Беларуская публіцыстыка і з даўніх часоў была высокім узорам гэтага жанру. Але ў часе Вялікай Айчыннай вайны публіцыстыка асабліва стала нашым папулярным жанрам. Гэта бадай што самы рухавы і аператыўны від моўнай творчасці. Тут непасрэднае слова гучыць больш востра. Публіцыстыка стала цяпер магутнай зброяй нашага змагання. Успомнім артыкулы і фельетоны Міхася Лынькова і Кандрата Крапівы, артыкулы нашых байцоў і партызанскіх атрадаў, якія пішуць свае звароты і адозвы да насельніцтва. Успомнім, нарэшце, нашы беларускія лістоўкі. І, нарэшце, самай найвялікшай увагі заслугоўвае ваенная публіцыстыка нашых народных паэтаў Якуба Коласа і Янкі Купалы. Нашы на-

родныя паэты за час вайны многа разоў выступалі з сваімі прамовамі, зваротамі да народа і артыкуламі. Яны, нашы народныя трыбуны, агністым сваім словам заклікалі народ загартоўваць сваю волю і сілы да канчатковай перамогі над нямецкімі захопнікамі. Успомнім прамову Янкі Купалы на беларускім мітынгу, прамову Якуба Коласа на Усеславянскім мітынгу. Гэта ўзоры нашага магутнага беларускага слова.

Нядаўна Кандрат Крапіва закончыў драму «Проба агнём». Для гэтай п'есы характэрны глыбокі аналіз чалавечай душы. Я б назваў п'есу псіхалагічнай. Гэта вызначаецца хоць бы сабе тым, што ў ёй як быццам бы і няма многа якіх бы там ні было чыста вонкавых вялікіх падзей, хоць п'еса і напісана на ваенную тэму, на тэму Айчыннай вайны. Толькі ў трэцяй дзеі адбываюцца падзеі, якія так ці інакш набліжаюцца да батальных сцэн, хоць і гэта трэба сказаць умоўна. Усё ж іншае, што мы бачым у п'есе,— гэта чалавечая душа, чалавечыя імкненні ў сваёй суладжанасці і ў сваіх супярэчнасцях. Асноўны канфлікт, вакол яго разгортваецца драматычная сітуацыя, гэта канфлікт псіхалагічны. І тым большая ад гэтага наша цікавасць да гэтага драматургічнага твора. Гэта сведчыць аб высокім узроўні беларускай савецкай драматургіі, аб яе спеласці. Мы чытаем п'есу ад пачатку да канца з напружанай цікавасцю. Мы тут маем справу з людзьмі, якія носяць у сабе пачуццё вялікага абавязку перад Радзімай у сённяшні цяжкі час жорсткіх выпрабаванняў. Гэтаму пачуццю ў іх падначальваецца ўсё. Усе іх помыслы накіраваны на тое, каб кожнадзённымі сваімі справамі служыць радзіме. І ўсё асабістае адступае перад гэтым кудысьці на задні план. Гэта і адзіны і магутны матыў усёй п'есы. І разам з тым, дзеля гэтага матыву, дзеля яго гучання, на сцэне праходзяць перад намі як бы чыста асабістыя справы: каханне. У гэтым якраз і майстэрства драматурга, і праўдзівасць паводзін яго герояў. Чалавечае жыццё не спыняецца ні на момант. Чалавек заўсёды мае свае інтарэсы, ён імі жыве, яны ёсць яго прыналежнасць, і, дзеля іх завяршэння, дзеля завяршэння сваіх імкненняў, ён робіць вялікую агульную справу, якая, у сваю чаргу, месціць у сабе ўсё індывідуальнае, што ёсць у кожнага. Паняцце радзімы — гэта не паняцце, адцятае ад чалавека. Радзіма — гэта і звыклы з маленства колер неба, і знаёмае дрэва, і вырыс пейзажу, і магілы продкаў, і дзяржаўны лад,

і дачыненне да блізкіх і родных людзей, і кожнадзённая патрэба прачынацца раніцой і працаваць, і смак вады ў гарачыню, і каханне да любай жанчыны, і ціхія колеры неба на захадзе сонца. Гэта кожны па-свойму ўспрымае, але з гэтага складаецца ў кожнага жыццё, яго прывязанасці, яго асаблівасці, яго імкненні: гэта жыццё. Гэта радзіма. І калі ўсяму гэтаму пагражае вораг, кожны з свайго індывідуальнага, я б сказаў, месца ідзе на вялікае змаганне, усе з'ядноўваюцца ў адно цэлае. Гэта агульнанародны арганізм — вялікая сіла жывых людзей, адданых адзінай справе. Усе падначальваюць свае душы адной, агульнай для іх справе. Баронячы ад ворага агульную справу, кожны зліваецца з ёю ўсім сваім індывідуальным. Мне здаецца, што ў некаторай ступені так льга ахарактарызаваць галоўныя матывы п'есы «Проба агнём», дзе людзі жывуць сваімі як быццам індывідуальнымі інтарэсамі, а мы бачым перад сабой карціну змагання за радзіму.

На маю думку, адзін з самых яркіх носьбітаў гэтага ў п'есе Кандрата Крапівы ёсць персанаж п'есы Караневіч. Праўда, у п'есе ёсць і не менш важны персанаж лейтэнант Перагуд, які, па сваёй значымасці і па сваіх, калі льга так сказаць, ідэёвых функцыях, можа нават прэтэндаваць на тое, каб лічыцца самай важнай, можа нават цэнтральнай, асобай ва ўсім замысле п'есы. Але мне здаецца, што камандзір палка Караневіч выходзіць у п'есе на першы план таму, што тыя пачуцці, якія так характэрны і Перагуду, у Караневіча не астаюцца бездапаможнымі, на грані чаго часта стаяць пачуцці Перагуда. Караневіч — гэта і пачуццё, і розум. І такім парадкам мы з вялікім хваляваннем чакаем яго на сцэне і прыслухоўваемся да кожнага яго слова. Проста-такі вялікай сілай у гэтым персанажы гучыць тое, што калі ён паміраe, ранены, перад намі вырысоўваецца ў яго вобразе, у Караневічу, да якога мы прывыклі ўжо,— вобраз такога чалавека: як індывід ён страціў ужо ўсё, ён неўзабаве памрэ. Але не страціў і не можа страціць ён толькі аднаго: пачуцця радзімы. Усё кожнадзённае, што ў такую хвіліну стала дробным і не важным, паглынаецца гэтым вялікім. З гэтага выходзячы, нават стушоўваецца і тая, чыста тэатральная сцэна, калі ён благаслаўляе каханне паміж яго жонкай і Перагудам. Можна гаварыць аб тэатральнай умоўнасці ў гэтым моманце, але вобраз Караневіча вырысоўваецца перад намі ў такі воб-

раз, які мае вялікую значымасць у нашай літаратуры. Гэтым, вядома, не вычэрпваецца поўная ацэнка новай п'есы Кандрата Крапівы, п'есы цікавай сваім глыбокім псіхалагічным рысункам і сваёй ідэяй: Радзіма вышэй усяго, інтарэсы кожнага з нас — гэта інтарэсы патрыётаў Радзімы і змагароў за яе.

Віталі Вольскі нядаўна закончыў лібрэта для оперы «Несцерка». Аўтар напісаў лібрэта паводле сваёй, раней яшчэ напісанай, камедыі «Несцерка». Аўтар пісаў сваё лібрэта паводле беларускага фальклору. У цэнтры ўсёй дзеі — вясёлы і разумны Несцерка, прататып якога мы знойдзем у шматлікіх беларускіх казках, апавяданнях. Ён повен аптымізму, з прычыны свайго розуму, свае кемлівасці ён заўсёды выходзіць з поспехам з усякіх злых прыгод. Усімі намі чакаецца вельмі цікавая опера на аснове гэтага лібрэта.

Беларуская літаратура жыве. Яна — вострая зброя ў руках беларускага народа ў справе яго змагання з ворагамі, з подлымі нямецкімі акупантамі. На аснове сваіх класічных традыцый яна расце і развіваецца далей, узбагачаецца новымі творамі і займае сваё вялікае месца ў жыцці беларускага народа, у яго вялікім змаганні.

Вялікі беларускі народ жыў і жыць будзе. Ворагі лягуць пад яго ногі. На вызваленай ад паганага немца беларускай зямлі неўзабаве запануе зноў радасць і шчасце. Беларускія пісьменнікі прыйдуць да яснага дня вызвалення з новымі сваімі творамі. Ім, верным сынам беларускага народа, ужо ёсць што прынесці роднай краіне к таму светламу блізкаму дню.

Няхай жыве вялікая беларуская літаратура! — гэта лозунг працы беларускіх пісьменнікаў.

Смерць нямецкім акупантам! — гэта тое пачуццё, якім яны гараць сёння ў сваёй творчасці.

# ГЕРОЙ САВЕЦКАГА САЮЗА ЦІХОН ПІМЕНАВІЧ БУМАЖКОЎ

## На беларускім Палессі

На беларускім Палессі цякуць поўныя рэкі і густа стаяць лясы. На ўзлессях, на палянах, на прасторах, дзе лясы адыходзяць да прыгожых палескіх далягляда́ў, ідзе поле. Там хвалюецца пад ветрам багатая збажына. З полем мяжуецца балотны абшар. Прастор, зарослы асакой, пераходзіць у куп'істае балота. Ідуць тарфяныя масівы. Раптам узнімаецца сцяна высокай травы. Тут асцярожна трэба ступаць нагой: трава расце на дрыгве, якая гойдаецца пад нагамі, з якое сочыцца вада. Нага правальваецца ў балотную нетру. Паволі цячэ палеская рэчка. Яна абрасла лесам. Лес расце і на дрыгве. У гэтым месцы лес не высокі, густы. Дрэвы зліваюцца з гушчырнёй хмызнячных зараснікаў. Усё зелена. Спеюць ягады, растуць пад дрэвамі грыбы. У вадзе поўна рыбы. Найбагацейшая расліннасць пышна красуе ўсюды. Усё звініць птушынымі галасамі. Палескае неба мае свае адмысловыя найтанчэйшыя адценні. На зямлі багатая разнастайнасць травы, кветак, палескай мятліцы. На балотах, на рэках, у лясах найбагацейшыя віды птушак і дзічыны. Гусі і качкі гнездзяцца над самай вадою. Дзікі япрук рые зямлю ў глухіх закутках. На ўзлессях ходзіць лось. Раптам мясцовасць як бы прыўзнімаецца ўгару. Пачынаецца пясок, на ім без краю хвойны лес. Нізкарослая вярба гусціцца тонкім веццем. Гэтая адмысловая вярба апошнімі гадамі разроствалася тут вельмі шпарка: палескія людзі штучна яе насаджвалі ўсюды на пясках. Яна затрымлівае пяскі на месцы, змацоўвае іх сваімі карэннямі. На пясках з'яўляецца травяная раслінасць, пясок дзірванее.

За апошнія гады багаты палескі край асабліва шпарка ўдасканальваўся савецкім чалавекам. Быў зацверджан урадам СССР пятнаццацігадовы план асушкі палескіх балот. І як толькі пачаліся асушальныя работы, адразу відно стала, што пятнаццацігадовы план будзе выканан за час, на палову карацейшы. Палескія людзі былі вялікімі энтузіястамі ў справе ўпарадкавання сваіх прыродных багаццяў. Велізарныя масівы палескіх балот пераварыліся б за кароткі час у бязмежныя прасторы найурадлівейшага поля. Багацці Палесся павялічыліся б

удвойчы. Чалавечы быт, узровень чалавечага жыцця падняўся б вышэй. І гэтыя вялікія работы перарваў напад ворага на нашу краіну.

За гады Савецкай улады многа выдатных людзей з'явілася ў беларускім Палессі. Гэта дзеячы народнай гаспадаркі, дзеячыператварэння і ўдасканалення краю, дзеячы навукі і культуры. Палессе выявіла ў сабе многа людзей, якія ў гады вайны сталі народнымі героямі ў справе змагання беларускага народа за сваю волю і незалежнасць, за сваю нацыянальную дзяржаўнасць. Палескія людзі заўсёды, як героі, змагаліся з усялякімі акупантамі на беларускай зямлі. Традыцыі гэтага змагання ідуць і з даўніх часоў, і з свежых яшчэ ў нашай памяці гадоў — войнаў 1914—1920 гадоў. І асабліва людзі беларускага Палесся выявілі свой гераічны патрыятызм цяпер, у час Вялікай Айчыннай вайны, калі самы найзлейшы за ўсе вякі, самы крывавы і паганы вораг уварваўся на беларускую зямлю, каб прысвоіць яе сабе, навекі яе заняволіць і ўздзець на наш народ ланцугі рабства. Змаганне з нямецкімі акупантамі стала магутным народным рухам. І адным з яго пачынальнікаў і выдатным кіраўніком ёсць дзеяч беларускага Палесся, цяпер Герой Савецкага Саюза, Ціхон Піменавіч Бумажкоў.

## Маленства і юнацтва

Бацькі Ціхона Піменавіча Бумажкова былі бедныя сяляне з вёскі Пудоўля на Магілёўшчыне. У пошуках спосабу жыць гэтая сям'я на некалькі год трапіла на Далёкі Усход, пасля зноў вярнулася ў Беларусь. Бумажковы абсталяваліся жыць у Дрыбінскім раёне, у вёсцы Куляшова, Чарняўскага сельсавета. Пімен Бумажкоў раней займаўся сельскай гаспадаркай, пасля пайшоў працаваць на завод рабочым.

Ціхон Піменавіч радзіўся ў 1910 годзе. Ужо з самых малых сваіх год хлопчык пачаў уваходзіць у працоўнае жыццё сваіх бацькоў і ўсіх навакольных простых, працавітых людзей. Спачатку ён быў пастушком у кулака, пасля, калі падрос, служыў парабкам. Маленства яго праходзіла ў працы і заклапочанасці, і гэта клала сваю пячаць на фармаванне маладой натуры. Вырастаў юнак сталы, дзелавіты, які ўмеў сярод усялякіх спраў адразу ўбачыць самае важнае і найбольш патрэбнае. Ён мог падначаліць важнай справе парывы нават свайго мален-

ства. І калі справа была даведзена да канца, маладая душа поўнілася радасцю, і парывы маладосці былі тады ясным шчасцем маладому чалавеку. Так вырас чалавек справы і цвёрдага слова. Людзі, што блізка ведаюць Ціхона Піменавіча, сцвярджаюць, што не ведаюць яны аніводнага выпадку, калі б ён не давёў да канца справы, за якую ўзяўся, або каб не стрымаў дадзенага слова.

Юнацтва Ціхона Піменавіча ішло па гэтым жа шляху, вызначанаму ўжо выразна з момантаў першай маладосці. Гэта быў чалавек кожнадзённай працы, якая перарастала ў дзейнасць. Ціхон Піменавіч рабіўся грамадскім і палітычным дзеячам. Гэты кірунак свае дзейнасці ён пачаў з камсамола. Ужо з першых часоў, пасля ўступлення ў камсамол, ён пачаў выяўляць сябе на камсамольскай рабоце. Разам з гэтым ішла яго вучоба. Ён вучыўся заўсёды. Пасля пачатковай школы займаўся самаадукаваннем, а пасля прыехаў вучыцца ў Мінскі хіміка-тэхналагічны тэхнікум, які скончыў у 1933 годзе. Будучы студэнтам тэхнікума, ён быў ужо членам партыі (з 1930 года).

Тэхнікум даў Ціхону Піменавічу спецыяльнасць, якой ён аддаваўся ўсімі сіламі, але ў якой аднак жа не замкнуўся. У кожным разе гэта не была тая натура, якая зрабіла б чалавека вузкім спецыялістам. У 1933 годзе, пасля заканчэння тэхнікума, Ціхон Піменавіч быў назначан на Гомельскі цагельны завод № 6 тэхнічным кіраўніком. У тым жа годзе ён быў прызван у армію і служыў у кавалерыі два гады. Пасля арміі Ціхон Піменавіч назначаецца тэхнічным кіраўніком на вапняны завод № 2 у Клімавічах. Гэта было ў 1935 годзе. Праз малы час ён назначаецца дырэктарам гэтага ж завода. Завод адразу пачаў паляпшаць сваю працу. Вытворчыя планы пачалі перавыконвацца. Праз год Ціхон Піменавіч пераводзіцца ў г. Петрыкаў дырэктарам на вялікі цагельны завод. І там ён працуе да 1938 года.

Ціхон Піменавіч Бумажкоў стаў выдатным гаспадарнікам, вядомым кіраўніком прамысловых прадпрыемстваў. Гэта была праца з ранку да вечара. Яна патрабавала ўвагі да сотні вялікіх і дробных спраў. І ўсё ж такі дырэктар завода, чалавек малады, у якім яшчэ не спыніўся своеасаблівы працэс фармавання характару, не стаў замкнутым у сабе спецыялістам, які выконвае сваю справу і толькі гэтым задаволен. Гэты момант не вычэрпваецца тым, што дырэктар завода вывучаў спосабы палеп-

шання свайго завода, імкнуўся змяніць і перабудаваць яго. Ён быў гаспадарнік усяго раёна: ён ведаў мясцовасць, дзе сам працуе, і яго слова было патрэбным тут. Ён быў грамадскім дзеячам, работнікам савецкім і партыйным.

У 1938 годзе Ціхон Піменавіч выбіраецца старшынёй Петрыкаўскага райвыканкома. У тым жа годзе ён выбіраецца дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР.

У жніўні 1939 года Ціхон Піменавіч пераводзіцца ў толькі што створаны Кастрычніцкі раён, на Палессі, сакратаром райкома партыі. На гэтай працы яго застала Вялікая Айчынная вайна.

## Першыя тыдні вайны

На Мазырскім Палессі было яшчэ ціха, калі гітлераўскія полчышчы ўжо рваліся на Случчыну, на Бабруйшчыну, на Міншчыну. Стаялі ясныя дні. Даспявала ў полі жыта. Над Мазырскім Палессем з'яўляліся нямецкія самалёты. Людзям было цяжка думаць, што гітлераўскае звяр'ё можа перарваць штодзённую працу: блізкую прыборку багатага ўраджаю. Трывожныя былі дні. З заходняй стараны даходзілі сюды бежанцы, якім пашанцавала выбрацца з агню нямецкіх бамбардзіровак. Праходзілі групамі і па адным параненыя чырвонаармейцы. Яны адыходзілі ў тыл, на ўсход. Ішлі байцы, якія выбраліся з нямецкага акружэння.

Ужо немцы спалілі і разбамбілі Мінск. Ужо дайшлі весткі, што нямецкія танкі рваліся на Бабруйск па старым Маскоўска-Варшаўскім шасэ. Быў час — напярэдадні гістарычнай прамовы вялікага правадыра таварыша Сталіна, які заклікаў савецкія народы стаць грудзьмі на абарону Бацькаўшчыны.

У гэтыя дні ў Кастрычніцкім раёне арганізоўваецца партызанскі атрад. Гэта быў актыў работнікаў раёна. Рыхтавалася ў лесе база, з якой павінен быў дзейнічаць атрад. У лясной гушчыні было схавана многа засоленага мяса і сухароў. Там жа схавалі спірт, палаткі, плашчы, адзежу. Пачалі збіраць зброю. Збіралі бутэлькі на ўсіх складах раёна, налівалі іх бензінам і хавалі ў лясах.

Вораг пачаў насядаць на Палессе. Над тэрыторыяй Кастрычніцкага раёна часцей пачалі з'яўляцца нямецкія самалёты. Яны пачалі ўжо бамбіць масты і пасёлкі. Паміж лясоў прабіраліся да населеных пунктаў шпіёны і дыверсанты. Яны разносілі хлуслівыя чуткі, што Чырвоная

Армія знішчана немцамі, і што Масква гарыць ад нямецкіх бомб, і што Савецкі Саюз гіне і праз некалькі тыдняў будзе ўвесь заняты гітлераўскім войскам. Гэта быў час страшны і цяжкі. І асабліва адчуваў гэта той, на чыіх плячах ляжаў клопат аб усім раёне.

Гэта — сакратар раённага камітэта партыі — Ціхон Піменавіч Бумажкоў.

У раёне было ў тыя дні расстраляна некалькі нямецкіх шпіёнаў і дыверсантаў.

Прамова таварыша Сталіна дала пачынальнікам беларускага партызанскага руху ў гэтым раёне ўпэўненасць, што яны на правільнай дарозе і што перад імі — дні вялікага і цяжкага змагання. Справа стала так: або перамагчы ворага, або памерці ў змаганні.

І вось пачалі з'яўляцца на тэрыторыі раёна немцы. Фронт быў яшчэ заходней ад тэрыторыі раёна, але пачалі высаджвацца невялікія дэсанты, пачалі прасоўвацца разведчыкі і часам прарывацца танкі. К гэтаму часу ў атрадзе было 80 чалавек. Пачалася першая дзейнасць атрада.

Бумажкоў, галоўны арганізатар атрада, быў і яго камандзірам. Яго цвёрдая воля і здаровая развага адразу выявіліся ў тым, што атрад стаў у першыя ж дні свае дзейнасці на самыя важныя ўчасткі. Туды — дзе было самае важнае ў змаганні з ворагам у тыя дні.

Атрад быў разбіты на групы, якія занялі пераправы на рэках. Тут маглі прабівацца на ўсход нямецкія танкі. Фронт быў яшчэ наперадзе. І з часцямі Чырвонай Арміі на фронце ўжо была ўстаноўлена сувязь. Значная частка партызан разышлася па дарогах дзеля таго, каб у атрадзе было вядома ўсё, што робіцца на тэрыторыі раёна. Гэта была няспынная і сталая разведка.

Для большай аператыўнасці, рухавасці атрада была выдзелена група партызан пад камандай Фёдара Іларыёнавіча Паўлоўскага. Гэтая група выконвала аперацыі і заданні, якія даваў камандзір усяго атрада Бумажкоў.

Апрача Паўлоўскага і Бумажкова, былі памочнікі і дарадцы — Чарэднік Іван Сцяпанавіч, Царанкоў Дзімітры Сцяпанавіч.

Пачаліся баявыя сутычкі з дробнымі групамі немцаў, якія пачалі прасоўвацца на тэрыторыю дзейнасці атрада.

Тэрыторыя Кастрычніцкага раёна, таксама як і мясцовасць у суседніх раёнах, нейкі час заставалася незанятай немцамі яшчэ і тады, калі на флангах нямецкая армія ўжо здолела прарвацца далей на ўсход. Тэрыторыя Каст-

рычніцкага раёна была ўжо бадай што занята немцамі. Астаўся вузкі выхад у бок мястэчка Азарычы. Бумажкоў займаўся справамі атрада, быў у курсе разведкі, пасылаў разведчыкаў, на матацыкле сам выязджаў у найбольш паграпныя месцы, дзе асабліва дакладна трэба было арыентавацца ў абстаноўцы. Ён кіраваў баямі атрада з групамі ворага, якія стараліся часта пераходзіць цераз пераправы на рэках. У той жа час Бумажкоў не пакідаў сваіх абавязкаў сакратара раённага камітэта партыі. Вораг быў блізка і нават ужо займаў тэрыторыю. Бумажкоў займаўся арганізацыяй насельніцтва на абарону. Ён быў агітатарам-прапагандыстам. Ён прымаў у атрад новых людзей. Ён не дапусціў якога б там ні было развалу раённых устаноў і арганізацый. Пад яго наглядам працаваў ваенкамат: ішла мабілізацыя ў Чырвоную Армію прызыўных узростаў.

Паўсталі новыя патрэбы. Бумажкоў заняўся арганізацыяй вялікай сталоўкі і шпіталя. Праз некалькі дзён у сталоўку прыязджалі ўжо ваенныя кухні і бралі гатовы абед для параненых байцоў-франтавікоў і для маршавых часцей. Яшчэ праз некалькі дзён пачаў працаваць новаадкрыты шпіталь. Там лячыліся байцы, якія адставалі ад сваіх часцей і накіроўваліся ў тыл.

Тым часам варожае кола навакол раёна ўжо сцягвалася, звужалася і неўзабаве гатова было замкнуцца. А на захад ад лініі фронту, у тыле ў ворага, разведчыкі атрада Бумажкова пачалі выяўляць чырвонаармейскія часці, якія трапілі ў акружэнне і шукалі дарогі ў незнаёмай мясцовасці, каб выбрацца з варожага тылу. Бумажкоў даў загад асобным групам свайго атрада вывесці з акружэння выяўленыя часці. І ўжо ў самыя апошнія дні перад вялікімі баямі атрада на пераправах група партызан Бумажкова правяла патайнымі дарогамі з нямецкага акружэння полк з усім узбраеннем і вайсковым абсталяваннем.

Бумажкова бачылі ўсюды. На матацыкле ён кожны дзень з'яўляўся на той пункт, дзе былі найбольш важныя справы. Ён сам наглядаў за ўсім, ён сам усё правяраў і арыентаваўся ў абстаноўцы адразу. І загадваў цвёрда і рашуча. За гэты кароткі час ён у сваім раёне асабліва стаў папулярны. На яго спадзяваліся як на чалавека, які ў рашучы момант дасць верную параду.

І гэта ўжо былі апошнія дні той пары, калі яшчэ ў гэтым палескім кутку было некаторае падабенства цішыні. Гэта быў яшчэ невялікі вецер перад вялікай бурай.

Прыйшлі дні вялікіх партызанскіх баёў з грознай сілай ворага. Надышоў час подзвігаў і геройства.

Была сярэдзіна ліпеня месяца.

## На рацэ Пцічы

Ужо другі дзень Бумажкоў не пакідаў свайго атрада. У гэтых зарасніках на беразе Пцічы людзі сядзелі прытоеныя. Артылерыйская кананада даходзіла сюды прыглушаным громам. Гарачае лета стаяла над спелай збажыной затоенай трывогай. Цішыня поля і лесу здавалася вялікай перад громам артылерыі і перад узрывам бомб з нямецкіх бамбардзіроўшчыкаў.

У той дзень Бумажкоў некалькі разоў пасылаў разведку, і кожны раз пацвярджалася тое, што нямецкія танкі з'явіліся там, адкуль яны могуць пайсці проста да пераправаў на Пцічы. Але ў першыя дні сярэдзіны ліпеня танкі тут не з'явіліся. Затое вялікая група нямецкіх разведчыкаў падышла да самага берага ракі. І дазорныя атрада Бумажкова іх заўважылі.

У гэтым глухім лясістым месцы, дзе лес часта саступаў месца балоту, трэба было разведваць кожны крок. І вельмі можа быць, што немцы цэлай вялікай групай абмацвалі дарогі для сваіх танкаў. Бумажкоў наглядаў з свайго ўкрыцця, як немцы то па адным, то невялікімі групамі пачалі збірацца да рачнога берага. Атрад яго быў напагатове і пакуль што нічым не выяўляў сябе. Бумажкоў чакаў, пакуль немцы збяруцца разам, каб напасці на іх нечакана. Трэба было прычакаць зручнага моманту.

Партызанскі залп быў для немцаў нечаканым. Але пасля першага збянтэжання яны пачалі ўкрывацца для бою. Ужо ляжала некалькі нямецкіх трупаў. Партызаны расстрэльвалі гітлераўцаў з блізкай адлегласці. Немцы неўзабаве таксама адкрылі стральбу. Але яны стралялі ўсляпую, тады калі партызаны, з свае больш выгаднай пазіцыі, бачылі цэль.

Можна сказаць, што гэта была генеральная баявая рэпетыцыя атрада Бумажкова. Нямецкая група была разбіта, і рэшткі яе шпарка адышлі. Атрад Бумажкова ўжо займаў з гэтага дня пазіцыю тут, каля дзвюх пераправаў цераз Пціч. З усяго было відно, што неўзабаве прыйдзецца вытрымаць вялікія баі з немцамі.

Бумажкоў паслаў наперад сваіх падрыўнікоў. З прыфрантавой паласы ўжо былі эвакуіраваны ўсе паязныя

саставы і ўся чыгуначная маёмасць. Чыгунка хіба толькі магла служыць для нямецкіх бранепоездаў. Падрыўнікі Бумажкова ў некалькіх месцах узарвалі чыгуначнае палатно і масты. Атрад стаяў на пераправах цераз Пціч.

Гэтыя пераправы трэба было ўтрымліваць за сабой што б там ні было. Яны яшчэ спатрэбяцца нашым рэгулярным часцям. І вось адбылося тое, аб чым раней думаў Бумажкоў. На той самай дарозе, па якой раней ішла вялікая група варожай разведкі, з'явілася вялікая калона нямецкіх танкаў. Разведка Бумажкова данесла, што, не даходзячы да ракі, танкі перагрупіроўваюцца. Яны пайшлі дзвюма групамі на дзве пераправы. Яны пачалі перапраўляцца ўжо на гэты бераг, Бумажкоў сваім атрадам загарадзіў ім дарогу. Гэта быў час наогул першай спробы бою чалавека з танкамі. Яшчэ не было практыкі гэтага страшнага паядынка. Яшчэ партызанамі Бумажкова не была на практыцы праверана сіла бутэлькі, налітай гаручым. А пакуль што ў атрадзе гэта была адзіная супрацьтанкавая зброя.

Партызаны першай групы кінуліся насустрач танкам. Другая група вяла бесперапынную стральбу. Тут былі меткія стральцы, якія цэліліся ў нямецкіх танкістаў, што прымушаны былі выбягаць з танкаў. Пад прыкрыццем стралкоў бранябойшчыкі падбягалі і падпаўзалі да нямецкіх машын і закідалі іх бутэлькамі. Яны працавалі ўздоўж гэтых дзвюх танкавых калон. Немцы адказалі страшным агнём, але калоны танкаў спыніліся на месцы: пярэднія танкі ўжо гарэлі, заднія іх аб'ехаць не маглі, бо тут былі толькі дзве вузкія пераправы і яны былі ўжо заткнуты. Бумажкоў ляжаў на мокрай прыбалочанай зямлі і кідаў бутэльку за бутэлькай. Ён адчуваў паабапал сябе сваіх байцоў, яны чулі голас свайго камандзіра ў кароткія моманты, калі перарываўся гром бою. Але такіх момантаў было мала. Усё грымела і аддавалася рэхам у лясах. Нямецкія танкі гараць. Бумажкоў бачыць, як курчацца фашысты каля гусеніц сваіх жа танкаў, прастрэленыя партызанскімі кулямі. Адзежа на іх гарыць. Яны падаюць адзін за другім. Бумажкоў бачыць, як баец каля яго ўскінуў угару руку і раптам упаў тварам у зямлю. Бумажкоў ускінуў руку на галаву свайго байца. Баец не варушыўся. Ён быў мёртвы. Бумажкоў акідае вачыма грымучую калону нямецкіх танкаў. Ён бачыць: гарыць звыш дзесяці танкаў. Слаўна папрацавалі яго байцы. Раптам ён бачыць: нямецкія танкі, якія яшчэ не

гарадь, выбіраюцца з калоны, адзін за адным заварочваюцца і на ўвесь свой рух уцякаюць туды, адкуль з'явіліся.

— Загарадзіць ім дарогу! Знішчыць іх усіх! — камандуе Бумажкоў.

Байцы бяруць на прыцэл кожны танк, які робіць разварот паўз дарогу. Вось ужо і на абочыне дарогі гарыць танк, а пасля другі. Байцы кідаюцца да нямецкіх танкістаў, якія хочуць шпаркасцю сваіх ног выратавацца з агню. Вінтовачныя кулі кладуць іх усіх на месцы. Гудзе і трашчыць агонь на нямецкіх машынах. Некалькі нямецкіх танкаў імчыцца назад, уцякаюць. Вось іх ужо не відно. Бой сціх, толькі трашчыць агонь. Байцы становяцца на ўвесь рост, збіраюцца разам. Бумажкоў пайшоў дазнацца аб выніках бою на другой пераправе. Там хацела перайсці раку меншая калона танкаў, але там менш было і байцоў. І там гараць нямецкія танкі.

Вялікі ўздым і радасць. Вялікая перамога над ворагам. Бумажкоў гаворыць сваім байцам:

— Таварышы, сябры! Мы знішчылі семнаццаць нямецкіх танкаў!

У гэтым баі загінула некалькі чалавек партызан. На іх пахаванне сышліся людзі з вёсак. Па ўсім шырокім наваколлі пайшла вестка пра перамогу атрада над вялікай калонай нямецкіх танкаў. У атрад пачало сыходзіцца больш людзей. К гэтаму часу атрад пачаў дзейнічаць ужо ў сістэме часцей Чырвонай Арміі. Праз некалькі дзён пасля таго славутага бою з танкамі атрад прабраўся праз фронт у тыл ворага як дэсант. К атраду была дадзена група чырвонаармейцаў. Атрад сарваў планы немцаў на ўчастку фронту, многа зрабіў ворагу шкоды. З боем атрад выйшаў з тылу.

Калі варочаліся назад, праходзілі праз месца таго выдатнага бою. Як пачварныя страшыдлы, стаялі на беразе Пцічы, на гэтым маляўнічым палескім узлессі, асмаленыя недагаркі нямецкіх танкаў. Байцы атрада з радасцю і гордасцю глядзелі на іх.

— Чыстая работа,— сказаў адзін партызан, і ўсе глянулі на свайго камандзіра Бумажкова.

### Юныя разведчыкі

У гэтыя часы прыйшлі ў атрад два хлапчукі. Жэня і Віця. Гэта былі выхаванцы Пінскага дзіцячага дома. Сі-

раты. Жэня меў 12 год, Віця — 13 год. Ідучы з Пінска, далей ад фронту, яны затрымаліся тут, пабылі нейкі час і прыйшлі ў атрад Бумажкова. Пачалося з жартаў. Пыталі: а што вы будзеце рабіць у атрадзе? А ці ўмееце вы бульбу скрэбці? А ці ўмееце вераб'ёў лавіць? На такія запытанні хлопцы адказвалі таксама жартамі: мы бульбу скрэбці не вельмі здатныя. Мы толькі ўмеем яе есці. А што да вераб'я, дык мы яго хутчэй зловім, чым ты, дзядзька, варону застрэліш. Адным словам, гэтым хлопцам не было дзе дзецца, яны асталіся пры атрадзе. Бумажкоў нейкі час да іх прыглядаўся, разы са два пагаварыў з імі і аднойчы сказаў:

— Мне трэба, каб вы былі хітрымі хлопцамі.

— Мы хітрыя і ёсць.

— А можаце вы так зрабіць, каб пабыць у немца, а пасля, як бы нічога і не было, вярнуцца сюды і расказаць усё мне?

— Можам.

— А чаму вы думаеце, што можаце?

— А таму, што хоць ужо мы вялікія, але мы яшчэ малыя. Немец не вельмі будзе да нас прыглядацца.

— Ну, дык пойдзеце?

— А куды ісці?

Бумажкоў даў ім месцы, дзе трэба ўсё абгледзець і разведаць. Жэня і Віця выбраліся ў дарогу. Праз нейкі час яны ўвайшлі ў вёску. У руках іх былі пугі і пустыя завязаныя торбачкі. Адразу кідалася ў вочы, што гэта пастушкі. Яны прыгналі з поля кароў і яшчэ не паспелі зайсці ў свае хаты і пакуль што бадзяюцца па вуліцы. У вёсцы было многа немцаў. У вялікім садзе, агароджа навакол якога была ўжо зломана, стаяла 20 нямецкіх бронемашын. Стаяла многа матацыклаў, легкавых і грузавых машын. Пасля стала вядома, што гэта машыны аднаго нямецкага штаба. Жэня і Віця ўвайшлі ў гэты сад і пачалі прыкідвацца, што ім вельмі цікава паглядзець на машыну зблізку. Падыходзячы да машын, яны паміж сабой пасварыліся за яблык, стараліся вырваць яго адзін у аднаго з рук. Пасля Віця некалькі разоў штурхануў Жэню ў плечы, і той упаў. Усхапіўшыся, ён папусціў агрызкам яблыка ў Віцю. Адным словам, усё гэта было вельмі падобна на сапраўдную сварку паміж пастушкамі. Усё гэта было разыграна натуральна, і немцам не было дзіўна бачыць каля сябе гэтых хлапчукоў. У кожным разе яны не з'явіліся перад вачыма нечакана.

Жэня і Віця пералічылі ўсе да адной бронемашыны, матацыклы, легкавыя і грузавыя аўтамабілі. Яны пацерліся каля немцаў, памацалі колы ў машынах. Да іх падышоў немец, які ўмеў гаварыць па-руску.

— Добрыя машыны? — запытаў ён.

— Добрыя,— адказалі хлапчукі.— У нашых такіх няма.

— А далёка вашы адгэтуль?

— О, далёка. Нашых тут зусім няма. Нідзе не відно чырвонаармейцаў.

— А партызаны?

— Партызан тут ані нідзе не чутно. Іх у нашым раёне зусім няма.

Так, пагаварыўшы з немцамі і абнадзеіўшы іх, што няма ні Чырвонай Арміі, ні партызан, Жэня і Віця пайшлі назад, да Бумажкова. Яны расказалі аб справах свае разведкі. Немцы там адчувалі сябе спакойна. Нічога падазронага не прадчуваючы, яны грэлі ваду і каля сваіх машын у садзе мыліся.

Бумажкоў выслухаў сваіх разведчыкаў. Ён распытаў дакладна, у якім нават месцы саду стаяць машыны, і адразу ж звязаўся па тэлефону з камандзірам браняпоезда, які стаяў у лясным укрыцці. Неўзабаве браняпоезд пайшоў у кірунку на вёску Азімлю. Бумажкоў з групай партызан быў на браняпоездзе. Кіруючыся расказамі Жэні і Віці, ён даў арыенціры для артылерыі.

І вось браняпоезд залпамі сваёй артылерыі адразу накрыў нямецкі штаб разам з бронемашынамі. Гэта было для немцаў вялікай нечаканасцю. Яны не паспелі нават сесці ў машыны. Разгром матарызаванай нямецкай часці быў поўны.

Жэня і Віця пасля гэтага асталіся разведчыкамі на браняпоездзе. Пасля яны былі ўзнагароджаны медалямі «За адвагу».

### Змаганне за раённы цэнтр

Немцы ўжо займалі тэрыторыю раёна. Іх калоны былі ўжо за два кіламетры ад цэнтра раёна — пасёлка Кастрычнік. Бумажкоў на матацыкле паехаў у разведку. Яго не было гадзіны дзве. Калі ён вярнуўся назад,— убачыў, што каля раённых устаноў стаяць грузавыя машыны і многа работнікаў раёна ўжо гатовы выязджаць. А з раёна яшчэ трэба было эвакуіраваць многа маёмасці. Бумаж-

коў забараніў выязджаць. Ён загадаў усім зараз жа брацца за зброю.

Немцы пачалі біць па пасёлку з артылерыі і мінамётаў. На вуліцах ірваліся снарады. Бумажкоў вывеў сваіх людзей да асноўных сіл атрада і павёў атрад шырокім абходам у тыл нямецкай часці, якая была ўжо гатова займаць раённы цэнтр. Месца было лясістае, і гэта выкарыстаў Бумажкоў. Ён падвёў атрад да самага месца, дзе дзейнічала нямецкая часць. Удар з тылу быў да таго нечаканы, што немцы пачалі кідацца і мітусіцца. Байцы Бумажкова дзейнічалі цяпер галоўным чынам гранатамі. Яны збілі немцаў з пазіцыі і прымусілі іх адступіць, пакінуўшы на месцы бою многа забітых і параненых.

У раённым цэнтры стала ціха і спакойна. Цяпер ужо тым больш можна было спакойна вывезці ўсё, што трэба было. К таму ж, гэта была вялікая падмога адной нашай вайсковай часці, якая ў гэтых месцах вяла з праціўнікам жорсткія абарончыя баі.

Разгромам нямецкай часці Бумажкоў на тры дні затрымаў немцаў на іх ранейшых пазіцыях. Гэты бой адбыўся 3 жніўня. А немцы занялі раённы цэнтр толькі 7 жніўня перад вечарам. У той жа дзень атрад Бумажкова пакінуў пасёлак Кастрычнік і пайшоў у лясы.

## У варожым тыле

Трэба думаць, немцы ведалі, што недзе тут, паблізу, скрываецца грозная для іх сіла — партызанскі атрад. У раённым цэнтры яны бадай што і не былі: вельмі скора яны выйшлі з пасёлка і абсталявалі свой штаб у вёсцы Ломавічы. У цэнтр раёна толькі наязджалі паасобныя нямецкія групы, каб пеграбіць. Гэтыя групы нямецкага гадаўя раз'язджалі і па ўсіх вёсках. Ужо адразу з'явіліся віселыні, ужо ляжалі на вуліцах і дарогах застрэленыя немцамі жанчыны і дзеці. Мястэчкі і вёскі быццам абязлюдзелі. Чалавек баяўся выйсці на вуліцу. Усё прытаілася, замоўкла. Расказвалі, што па дарозе, непадалёку ад Ломавіч, ішла жанчына з дзіцем на руках. Яна была родам, як пасля выявілася, з Старобінскага раёна, ужо раней занятага немцамі. Яна выратавалася там ад немцаў з адным меншым дзіцем. А двое большых загінулі ў часе нямецкага грабяжу. Яна тут шукала сабе прытулку, не могучы прабірацца далей на ўсход: яна была хворая. Каля вёскі Ломавіч яе дагнаў нямецкі матацыкліст. Ён яе

скамандаваў бегчы. Яна спачатку не зразумела і стаяла, спалоханая, збянтэжаная. Немец крычаў і дзіка рагатаў. Нарэшце яна зразумела і пабегла, тулячы да сябе сваё дзіця. Немец спачатку гнаўся за ёю на сваім матацыкле, пацяшаючыся, што яна не можа справіцца з машынай. Пасля спыніўся. Жанчына азірнулася. Твар яе поўніўся жахам і смуткам. Немец крыкам зноў пагнаў яе наперад, але сам не паехаў за ёю, а прыцэліўся і стрэліў ёй у спіну. Яна ўпала пасярод дарогі, і дзіця яшчэ доўга плакала, пакуль зайшлося пры нежывой маці. Ломавіцкія людзі бачылі гэта, і праз некалькі дзён па ўсёй навакольнасці ішла пра гэта паміж людзей гаворка. Прайшло ўсяго некалькі дзён пасля таго, калі атрад Бумажкова даваў немцам бой і разграміў нямецкую часць, а ўжо гаварылі, што атрада нідзе не чуваць і што можа здарылася што нядобрае.

У гэтыя самыя дні Бумажкоў быў у горадзе Мазыры, яго выклікаў да сябе абласны камітэт партыі. Праз некалькі дзён ён вярнуўся і знайшоў свой атрад, як і раней заўсёды, у поўнай баявой падрыхтаванасці. Атрад стаяў у лесе, кіламетраў за дзесяць ад пасёлка Кастрычнік. Расказвалі, што ў гэтыя дні Бумажкоў быў яшчэ больш, як калі раней, скупы на словы. Ён сабраў каля сябе сваіх бліжэйшых сяброў і развіў перад імі план новай задуманай ім аперацыі. Таварышы запомнілі яго словы:

— Цяпер пачалася новая пара ў нашым змаганні. Мы ўжо ў варожым тыле. Калі немец будзе адчуваць сябе гаспадаром у нашым родным кутку — грош нам цана.

Быў прыняты план разгрому нямецкага штаба ў Ломавічах.

Да Ломавіч атрад падышоў з двух бакоў. Разведка некалькі разоў паказвала, што там даволі моцная групіроўка немцаў. Бумажкоў паставіў задачу аб поўным разгроме штаба. І ён надаваў вялікае значэнне раптоўнасці ўдару. Ён дамагаўся таго, каб усё ішло паводле распрацаванага плана. Атрад ужо меў немалую практыку. Ужо людзі ведалі асаблівасці адзін аднаго, ужо звыкліся адзін з адным, і ўжо ўсіх добра ведаў іхні камандзір Ціхон Піменавіч Бумажкоў.

Удар быў нечаканы для немцаў. Толькі праз хвілін дзесяць — пятнаццаць яны маглі ўступіць у бой. Да гэтага часу сярод іх ужо многа ляжала мёртвых. Бой не цягнуўся доўга. Нямецкі штаб быў разгромлен. Мізэрная рэштка нямецкіх салдат разбеглася па лясах. Частка з іх перай-

шла кудысьці ў іншае месца, дзе іх камандаванне збірала новы свой акупацыйны лагер, а некаторыя з іх бадзяліся па лясах і вылаўліваліся калгаснікамі і партызанамі Бумажкова. Так скончыў сваё існаванне нямецкі акупацыйны штаб на тэрыторыі Кастрычніцкага раёна на беларускім Палессі. У Ломавічах немцы нават больш і не спрабавалі зноў абсталёўвацца. І наогул на тэрыторыі Кастрычніцкага раёна яны баяліся смела разгульваць. Іх часці і групы, як правіла, стараліся абмінаць ляспыя дарогі і паселішчы, дзе былі блізка лясы.

## Ніводзін немец не астанецца жывым на нашай зямлі

Ужо вялікая слава хадзіла пра атрад Бумажкова. Ужо скрозь, па ўсіх шырокіх мясцовасцях і па ўсёй Беларусі, пайшла вестка, што слаўны мсцівец за крыўды роднага народа — Ціхон Піменавіч Бумажкоў вядомы стаў па ўсім Савецкім Саюзе. Урад Савецкага Саюза прысвоіў адданаму і вернаму сыну беларускага народа званне Героя Савецкага Саюза. Былі ўзнагароджаны лепшыя партызаны. У шчырай свядомасці свайго вялікага абавязку перад роднай краінай, перад родным народам партызаны пакляліся не складаць зброі да таго шчаслівага дня, пакуль ніводнага жывога немца не астанецца на роднай зямлі.

Палескія вёскі і мястэчкі часта бачылі на сваіх вуліцах свайго героя і яго слаўных партызан. Пачалі ляцець пад адкосы нямецкія паязды. Людзі часта сустракалі на дарогах, у лясах і каля сваіх хат разведчыкаў з атрада Бумажкова. У атрадзе ведалі кожны рух немцаў і скоўвалі яго.

Адзін раз, у сонечны ціхі дзень, Бумажкоў прыйшоў з двума партызанамі на галоўную базу свайго атрада. Скупы на словы, ён моўчкі праверыў, што і як у атрадзе, пасля сабраў людзей і сказаў:

— Чатыры гадзіны таму назад зноў паляцеў пад адкос нямецкі поезд. Зараз вернецца рэштка нашых людзей.

На твары яго праступала пячаць і смутку і радасці. На лбе ляжала глыбокая маршчына. Думка, упартая і глыбокая, ніколі не пакідала яго. Пасля ўдачнай справы ўночы было некалькі гадзін адпачынку. Яму трэба было б паспаць. Ён быццам чагосьці чакаў. Ён паволі выйшаў на ўзлесак. Прыгнуўся к зямлі, сарваў нейкую шыракаліс-

тую лясную расліну. Расцёр у пальцах ліст. Востра пахла полем, лесам, мокрым рачным берагам. Сонца свяціла і грэла зямлю. Бумажкоў стаяў у задуменні. Два партызаны ўбачылі яго тут. Яны варочаліся з свае аперацыі, на якой былі ўночы. Гэта былі яго ранейшыя работнікі ў раёне, калі яшчэ тут не было немцаў.

— Ну, браткі...— сказаў ім Бумажкоў, і яны спыніліся.

— Ціхон Піменавіч,— сказаў адзін,— як гэта... ты стаў такі сівы.

— Сівы стаў? — перапытаў Бумажкоў.

— Галава твая сівая стала. За такі кароткі час. Нейк адразу.

Бумажкоў правёў рукой па валасах. Партызан дастаў з кішэні круглае кішэннае люстэрка. Бумажкоў убачыў сваю пасівелую галаву і ціха ўсміхнуўся. Позірк яго спыніўся на вачах тых, каму ён быў бацькам і другам, і цвёрдым камандзірам.

— Пойдзем,— сказаў ён.— Дні якія стаяць... Не, яны тут усе лягуць касцьмі. Яшчэ будзе той, хто ўцалее ў Германіі пасля вайны, ірваць на сабе валасы...

Яны ішлі ў глыбіню лесу. Усім ім хацелася заспяваць родную, тутэйшую знаёмую песню.

Праз некалькі гадзін у Бумажкова быў ужо гатоў план новай баявой аперацыі.

# БУРГОМІСТР І КУРЫЦА

Раней фрыцы пажэрлі ўсіх курэй, а пасля загадалі, каб гэтыя куры неслі ім яйкі. У створанай немцамі Дамінікоўскай воласці не асталося ніводнай курыцы.

Немцы загадалі:

«Паводле колькасці птушкі ў вашым раёне, вам устаноўлена здаць 65 тысяч 940 яек».

Трэба паспачуваць валасному бургомістру, якому раённае нямецкае ўпраўленне дало гэты загад. Ходзіць гэтая нямецкая затычка ды пачухваецца: хоць садзіся сам у рэшата ды нясі тыя яйкі. Бо па ўсёй воласці, апроч вераб'ёў, няма ўжо ніякай іншай «колькасці птушкі». А якія там к чорту ў вераб'я яйкі! Ён такі самы без'яечны, як і той няшчасны бургомістр. Колькі б ён, гэты бургомістр, ні пяўся і ні стагнаў у саломе, усё ж такі ён бургомістр, а не курыца. Не тое што 65 тысяч 940 штук, а нават пары яек ён не знясе. Так што прыйдзецца яму, небараку, шукаць іншага спосабу здабываць тыя яйкі, каб нямецкай саранчы было чым напхаць вантробу. Пабяжыць гэтае паскудства па хатах з крыкам: давайце яйкі, гэтага патрабуе нямецкая дзяржава!

Яечная кампанія скончыцца так: і фрыцам, і іхняму бургомістру скора не ў галаве будуць яйкі. Яны будуць старацца несці з нашай зямлі свае ногі і не вынесуць.

# НЯМЕЦКАЕ ВАРАННЁ НАД СЛУЧЧЫНАЙ

На Случчыну злятаецца нямецкае вараннё. Кіпцюрастае, крыклівае, злоснае, ненаеднае, яно дзяўбе і грабе сабе кожнае зерне з урадлівага поля Случчыны. Садзіцца на галаву жывога чалавека, выпівае зажыва вочы і вырывае душу.

Мардастыя, тупыя, распусныя, бяздушныя, закаранелыя ў грабяжах і разбоях, з'язджаюцца на Случчыну фрыцы «арганізоўваць» тут сабе маёнткі. Яны робяць на Случчыне 60 новых маёнткаў у дадатак да раней створаных 35. У кожным маёнтку садзіцца на шыю народа «зондэрфюрэр» з сваёю паршываю зондэрфюрыхай. Сялянская зямля забіраецца ў гэтыя маёнткі.

Случане павінны цягнуць ярмо нявольніцтва на сваёй уласнай зямлі. Прыгожыя случанкі павінны абмываць і абчэсваць паршывых шчанят, якіх зондэрфюрэры з зондэрфюрыхамі збіраюцца пладзіць на нашай Случчыне.

Ад Семежава і Вызны, ад Капыля і Грозава, ад Слуцка і Урэчча ідзе смутак і гора.

Не для паганай нямецкай сабачні слуцкія бэры, не для гэтай навалачы слуцкія сады, урэцкія дачы, вызнянскія паплавы, семяжоўскія коні, Шастакоўскія і Прускія пушчы, Скіп'ёўскія і Смаленшчынскія лясы, селіцкая збажына, шчычынская і марачанская рыба, страхіньскія балоты, орлікаўскія хвоі, цімкаўскія настольнікі, жавалкаўскія ручнікі, пячэрынская гонта, лешанскія вышыўкі. Не для нямецкай погані тонкае палатно нашых удалых случанак і гучныя слуцкія песні.

Кол у горла кожнаму зондэрфюрэру, а не наша зямля! Ніякага паслухмянства перад немцамі! Ніякай спагады гадзіне! Няхай кожны зондэрфюрэр у зробленым на нашай зямлі маёнтку ўдушыцца ў лапах паганай смерці, з віламі ў чэраве ці з куляй у тупой галаве.

## ЗАПЛАЦІМ ПАНУ І ЯГО ПАСЛУГАЧУ

Пайшоў другі год, як у Мінску з'явіўся начальнік нямецкіх бандытаў на Беларусі гер Кубэ. Гадавіну крывавага нямецкага панавання над беларускім народам гэты Кубэ адзначыў, як «гадавіну ўстанаўлення цывільнай нямецкай улады ў Мінску».

Гэты год астаецца ў нашай гісторыі, як самы жудасны час за ўсе доўгія вякі жыцця беларускага народа. На кожным кроку немцы прыніжаюць нацыянальную гордасць беларусаў і фізічна знішчаюць беларускі народ. У адным толькі Мінску расстраляна і павешана звыш 85 тысяч чалавек.

Самую тэрыторыю Беларусі немцы разглядаюць не як тэрыторыю краіны, а як «няяснае геаграфічнае паняцце, з хісткімі межамі». Так сказаў аб Беларусі Кубэ. А аб насельніцтве Мінска ён сказаў, што ў Мінску з 300 тысяч чалавек асталося ўсяго 100 тысяч.

У гадавіну сваёй крывавай улады Кубэ выступіў у другу. Ён назваў сябе «прыхільнікам беларусаў». Гэты няпрошаны прыхільнік прыхіліўся да беларускага народа як соль да раны.

Раз-поразу ён напамінае, што «беларусы няздольны кіраваць самі сабой». Вядома, нямецкія банды для таго і навалакліся на Беларусь, каб адабраць у нашага народа ўсе правы, ператварыць беларусаў у рабочае паслухмянае быдла і жыць на нашай шыі.

Каля гера Кубэ круціцца кампанія «тутэйшых» прахвостаў і жулікаў. Кубэ даў ім сякую-такую службу каля сябе, у той меры, у якой іхнімі рукамі яму зручней душыць і зневажаць беларускі народ. Але вышэй іх не пускае.

Ён распарадзіўся свайму падбрэхічу нейкаму Юрду даць ім зразумець іх сапраўднае месца. І ў крывавую гадавіну «цывільнай нямецкай улады ў Мінску» гэты Юрда напісаў у мінскай газеце:

— У Беларусі немцы павінны «моцна трымаць лейцы ў руках». У Беларусі былі такія «скруцігаловы, якія хацелі самі кіраваць», але ім паказалі на іх сапраўднае месца.

Гэтае месца вядома дзе — на шпіёнскім і лакейскім сметніку. Пасля таго, калі гер Кубэ выкарыстае іх да кан-

ца і калі яны ўжо стануць яму непатрэбныя, ён выкіне іх на гэты сметнік.

Наш народ ненавідзіць гэтых чорных махляроў у такой меры, у якой ненавідзіць і крывавага гера Кубэ, і ўсю нямецкую банду. Гнеў народа разліваецца бурным акіянам і змяце з твару роднай зямлі нямецкую погань і ўсіх, хто ёй служыць.

## ДУХ ПРАГНАСЦІ

І так жа яму хочацца далезці да нашай нафты. І так жа яму хочацца пажэрці ўсё наша масла, глынуць усю нашу пшаніцу, напхаць сваю вантробу нашым дабром. Пнецца з усіх жыл. Лезе, як толькі можа. Аж пара з яго верне. Аж пот з яго гоніць і ўсякае паскудства з яго прэ. Дух каля яго стаіць такі, што дыхнуць цяжка.

Вісіць над яго галавою наша зброя, наша ўпартасць. Адапхнуць ён хоча яе ад сябе. Штурхане крывавай лапай, а тут, з размаху — бац яму ў чэрап! Штурхане зноў, а яму з размаху — трах у спіну, у капыты, у морду! Кроў з яго ручаём свішча, а ён усё стараецца адапхнуць ад сябе наш удар і плішчыцца з усёй натугі.

Пакуль яшчэ паўметра вышэй дапаўзе, дык з яго арыйскі дух выйдзе.

## СІМПАТЫЧНАЯ ДУБІНА

Гаўляйтарскія падлізнікі ў сваёй «Беларускай газеце» расхвальваюць беларускі народ, паліцыю і немцаў. Народа яны баяцца, немцам служаць, а на паліцыю спадзяюцца, як на сваю абарону ад народа. Вось як яны віляюць хвастом перад народам: «Характар у беларуса мяккі, дабрадушны, спагадлівы...»

Даўнейшы купец, які пражываў жыццё на гандлярскім ашуканстве і ў распусце, пад старасць будаваў цэрквы і маліўся богу. Так і гэты: як памаўзлівы сабачка, ён нарабіў шкоды і прадчувае кару. Дабрадушны народзе, выпадкам чаго — не карай мяне строга, ты ж спагадлівы!

«Праўда, і сярод беларусаў,— піша далей газетка,— сустракаюцца п'яніцы і грубіяны».

Гэта так. Згодзен. Ёсць і п'яніцы, ёсць і грубіяны. Ёсць нават і бандыты: і Адамовіч ёсць, і Ляхновіч ёсць. Ёсць і спадар Станкевіч. Усякая поскудзь ёсць, нічога не зробіш. Хоць лікам і мала яе, але — мала куча, але смярдзюча.

Газетка піша: «У такой арганізацыі, як паліцыя, адлюстроўваецца характар народа. Трэба, каб у беларускім паліцыянце і адлюстроўваўся характар беларускага народа».

Вось як! А мы ўжо гатовы былі паверыць, што той пісака меў кроплю шчырасці, калі хваліў дабрадушны характар народа. Аж ён не туды гне. Ён хоча, каб беларускі народ прыйшоў у гаўляйтарскую канцылярыю, адбіў крываваму геру паклон і запісаўся ў нямецкую паліцыю. І каб характар беларускага народа адлюстроўваўся праз паліцэйскага дзяржыморду. Вось жа маладзец! І якая тонкасць у разуменні народнай душы!

«Далікатны і тактоўны, чулы, заўсёды гатовы дапамагчы кожнаму — вось маральная сыльвэтка беларускага паліцыянта».

Ах, якая сыльвэтка! Адкапаў, шэльма, і старое шляхечае слоўца. Толькі гаворыць туманна, баіцца дагаварыць да канца. Прыйдзецца сказаць яго словы так, каб быў відзён іх сапраўдны сэнс: — Далікатны і тактоўны перад немцам, чулы да ўсякага жадання гітлераўскага бандыта і абдзірайлы, гатовы дапамагчы кожнаму немцу, калі ён грабіць або вешае,— вось маральнае аблічча таго, хто, стра-

ціўшы чалавечае сумленне і свой нацыянальны гонар, пайшоў у паліцыю служыць крывавым нямецкім акупантам.

Далей газетка, навучаючы гэтага малайца клапаціцца аб сваім выглядзе, піша: «Трэба памятаць і аб сваім вонкавым выглядзе. Праўда, беларусы яшчэ не надта рупяцца аб гэтым. Не толькі сяляне, але вельмі часта сустракаюцца і гарадскія інтэлігенты няголеныя, з нячэсанымі валасамі, дый ува ўсёй іхняй вопратцы відаць нядбайства».

Чыстасардэчнае прызнанне! Абарваныя, нячэсаныя, галодныя ходзяць людзі на Беларусі. Калі на кожным кроку цябе падпільноўвае нямецкая вяроўка і калі цябе душыць гора аб замучаных немцамі дзецях — то тады не да франтаўства. І франціць няма ў чым: немцы абдзерлі кожнага.

«Паліцыянт, заўсёды аголены, валасы нядоўгія, дакладна прычэсаныя... Калі злучыць гэты вонкавы выгляд з маральнымі якасцямі, дык выйдзе сапраўды сімпатычная сыльвэтка беларускага паліцыянта, які будзе карыстацца любасцю ўсяго народа».

Можна сабе ўявіць гэтага сімпацягу: дубіна падалася ў нямецкія халуі і заядлыя ворагі свайго народа. Народная любасць да гэтага нямецкага папіхайлы, на пальцах у якога народная кроў, выяўляецца ў тым, што яго ўсюды ненавідзяць, б'юць, як самага апошняга сабаку і гада.

# ВЯЛІКІ ПАЭТ БЕЛАРУСКАГА НАРОДА

Якуб Колас сваёй творчасцю ахоплівае дзве эпохі жыцця беларускага народа: эпоху змагання народа за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне і светлы шлях народа пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі. Трагедыя беларускага чалавека, які калісьці на сваёй зямлі прымушан быў шукаць для сябе гэтай зямлі, ператварылася ў вызваленчы рэвалюцыйны рух народа, які закончыўся рэвалюцыяй, і народ выйшаў на шырокія прасторы жыцця. Такі змест літаратурнай творчасці народнага паэта.

Уся творчасць вялікага паэта ёсць найглыбейшае адлюстраванне жыцця беларускага народа за некалькі самых бурных і яркіх дзесяцігоддзяў яго гісторыі. Выйшаўшы з самых глыбінь народа, Якуб Колас стаў песняром народнай душы. Нездарма ён, як паэт і дзеяч, узняўся да сваёй дзейнасці на хвалях рэвалюцыі 1905 года, калі народныя масы падрыхтоўвалі тое, што адбылося ў 1917 годзе,— вялікі Кастрычнік.

Кожны народ нашай радзімы ішоў да Кастрычніцкай рэвалюцыі, да вызвалення ад векавога гнёту і рабства сваёй нацыянальнай дарогай. Творчасць Якуба Коласа ёсць найдасканалае адлюстраванне гэтага.

Вобразы мілыя
роднага краю...

Гэтыя словы Коласавай паэзіі ёсць як бы азначэнне характару ўсіх створаных ім паэтычных вобразаў і шматлікіх чалавечых літаратурных тыпаў.

Сярод вобразаў усёй беларускай літаратуры, як манумент, узвышаецца трагічны вобраз Міхала з паэмы «Новая зямля». Чалавек вялікага сумлення і працавітасці, ён марыць аб зямлі, на якой ён не быў бы парабкам у пана. Доўгія годы ён дамагаецца гэтай новай зямлі і, каб здабыць яе, кладзе сваю працу. Нарэшце ён ужо агораў яе, ён ужо бачыць перад сабой шчаслівыя берагі, да якіх так цяжка і доўга плыў. І гэтае шчасце ў адзін момант стала яму непатрэбным: знясілены жыццём, ён памірае. Можна сказаць, што гэта была нацыянальная беларуская трагедыя дарэвалюцыйнага жыцця, калі вялікія абшары нашай зямлі належалі не народу, а панству. Трагедыя Міхала ясна гаварыла, што толькі рэвалюцыйным шляхам чала-

век можа здабыць сабе права і магчымасць жыць на роднай зямлі.

Багачы і панства,
нашы дабрадзеі,
Мы на суд вас клічам,
каты вы, зладзеі.

Гэта яшчэ ў самыя першыя часы свае творчасці пісаў Якуб Колас. І гэтыя гнеўныя матывы бурным струменем ішлі праз усю яго творчасць.

Мой родны кут, як ты мне мілы,
Забыць цябе не маю сілы...

Так пачынаецца «Новая зямля». Мы паглыбляемся ў гэты вялікі твор і самі як бы пачынаем жыць мілым жыццём у родным кутку, сярод мілых вобразаў роднага краю. І раптам у гэтым нашым абсягу пачынаецца і да канца паэмы даходзіць да страшнай сілы трагедыя Міхала. Не! Патрэбен ачышчальны агонь рэвалюцыі, каб родныя з'явы не атручваліся сацыяльнай няпраўдай.

Прасторны шлях,
калі ж, калі
Ты закрасуеш на зямлі
І злучыш нашы ўсе дарогі?

Сістэма вобразаў паэмы даводзіць нашу думку да дзвярэй у прасторны шлях, у які павінна ўліцца індывідуальная дарога кожнага чалавека з шматмільённай народнай сям'і. Мара аб рэвалюцыі! Мара аб сацыялізме! Мары аб з'яднанні народаў у агульначалавечую сям'ю! Нацыянальныя вобразы паэзіі Якуба Коласа выходзяць у свет шырокага інтэрнацыяналізма.

Выдатны празаік і драматург, Якуб Колас стварыў цэлыя плеяды чалавечых вобразаў і тыпаў. Кожны з іх ёсць індывідуальнасць з жывога народнага жыцця.

Пасля Кастрычніка асабліва пладатворна ідзе вялікая праца Якуба Коласа. Галоўныя свае аповесці ён напісаў у гэты час. Імя яго ёсць гордасць народа. Як народны трыбун, ён выявіў і выказаў народную радасць яснай пары Беларускай Савецкай рэспублікі. Яго слова стала цяпер магутнай зброяй у справе змагання народа супроць ненавісных нямецкіх чужынцаў.

# (БЫЎ ЧАС У ЖЫЦЦІ БЕЛАРУСКАГА НАРОДА...)

Быў час у жыцці беларускага народа, падобны як бы на досвітак перад новым днём. Ішла рэвалюцыя 1905 года. Бяспраўе народа даходзіла да жахлівай меры. І ў такой жа ступені бурліла ў народзе бунтоўная нездаволенасць. Гэта і быў час маладых год Якуба Коласа. Ясны розумам і чысты душой юнак выйшаў з самых глыбокіх нетраў народа. Усё, што пасля з такой сілай раскрылася перад намі ў створаных паэтам паэтычных і літаратурных вобразах, гэта — карціны жыцця і змагання народа — якраз цяпер, у гэтую пару маладосці, убіралася маладой чулай душой. Перш за ўсё гэта быў просты чалавек, чалавек працы, бяздольнасці, чалавек з сумленнем і справядлівасцю. К таму ж чалавек, якога ў тым укладзе дзяржаўнага жыцця і за чалавека не лічылі, а называлі тутэйшым, мужыком, без нацыянальнага твару. Мова гэтага чалавека, яго звычаі, яго глыбокая душа і чыстае сэрца, яго сум і радасць, яго памяць аб продках і клопат аб дзецях, усё, чым ён жыў і праз што выяўляўся яго твар,— было зняважана, абязвечана і абсмеяна. Працай сваіх рук ён аздабляў родную зямлю, а з хараства роднай зямлі мог толькі як бы здалёк цешыцца. На сваёй зямлі ён шукаў гэтай зямлі, і яна была ад яго далёка.

Стаялі палацы магнатаў; у трухлявых хатах, ці, як у тым кутку Беларусі паны і панскія службоўцы казалі, «афіцынах» цяглі сваё беспрасветнае існаванне парабкі. Вясковыя людзі мадзелі на сваіх драбнюткіх кавалках зямлі. Дзеці гэтых людзей раслі на такую ж беспрасветную бацькаўскую долю. Гэта быў той людскі свет, у якім пачалося свядомае жыццё маладога чалавека, будучага вялікага паэта. Даведзеныя беспрасветнасцю да галечы, людзі зганяліся з зямлі і ішлі ў гарады шукаць іншага спосабу жыць.

Праз гэтую мясцовасць ішлі вялікія дарогі на Вільню і Мінск. Непадалёку ад роднай паэту вёскі Мікалаеўшчыны, у дробным горадзе Нясвіжы жыў у замку, апушчаным вадой, з чыгуннымі пад'ёмнымі мастамі, князь Радзівіл, зямельны магнат, які, здавалася, уладаў паўсветам. З замкавай вежы далёка чутны былі сумныя гукі старых курантаў. У мястэчку Свержані на кірмашы з'язджаліся простыя людзі. Старцы гралі на лірах, рухава ішоў дробны

гандаль у местачковых крамах. А да станцыі Гарадзеі ішлі абозы з скупленым у сялян жывым набыткам і гналіся чароды буйнай жывёлы. Усё гэта грузілася ў вагоны і адпраўлялася ў Варшаву, дзе часткаю асядала на мясцовы ўжытак, а часткаю ішло далей на захад, у Германію. Некалькі купцоў і перакупшчыкаў нажывала сотні тысяч рублёў. На дарогах стаялі карчмы, а ў бок ад дарогі —

«магілкі ў полі адны-адзінюткі»,

як пісаў паэт. Тут, у гэтым месцы вечнага сумнага спакою, ляжалі бацькі і дзяды тых, хто рыхтаваўся неўзабаве выйсці на расправу.

Гэты свет абкружаў сваімі праявамі маладога паэта. Карціны жыцця паўставалі перад ім ва ўсіх сваіх узаемных супярэчнасцях.

Стаялі лясы. Цяклі рэкі. Тут Нёман паіў зямлю сваёю вадою. Журботная восень уціхамірвала душу сваёю цішынёй у лясах. Стагоднія дубы, здавалася, вартуюць хараство роднай прыроды. На захад Навагрудчына, на ўсход Случчына, на поўдзень Палессе: усё цудоўныя краявіды. Гэта радзіма паэта. Гэта тут яшчэ ў свае маладыя гады падслухаў паэт голас прыроды, і ў яго творчасці яна заняла вялікае месца. Прырода ў Якуба Коласа — гэта тыя абсягі, у якіх жыве і дзейнічае чалавек.

Першыя творы Якуба Коласа і маюць у сабе два тэматычныя моманты: сацыяльнае змаганне і прырода. Глыбачадумная паэзія Якуба Коласа тых часоў — гэта было поўнае адлюстраванне душы таго простага чалавека. Гэта былі і матывы суму, і матывы народнага гумару.

А як песню заспяваюць,
Колькі ў песні той нуды.
Уцякаў бы, бег, здаецца,
Сам не ведаю куды.

Тагачасныя апавяданні Якуба Коласа і многія вершы — гэта тонкае разуменне народнага смеху, калі чалавек і ў горы смяецца, і гэта ёсць той народны аптымізм, які робіць чалавека нязломным.

Вядома, чалавек з такой чулай душой не мог быць толькі пасіўным наглядальнікам народнага гора. Ён з самых маладых сваіх год падаецца ў грамадска-палітычную дзейнасць, ужо і ў часы свайго студэнцтва ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі.

Пасля, будучы маладым настаўнікам, ён робіцца грамадскім і палітычным дзеячам, трапляе пад падазрэнне

паліцыі, арыштоўваецца і чатыры гады адбывае зняволенне ў мінскай турме. Выйшаўшы з турмы, без перспектыў на далейшае, малады настаўнік і паэт шукае сабе жыццёвай дарогі: яму забаронена ў пэўных мясцовасцях быць настаўнікам. Але ніхто не мае сілы адабраць ад яго самай вялікай перспектывы: быць заўсёды з сваім народам. І ўсе горасці і радасці народа — гэта радасці і горасці самога паэта. Пачынаецца нястомная літаратурная дзейнасць — гэта была бліскучая форма змагання за шчасце народа.

# АБ НАШАЙ ГОРДАСЦІ

Дваццаць пяць год Кастрычніцкай рэвалюцыі!

Гэта той усеабдымны факт, які стаў шчаслівым гістарычным лёсам. Ніякія сілы, самыя злыя і крывавыя, не могуць выкрасліць вялікага факта: Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка!

Немцы разбурылі Беларускую Акадэмію навук, але яны не маюць сілы, каб знішчыць беларускую навуку. Немцы разбурылі Беларускі універсітэт і беларускія школы, але яны ніякімі спосабамі не могуць знішчыць беларускую асвету. Немцы прыдумалі ў Мінску «Мінскую газету» на беларускай мове, але ніякімі спосабамі яны не знішчаць вялікай беларускай літаратуры. Немцы панаставілі на Беларусі шыбеніц, але нязломны беларускі народ высока падняў галаву, і перад яго ваяўнічасцю дрыжыць нямецкае гадаўё.

Немцы заяўляюць, што «Беларутэнія» — гэта нямецкі «перадкрай», а беларусы, узрываючы нямецкія паязды і косячы нямецкія галовы, горда кажуць: тут Беларусь, мы беларусы і чужацкая навалач ляжа тут касцьмі. Ад такога павароту справы немцы, як выпрабаваныя шарлатаны, пачалі ашуканскую гульню з беларусамі. Але маюць на гэта бязлітасны адказ ад узброенага беларускага народа: воляй Кастрычніка я, магутны народ, жыву на сваёй зямлі, маю свае традыцыі, за чвэрць Кастрычніцкага стагоддзя я ўсвядоміў сваю нацыянальную гордасць, маё імя за гэты час стала вядома ўсяму свету, і ўсё гэта мой нацыянальны здабытак, і паганая немчура нічога са мною, што б яна хацела, не зробіць.

Дробная кучка адшчапенцаў стараецца ўгаварыць беларусаў, што пад нямецкім ботам з пятлёй на шыі вельмі прыемнае нацыянальнае жыццё. «Мінская газета», распісваючы адкрыццё «беларускага народнага дома» ў Навагрудку, піша: «Прыгожая дэкарацыя сцэны, на якой побач з нямецкімі сцягамі горда (!) павявалі нашы белачырвона-белыя штандары».

Як стаіць свет, ад самых яго пачаткаў і да нашых дзён, ніякі мудрэц, нават з самай вострай фантазіяй, не мог уявіць сабе гордасць абдрыпанага вераб'я, які сядзіць побач з драпежным каршуном, у якога кіпці ў крыві. Праўда, паўзучаму чарвяку можа часам і здаецца, што ён ляціць. А ўрэшце, хто разбярэцца ў лакейскай душы? Мо-

жа лакей і адчувае якую-небудзь «гордасць», калі вылізвае зад свайму пану?

Ёсць наша гордасць: Чырвоны сцяг Кастрычніка і Дзяржаўны герб Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. З гэтай гордасцю ў сэрцы вялікі беларускі народ кладзе ў магілы нямецкую навалач. Кулямёт і вінтоўка супраць немца — у руках беларускага чалавека — вось вынік нашай нацыянальнай гордасці.

У нас гордасць людзей, якія жывуць з праўдай у сэрцы і сілай у руках. І жыць у няволі мы не будзем! Смерць немцу і воля нам!

## ШЧАНЮК З БЕРЛІНСКАЙ САБАКАРНІ

Шчанюк навучаецца ў старой спрактыкаванай сукі. Лёкай пераймае манеры свайго пана. Дурны хамула, які паслужыў у пана за прыганятага над парабкамі, стараецца і да ветру хадзіць так, як ходзіць пан. К таму ж услужлівы папіхайла стараецца хваліць таго, з чыіх рук ён есць хлеб.

Пісака з мінскай «Беларускай газеты» ад імя кучкі «мясцовых» прахвостаў піша: «Нас згуртаваў нямецкі жаўнер... Ён прыйшоў як носьбіт новага светапогляду, што сцэментаваў усю Нямеччыну, даў ёй сілу, якую яна выкарыстоўвае для перабудовы Еўропы».

Вельмі ж падабаецца яму нямецкая «перабудова» Еўропы! Паводле гэтага ўзору ён усімі сіламі стараецца памагаць немцам «перабудаваць» і Беларусь. Гэтая «перабудова» ідзе сапраўды па-нямецку. Стаіць сабе шыбеніца, на ёй вісіць беларус, яго ахоўвае нямецкі жаўнер, той самы «носьбіт новага светапогляду», а збоку гэты малойчык, якога ён «згуртаваў», тутэйшы хамула, што праходзіў навуку ў берлінскай сабакарні. Вельмі ж да смаку яму прыйшоўся «новы нямецкі светапогляд».

— Які цудоўны нямецкі дух,— мармыча ён.— І так гэты дух гладка прыйшоўся да майго носа! З якога б месца вашай нямецкай ласкі гэты дух ні ішоў,— мне ён як пітво ў смагу.

«Цяпер мы павінны кансалідавацца, — піша ён,— але не паводле дэмакратычнага прынцыпу, а на асновах новага, агульнага ўсім беларусам светапогляду. Гэты светапогляд мусіць быць светапоглядам таго тыпу адроджанага нацыяналізму, які ў Нямеччыне выкрышталізаваўся ў нацыянал-сацыялізм, у Італіі ў фашызм і г. д.».

Адным словам, куды тата, туды і я. Каб раптам канакрадства было абвешчана ў Германіі адзіным светапоглядам, гэты малойчык, вокам не міргнуўшы, заявіў бы, што канакрадства — гэта светапогляд беларуса. Ён так думае: я сам перабудаваўся паводле вобраза і падабенства нямецкага. А ўсе беларусы мусяць стаць такімі, як я. Бо калі гэтага не будзе, дык я ж страчу ласку ў немца. Няхай беларус стане, кім захоча немец.

І ён пнецца, каб быць падобным да нямецкага салдафона. Падвучваецца мардабойству, вісельнай справе. Навучыўся брахаць і красці. А звыш гэтага — віляць хва-

стом, лізаць немцу зад і спускаць з свайго запаганенага языка слова «Беларусь».

Нямецкая ўлада стаіць перад ім у падбітых жалезам ботах, у галіфэ з награбленага ў Еўропе сукна. Морда яе падобна да млынавага кола. Гэтая асоба смокча тоўстымі губамі цыгару, вырваную з рота неасцярожнага француза. А ён ляпеча:

— Я ёсць вашай нямецкай ласкі собскі спадар. Мне хоць бы крыху быць падобным да вас. Бо сам я не маю свайго нацыянальнага твару, ды ён мне і не патрэбен. Толькі клопату тады не абярэшся. А так лягчэй. Не трэба думаць, а толькі скачы сабе ў той бок, куды лясне ваша ласкавая пуга. К таму ж не трачу надзеі, выпадкам чаго, схавацца ад беларускага народа за вашай пазухай.

Брэша, дрыжыць і скавыча.

## КРЫВАВЫ АПЯКУН

Таўстаморды гаўляйтар, які пакуль што яшчэ сядзіць у Мінску, стараецца давесці, што ёсць на свеце нявінны злодзей, ласкавы бандыт, прыемны немец і мілы кат. Ён хоча, каб яму верылі, што ў чорта анёльская душа, што далікацтву трэба вучыцца ў хулігана, розуму ў дурня, а справядлівасці ў грабежніка і што ён сам ёсць даўгажаданы апякун беларусаў.

Спачатку ён думаў, што тут будзе вельмі проста: палавіну гэтага «нязнанага» яму народа ён паравешае і пастраляе, а другую палавіну сагне ў крук і прымусіць хадзіць у нямецкім ярме і з біркаю на грудзях. Аж раптам ён убачыў, што «нязнаны народ» знаць не хоча на сваёй шыі нямецкую навалач. Рыла яго скрывілася ад страху, калі ён пачуў гром узарваных партызанамі паяздоў і ўбачыў раструшчаныя сківіцы свайго фрыца. Такое знаёмства з «нязнаным» народам прымусіла яго завыць воўчую песню на салаўіны лад.

Гэты апякун беларускай мовы выграб з сметніка пару нейкіх «спадароў», якія «собскімі дзівосамі і смяхосамі» ўсхваляюць крывавага фюрэра і яго гаўляйтара і называюць гэты свой паскудны жаргон беларускай літаратурнай мовай. А калі да гэтага дадаць яшчэ тое, што за знойдзеную кнігу беларускага пісьменніка немцы страляюць чалавека, дык карціна «апякунства» будзе поўная.

На адной толькі Случчыне немцы зрабілі каля сотні маёнткаў, і сотня мардастых немцаў прыехала туды, каб панаваць. Так што беларускае поле сапраўды пад нямецкай таўстазадай апекай. А хату — з'еў агонь. Толькі ў Мехаўскім, Віцебскім і Суражскім раёнах за чатыры дні чэрвеня гэтага года немцы спалілі 85 вёсак.

Далей ідзе апякунства над сямейным жыццём. Бацьку на шыбеніцу, маці пад расстрэл, дачку ў няволю ў Германію або ў публічны дом, а малых дзяцей на сірочую бяздомнасць. Так што толькі жыві, чалавеча, сваім сямейным жыццём.

Школа! А школ такі на Беларусі і сапраўды асталося дзесяткі са два. Універсітэт і інстытуты разгромлены, сярэднія школы закрыты або спалены, а ў тых, якія асталіся, стаяць сабе нямецкія коні або загнаным туды сілай дзецям убіваюць у галаву, што ў крывавага Гітлера анёльскі дух.

Далей — культура. Яе такі многа: бізун, ланцугі, розгі, публічныя дамы, якіх на Беларусі не было ўжо чвэрць стагоддзя. Тэатр, асвета, мастацтва... Проста цуд! Асвета без школы! Тэатр — можа хіба гаўляйтар мае на ўвазе публічныя ідовішчы, калі фрыцы зганяюць людзей глядзець, як яны спрытна ўвіхаюцца каля шыбеніцы? Тут жа і мастацтва. Хіба знойдзецца на свеце лепшы мастак вісельнай справы, як гітлеравец?

Так што гаўляйтар нездарма гаворыць, што немцы апякуюцца над беларусамі. І чым больш яны будуць апекавацца, тым хутчэй іх спячэ агонь народнай нянавісці.

# ТОНКАЯ ДУША ТОЎСТАЙ ГАДЗІНЫ

Ёсць на зямлі заплыўшыя салам паўзучыя гадзіны, якія раз у два месяцы напіхаюць свой жывот жывымі зайцамі ці да іх падобнымі траваяднымі. Праглынутыя гадзінай ахвяры нейкі час яшчэ жывуць у яе жываце, і відно, як варушыцца гадаўскае чэрава: ахвяра яшчэ калоціцца ў апошніх канвульсіях. Але ў гэты час гадзіна ўжо дрэмле ў салодкім спакоі. Яна будзе драмаць два месяцы, пакуль не апарожніцца яе жывот і калі зноў не падаспее яе адзіная жыццёвая дзейнасць — зноў напіхаць яго жывымі істотамі. Гэтым і вычэрпваецца ўвесь сэнс яе існавання.

Каб гэтая гадзіна магла ўсвядоміць самую сябе і ўсё навакольнае, яна б напэўна ўмілілася душой перад зладжанасцю і хараством свету. Яна б ліла слёзы радасці і ўдзячнасці ўсявышнаму за тое, што свет такі прыгожы і прасторны, і многа ў ім усякай жывой жыўнасці, і што цёплы вецер прыемна абвявае яе такое гладкае гадаўскае цела, і што дрэвы цвітуць, і птушкі пяюць, і кветкі пахнуць, і калышуцца залатыя нівы, і праглынуты заяц так прыемна для жывата трапечацца ў ім у апошнія свае мінуты. Гадзіна магла б напісаць на гэтую тэму трактат, каб толькі бог яе не пакрыўдзіў умельствам да гэтага.

І нічога дзіўнага не было б. Свет вялікі, і многа ў ім усякіх цудаў. І ўсё ў ім бывае. І ўсякія пахі, і краявіды, і трактары, і артыкулы. І нават нядаўна адзін такі артыкул з'явіўся ў нямецкім часопісу «Дас рэйх», і называецца ён «У імя чаго», і пісаў яго сам Гебельс. І так ён уміляўся душой — і аб сонцы, і ветры, і аб спелых нівах, і аб нямецкіх жыватах.

«У гэтым велічэзным змаганні,— піша ён,— мы напоўнены смуткам па шчасцю і дабрабыту».

«Мы хочам цудоўнага жыцця не толькі для нашых сыноў і ўнукаў, але і для нас саміх».

«Мы бачым бязмежныя нівы на ўсходзе... На іх калышацца залатая збажына. Усюды пануе радасць».

Адным словам, як той казаў, «на земле мир, во человецех благоволение», абы-толькі «нівы на ўсходзе» як-небудзь падграбці сабе. Гэта нічога, што гэтыя нівы не нямецкія, а беларускія, украінскія, рускія. На тое ёсць гітлераўская практыка: беларусаў і ўкраінцаў перавешаць, перастраляць, павывозіць у Германію на катаржную працу. А на іхніх нівах можна будзе раскашэльвацца.

Таксама і чэхаславацкі, і польскі, і французскі, і ўсе іншыя народы пакласці пад нямецкія ногі, і няхай народы сыдуць крывёй, і няхай іх жыццё стане вечнай крывавай пакутай. Тады будуць для таўстамордай нямецкай гадзіны калыхацца прысвоеныя чужыя нівы і «ўсюды панаваць радасць». І які тады прыгожы будзе божы свет! На чужой крыві будзе добра радзіць збажына, і ёю абжырацца будзе нямецкае горла.

«Мы змагаемся за залатыя нівы на ўсходзе, якія даюць даволі збожжа»,— піша Гебельс.

Трэба думаць, што тоўсты Герынг прачытаў артыкул Гебельса «У імя чаго» (у імя чаго немцы ваююць) і ліў слёзы ўмілення, купаючыся ў сваёй залатой ванне. І напэўна думаў: «Якая тонкая душа ў гэтага Гебельса, як ён тонка адчувае, што і к чаму, як ён дасканала разбіраецца, што няма большай прыемнасці, як сядзець у залатой ванне і ведаць, што чужая кроў пахне маім золатам і сытасцю». І не толькі Герынг быў так расчулен. Ліў слёзы ўвесь нямецкі народ. І няхай сабе ён плакаў не ад радасці і ўмілення. Але ўсё ж такі плакаў. Кожная сляза мокрая. І кожная цячэ з вока. Нямецкі народ пачынае плакаць ад занадта дарагой цаны, якую ён плаціць за дзікую гітлераўскую спробу прысвоіць за народную кроў усходнія нівы.

«Мы вядзём вайну за вартае чалавека нацыянальнае існаванне»,— уміляецца тонкай душой Гебельс. Мы ведаем гэтае «нацыянальнае існаванне» беларусаў, украінцаў, чэхаў, палякаў, французаў і іншых народаў, на нівы якіх запаўзла тоўстая нямецкая гадзіна.

«Мы вядзём змаганне за жыццё, якім павінны жыць 120 мільёнаў»,— канчае Гебельс. Невядома, адкуль ён набраў гэтулькі немцаў, якія павінны жыць на касцях іншых народаў. Нямецкі народ будзе жыць не на касцях народаў, а на касцях гітлераўскай банды.

А ўсходнія нівы і сапраўды прыгожыя. І яснае сонца скора над імі засвеціць, і вецер будзе калыхаць па іх каласы. І свет шырокі і прыгожы. І кветкі цвітуць, і трава зелянее, і гітлераўскі падручны Гейдрых навек апруцянеў ад кулі чэшскага патрыёта, і чэрві точаць мільёны гітлераўскіх салдат на ўсходніх нівах, і наглае нямецкае быдла спрабуе смак англійскіх бомб над Кёльнам і Эсэнам, і Гебельс з Гітлерам скора будуць пагойдвацца на шыбеніцах.

Прыгожы і шырокі свет, і прыгожыя ўсходнія нівы.

## (НОВАЯ ПАРА ГІСТАРЫЧНАГА ЖЫЦЦЯ БЕЛАРУСКАГА НАРОДА)

Новая пара гістарычнага жыцця беларускага народа пачалася з Кастрычніцкай рэвалюцыі. Духоўныя сілы нашага народа і ўсе яго вялікія магчымасці, якія да рэвалюцыі скоўваліся царызмам, выйшлі на прастор узнятай народнай дзейнасці.

Кастрычніцкая рэвалюцыя паставіла беларускага чалавека на такое месца ў жыцці, што ў далейшым, у часы горкіх сваіх выпрабаванняў, ён быў ваяўнічым змагаром за сваё права. Гістарычная дзейнасць беларускага народа ўжо ішла пад сцягам Камуністычнай партыі, а гэта значыць — роўна з дзейнасцю ўсіх іншых савецкіх народаў, і нацыянальнае жыццё беларуса стала фактам усясветнага значэння. Беларускі народ заняў сваё выдатнае месца на гістарычнай арэне народаў усяго свету. У гэтым і ёсць тое важнае для нас, беларусаў, што даў нам Вялікі Кастрычнік. Назаўсёды знікла перад беларускім народам якая б там ні была небяспека быць выціснутым з вялікага гістарычнага жыцця і астацца зноў без гістарычнага прызнання.

Навекі запісан у нашай гісторыі той факт, што калі ў першыя гады пасля рэвалюцыі Беларусь перажыла дзве акупацыі, то гэты час выявіў многа беларускіх герояў у барацьбе за свабоду роднай зямлі. Народ не аставаўся цярплівым чакальнікам вызвалення. Ён сваімі рукамі і зброяй дамагаўся волі. Не дабітыя ў акопах пад Баранавічамі нямецкія прахвосты ўбачылі ў час акупацыі Беларусі, што трэба думаць толькі пра тое, як бы вынесці ногі з гэтай краіны.

Пасля ачышчэння Беларусі ад акупантаў была створана Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка, як завяршэнне гістарычных надзей і імкненняў народа. Працавіты і дбалы беларускі народ атрымаў поўныя магчымасці быць гаспадаром на сваёй зямлі. Прыйшоў час вялікага росквіту ўсіх галін жыцця народа. Высокія якасці беларускага чалавека знайшлі поўны прастор для свайго выяўлення. Пачалі адбудоўвацца беларускія гарады, узнікалі новыя паселішчы. Багатымі ўраджаямі, шматлікасцю новых сельскагаспадарчых культур, разнастайнасцю лепшых парод жывёлы пачала вызначацца наша сельская гаспадарка.Ператварыўся твар нашай зямлі.

Усюды будаваліся заводы і фабрыкі. Беларусь стала краінай высакаразвітай прамысловасці і сельскай гаспадаркі.

Сталіца Беларускай рэспублікі Мінск стаў вялікім, сапраўды сталічным горадам. На вуліцах нашых гарадоў з'явіліся выдатнай архітэктуры палацы.

Геній народа за якія-небудзь два дзесяткі год пераварыў сваю рэспубліку ў найбагацейшую індустрыяльную краіну.

З'явіўся новы тып беларускага чалавека, чалавека — дзяржаўнага дзеяча, будаўніка сваёй нацыянальнай Беларускай дзяржавы. Вышэйшая асвета стала масавай з'явай беларускага жыцця.

Прычына ўсім гэтым працэсам была тая, што Кастрычнік вывеў нашага чалавека на дарогу і даў яму поўную магчымасць творчасці, вольнай працы і развіцця сваіх здольнасцей і таленту.

Можа нідзе так, як у Беларусі, не выяўляліся з такім рэзкім узняццем жыватворчыя ўплывы Кастрычніцкай рэвалюцыі на жыццё чалавека. Самы працэс Кастрычніка ўжо ўзняў з народных глыбінь тысячы выдатных талентаў усіх галін чалавечай дзейнасці. Адкрыццё інстытутаў і Беларускага універсітэта дало гэтым здольным людзям асвету, і ўжо ў першыя годы існавання Беларускай Савецкай рэспублікі Беларусь мела ўжо вялікія кадры свае інтэлігенцыі.

Да таго ж часу належыць і пачатак новых працэсаў у беларускай літаратуры і мастацтве. Як бы ў адзін момант з'явіліся цэлыя плеяды маладых пісьменнікаў і паэтаў, мастакоў і кампазітараў, і за вельмі малы час беларуская літаратура і мастацтва сталі фактамі міжнароднага значэння.

Тое, што дала беларускаму народу Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя, астанецца ў народзе навек як яго вялікі нацыянальны здабытак. Як вынік Вялікага Кастрычніка жыве ў народзе свядомасць свае сілы і свайго гістарычнага права на выдатнае месца ў чалавецтве. Вось чаму так нязломна беларускі народ змагаецца цяпер за сваю волю з подлымі нямецкімі акупантамі, якія старающца зрабіць лёсам народа — няволю. Не выйдзе так. Беларускі народ будзе вольны, і Беларусь будзе савецкай.

# НЯМЕЦКІЯ ФАШЫСТЫ ЗНІШЧАЮЦЬ КУЛЬТУРУ БЕЛАРУСКАГА НАРОДА

Распрацоўваючы свае людаедскія планы заваёвы еўрапейскіх краін, Гітлер ставіў сабе мэту падначаліць фашысцкай Германіі народы Еўропы, і ў першую чаргу, славянскія народы. Ён задаўся дзікай звярынай думкай зрабіць народы бяспраўнымі нявольнікамі наглых нямецкіх памешчыкаў і баронаў.

Дзеля гэтага Гітлер выхаваў пакаленне жорсткіх бандытаў, якім было ўбіта ў галаву, што яны ёсць вышэйшыя людзі, а кожны, хто не немец, той не мае права жыць як чалавек.

Напаўшы на Савецкі Саюз, гітлераўцы мяшалі з зямлёй нашы гарады і сёлы і знішчалі сотні тысяч нашых мірных людзей. Бесчалавечная крывавая жорсткасць — гэта свядомы гітлераўскі спосаб вайны. Шматлікія дакументы, захопленыя Чырвонай Арміяй у разгромленых ці ўзятых у палон нямецкіх штабах, паказваюць, што вышэйшае нямецкае камандаванне ставіла і ставіць перад сваімі афіцэрамі і салдатамі задачу быць жорсткімі да насельніцтва акупіраваных абласцей.

Гітлераўская банда ведае, і яна гэта ўбачыла на практыцы, што цяжка зрабіць з чалавека акупіраванай зямлі нявольніка. Савецкі чалавек не хоча ісці ў няволю. Ён ідзе на змаганне з ворагам і не пакараецца яму. Бо ў яго душы жыве яго нацыянальная гордасць, свядомасць таго, што ён вольны чалавек, а немец прыйшоў зрабіць яго сваім парабкам, аддаць яго і яго дзяцей у вечную няволю і бяспраўе.

Дзеля гэтага гітлераўцы задаліся мэтай вытравіць з душы народа акупіраваных абласцей яго нацыянальную свядомасць, павагу да самога сябе, знішчыць яго чалавечую годнасць і давесці яго да стану жывёліны. Такі ажывёлены чалавек будзе пакорлівым рабом — з такой думкі выходзіць гітлераўскі план здзеку з нашых людзей. Развіваючы гэтыя паганыя планы, фашысцкія тупыя заправілы не маглі дадумацца толькі да аднаго: да таго, што свабодалюбівы чалавек ніколі не пойдзе ў няволю і ніхто не можа вытравіць з яго душы імкненняў да свабоды і змагання за сваю чалавечую годнасць. Гэтага фашысты не бралі на ўвагу. Яны, як дзікары і звяры, разбураюць усё тое, што створана розумам, працай нашага чалавека.

Уварваўшыся на Беларусь, яны пачалі паліць і знішчаць усе культурныя здабыткі беларускага народа. Яны задаліся мэтай сцерці з твару зямлі нашу культуру, думаючы, што тады наш народ стане цёмным і пакорлівым.

Немцы зруйнавалі ўсе беларускія школы, знішчылі і закрылі беларускія інстытуты, універсітэт, тэатры, бібліятэкі. Спалілі кнігі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Змітрака Бядулі, таксама як і кнігі маладзейшага пакалення беларускіх пісьменнікаў. Немцы зруйнавалі ў Мінску Беларускую Акадэмію навук.

Акупанты дамагаюцца таго, каб беларускія дзеці з самых малых сваіх дзён засвойвалі абавязак кланяцца партрэту прайдзісвета і прахвоста, забойцы іхніх бацькоў, крывавага бандыта Гітлера. Немцы імкнуцца пакласці сваю лапу на выхаванне беларускіх дзяцей. Яны стараюцца, каб беларускія дзеці выраслі з пустой душой, з халоднай абыякавасцю да свае радзімы, да роднай зямлі, да роднай мовы, да роднай культуры, да памяці сваіх бацькоў, да свае чалавечай годнасці, да свае нацыянальнай гордасці. Акупанты хочуць такім парадкам ператварыць наш народ у рабочую жывёлу, у сваіх вечных рабкоў, у якіх не будзе ніякага духоўнага жыцця і якія толькі за кавалак хлеба будуць рабіць на нямецкіх паноў.

Вось дзеля чаго немцы так бязлітасна і рашуча знішчаюць культуру нашага народа, таксама як і ўсе іншыя нацыянальныя культуры на тых землях, куды ім удалося ўварвацца.

Беларускі народ, таксама як і ўсе іншыя свабодалюбівыя народы, не стаў і не стане на калені перад акупантамі. Гераічны беларускі народ узняўся на вялікае змаганне з немцамі, якія прынеслі яму гора і няшчасце. З гэтай прычыны немцы пачалі дзейнічаць хітрымі спосабамі, каб ашукаць беларусаў. Немцы, знішчаючы да канца беларускую культуру і баючыся народа, стараюцца стварыць некаторае ўражанне, што быццам бы яны не ўмешваюцца ў нацыянальнае жыццё беларускага народа. Дзеля гэтага яны сабралі каля сябе некалькі прадажных шарлатанаў і адшчапенцаў ад народа і загадалі ім выдаваць на беларускай мове пару дробных і пустых газетак. У гэтых газетках прадажныя пісакі ўгаворваюць горды і гераічны беларускі народ скарыцца перад нямецкімі акупантамі і быць ціхім у нямецкім ярме. Такім парадкам хітрыя

нямецкія шэльмы і родную мову беларускага народа хочуць праз здраднікаў выкарыстаць супраць самога народа.

І тым большая ўзнімаецца народная нянавісць да паганай фашысцкай навалачы. І тым больш бурліць народны гнеў. У скорым часе слаўная Чырвоная Армія выганіць немцаў з Беларусі, і тады пачнецца жорсткая народная расправа з усімі тымі, хто памагаў акупантам вырываць з народа яго душу. Беларускі народ не даруе за свае пакуты і крыўды ні немцам, ні іх паслугачам.

Шырэй жа няхай разліваецца народны гнеў! Слава партызанам!

# ЧТО ТАКОЕ ГИТЛЕРОВСКИЙ «СОЦИАЛИЗМ»?

Чтобы легче обманывать народ, Гитлер бесстыдно называет себя «социалистом».

Германией управляет кучка проходимцев с Гитлером во главе. Эти жулики управляют государством так, как это выгодно немецким капиталистам-миллионерам, владельцам крупнейшей германской промышленности и крупнейших имений.

Гитлер и его министры и сами обзавелись собственными фабриками, заводами и имениями, от которых они получают миллионные прибыли.

В то же время немецкий народ, миллионы простых немецких людей служат батраками у немецких помещиков, бесправными рабочими на фабриках капиталистов. В германских городах и селах миллионы безработных немцев влачат жалкое существование, тогда как небольшая кучка владетелей германских богатств и кучка германских правителей утопают в роскоши.

Вот какой гитлеровский «социализм».

Чтобы успокоить недовольных таким «социализмом» немцев, Гитлер убеждает своих «подданных», что немцам нужно завоевать новые земли. На этих землях будут жить немцы, многие из них станут помещиками, и покоренные народы будут у них рабами. Так Гитлер начал свои походы на Европу, так он напал на нашу страну.

Гитлер все время проповедывал, что его цель уничтожить славянские, и особенно советские, народы, а на земле их поселить немцев. Теперь же, боясь грозного народного партизанского движения в занятых им районах, он в своих листовках пишет, что он несет завоеванным народам «освобождение» и «настоящий социализм».

Этот гитлеровский «социализм» в захваченных фашистами районах очень выразительно показал свое лицо. Сотни тысяч расстрелянных и замученных людей, тысячи замученных детей, тысячи и десятки тысяч изнасилованных, обесчещенных и убитых женщин — все это гитлеровский «социализм».

Разграбленные и уничтоженные города и села, земля, превращенная в пустыню, грабежи, насилия, массовые убийства, неслыханные издевательства над населением — это гитлеровский «социализм».

Беспощадная народная месть подлым немецким захватчикам — вот наш ответ на кровавые преступления перед нашей землей, перед нашим народом обманщика Гитлера.

Самая жестокая расправа с немецкими фашистами — вот наш ответ на наглую гитлеровскую проповедь того мракобесия, которое этот кровавый убийца называет «социализмом».

Будем расправляться с врагом до последнего его издыхания!

Пусть ни один немецкий фашист не уйдет живым из нашей земли!

Истребим их всех до одного!

# АБ СВАІМ НОВЫМ РАМАНЕ

Раман пісаўся ў часы вялікіх выпрабаванняў роднай зямлі і вялікага гора і разам з тым вялікага геройства беларускага народа — у часы свяшчэннай Айчыннай вайны. Усё тое вялікае і слаўнае, што ёсць асаблівасць нашага народа, у часы змагання з бесчалавечным ворагам выступіла з глыбокай сілай на паверхню, і перад усім светам яшчэ ясней раскрыліся грані душы нашага народа. Замілаванне да радзімы, працавітасць, ясны розум, вялікае сэрца, пагарда і нянавісць да ўсякага прыгнечання, мара аб вечным брацтве народаў, нязломная воля да свабоды, незалежнасці і перамогі — вось асаблівасці народа, які вядзе нябачанае ў свеце змаганне з цёмнымі сіламі.

Несучы на сваіх плячах вялікі цяжар, з крывавымі ранамі ў сэрцы і душы, у пакутах і смутку, савецкія народы сілай свайго ўдару па ворагу расчышчаюць шлях усяму чалавецтву да шчасця і радасці. Беларускі народ з гонарам стаіць у першых радах гэтага вялікага наступлення на армію вырадкаў і вылюдкаў, якія нарадзіліся ў нетрах фашысцкай Германіі.

Я імкнуўся, каб матывы гэтага гераізму гучэлі ў рамане, я стараўся, каб кожны, хто будзе чытаць маю кнігу, лішні раз падумаў аб беларускім народзе, які працай сваіх залатых рук заўсёды аздабляў зямлю, які сваёй душой здольны расплавіць камень жорсткасці і лячыць чужыя раны і які сам робіцца жорсткім і няўмольным, калі становіцца справа вытрымаць цяжкае змаганне і перамагчы.

У рамане выведзены беларускія людзі. Найбольш яны паказаны ў самыя вострыя моманты свайго жыцця. У рамане выведзены прадстаўнікі гітлераўскай Германіі, жорсткая бесчалавечнасць якіх вядзе іх да гібелі ад яснай і магутнай сілы нашага народа.

# НЕМЦЫ ЗНІШЧАЮЦЬ БЕЛАРУСКУЮ КУЛЬТУРУ, ТОПЧУЦЬ АСВЕТУ І НАВУКУ, МАСТАЦТВА І ЛІТАРАТУРУ

Увесь свет даўно і добра ведае ўжо, што фашысты — гэта гуны, самыя пачварныя дзікуны, якіх не ведала самая старажытная, першабытная гісторыя.

Аб гэтых сваіх якасцях фашысты з усёй паўнатой заявілі перш за ўсё ў сябе, у Германіі. Адразу ж пасля прыходу Гітлера і яго зграі да ўлады ў Германіі пачаўся паход зверападобных істот супраць усяго жывога, чалавечага, светлага. Фашысты пачалі крывавыя расправы над усімі тымі, хто не схіліў свае галовы перад рэжымам тэрору, здзекаў і катаванняў. Яны разагналі і знішчылі ўсіх перадавых людзей навукі і мастацтва, апаганілі нацыянальныя святыні і нацыянальных герояў. Па ўсёй Германіі на плошчах гарадоў запалалі кастры, на якіх фашысты спальвалі тварэнні геніяў чалавецтва, лепшых прадстаўнікоў духоўнай культуры свету. І вакол гэтых кастроў, б'ючы ў шаманскія бубны, скакалі двуногія дзікуны, пацяшаючыся страшэнным відовішчам разбурэння і знішчэння чалавечай культуры.

Услед за Германіяй немцы-фашысты ўзяліся за знішчэнне еўрапейскай культуры. Усюды, куды ступала нага фашысцкіх акупантаў, знішчаліся лепшыя прадстаўнікі навукі, літаратуры і мастацтва, аддаваліся агню лепшыя тварэнні нацыянальных культур. Замест усяго гэтага ўстанаўліваўся рэжым духоўнага абнішчэння заняволеных народаў, панаванне дзікуноў, для якіх уся культура вырысоўвалася ў вобразе акрываўленага тапара і віселыні.

Такі ж рэжым прынеслі фашысты і ў Беларусь.

Заявіўшы, што беларусы «не здольны кіраваць сваёй дзяржавай», немцы, як самыя спрактыкаваныя разбойнікі з вялікай дарогі, пазбавілі беларускі народ яго дзяржаўнасці. Услед за ліквідаваннем беларускай дзяржаўнасці немцы ўзяліся за знішчэнне ўсіх духоўных і культурных багаццяў беларускага народа.

У чым выявілася тэатральная палітыка немцаў на Беларусі?

А вось у чым.

Немцы ліквідавалі ўсе тэатры, закрылі іх. Разам з тэ-

атрамі закрылі і кінатэатры і ўсе клубы. У памяшканнях цудоўных тэатраў немцы арганізавалі салдацкія пастоі або дамы распусты. І ўсё ж немцы імкнуцца зрабіць выгляд, што яны цаніцелі мастацтва і прыхільнікі тэатральнай культуры. У Мінску, напрыклад, немцы выпісалі нейкі Ляндсбергскі нямецкі тэатр, мастацкі ўзровень якога не перавышае звычайнага балаганнага зброду... Гэты тэатр, канешне, ставіць п'есы на нямецкай мове. У беларускім тэатры за ўвесь час яшчэ не было пастаўлена ніводнай п'есы на беларускай мове. Цікава, які ж рэпертуар у тэатры, якія ж жыццёвыя ісціны ён сцвярджае і ўслаўляе.

Паказальнай у гэтых адносінах з'яўляецца пастаноўка п'есы «Тоталем». І хто б вы думалі аўтар гэтай п'есы? Не хто іншы, як гер Кубэ — душыцель і вешацель беларускага народа. Сваёй п'есай ён імкнецца апраўдаць тыя страшэнныя зверствы, якія твораць немцы на Беларусі. У ёй да ўзроўню станоўчых герояў узведзены такія нямецкія тыпы, што ад гэтых роляў адмовіліся нават такія «патрабавальныя» артысты, як артысты Ляндсбергскага тэатра, і да пастаноўкі п'есы прыйшлося выклікаць салдат з нямецкай арміі — саміх выканаўцаў страшэнных фашысцкіх планаў, забойцаў і вешальнікаў, марадзёраў і распуснікаў.

У Беларусі не засталося ніводнага кіно. Ёсць, праўда, па аднаму кінатэатру ў такіх гарадах, як Мінск, Віцебск, але ўваход у іх дазволен толькі немцам. Пустуе цудоўнае памяшканне Вялікага ордэна Леніна тэатра оперы і балета БССР. Пустуе, бо тыя выступленні, якія наладжваюцца гітлераўскімі падлізнікамі, толькі абражаюць цудоўнае памяшканне, ганьбуюць святыню опернага і балетнага мастацтва беларускага народа. Але і тое бяздарнае, што паказваюць у оперным тэатры, не да густу нямецкім гаспадарам. Обер-бандыт рэйхс-міністр Розенберг распарадзіўся «ператварыць памяшканне тэатра оперы і балета ў месца мітынгаў і дэманстрацый». Навошта разбойнічай душы немца мастацтва? Ім патрэбны салдафонскія парады, гэта іх мастацтва, і толькі адно яно можа крануць іх паганую скуру-душу.

Немцы нарыхтавалі беларускім дзецям страшэнны лёс невуцтва і дзікунства. Усім памятна, наколькі шырока і ўсебакова была пастаўлена ў Беларусі народная асвета. Беларускім дзецям былі адкрыты шырокія дарогі да ведаў — яны маглі навучацца ў пачатковых і сярэдніх шко-

лах, у тэхнікумах, рабфаках, у інстытутах і універсітэтах. Усё гэта адабралі немцы ў беларускіх дзяцей і юнакоў. Сотні школ фашысты спалілі і зруйнавалі, у астатняй частцы яны пасялілі сваю брудную салдатню. Гэта вымушаны прызнаць сам гер Кубэ, які, як вядома, надзвычай скупы на праўдзівыя прызнанні, і якія час ад часу прарываюцца міма ўсякай яго волі. Так і на гэты раз. У сваёй праславутай гутарцы з прадстаўнікамі фашысцкай прэсы Кубэ заявіў, што «справа з асветай на Беларусі абстаіць надзвычай дрэнна», што «школьныя памяшканні скарыстоўваюцца не па прызначэнню».

Фашысты, аднак, робяць выгляд, што яны прымаюць захады для арганізацыі асветы. Што ж гэта за захады, у чым яны выражаюцца?

Фашысты наладжваюць на Беларусі нямецкія школы. На гэтыя школы немцы ўскладваюць вялікія надзеі, яны хочуць ператварыць іх у асноўныя ачагі анямечання беларускага народа. Але гэтая фашысцкая надзея ганебна праваливаецца: дзеці не ідуць у нямецка-фашысцкія школы, бацькі не пускаюць сваіх дзяцей на калецтва, усе чэсныя настаўнікі адмаўляюцца працаваць у нямецкіх школах.

У народзе ўжо ёсць такая пагаворка: «Там, дзе немец ступіў, там трава не расце». Мярцвячая рука фашысцкіх дзікуноў дакранулася і беларускай навукі. Гэтае «дакрананне» пачалося з разграблення багацейшых архіваў Беларускай Акадэміі навук, са знішчэння тых работ, над якімі натхнёна працавалі беларускія вучоныя. Але і на гэты раз фашысты, не здраджваючы сваёй подлай натуры, робяць выгляд, што яны прыхільнікі беларускай навукі. І вось крывавы гер Кубэ арганізоўвае «акадэмію» навук, «акадэмікамі» ў якую прызначае самых спрактыкаваных катаў беларускага народа, подлых здраднікаў і рэнегатаў. Так і атрымалася: не беларуская акадэмія навук, а разбойніцкая акадэмія па далейшаму ўдасканальванню метадаў і прыёмаў заняволення, абрабавання і знішчэння беларускага народа.

Усім беларусам памятны дні нашага красавання і росту беларускага мастацтва, Дэкада беларускага мастацтва ў Маскве. Беларускае мастацтва літаральна было падобна маладому расцвіўшаму дрэву, поўнаму жыццятворных сокаў, прыгажосці і захаплення, чаго не засталося ў Беларусі зараз...

Тое ж самае і адносна літаратуры. Уся літаратура, ка-

лі яе можна так называць і прыхільнікамі якой стараюцца паказаць сябе немцы, прадстаўляецца бруднымі, нікчэмнымі пісаннямі папоўскага стаўленіка Віцьбіча, акадэмічнага стаўленіка Аляхновіча і нейкага навяаўленага «пііта» турэмных засценкаў Тодара Лебяды. Вось яны — фашысцкія літаратары.

Фашысты прымаюць усе меры, каб апаганіць душу беларускага народа, закаваць яго талент, яго цудоўныя здольнасці на ўсё прыгожае, светлае. Але не ўдалося і не ўдасца гітлераўскім душагубам умярцвіць творчую і мастацкую душу беларускага народа, не ўдалося і не ўдасца пагасіць творчае полымя нашых беларускіх людзей.

Беларускае мастацтва жыве і квітнее. Яно дужэе ў смяротнай бойцы з ненавіснымі нямецкімі акупантамі, яно загартоўваецца і набывае сапраўдную сталасць на франтах Айчыннай вайны, яно жыве і квітнее на вольнай савецкай зямлі. Вялікі рускі народ і іншыя народы Савецкага Саюза па-брацку прытулілі майстроў беларускага мастацтва, літаратуры і навукі, далі ім магчымасць творча працаваць на карысць беларускага народа.

...Кожны дзень набліжае час вызвалення Савецкай Беларусі ад нямецкіх акупантаў. Будзе на нашай вуліцы свята. Зноў зажывем мы свабодна, радасна і шчасліва. І зноў пышна зацвіце і закрасуе савецкае беларускае мастацтва, узмужалае, як і ўвесь наш народ, за час Айчыннай вайны.

Дык давайце ж набліжаць гэты радасны дзень бязлітаснай барацьбой супраць нямецкіх акупантаў!

Усе, каму дарагі інтарэсы беларускага мастацтва, хто па-сапраўднаму любіць народ і яго прыгожую душу, хто цэніць талент нашага народа і жадае яму творчага шчасця і росквіту,— няхай кожны паднімаецца на барацьбу, на барацьбу супраць нямецкіх дзікуноў — гэтых лютых ворагаў і знішчальнікаў беларускай культуры.

# ПРАКЛЯЦЦЕ КАТУ ГІТЛЕРУ

Калісьці добрыя душы любілі карціну мастака-ідэаліста, які марыў аб спыненні на зямлі крывавых пакут. Ён намаляваў: стаіць дзіцё ў белай кашульцы і да яго з аднаго боку ласкава прытуліўся страшэнны драпежнік-леў, а з другога боку лашчацца воўк з тыграм. Гэта мастак назваў «Карцінай будучыні».

Хто цяпер баіцца льва або ваўка?

Каб мой мастак цяпер жыў і каб прайшоў ён па зямлі — для свае карціны ён мог бы ўбачыць штосьці іншае. Ён уздрыгнуў бы і сказаў: дзе ж той благаславенны воўк з тыграм? Усё ж такі ў іхні час жылося спакайней! Мастак хапіўся б за галаву ад таго, што ён убачыў бы ў нашы дні.

Ён ўбачыў бы мільёны дзіцячых магіл і трупаў і над імі вышчараную ляпу германскага фюрэра Гітлера. Глянуўшы на Гітлера, што б ён мог падумаць пра звера? Якое мілае стварэнне — звер! Калі ён не галодны, ён цябе не зачэпіць.

Марачы аб лепшым часе, які павінен прыйсці пасля скanання Гітлера, мастак ніколі не адважыўся б намаляваць крывавага фюрэра побач дзіцяці, як калісьці ён гэта зрабіў з ваўком і тыграм. На гэта мастак не знойдзецца.

Гітлер са свінячай бесцырымоннасцю пайшоў напралом, на ашуканства, фальсіфікацыю. Ён абыходзіцца фотаапаратам: у сваім маёнтку каля свайго палаца ён здымаецца з дзецьмі. Гэтыя здымкі ён друкуе ў берлінскіх часопісах, якія потым рассылаюцца на фронт нямецкім салдатам і ў акупіраваныя краіны: глядзіце, які добры Гітлер, як ён любіць дзяцей! Але хто гэтаму паверыць? Няма дурняў!

Вось у вёсцы Катлубаеўшчына Любанскага раёна сядзелі на прызбе дзеці і прыдумлялі кару Гітлеру. Дзяўчынка раіла яго проста «застрэліць, як падлу». Другая, большая, раіла ўтапіць. Хлапчук гадоў дзесяці сказаў:

— А па-мойму, дык яго трэба павесіць, а перад гэтым пабіць добра, каб ён ведаў, як лёгка было майму тату, калі яго немцы забівалі.

Нарэшце адзін хлапчук так сказаў:

— Трэба яго вадзіць напаказ па ўсім свеце і каб усюды плявалі на яго.

Адкуль жа ў дзяцей такая нянавісць да таго, каго яны ніколі не бачылі?

У Катлубаеўшчыне немцы расстралялі вельмі многа людзей, і дзеці іх сталі сіратамі. Мільёны замучаных гітлераўцамі дзяцей клічуць да помсты. Мільёны жывых ва ўсім свеце дзяцей з гневам і агідай гавораць пра крывавага ката Гітлера.

Пра ваўка гавораць: каб ён здох. Пра Гітлера кажуць: яго трэба павесіць, утапіць, вадзіць напаказ, каб усе на яго плявалі.

Немцы доўга шукалі на Катлубаеўшчыне таго, хто навучыў гэтаму дзяцей. Яны не здагадаліся зірнуць у бок свайго фюрэра, які асіраціў дзесяткі тысяч дзяцей. Дзеці праклінаюць гэтага ката. Калі ён апруцянее, кожны скажа: калом яму зямля!

## ЗАБІЯЦКІ ПЫК

Прызнацца вам, дык я хаваў у сваім хляве ад немцаў калгаснага быка. А жыву я ў лесе. А ў Мінску адзін гаўляйтарскі рэферэнт, нейкі «беларускі» дзеяч Сымон Пхайчык, заныў душой: а ці возьмуць яго немцы з сабою, калі будуць уцякаць з Беларусі. Дык ён пачаў так падлабуньвацца пад гаўляйтара:

— Чаму б вашай гаўляйтарскай ласцы не паехаць на паляванне?

— А партызаны?! — аж затросся гаўляйтар.

— Я вам пакажу такое месца, дзе няма партызан. Вы там убачыце не кранутыя бальшавіцкім уплывам народныя беларускія тыпы.

Вось яны і прыкацілі ў мой бок. Цягаліся цэлы дзень і, апроч схуднелай вароны, нічога не ўпалявалі. Тут раптам яны пачулі, што зароў бык. А вядома, што немец,— які б ён ні быў: ці просты фрыц, ці сам гаўляйтар,— найлепшы паляўнічы ў чужым хляве альбо пры курыным седале.

— Што гэта? — натапырыў вушы гаўляйтар.

— Бык,— адказаў дзеяч.

— Пык! А дзе ён?

Пхайчык з паўдня разнюхваў, пакуль знайшоў у маім хляве на прывязі быка.

І вось з'яўляюцца — наперадзе фрыцы з аўтаматамі, далей гаўляйтар, а морда ў яго — як млынавы камень! От, думаю, раз'еўся, каб цябе чэрві раз'елі! А за гаўляйтарам — Пхайчык. «Прападзе бык»,— падумаў я, а яны проста ў хлеў чэшуць. Адчынілі хлеў і глядзяць на быка.

— Адвязвай быка,— сказаў мне «беларускі» дзеяч пры гаўляйтары Сымон Пхайчык, а сам баязліва схаваўся за бычыны зад.

— Лепш вы станьце перад быком, бо ён мае кепскую натуру: брыкаецца, ліха яму.

Бачу — стаў Пхайчык перад быком, і сам гаўляйтар падышоў бліжэй, каб бачыць лепш.

«Ратуйся, бычок»,— падумаў я і так хапіў ззаду за казытнае месца, што той, не вытрымаўшы козыту, чмыхнуў і рыпуўся з хлява. Ён, напэўна, падумаў, што гэта яго хочуць павесці ў Берлін, каб ён падзякаваў Гітлеру за зямельную рэформу ў Беларусі, і так папёр, што збіў з ног Пхайчыка, а гаўляйтара рагамі падхапіў пад зад, і той

імчаўся так ад хлява і аж да варыўні. Там гаўляйтар грымнуўся вобземлю і ледзьве выскрабся пасля. Сымон Пхайчык падпаў ад гэтага пад нямецкую няласку і баіцца паказвацца гаўляйтару на вочы. А гаўляйтар як пачуе, што салдаты забралі дзе-небудзь у вёсцы быка і прывялі на гаўляйтарскі двор, зачыняе на замок дзверы і тлумачыць сваім падначаленым:

— Пык — гэта такая забіяцкая штука, ад якой доўга баляць рэбры.

## ЗА БЛІЗКІХ І РОДНЫХ

Быў ён бацька чацвярых дзяцей. Зосьцы пачаўся пятнаццаты год, Лідзе адзінаццаты, а Толік і Стась былі яшчэ зусім малыя. Ён ужо некалькі месяцаў ляжаў хворы на раматус ног. Ён ледзьве мог паварушыцца, і Зоська не адыходзіла ад яго, памагала яму і глядзела яго.

Лета жыло быццам без людзей. Людзі жалі жыта ўкрадкам, сярпамі, каб ніхто не бачыў, бо калі дойдзе да нямецкіх вушэй, тады трэба будзе аддаваць немцам у паўсотню разоў больш, чым ты нажаў. Праўда, немцаў тут блізка не было, але ўстаноўленая імі ўлада пільна сачыла за кожным чалавекам. Зоська заўважала, што занадта нешта ўжо часта адзін з тутэйшых, праз увесь ранейшы час шукальнікаў «лёгкай службы», Фамкоў, дапытваецца ў яе:

— А ці праўда, твой бацька хворы, а можа ён так ляжыць?

Так зразумела Зося фамкоўскія допыты. На гэта бацька сказаў ёй:

— Прыйдзецца, дачушка, дзе-небудзь у лесе ляжаць, бо гэты чорт з'есць мяне. Успомніш, Зоська, маё слова: ён калі не служыць яшчэ ў немцаў, то пойдзе да іх на службу.

Зоська ціхом ад бацькі пачала раіцца з маткаю, што рабіць. Няшчасная жанчына, на галаву якое ўпала няшчасце карміць сям'ю і лячыць мужа ў такі цяжкі час, адразу ж дайшла да думкі, што мужу не трэба ляжаць у сваім доме. Было ясна: Фамкоў да нечага рыхтаваўся.

Усё адбылося, аднак жа, куды хутчэй, чым спадзявалася жанчына са сваёю белагаловай Зоськай.

У познюю раніцу ў хату ўвайшоў Фамкоў і з ім паліцэйскія. Нават і дзень добры не сказаў, а адразу ў бакоўку да хворага:

— Ну, чаго глядзіш так, я стараста! Нямецкая ўлада мяне паставіла на гэта. Прыйдзецца цябе патрывожыць.— Тут ён павярнуўся тварам да паліцаяў: — Гэта ляжыць той самы Іван Іванавіч Пракопенка, пільна абсачыць якога вам загадана. Пачынайце.

Потым ён звярнуўся да Пракопенкі:

— Табе прыйшоў канец. А ці памятаеш ты, як стараўся аб калгасе, і ў сельсавеце, і ў райкоме ты быў сваім чалавекам? Кайся! Прасіся!

Пракопенка маўчаў. Дзеці плакалі.

Ледзьве прычакалі ўсе яны вечара. Як толькі стала цёмна, Зоська пабегла да людзей і выпрасіла на паўгадзіну каня з возам.

У цемені ночы і ў вялікай цішыні маці і Зося паклалі хворага на воз і павезлі ў лес.

Іван Іванавіч ляжаў у лесе пад кустом.

— Накажы нашым людзям, Зоська,— сказаў Пракопенка.— А ты,— ён глянуў на жонку,— ідзі дадому ды прыходзь сюды з малымі.

На захадзе сонца Зоська была ўжо зноў пры бацьку і гаварыла яму:

— Уночы прыйдуць да цябе партызаны.

— Як жа ты знайшла іх?

— А я пайшла пад Доўгі лес і заспявала песню. Нейкі чалавек выйшаў да мяне з лесу, пачаў распытваць мяне. Мы адразу згаварыліся. Але таксама я дазналася, што Фамкоў шукае цябе. Я пры табе пабуду, пакуль маці з малымі прыйдзе. Яна зараз будзе тут. А тады я пайду ў разведку, дзе што робіцца.

Змеркла, і вечар скончыўся, і ноч настала глыбокая, а жанчыны з дзецьмі не было. Зоська пабегла ўстрывожаная і не вярнулася. Ужо зоры пайшлі на раніцу, як пачала ў лесе абзывацца птушка, якая ў гэты час звычайна спіць. Пракопенка здагадаўся і перагукнуўся з птушкаю. Неўзабаве над ім схіліўся чалавек:

— Па цябе едзе фурманка. А тут у вёску немчуры панаехала, як плоймы. Фамкоў водзіць іх і паказвае, дзе ў каго жывёла ці хлеб. Забіраюць усё пад мятлу.

— Нешта з маёю сям'ёю сталася, ніхто не прыходзіць,— сказаў Пракопенка.

Неўзабаве яго павезлі ў другі лес, а партызан пайшоў шукаць яго сям'ю. Гэта быў малады хлопец, Пракопенкаў аднавясковец. Чатыры дні ён не меў спакою, пакуль не ўзбіўся на след. Пракопенкава сям'я ўся была арыштавана немцамі. Фамкоў напісаў данос, што Пракопенка савецкі актывіст.

Праз дзень той жа малады партызан ішоў праз суседні пасёлак. Немцы з гэтых мясцін выехалі далей, забраўшы ўсю жывёлу і хлеб. Пасёлак быў пусты. Нідзе ні душы. Раптам хлопец убачыў страшны малюнак. Пракопенкава жонка і ўсе яго дзеці ляжалі мёртвымі. Засохлая кроў была на іх тварах і адзежы. Мёртвая маці трымала ў абнімках малога Стася. Толік і Ліда ляжалі цесна адзін пры адным. Асобна ад усіх ляжала Зоська, густавалосая,

белатварая. Вецер ускінуў на яе мілы тварык высахлую травіцу...

Пачалося ўпартае змаганне з хваробаю. Хутчэй устаць на ногі! Хутчэй адпомсціць! Пракопенка яшчэ звыш двух месяцаў ляжаў у лесе і перамог хваробу.

Увесь верасень месяц ён правёў у пошуках Фамкова. Знайсці гадзіну стала яго мэтай.

І аднойчы партызаны ўбачылі, як Пракопенка вёў злоўленага нягодніка. Фамкоў не хацеў ісці, але яго падганяў задумёны і суровы позірк Пракопенкі.

Усе, хто быў тут, сышліся выказаць свой прысуд паганцу-здрадніку. Фамкоў не глядзеў у твар людзям: ён раптам упаў на калені перад Пракопенкам. Пракопенка сціснуў зубы і адвярнуўся.

Партызанскі суд прыгаварыў Фамкова да смерці.

Праз некалькі дзён разведка высачыла, што па шашы будзе ехаць нямецкі генерал. У забалочанай дарожнай абочыне ляжалі ў засадзе два партызаны. Бадай што двое сутак яны праляжалі тут. Сонца рушыла ўжо к захаду, як на шашы відны сталі тры нямецкія машыны. Першая прайшла без злой прыгоды паўз засаду: яе прапусцілі, здагадаўшыся, што гэта генеральская ахова. Калі падышла другая машына, з густой і высокай травы мільгануў на момант Пракопенкаў твар і махнулася яго рука. Граната рванулася пад самай машынай. Задняя машына шпарка пайшла назад.

— Самае важнае тут засталося,— сказаў Пракопенка, надыходзячы блізка і гледзячы на кавалкі нямецкага генерала і яго машыны.

Іван Іванавіч Пракопенка помстай душыць свой смутак па сям'і.

Помста чужынцу за блізкіх і родных гоіць раны чалавечай душы.

## СМЕРЦЬ ГАЎЛЯЙТАРА Ў МІНСКУ

Нямецкае радыё паведаміла, што ў Мінску партызаны забілі гітлераўскага «генеральнага камісара» Беларусі Вільгельма фон Кубэ.

Даскакаўся-такі гаўляйтар да свайго канца. Гэты тоўсты гер з'явіўся ў Беларусь неўзабаве пасля таго, як нямецкія ваенныя зграі прайшлі праз разбураны імі Мінск і ўжо на ўсход ад яго палілі, расстрэльвалі, грабілі і забівалі. Кубэ прыехаў з Берліна ўстанаўляць на Беларусі «цывільную нямецкую ўладу».

Ён адразу абсталяваўся ў Мінску і пачаў наводзіць «новы парадак». Каб пакора і паслушэнства навакол яго давалі яму ўпэўненасць, што ён на ўсё жыццё знайшоў сабе важнецкі кавалак хлеба, ён упрыгожыў Мінск у трох месцах шыбеніцамі.

На Тэатральным скверы стаялі дзве шыбеніцы, на бульвары пры Заходнім мосце таксама дзве, а за Брэсцкім мостам — адна, але вельмі трывалая: не было такога дня, каб яна не трымала на сабе павешанага чалавека. Але мілыя нямецкаму воку гарадскія пейзажыкі з шыбеніцамі і павешанымі на іх людзьмі пачалі дапаўняцца трупамі нямецкіх салдат.

Мінскія партызаны іх забівалі штоночы. Гер Кубэ задумаўся. Ён пачаў закідваць у народнае мора свае вуды. Вясною 1942 года ён ездзіў у Койданава і выступіў там з прамовай перад людзьмі, якіх паліцаі сілком пазганялі на плошчу. Там стаялі асірочаныя гітлераўцамі беларускія дзеці. Кубэ закаціў вочы і назваў іх «вясною беларускага краю».

Ён сабраў каля сябе кучку прахвостаў і шарлатанаў і заявіў, што гэта ёсць «Беларуская Акадэмія навук», а ён яе прэзідэнт. Адначасна ён і вешаў людзей і падлізваўся да іх. Ён калаціўся ад страху. Ён называў сябе «прыхільнікам беларускага народа», пісаў артыкульчыкі ў фашысцкую «Беларускую газету», у якой пісаў, што «немцы апякуюцца над беларускай моваю». І нават пускаўся ў лірыку: «Пад нямецкай апекай беларускае жыццё асвеціцца залацістым сонцам». Дзіва што!

Вешаць людзей — гэта аднак жа было для гітлераўскага гера Кубэ толькі дробнай забаўкай. Ён любіў дзейнасць у вялікіх маштабах. Так на Камароўскай ускраіне Мінска пад яго наглядам і з яго распараджэння было

расстраляна адразу каля сотні тысяч людзей. Іх звалілі ў канаву і засыпалі. Вялікая частка іх была яшчэ жывая. На некалькі кіламетраў зямля гэтай жудаснай, небывалай у свеце магілы варушылася больш як паўсуткі. Нямецкія аўтаматчыкі па загаду Кубэ расстрэльвалі натоўпы асірацелых дзяцей, бацькі якіх былі раней расстраляны. Па загаду Кубэ салдатня ўпрагала беларускіх вучоных у бочкі і вазіла на іх у свае казармы ваду.

Адным словам, берлінскі дзяржыморда пускаўся на ўсе хітрыкі, абы-толькі ўціхамірыць «перадкрай Нямеччыны», як называў ён Беларусь. Уціхамірваў ён Беларусь, уціхамірваў — і шыбеніцамі, і расстрэламі, і артыкульчыкамі, і дзяржымордаўскай «лірыкай», а на Беларусі кіпеў народны гнеў, і партызаны штодзень пускалі з рэек нямецкія паязды і адпраўлялі на той свет усё больш і больш акупантаў.

Па ўсёй Беларусі штодзень каціліся пад адкос нямецкія паязды, на дарогах узрываліся грузавікі з салдатамі, абозы з прадуктамі і танкавыя калоны. У раёне Мінска партызаны разграмілі і адправілі ў магілу нямецкае абласное кіраўніцтва, у Віцебску адправілі на той свет рэдактара фашысцкай газеты Брандта. Дзесяткі тысяч гітлераўскіх бандытаў знайшлі сабе магілу ад караючай рукі народных мсціўцаў.

Вялікі беларускі народ ніколі не цярпеў і цярпець не будзе на сваёй шыі крывавых катаў, няпрошаных апекуноў, усялякую чужаземную навалач, ахвотнікаў на чужы хлеб, якія да таго ж называюць сябе прыхільнікамі народа і прыхіляюцца да народа, як соль да раны.

Партызаны гэтымі днямі адправілі да магільных чарвей гітлераўскага гера фон Кубэ. Народная справа зроблена. Сабаку сабачая смерць. І калом яму зямля.

# НАСТАЎ ВЯЛІКІ ДЗЕНЬ

Чырвоная Армія ўзышла на беларускую зямлю. Дарагая і любая Беларусь, бацькаўшчына наша, дачакалася вялікага дня. Канчаецца нямецкае панаванне! Ужо рынулася перапалоханае нямецкае вараннё на захад адусюль, дзе яно думала абжывацца і нажывацца на беларускіх землях, дзе яно думала ўладаць маёнткамі, дзе думала пладзіцца і множыцца, і каб беларускі чалавек служыў яму, і каб беларуская прырода рыхтавала дары свае сквапнаму нямецкаму горлу.

Пабегла гэтая навалач з Беларусі. Пакацілася пад грознымі ўдарамі Чырвонай Арміі.

Беларускія дарогі бачылі калісьці на сабе дзікі рух на захад растрыбушанай напалеонаўскай зграі. І сам Напалеон каля нашага Барысава ў Студзянцы ўздрыгнуўся і перасеў з імперскага каня ў сані і памчаўся на захад. На нашай зямлі, пад Баранавічамі, ляснула марна заваёўчая прага кайзера Вільгельма.

Гітлераўскае шарлатанства, якое каштавала і нашаму народу і ўсяму свету гэтулькі крыві, у гэтыя дні кладзе на беларускай зямлі сляды сваёй немінучай гібелі. На полі гарачых баёў падаюць і падыхаюць гітлераўскія заваёўнікі. Абапал дарог тлеюць нямецкія косці заваёўнікаў, знішчаных партызанамі — лепшымі сынамі вялікага беларускага народа.

Нямецкі салдат з выпусташанай Гітлерам душою страціў самога сябе.

Браніраваная нямецкая саранча патаптала нашу мілую, родную зямлю, ліла кроў нашых дзяцей і жанчын, залівала нашы дарогі слёзамі нашых сёстраў, здзірала з плеч чалавека кашулю і грабіла да апошняга наш набытак, а гітлераўская прапаганда крычала наўздагон сваёй салдатні, што гэта адбываецца вялікі акт узняцця Германіі да славы і дзейнасці і што ўсё гэта робіцца дзеля таго, што нямецкі салдат вельмі шчыра любіць сваю айчыну. А гэты ваяка пёр на злом шыі ў глыб нашай радзімы, значачы свой след шыбеніцамі і катаваннямі нявінных людзей. Захалоджаным у нязвыклым яму клімаце голасам ён хрыпеў аб славе фюрэра і дабрабыце Германіі, а сам сабе думаў у той жа час аб тым, каб як найбольш награбіць панчох, чаравік і кашуль. Гэта нічога, што здзёртая з цела замучанага чалавека рубашка будзе ў крыві. Дома Эльза ці

Марта вымые і выпрасуе яе, і ўкрадзеная ва славу фюрэра рубашка будзе добрая як мае быць.

Гэта заваёўнік паклаў у руіны нашы гарады, стаптаў наша поле, пастраляў і павесіў нашых блізкіх і родных. І ўсё пхаў у сваё ненаедпае горла. Ён выславіўся на ўвесь свет як крывавы кат і бессаромны злодзей і зганьбіў на стагоддзі самое імя Германіі і германца. Па-гітлераўску гэта называлася замілаванасцю да Германіі, нямецкім патрыятызмам.

І вось нямецкія мазгі ставяцца на месца. Біты нашай зброяй і адбіты ад сваёй разгромленай часці, нямецкі заваёўнік валочыцца па нашых лясах або ранены ці кантужаны валяецца дзе-небудзь пры дарозе і душой прагне, каб хоць убачыць яшчэ сваю Германію, каб хоць дацягнуцца да яе.

Мы любім сваю родную зямлю чыстай душой і вялікім сэрцам. Не прагнасць на чужое, а творчасць і праца дзеля бацькаўшчыны — гэтым жыве наш чалавек.

Нашай роднай беларускай зямлі давялося перанесці першы ўдар ад нямецкай зграі. Прыйшоў дзень расплаты і вызвалення. Блізка той дзень, калі ўстане з руін і Гомель, і Мінск, Віцебск і Магілёў... Блізка дзень мірнай працы на вольнай беларускай зямлі.

Слава Чырвонай Арміі!

Беларуская жанчына ўжо ўзняла насустрач слаўнаму воіну сваіх дзяцей.

## ВАЎКІ РАТУЮЦЬ СКУРУ

Драпежнае звяр'ё так ідзе на здабычу: спачатку бягуць львы і тыгры. Гэтыя смокчуць свежую, яшчэ гарачую, кроў. За імі цягнецца ўжо драбяза. Бягуць шакалы, валачэцца крывазадая гіена. Дзікае сабач'ё бродзіць у пошуках аб'едкаў. Ваўкі шныраць пратаптанымі сцежкамі. А пасля ўжо драпежная птушка кружыцца чародамі над акрываўленым месцам. Сцярвятнікі. Груганнё. Гэтыя аб'ядаюцца без доўгіх пошукаў і клопату на месцы крывавага піру сваіх папярэднікаў.

Спачатку праз Беларусь на ўсход пёрлі нямецкія генералы. Ганарыстыя, атупелыя. Гэтыя ўладалі агнём і жалезам. Яны гналі перад сабою зграі салдатні і афіцар'я. Гэта быў першы крывавы пір нямецкай навалачы на беларускай зямлі. Расправа з людзьмі была куляй, на месцы. Гэта быў час, калі, ачмурэлая ад гітлераўскай прапаганды і шалёнага руху наперад, немчура напіхала танкі жаночым абуткам і адзеннем, садраным з ног і плеч нашых жанчын і дзяўчат.

Яшчэ не астылі трупы і не высахлі слёзы і кроў «заваяваных людзей», як на Беларусь пацяглася навалач другога гатунку. Гэта былі зямельныя арандатары з-пад Брэслаўля і Мюнхена, дробныя чыноўнікі, якім не ўдалася кар'ера па службе і якія з скуры вылазілі, каб пагрэцца каля фюрэра. Тут быў і шпіён, які цэлыя гады збіраў па Еўропе патаемныя весткі фюрэру. Дыверсант жа пасля першых тыдняў вайны тут і застаўся чакаць дакляраванай фюрэрам здабычы. На Беларусь пацягліся з-пад Берліна і Лейпцыга дробныя землеўласнікі, няўдалыя камерсанты, гандлёвыя жулікі і махляры ўсіх гатункаў, банкруты ад сваіх нячыстых спраў і ўвішныя прайдзісветы з падазроных цёмных хаўрусаў, дазволеных Гітлерам.

Усё гэтае груганнё верна выслужвалася перад сваім фюрэрам і меркавала за свае шпіёнскія і махлярскія заслугі перад Гітлерам пажывіцца на беларускай зямлі.

«Генеральны» гер Кубэ, які нядаўна здох у Мінску ад партызанскай кулі, выдумаў нават «зямельную рэформу», каб прыгрэць гэты зброд. Сутнасць гэтай «рэформы» была ў тым, што лепшыя землі на Беларусі аддаваліся гэтым прышэльцам. Беларусы зганяліся з зямлі, каб даць месца немцу з тоўстым задам і лупатай жонкай, якая ахвотна з'явілася сюды «ўладаць» і таўсцець.

На адной толькі Случчыне немцы стварылі больш за сотню такіх маёнткаў. Яны папрывозілі з сабой з Германіі жонак, дачок і цяжарных сук, каб нават і сабачую пароду на Беларусі анямечыць. Яны тут думалі пладзіцца і размножвацца і мець беларусаў за сваіх бяспраўных парабкаў.

Што з гэтага выйшла, вельмі ясна відно ў гэтыя дні, калі Чырвоная Армія ідзе па беларускай зямлі.

Але яшчэ і раней лёс гэтай навалачы вызначыўся як мае быць. У Заляддзе, саўгас на мяжы Чырвонаслабодскага і Слуцкага раёнаў, прыехаў нейкі Тоўхарт з жонкай. Тутэйшыя людзі адразу пазналі яго: гэта быў сын таго самага Тоўхарта, які да той першай вайны быў упраўляючым радзівілаўскім маёнткам «Клярымонты», што ў Капыльскім раёне. Усе гэтыя «ўпраўляючыя», што прыязджалі з Германіі, былі шпіёнамі. Тоўхартаў сынок з'явіўся цяпер сюды як уладар залядскага маёнтка. Не пражыў ён тут і чатырох месяцаў, як уночы залядскія мужчыны ўвайшлі ў дом і звалаклі «ўладара» з пасцелі так, што ён ужо больш не ўстаў з падлогі. Тоўхарціха вылезла з цёплай пасцелі, і яе павялі ў партызанскі атрад. Так яна і не паспела нарадзіць тут малога тоўхарціка на далейшае ўладанне залядскім маёнткам.

Закалаціўшыся ад страху, калі наша Чырвоная Армія ўвайшла ў Беларусь, не трапляючы зубам на зуб, прэ з беларускай зямлі ў сваё нямецкае логава нямецкае ваўкаўё. Як сабакі з падтуленымі хвастамі, пруць са сваіх насапечаных маёнткаў заграбастыя нямецкія ахвотнікі да чужой зямлі і да чужой працы. Даюць яны драла з-пад Гомеля і Віцебска, з-пад Магілёва, Оршы і Барысава, завaрушыліся пад Мінскам і Слуцкам, пад Бабруйскам, Баранавічамі, пад Лепелем і Навагрудкам... Ныюць і пруць, пускаюцца ў дарогу і думаюць аб нядаўнім канцы свайго гаўляйтара ў Мінску і грозным наступе Чырвонай Арміі. Ірвуцца на захад, ратуючы скуру.

Вось і прыходзіць канец нямецкай брыдзе на Беларусі.

# ВАРОЧАЕЦЦА ЖЫЦЦЁ

У канцы жніўня 1941 года нямецкія генералы палажылі пад Гомелем восемдзесят тысяч сваіх салдат. Гомель абышоўся ім дорага. Прагнучы заняць гэты цудоўны беларускі горад, яны, як саранча, лезлі на сваю пагібель. Не ў сілах з бою ўзяць яго, яны з паветра падпалілі яго і разбамбілі. Гомель гарэў і разбураўся. У значнай сваёй частцы ён ужо ляжаў у руінах, калі нямецкая навалач увайшла ў яго.

Адзін нямецкі афіцэр пісаў тады ў Германію з Гомеля: «Мы блукаем па пажарышчах і заходзім у гомельскія сады. Дарма. Сады пустыя. Усё абабрана і дзелася немаведама куды. Падвозу пакуль няма. Мы галодныя».

Гітлераўскі прахвост думаў, што ён будзе бавіць у Гомелі. Пакідаючы свой горад, гамельчане знішчылі тое, што не маглі забраць з сабою. Здавалася, што на каменнях вулічнага бруку людзі пакінулі сляды свае нянавісці да ворага.

Руіны і пажарышчы заклікалі да помсты. Нямецкая ўлада ўжо была ў Гомелі, а горадам уладалі гомельскія партызаны.

Нямецкае афіцар'ё сабралася ў гомельскім рэстаране, што на Савецкай вуліцы, на свой нейкі ўрачысты банкет. Партызаны ўзарвалі ў паветра ўсё гэта гадаўскае зборышча. Ад партызанскіх куль падала немчура на гомельскіх вуліцах, у парках, у прыгарадах. Гомель змагаўся, ён не скарыўся.

Гэта быў адзін з самых індустрыяльных і самых прамысловых беларускіх гарадоў. Другая па велічыні паліграфічная база ў Беларусі — «Палесдрук», Гомсельмаш, паравозавагонарамонтны завод... Эвакуіраваная ў далёкі тыл гомельская прамысловасць поўным размахам працуе на армію, на абарону, на перамогу.

Гомель быў цудоўным злучэннем індустрыяльнага, прамысловага горада з горадам-садам. Гомель стаяў у фруктовых садах. У Гомелі быў цудоўны вялікі парк. Берагі ракі Сож! «Мельнікаў луг»! Гарадскія прысады! Бульвары і скверы!

Немцы разбурылі, спалілі і запаскудзілі горад. Яны «ўпрыгожылі» гомельскі пейзаж шыбеніцамі. Але Гомель і яго ваколіцы ўпрыгожыліся таксама і магіламі нямецкай навалачы. Гэта ўжо здабытак нашай гісторыі і навек на-

памінак нямецкім ахвотнікам да чужых гарадоў: не лезь не ў сваё!

Наша родная Чырвоная Армія перайшла раку Сож. Чырвоная Армія заняла Нова-Беліцу, прыгарад Гомеля. І нарэшце доўгачаканы момант:

Наша войска заняло Гомель!

Слаўны наш Гомель вызвален ад нямецкіх акупантаў! Трупы нямецкіх прышэльцаў яшчэ валяюцца на подступах да горада. Яшчэ скалечаны нямецкі танк, як пачварнае страшыдла, са свастыкай і разяўленай жалезнай ляпай тырчыць на ўездзе ў гомельскую вуліцу. Нямецкія грузавікі і гарматы плазам ляжаць на дарожных абочынах. Мошкі, чэрві і груганы яшчэ не паспелі апанаваць мёртвых фрыцаў. Яшчэ свежанькімі мерцвякамі яны ляжаць, гэтыя гітлераўскія крывавыя пасланцы на нашу зямлю.

А па гомельскіх вуліцах праходзяць байцы. Гомель вызвален дзеля адбудовы і жыцця.

## НЕПАРАЗУМЕННЕ

Пра Паўлюка Бранчыцкага казалі, што ён вельмі зайздросны і сквапны. Здаецца, яно так і было. Заўсёды, бывала, усё выглядае і прыслухваецца, а ці нельга дзе і як упісаць сабе лішні працадзень, або каб дзе лягчэйшая работа, або каб затанна што купіць і задорага перапрадаць. Бывала, людзі работу робяць, а ён ходзіць ды выслухоўвае, дзе хто што скажа. Любіў Бранчыцкі на кожнага скляпаць і падаткнуць куды-небудзь, каб з гэтага выгаду мець. Ён і па свеце цягаўся: усё шукаў лёгкай службы, каб гультаяваць і смачны хлеб есці. Цярпець яго не маглі нашы людзі.

А як навалакліся немцы, дык ён адразу ў паліцаі падаўся. «От ужо дапаў да лёгкага хлеба!» — пачалі ўсе казаць. Невядома, які ён там хлеб еў, але што нямецкім падбрэхічам быў дык пярвейшым. Бывае, што камендант (немец) нічога і не думае, а Бранчыцкі яму ў вушы ўвядзе, дык тады ўжо хоць на свеце не жыві. А пасля знік недзе, і на доўгі час. Казалі, што баяцца пачаў людзей, дык папрасіўся ў іншае месца кудысьці. Можа і так.

Тым часам надышоў добры час: у Мінску гаўляйтара Кубэ партызаны пляснулі дагары нагамі, а Чырвоная Армія пачала гнаць немцаў з Беларусі.

Чуем — Бранчыцкі з'явіўся. Казалі, што бачылі яго, як ён мыўся зранку на двары. І ўжо адзеты як чалавек, а не як нямецкі паліцай. Дык у нас усялякія думкі з'явіліся. Камандзір нашага атрада ўзяў і паслаў мяне разведаць, што з Бранчыцкім такоўскае сталася.

— Бранчыцкі! — сказаў я, увайшоўшы да яго.

— Чаго табе? — сказаў ён, гледзячы на мяне.

— Адкуль ты? — сказаў я, падступаючы бліжэй.

— Чаго табе? — сказаў ён, збялеўшы як палатно.

— Чаго ты так збялеў?

— Хіба?

— Хіба... Вось табе і хіба. Ці не думаеш ты, што я прыйшоў па тваю душу? — намякнуў я.

Тут ён пачырванеў, пасля зноў збялеў.

— Братачка! — размяк ён.— Я думаў...

— Ты думаў, што ў цябе душы няма. Дык дрэнна думаў. Душа твая хоць і чорная, але яна ў цябе ёсць. І відна яна навылёт усім людзям.

— Дык што ж мне рабіць? — аж затросся Бранчыцкі.

— Ідзі запытайся, што табе рабіць.

— Гэта ты мне так кажаш? А божа! Ты ж партызан, я ведаю.

— Дзіва што ты ведаеш. Ты ж усё заўсёды разнюхваў.

«Нідзе дзенешся»,— падумаў я.

Праз тыдняў нешта тры пайшла пагалоска, што ў воласці згінуў немаведама куды бургамістр.

— Але ж і следу няма,— казалі ўсе.— Усё роўна як чэрці на форму схапілі.

Пакуль у нас меркавалі, якія там чэрці яго схапілі, я зноў ткнуўся да Бранчыцкага. Каб вы толькі ведалі, як ён мяне спаткаў! Такой крыўды свет не бачыў, якая была ў яго голасе. Ён аж заікацца пачаў, стараючыся ўсё адразу выказаць.

— Што ж ты, пане-браце?.. Прыйшоў, даў мне напамінак, а сам хвастом накрыўся...

— Якім хвастом? — аж падтуліў плечы я.

— Як гэта якім? Не ведаеш, якім хвастом накрываюцца, калі кажуць адно, а робяць другое? Ты ж мне выразна сказаў, каб я да каменданта схадзіў параіўся, што мне рабіць. Дык выбачай... Папрабуй сам, ідзі дастуціся да таго каменданта. Пасля таго, калі ў Мінску забілі Кубу, камендант баіцца з дому носа выткнуць. Падвоіў варту каля сябе і нікога да сябе не пускае. Што мне было рабіць? Ты ж мне выразна сказаў... А можа, не будзеш ты гневацца,— падумаў я,— калі я табе заместа каменданта бургамістра вазьму. Я пайшоў да яго параіцца, якую мне дзе службу дастаць, пазваў яго ў госці, звязаў, заткнуў яму рот — я чалавек здаровы,— усклаў яго на воз і павёз уночы да швагруся — ён у глухім месцы пры лесе жыве. Дык бургамістр там і цяпер, а мне хоць на свеце не жыві, баюся немцаў і скрыцца не магу, бо цябе чакаю. А ты не ідзеш.

Вось як зразумеў мяне Паўлюк Бранчыцкі. Пайшоў я з ім да яго швагруся. Бургамістр там і сапраўды замкнуты ў свірне. І Бранчыцкага швагрусь пільнуе яго. А гэтага швагруся я ведаў.

Які яны ўсе гвалт паднялі, калі пад вечар прыйшлі сюды нашы з атрада.

Бургамістр скардзіўся:

— Гэты сукін сын Бранчыцкі ўсе мае планы спаскудзіў. Я ўжо намерваўся сам ісці да вас, годзе ўжо немцам служыць, каццы іхнія віднь. А ён са мной так зрабіў. Хто

ж цяпер мне паверыць, што я сам хацеў ужо?.. Гад ты печаны, Бранчыцкі! Каб ты апух!

Бранчыцкі прыставаў да мяне:

— Гэта ж так доўга не з'яўляўся. Чорт жа яго ведаў, дзе цябе шукаць.

Бранчыцкага швагрусь аж енчыў:

— Каб яно згарэла было. Завалілі мне гэтым бургомістрам свіран. Пільнуй яго цэлы тыдзень. Ды яшчэ да ветру вадзі яго, а ў яго ж трыбух, як мех. Стой каля яго можа дзве гадзіны.

Было хоць вушы затыкай. Нашы хлопцы аж клаліся з рогату.

## ФРАНТАВАТЫ КАМЕНДАНТ

У нашым мястэчку чатыры вуліцы. А калі я яшчэ быў малады, гэта ў першыя часы пасля вайны з палякамі, тут тады было пустое месца. Поле і лес. Зямля раней была панская. Пасля, пры Савецкай уладзе, мы ўсе, у каго раней не было ні зямлі, ні пляца, ні хаты, пачалі будавацца. Год за годам і павырасталі новыя хаты і дамы. Пабудавалі мы і школу. А тым часам і дзеці ў нас нараджаліся. Растуць сабе малыя. Прайшлі годы, дык з тых дзяўчатак, што тады нарадзіліся, такія дзеўкі павырасталі, што аж вачэй ад яе не адарваць, калі каторая пройдзе перад табою або засмяецца. Жылі мы ў сваім новым мястэчку хораша. У раннюю весну, бывала, толькі снег сыдзе і зямля падсыхаць пачне, дык так ужо і ведай: з кожнага двара ці саду такім смачным духам цягне, што аж слінка цячэ. Гэта людзі вэндзілі сабе на лета шынкі, паляндвіцы і каўбасы. А сыры якія ў нас рабілі! Таго сыру, здаецца, і жаваць не трэба, сам ён у роце растае. Ды што сыры! Усё ў нас добрае было. Хаты якія стаялі, дамы якія! Якія кветкі перад вокнамі раслі! А якая капуста радзіла ў агародах! А якія сады ўзяліся на яблыкі і грушы! А колькі збожжа нажыналі! Тыя дзяўчаты, што нарадзіліся на свет, калі пачало будавацца наша мястэчка, да гэтага часу ўжо і замуж пачалі ісці, як раптам з'явіўся да нас нейкі Грызгамер, франт і забіяцкі хвалько. Праўда, ён не адразу ўзяў і з'явіўся. Спачатку нямецкае войска ішло і палавіну нашага мястэчка выпаліла. А пасля з'явіўся і камендант Грызгамер.

Галіўся, падла, чыста, рыжыя вусы падстрыгаў штодзень і нават, казалі, калі да ветру садзіўся, дык трымаў перад сабою круглае люстэрачка і ўсё ўглядаўся ў яго, усё нейкія прышчы выціскаў пад губою і на пераноссі. Але чорт яго бяры з яго губою, няхай яна яму навек апухне. Але ж ён не толькі прышчы тыя на сваёй мордзе выціскаў, а жыць нам не даваў. Яго рукамі ўсё рабілася. То ў Германію нашых людзей гоняць, то хлеб забіраюць, то дзяўчат немаведама куды забіраюць, то дзяцей страляюць. Вядома, немцы! Самае паганае на свеце стварэнне — гэта немец. Абжора, скваппік, злодзей. Я ведаў немца, які ўкраў у Дарахвея порткі, схаваў іх сабе ў шафу, а пасля падводзіў усіх да шафы і хваліўся, што ён порткі выдумаў і што каб не ён, то людзі без портак хадзілі б.

Камендант у нашым мястэчку Грызгамер быў такі свінюк, якога свет не бачыў. Жор, спаў, піў, чапіўся да жанчын, вешаў людзей, страляў дзяцей і, нарэшце, прыглядзеўся да аднае нашае дзяўчыны, равесніцы нашага мястэчка — Ганны. Спачатку ён яе ўгаварваў, а пасля сказаў, што калі яна не гляне на яго так, як яму хочацца, то ён адправіць яе ў Германію.

Не ведаў берлінскі кураед, што за асоба наша Ганна. Прыходзіць Ганна да мяне і кажа мне:

— Што рабіць, дзядзька Сымон? Жыць не дае паганы немец.

— Э, дачухна ты мая! Хіба адной табе не дае. Усяму народу не дае жыць немец. А гэтую прышчаватую падлу мы зараз ажэнім. Выведзі яго за мястэчка як-небудзь.

Далей усё пайшло вось як: каля нашага мястэчка быў малады парк, яго пасадзілі 25 год назад. Парк ужо добра ўзбуяў. Ветру ўжо было як пабушаваць у вершалінах дрэў. У нядзелю па абедзе Ганна ішла сюды, і яе вёў пад руку Грызгамер. Прыйшлі яны і селі на лаўку. Выходжу я з-за кустоў і да Грызгамера:

— Што, з нашай Ганнаю пагуляць захацеў?

— Не, не,— спалохаўся ён,— гэта я захацеў павучыць вашу Ганну нямецкай культуры.

— Гэ,— сказаў я,— дык жа злодзей куды стаіць вышэй за немца. Той, калі ўлезе ў чужы свіран, дык хоць не хваліцца, што гэта ён залез у свіран, каб абкультурыць яго. Можа, ты,— сказаў я,— будзеш гаварыць, што з Нямеччыны сюды прывалокся, каб зрабіць дабро нашаму мястэчку?

Але тут Ганна не вытрымала, і мне стала брыдка.

— Дурны ты, дзядзька Сымон! — крыкнула Ганна.— Нашто ты з немцам гаворыш? З немцам не трэба гаварыць. Яго трэба біць, пакуль дух з яго не выйдзе.

Гэта былі апошнія чалавечыя словы, якія прышчаваты немец чуў на гэтым свеце.

Каб нямецкая падла не засмуродзіла нашага парку, мы таго прышчаватага немца закапалі адразу ж.

# ЯНКА КУПАЛА

*Кароткі біяграфічна-крытычны нарыс*

## 1

Вялікі паэт беларускага народа, чалавек, жыццё і дзейнасць якога з вялікай сілай адлюстравалі ў сабе цэлую гістарычную эпоху народа, Янка Купала (Іван Дамінікавіч Луцэвіч) нарадзіўся ў 1882 годзе, у пасёлку Вязынка, Вілейскага павета, Віленскай губерні. Сям'я Луцэвіча — гэта была сям'я дробнага зямельнага арандатара. Арандатар, бяззямельны чалавек, павінен быў арандаваць зямлю ў буйнога зямельнага ўласніка. Ужо гэта, само па сабе, ставіла чалавека ў поўную залежнасць ад пана, на зямлі якога ён сядзеў. У атмасферы залежнасці ад пана, у атмасферы беспарапыннага клопату аб грошах, каб заплаціць арэнду, і ў цяжкай працы на чужой заарандаванай зямлі праходзіла маленства сына арандатара Луцэвіча. Перад яго вачыма праходзілі карціны жыцця народа. Яго дапытлівыя вочы навучаліся перш за ўсё бачыць узаемадачыненні паміж панамі і мужыкамі, яго чулая душа ўспрымала з самага маленства гора і радасць простага працавітага беларускага чалавека. Будучы заўсёды ў асяроддзі людзей цяжкой працы за кавалак хлеба, бачачы перад сабой вяльможных уласнікаў зямлі, адчуваючы горкай практыкай свае сям'і тую сцяну, якою аддзялялася панскае багацце ад мужыцкай нядолі, сын бяздомнага арандатара ўжо з самых малых і маладых сваіх год падслухаў душу народа, ведаў і адчуваў яе імкненні і спрадвечную яе імклівасць да радасці і шчасця. Перад маладой натурай, якая толькі яшчэ фармавалася і складалася, стаяў ва ўсёй сіле сваіх імкненняў і ў сваіх, толькі яму аднаму ўласцівых, асаблівасцях і ў сваім непаўторным харастве вобраз простага, працавітага чалавека, сына і законнага гаспадара роднай зямлі; чалавека, які жыў у старой хаце з саламянай страхою і ў нядолі гадаваў сваіх дзяцей; чалавека, які працай сваіх рук аздабляў твар роднай зямлі, які гадаваў на зямлі багатыя ўраджаі, але не для сябе, а для таго, хто ўладаў зямлёй. Парабкі ў панскіх маёнтках, бедныя беззямельныя і малазямельныя сяляне, тыя, хто кідаў на зямлі галоднае жыццё і ішоў у гарады шукаць работы, каб пражыць на свеце,— многія мільёны гэтых людзей, працоўны беларускі народ магутным сваім мільён-

ным чалавечым вобразам паўстаў і ажыў у маладой душы. І так з'явіўся паэт народа. І так ён сказаў пасля аб мільёнах беларускіх простых людзей, што яны хочуць людзьмі звацца.

Гэта быў час, калі ў абшарах царскай імперыі бяспраўе народа даходзіла да жахлівых памераў усюды. Беларусы неслі на сабе прыгнёт не толькі сацыяльны, але і нацыянальны. Царызм вёў палітыку трымаць беларусаў у стане «ціхай пакорлівай масы». З пункту погляду царскіх чыноўнікаў, само паняцце «беларус» было паняццем этнаграфічным і ні ў якім разе не нацыянальным. Жыццё ў беспрасветнай галоднай працы, бяспраўе, беззямелле і малазямелле, адсутнасць доступу да пісьменнасці ставіла беларускага простага чалавека ў стан, які характарызуецца прыказкай самога ж народа: «ні госць, ні гаспадар у сваім доме». І вялікае значэнне для змагання за волю мела ўсведамленне чалавекам свае ўласнай высокай годнасці, развіццё пачуцця свае нацыянальнай гордасці, усведамленне таго, што на «тутэйшай» зямлі жыве не нейкая шэрая маса сярмяжных «тутэйшых» людзей, цёмных і смешных у вачах пана і царскага чыноўніка, а тут, на сваёй багатай і прыгожай зямлі, у сваім родным краі, імя якому Беларусь, жыве беларускі народ, слаўны сваёй шматвяковай гісторыяй, сваімі нацыянальнымі духоўнымі багаццямі, сваім нацыянальным складам жыцця, сваімі непаўторнымі асаблівасцямі. І таму змаганне за лепшую долю чалавека, за яснасць яго жыцця, за вызваленне ад царызму і панства — ёсць, разам з тым, і вызваленне з-пад прыгнёту яго нацыянальнага я. Адсюль патрэба ў народзе фармавання і росту яго нацыянальнай гордасці, яго нацыянальнай самасвядомасці. І вось сын бяздомнага арандатара на панскай зямлі, які стаяў ужо на парозе свайго юнацтва, сваёй маладой душой успрыняў гэтую праўду свайго народа, і ў яго галаве пачалі фармавацца і прасіцца «на свет цэлы» думкі аб лёсе, аб сучаснасці, аб будучыні ўсёй роднай краіны і ўсяго роднага народа.

У гэтым сэнсе ў яго быў ужо яго слаўны непасрэдны папярэднік: Францішак Багушэвіч, які ўжо сфармуляваў у прадмове да свае «Дудкі беларускай» думкі аб сацыяльным і нацыянальным пратэсце беларусаў у іх імкненні да лепшай долі. І вось Івану Луцэвічу, які зараз назавецца Янкам Купалам, суджана было стаць магутным трыбунам таго, што цьмяна яшчэ брадзіла дзесьці ў глыбокіх нетрах народных мас і к моманту рэвалюцыі 1905 го-

да пачало рвацца бурнай рэчкай на паверхню жыцця, набываючы ўжо новыя, больш дасканалыя формы і пераростваючы ў новую якасць, набываючы новы свой змест.

Так прайшло юнацтва арандатаравага сына, і так пачаўся паэт Янка Купала. К гэтаму моманту ў яго памяці і перад яго душэўным узрокам ужо навечна занялі сваё месца карціны народнага жыцця, з якім зліваўся і асабісты лёс самога паэта.

Ужо назаўсёды, на ўсё жыццё не знікне з яго памяці мокрая і халодная асенняя ноч. Цішыня цёмнага поля. Зоры не свецяць. На небе хмары. Разбітай калясьмі дарогай паўзуць фурманкі: арандатарава сям'я вязе ў далёкі панскі маёнтак збожжа — плата натурай у лік зямельнай арэнды. На пярэднім возе — старэйшы брат Янка, далей едзе маладзейшы брат, яшчэ зусім невялікі хлопчык Казя. Праходзіць ноч, пачынае цадзіцца золкае світанне. Ехаць трэба далёка. Праходзіць дзень, блізіцца ноч, калі браты варочаюцца дадому. У прыдарожнай карчме папасваюць коні. У карчме поўна падарожных людзей: брадзячыя цесляры з сякерамі, пільшчыкі з піламі, местачковыя балаголы, сезонныя панскія парабкі, якім скончыўся тэрмін службы і якія трунца паміж людзей, каб дачуцца — ці няма дзе на старане работы. Забрыў у карчму перадыхнуць ад вечнай свае дарогі і жабрак з торбамі накрыж цераз плечы, з ліраю. Лірнік круціць корбу і пад гукі ліры спявае аб нядолі сірат. А час ад часу ён запявае аб смелым казаку Марозе, які любіў праўду, нічога не баяўся, вёў людзей на злога пана, многа пабіў паноў і папаліў іх маёнткаў і якому паны выкалалі вочы і спалілі жывога ў агні. Цягнецца ў карчме вечар. Карчмарка налівае гарэлку. Па дарозе паўз карчму грукаціць абоз параконных фур: у жалезных бочках вязуць з панскага бровара на склады ці на станцыю спірт. Абоз спыняецца. Першы ўваходзіць у карчму маёнткавы намеснік. Штосьці, праз дзесяткі год, захавалася ў яго абліччы ад цівуна часоў прыгону. І не дзіва. Ён служыць у пана, уласніка тысяч дзесяцін зямлі. А навокал яго парабкі — галодныя, абарваныя.

Два браты паміж людзей. Да ўсяго прыглядаюцца, да ўсяго прыслухоўваюцца. Але вось праходзіць вечар. Коні выстаяліся. А заўтра трэба араць поле. Трэба ў дарогу. Два браты са сваімі фурманкамі выязджаюць у дарогу. Смутак аб жыцці душыць сэрца. Жаданні і імкненні жывуць у душы і не знаходзяць дарогі ў свет. Быццам штосьці страчана, штосьці патрэбнае не знойдзена.

К канцу ночы яснее неба. Хмары звалакліся за цёмны далягляд. Перад світаннем запальваюцца зоры. Маўчыць прыдарожны лес. Беларуская восень пахне хвояй і цішынёй. На ўсходзе пачынае шарэць край неба. Маладая душа паэта адгукаецца хараству свету, і тым большы смутак у ёй, што жыццё так неўладавана, што — бяздомнасць, чужая зямля.

Меншы брат страшна перамёрз за ноч. Яму нездаровіцца. Вось ужо і дадому прыехалі, і маці спаткала сыноў добрай сваёй мілай усмешкай. Пасля кароткага спачыну трэба ехаць араць поле.

Стаіць пагодны асенні дзень. Жоўтая восень. Чыстая вада ў рэчцы. Запозненыя грыбы ў лесе. Чырванеюць арабіны. Спяваюць асеннія птушкі. Пастушкі наклалі агню, і ядлаўцовы дым плыве над полем. Спакойна і ціха на зямлі. І нечага не хапае ў душы. Думка аб хлебе, аб спосабе як жыць, аб заўтрашнім дні не дае спакою вечна заклапочанаму бацьку, адданай ласкавым сваім сэрцам дзецям маці. К вечару Казя адчувае сябе горш. Праходзіць два дні, ён ляжыць у гарачцы. Меншая сястра таксама захварэла. Праходзіць яшчэ некалькі дзён. Казя і меншая сястра памерлі ў адзін вечар, а дзве старэйшыя сястры ляжаць хворыя на скарлаціну. Можа, ніколі так, як цяпер, гэтая сям'я адчула сваю бездапаможнасць на свеце, калі бяда і гора так бязлітасна паказалі тут свой твар. Спатрэбіліся неадкладна грошы, каб лячыць хворых, хаваць мёртвых і неўзабаве аддаць пану рэшту арэнды. Іван Дамінікавіч быў старэйшы з дзяцей, і на яго плечы лягло ўсё.

Быццам нейкая злая наканаванасць павісла над сям'ёй. Вечныя турботы без пары звялі ў магілу бацьку. Праз некалькі месяцаў пан загадаў выбірацца з арэнды і ачысціць зямлю іншаму арандатару, у сям'і якога было больш рабочых рук і на якога пан мог больш спадзявацца, што ён у тэрмін выплаціць арэнду. Іван Дамінікавіч, малады юнак, у сваёй душы гатовы ўжо да вялікай сваёй дзейнасці ў сваім народзе, пачынае хадзіць па панскіх маёнтках у пошуках якое-небудзь новай дробнай арэнды. Пасля ўжо, праз многа год, паэт успамінаў гэты час свайго жыцця, як самую чорную безнадзейнасць, як камень, які душыў і думкі і душу. У гэтыя цяжкія дні ў Івана Дамінікавіча пачалі з'яўляцца думкі шукаць сабе ў жыцці якой-небудзь іншай дарогі, дамагацца якога-небудзь іншага спосабу жыць. Сёстры яго, успамінаючы той час, гавораць, што іх брат стаў тады вельмі маўклівы, задуменны, увай-

шоў у сябе, імкнуўся аставацца сам з сабой. Начамі ён запальваў лямпачку і падоўгу штосьці пісаў. Сёстры не ведалі, што піша іх брат.

Нейкая захудалая зямля ў арэнду была знойдзена, але ўсё гэта было Івану Дамінікавічу чужое, непатрэбнае, нецікавае. Ён пачаў шукаць сабе службы дзеля кавалка хлеба. Нейкі час быў прыказчыкам пры маёнткавай канторы ў пана, пасля працаваў на бровары. Усё гэта было страшнае, чужое. Перад чалавекам стаяла жыццё, а дарогі ў яго не было. І з новай сілай паэт адчуў, як лёс яго зліваецца з лёсам народа, усіх тых простых людзей, якія жывуць навокал яго. І перад ім ужо ва ўсёй сваёй паўнаце вырысаваўся вобраз «мужыка», якім «усе пагарджаюць», але які будзе жыць, бо «ён мужык». Гэта ўжо быў бунт. І так з'явіўся першы надрукаваны верш Янкі Купалы «Мужык». Гэта было ў 1905 годзе, у вялікім годзе рэвалюцыі. Рэвалюцыйны ўздым падняў на сваіх хвалях чулага, разумнага, вялікага сваёй душой і сэрцам маладога сына народа і зрабіў яго народным трыбунам. Яго талент ішоў ад багацця народнай душы, ад думак і імкненняў народа. Паэт пачаў ад імя народа «на свет цэлы» гаварыць мовай гэтага народа — прыгожай, багатай беларускай мовай, якая лічылася царскімі сатрапамі і панствам мовай «простай, мужычай». Мову гэтую забаранялі ў школах, друкаваць на ёй не дазвалялі, яе абсмейвалі так, як эксплуатавалі народ, які гаварыў гэтай мовай. І на гэтай мове загучала бурная, магутная паэзія вялікага паэта. Цяжкая, пакутная ў тыя часы, але пачэсная і слаўная дарога ўсяго жыцця была знойдзена.

Адзін за адным з'яўляюцца творы маладога паэта. Яны клічуць народ «да шчасця і да зор». І ўжо неўзабаве ён у вершы, які Максім Горкі назваў гімнам, сфармуліраваў імкненні беларускага народа да выхаду на шырокую арэну гістарычнага жыцця, да роўнасці паміж усімі іншымі народамі.

А чаго ж, чаго захацелась ім,
Пагарджаным век, ім, сляпым, глухім?
— Людзьмі звацца.

Рэвалюцыя 1905 года выклікала да жыцця гэтыя імкненні мільёнаў працоўных беларускіх людзей, і вялікі паэт народа Янка Купала стаў трыбунам народных мас. За першыя годы яго літаратурнай дзейнасці выходзяць з друку кнігі яго паэзіі «Жалейка», «Гусляр» і «Шляхам жыцця».

Кнігі гэтыя выходзяць з друку нелегальна, трэба было ашукаць або абысці царскую цэнзуру, якая не выпусціла б гэтых кніг у свет і за іх змест і за тое, што яны напісаны на беларускай мове.

У гэтыя часы Іван Дамінікавіч паехаў у Пецярбург вучыцца ў народны універсітэт. У гады навукі ён быў, як і раней, у атмасферы свае кіпучай творчай дзейнасці.

## 2

Калі мы гаворым пра Янку Купалу, пра яго жыццё і дзейнасць, калі думаем аб датах і фактах яго жыцця, перад намі не можа не паўстаць другая не менш магутная постаць нашай літаратуры — Якуб Колас. Біяграфія Янкі Купалы мысліцца намі ва ўзаемадачыненні з біяграфіяй Якуба Коласа, якога да вялікай творчай дзейнасці ў беларускім народзе таксама выклікала рэвалюцыя 1905 года. Два вялікія паэты ўпершыню спаткаліся яшчэ ў маладыя свае гады, тады яны ўжо былі вядомы як паэты. У сваіх спатканнях яны былі блізкімі, і іх дружба была той жывой вадой, якая асвяжала тагачасную маладую беларускую літаратуру. У тыя часы з'явілася цэлая плеяда маладых талентаў. Мала пазней за Янку Купалу і Якуба Коласа пачаў друкаваць свае творы Змітрок Бядуля. Яшчэ пазней з'явіўся Максім Багдановіч. Была тады заснавана ў Вільні беларуская газета «Наша Ніва», якая і з'явілася цэнтрам, навокал якога групаваліся тагачасныя літаратурныя сілы. Праз нейкі час Янка Купала пераязджае з Пецярбурга ў Вільню на сталую працу ў рэдакцыю «Нашай Нівы».

Пачалася новая паласа ў грамадскім жыцці. Рэвалюцыйныя сілы пасля ўздыму 1905 года прымушаны былі пайсці ў падполле. Па ўсёй краіне запанавала рэакцыя. Царская паліцыя па-зверску распраўлялася з тымі, хто ўзнімаў свой пратэст, хто бунтаваў, хто ішоў у рэвалюцыю. Па турмах сядзелі лепшыя сыны народа. Чыноўнікі і панства перажывалі сваю ўрачыстасць. Здавалася, што ночы бясправўя не відно канца. Родная Беларусь уяўлялася паэту як попелішча, на якім спраўляюць свой драпежны банкет чорныя совы і груганы.

У гэты час Янка Купала піша сваю паэму-драму «Раскіданае гняздо» — вобраз раскіданай сялібы і людскі смутак на яе месцы. У гэтыя годы паэт усё часцей і часцей звяртаецца да народных паданняў, легенд і казак. Ён ду-

мае аб гераічным мінулым свайго народа, аб яго змаганні, аб яго сіле. Можа, ніколі, як цяпер, у яго творчасці выступае з вялікай сілай матыў нянавісці паміж простым чалавекам і панам, матыў панскага здзеку з мужыка. Выдатная «Бандароўна» з'явілася як слова вялікага гневу. У той жа час з няменшай сілай гучаць матывы страшнай жальбы аб долі панскага парабка і беднага селяніна, смутак аб тым светлым, што далёка і чаго так цяжка дасягнуць. У гэтыя годы з'яўляецца з-пад пяра Янкі Купалы многа вершаў, якія гучаць як гімн хараству беларускай прыроды, беларускаму лету, вясне, восені. Гэта было ў пэўным сэнсе выяўленне гонару за сваю зямлю і адчуванне, што «я тут гаспадар». Бо бадай што ў кожным з гэтых вершаў гучыць матыў або пратэсту супраць нядолі, або непасрэдны гнеўны зварот да тых, хто пануе над народам.

Творчасць Янкі Купалы гэтай пары характэрна яшчэ матывамі кахання, дружбы, вернасці, адданасці — высокімі чалавечымі пачуццямі, якія характарызуюць чалавечую асобу і ўзнімаюць яе на вышыню чалавечай годнасці. Вялікі паэт як бы гаварыў усяму свету аб вялікасці і благароднасці беларускага народа, аб яго справядлівай чулай душы і аб яго высокай вартасці ў чалавецтве.

І ў гэты час, і пасля з'яўляліся цэлыя плеяды талентаў рознага ўзроўню, якія наследавалі ў сваёй творчасці Янку Купалу, былі яго пераймальнікамі, наследавалі яго вершаваныя формы і матывы яго твораў. Уплыў Янкі Купалы на фармаванне і рост беларускай паэзіі быў незвычайны. І сам факт яго літаратурнай дзейнасці абуджаў да літаратуры новыя сілы і ўзводзіў іх на дарогу.

## 3

Імперыялістычная вайна 1914—1918 гадоў прайшла па ўсёй Заходняй Беларусі бязлітасным сваім смяротэльным маршам. Мільёны беларусаў кінулі свае хаты і родныя загоны і рушылі ў бежанства. Фронт вайны праходзіць па Беларусі. У народзе адбываюцца працэсы нарастання рэвалюцыйнага ўздыму. З усёй вастрынёй устае пытанне, каму патрэбна гэта вайна, за чые інтарэсы льецца народная кроў. Працоўныя масы народа нясуць на сабе вялікі цяжар вайны. За што? За тое, што зямля належыць панству? За тое, што народнае бяспраўе астаецца тым жа са-

мым? А на тэрыторыі, занятай немцамі, правіць сваё воўчае права нямецкі капрал, грубы прускі салдафон?

Вялікая трагедыя роднай зямлі, роднага народа ёсць у гэты час тое галоўнае, куды сыходзяцца ўсе кожнадзённыя думкі паэта. У гэты час адзіная беларуская газета «Наша Ніва» ў Вільні закрываецца. Янка Купала жыве ў Мінску. Тут збіраюцца і іншыя беларускія пісьменнікі. Мінск робіцца цэнтрам нацыянальнага беларускага культурнага жыцця. Янка Купала працуе ў бежанскім камітэці і ні на хвіліну не спыняе свае літаратурнай дзейнасці. У яго з'яўляецца цыкл вершаў аб вайне і лёсе беларускага народа. Паэт імкнецца ўбачыць будучыню роднай краіны. Яго душа поўна болю за пакуты народа. І з новай сілай гучыць цяпер у паэзіі Купалы заклік ірваць ланцугі і выходзіць на шырокі шлях вольнага жыцця. Матыў таго, што годзе ўжо быць рабом, праходзіць праз усе яго вершы гэтага перыяду. Паэт адчуваў блізасць вялікіх падзей, блізкі пачатак новай эпохі, пералому гісторыі народа. У адным са сваіх вершаў часоў вайны, калі канчаўся 1914 год, першы год вайны, паэт пісаў аб тым, што прыйдзе новы час, іншы год, калі меч «напіша бескрывавы свой закон».

Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя палажыла канец вялікай няпраўдзе, якая вякамі вісела над Беларуссю. Працоўны беларус стаў гаспадаром на сваёй зямлі. Збылася мара паэта: беларусы сталі людзьмі звацца.

Але пасля рэвалюцыі, у час грамадзянскай вайны, Беларусі прыйшлося яшчэ перажыць паласу акупацый. Рабіліся спробы зноў заняволіць беларускі народ. Паэт зноў выступае з агністым сваім словам трыбуна. Лёс народа, думкі аб яго будучыні — тое адзінае, чым жыве паэт.

І вось, нарэшце, скончылася грамадзянская вайна, прыйшоў канец усім акупацыям. У жыцці беларускага народа адбылася вялікая падзея: была абвешчана Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка. Паэт піша:

Беларусь на куце
Ў сваёй хаце села...

Маладыя сілы народа былі ўзняты рэвалюцыяй да творчага жыцця, да вялікага будаўніцтва шчасця Радзімы. У паэта загучалі новыя матывы. Яго паэзія напоўнілася бурным аптымізмам. Паэт так звяртаўся ў гэты час да моладзі:

У маланках перуновых,
З гулкім гоманам грымотаў

Для вякоў дыктуйце новых
Нечуваныя ясноты.

Цень мінуўшчыны праклятай,
Дзе бізун гуляў з нагайкай,
Змецiцё вы, арляняты,
Сваёй новай сілай-байкай.

Ужо выбіла часіна
На вялікую прыгоду
Выйсці з мутнай каляіны
Беларускаму народу.

У жыцці паэта пачынаецца новая пара. Янка Купала ў гэтыя часы многа піша. З друку выходзяць яго новыя кнігі, ён займаецца вялікай грамадскай працай. Увесь час ён жыве ў Мінску, які стаў сталіцай Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. У гэтыя часы пачынаецца бурны рост беларускай савецкай літаратуры. У літаратуру прыходзяць новыя маладыя сілы, і Янка Купала становіцца настаўнікам літаратурнай моладзі. Разам з Якубам Коласам ён быў пачынальнікам і стваральнікам новай літаратурнай беларускай мовы. Новае пакаленне беларускіх пісьменнікаў развівала літаратурную мову на аснове, пакладзенай Янкам Купалам і Якубам Коласам.

Дом, дзе жыў Янка Купала, заўсёды быў тым месцам, куды імкнулася літаратурная моладзь. У свайго слаўнага бацькі маладыя пісьменнікі вучыліся любіць свой народ і самаахвярна служыць яму. Вялікае жыццё Янкі Купалы заўсёды было ўзорам для кожнага маладзейшага беларускага пісьменніка. Гэтае жыццё было поўным адлюстраваннем жыцця і лёсу народа. Перажываў народ нядолю — у нядолі быў і яго вялікі паэт. Прыйшло для народа шчаслівае жыццё — быў у шчасці і радасці і паэт.

Савецкі ўрад высока ацаніў заслугі Янкі Купалы. Яму была дадзена Савецкім урадам годнасць Народнага паэта Беларусі. Савецкі ўрад узнагародзіў паэта вышэйшай нагародай — ордэнам Леніна. За кнігу паэзіі «Ад сэрца» Янка Купала атрымаў Сталінскую прэмію.

Яго дзейнасць перарасла межы Беларусі. Ён стаў адным з самых любімых і папулярных паэтаў усяго Савецкага Саюза. Ён стаў вядомым і ва ўсім свеце.

Творчасць Янкі Купалы стала гімнам народнай радасці. Беларускі народ у вялікай сям'і ўсіх савецкіх народаў, пад мудрым кіраўніцтвам вялікай партыі Леніна пабудаваў сабе шчаслівае жыццё ў сваёй рэспубліцы. І па-

эзія Янкі Купалы, як вялікае сцвярджэнне народнага шчасця, стала элементам жыцця народа.

Як чалавек яснага розуму і вялікай душы, як вялікі талент, як лепшы з лепшых сыноў народа, як вялікі грамадзянін Янка Купала бачыў і адчуваў працэс гісторыі. Узброены гістарычнай практыкай свайго народа, ён адчуваў, што Беларусі суджана яшчэ перажыць новае выпрабаванне. Яшчэ ў 1935 годзе паэт пісаў:

...Што гітлеры і герынгі з Берліна,
Культуру нішчачы, што кінулі вякі,
І ў божышча узвыўшы гільяціну,
На край савецкі точаць шаблі і штыкі.

І калі прыйшоў гэты цяжкі для радзімы дзень, калі фашысцкая подласць рынула на савецкую зямлю, зграі адзічэлых і атупелых немцаў, калі родная, мілая беларуская зямля стала арэнай крывавага разгулу гітлераўскага звяр'я, Янка Купала з першага ж дня вайны стаў змагаром з крывавымі нямецкімі захопнікамі. Ён зноў з'явіўся перад народам як магутны народны трыбун, і яго гнеўны кліч да змагання прайшоў па ўсёй беларускай зямлі ад краю яе і да краю. «Да зброі, браты беларусы!» — гукнуў ён. Крываваму Гітлеру ён даў такую ацэнку:

Брыдзе, паўзе ў крыві людское па калена,
Народамі пракляты гнусны зарубежнік,
Не шакал ён, не гадзіна і не гіена,—
Ён — Гітлер, фюрэр прускі, трупаед, грабежнік.

Паэт так звярнуўся да беларускіх партызан:

Партызаны, партызаны,
Беларускія сыны!
За няволю, за кайданы,
Рэжце гітлерцаў паганых,
Каб не ўскрэслі век яны!

Не давайце гадам сілы
Над сабою распасцерць,
Рыйце загадзя магілы,
Вырывайце з жывых жылы,
Кроў за кроў, а смерць за смерць!

Сваю душу і сэрца, усяго сябе Купала аддаў змаганню з ненавісным ворагам. Ён быў адным з дзеячаў Славянскага Камітэта, адным з арганізатараў Першага ўсеславянскага мітынгу. Перамагаючы свае фізічныя недамаганні, ён аддаваўся дзейнасці вялікага грамадзяніна, ён бачыў, што яго слова чакае родны народ, які ўзняўся на ворага. Ён бесперапынна сачыў за дзейнасцю беларускіх партызан,

поўніўся яснай радасцю ад кожнай перамогі Чырвонай Арміі і чакаў таго шчаслівага дня, калі беларуская зямля будзе ачышчана ад нямецкай навалачы.

Смерць заўчасна адабрала яго ад нас. Яму не суджана было дачакацца таго дня, калі апошні нямецкі вырадак ляжа на святой беларускай зямлі сваімі паганымі касцьмі. Але беларускі народ будзе святкаваць сваё вызваленне з ім, з яго імем, з памяццю аб ім. Урна з яго прахам будзе прывезена ў вызваленую Беларусь, і да яе ісці будуць людзі з святым пачуццём чыстай пашаны да таго, хто пражыў сваё жыццё дзеля роднага народа, хто стаў славай і гордасцю беларускай зямлі, чыё імя на векі вечныя любае, роднае, дарагое народу і ненавіснае ворагам народа.

Дом у Мінску, дзе жыў Янка Купала, разбуран нямецкімі бандытамі. Каля дома раслі дрэвы, пасаджаныя рукой паэта. Калі хоць адно з гэтых дрэў астанецца — яно стане сімвалам працы вялікага сейбіта, які сеяў у народзе слова праўды і цешыўся з росквіту роднай краіны.

Родная краіна будзе цвісці і красаваць, а чорныя косці паганых нямецкіх акупантаў паточаць чэрві. Беларускі народ з народа-пакутніка стаў народам-змагаром і героем. Дзеля гэтага пражыў сваё слаўнае жыццё вялікі паэт беларускага народа Янка Купала.

# ДАРАХВЕЕВЫ ПОРТКІ

Наш Дарахвей Крываблоцкі вельмі фацэтнік вялікі. Не сказаць, каб гэта ён наўмысна лез у якое-небудзь штукарства, а так у яго ўсё выходзіла, што з яго парагочуць, а ён і не шманае. Нейк, незадоўга да вайны было, апароў Дарахвей на гары нейкія свае старыя порткі з вырваным крэслам. Здавалася — ліха іх бяры, няхай валяюцца. Дык не, Дарахвею фантазія падшыбла — каб гэтыя порткі ў глум не пайшлі — залатаць крэсла і хадзіць у гэтых портках з сеткаю рыбу лавіць. І рыбак невялікі быў Дарахвей, а бач ты, падбаў і аб гарнітуры. Хадзіў ён у рыбу не часцей як адзін раз на год. Адзенецца, бывала, у якую-небудзь старызну і боўтаецца паўдня па горла ў вадзе. Здаралася, што якіх пару плотак і ўбярэ за дзень. А было часам, што і цэлых тры плоткі браў. А вечарам гаворка ішла. Вельмі ж расказваць любіў Дарахвей. У яго ўжо з плотак шчупакі выходзілі, і не тры, а трынаццаць. Дык якое дзіва, што яму рупела мець адмысловыя порткі, каб хадзіць у рыбу. А ў яго ў шафе віселі тры новыя гарнітуры. Дык жонка не захацела яму тых портак латаць. Тады ён сам узяўся і на ўсё крэсла прышыў лату з чырвонага мультану. Такія ўжо выйшлаі порткі, што хоць ты іх на выстаўку вязі. Аднаго разу Дарахвей прыйшоў з рыбы, хутчэй зняў з сябе мокрыя порткі і ўскінуў на плот, каб яны ацяклі і высахлі. Нейк пайшло так, што не сабраўся ён доўга ў рыбу, дык порткі больш як год на плоце і правіселі, свецячы на ўсё мястэчка чырвоным крэслам. Нават у нас і прымаўка за гэты час пайшла: «Блішчыць здалёк, як Дарахвеевы порткі».

Пачалася вайна, навалакліся немцы, і ў нашым мястэчку з'явіўся камендант. Дарахвею стала не да рыбы. Ён разам з усімі намі даўно ўжо быў у атрадзе.

Камендант у нашым мястэчку быў нейкі Адольф Пфайлендгэль — чысцёха, бязлітасны кураед, франтаваты бабнік, забіяцкі ваяка каля чужых жонак і гаспадарлівы злодзей. Колькі ён пасылак адправіў да сябе ў Германію, усе з нашага дабра! Мы наляцелі ўночы на камендатуру, і к чорту матары дагары нагамі пайшло ўсё.

Ніводнага фрыца ў мястэчку не асталося, і толькі не ведалі мы, дзе падзеўся Пфайлендгэль. Уцёк, ліха яму,— бедавалі мы.

Прайшло нешта з месяц. Бачым раз — нешта чырвонае

варушыцца паміж кустамі. Пачалі прыглядацца — соўгаецца пехта. А тут Дарахвей як закрычыць:

— Браткі, гэта ж мае порткі!

Абкружылі мы гэтага дзівака ў Дарахвеевых портках і ўзялі жывога. Што вы думаеце? Гэта быў камендант Пфайлендгэль. Калі мы напалі на камендатуру, ён схаваўся і ўцёк. Калі ўсё сціхла, ён бадзяўся і туляўся, баючыся людзей і свае каменданцкае адзежы. Ён адзічэў, абкаўтунеў і ўхапіўся за ратунак: украў недзе ў чалавека вантоўку і зняў ціхом з плота Дарахвеевы порткі. Выфранціўся і смел: думаў, што яго ніхто не пазнае і яму ўдасца дабрысці дзе да сваіх.

— Нашто ты ўкраў мае порткі? — зарагатаў Дарахвей.

— Я, я, я...— пачаў заікацца Пфайлендгэль.

— Я ведаю, што гэта ты.

— Я чалавек... я іду...

— Які ты к чорту чалавек, калі ты немец, ды яшчэ ў чужых портках.

Мы зарагаталі.

— Але ж і ты, Дарахвей, сабе порткі быў прыдбаў.

— А каб яны былі згарэлі, гэтыя порткі,— сказаў Дарахвей.— Аж самому брыдка. Вось я іх зараз прастрэлю, каб яны больш не рэзалі майго вока.

Дарахвей ускінуў вінтоўку і стрэліў у зад з чырвонага мультану. Так што Адольф Пфайлендгэль пакінуў прыглядацца да баб.

# ПА СЛЯДАХ НЯМЕЦКАГА ЗАВАЁЎНІЦТВА

Паверх шматнавярховых напластаванняў помнікаў і слядоў гістарычных падзей на Беларусі накінула свае сляды і нямецкая навалач на пашу зямлю і за час імперыялістычнай вайны 1914—1917 гадоў і акупацыі 1918 года.

Ваенныя дзеянні імперыялістычнай вайны скончыліся на лініі баранавіцкіх акопаў. Гэтыя акопы захаваліся былі і да самай цяперашняй Айчыннай вайны. З зацэментаванымі немцамі бліндажамі, з ходамі і пераходамі, яны год за годам асядалі краямі і асыпаліся, размываліся дажджамі і дзе-нідзе раскопваліся тамашнімі сялянамі: часам чалавек раўняў сваё поле і хацеў сеяць свой хлеб там, дзе раскапаная зямля марнавалася без карысці; а дзе-нідзе акопныя сцены былі выкладзены бярвеннем, і людзі даставалі яго сабе на патрэбу. Акопы сталі плытчэйшымі, глыбіня іх страцілася ад часу. Абсыпаная зямля пахавала пад сабою нямецкія імкненні і прагу і саміх прагных шукальнікаў свайго шчасця на чужой зямлі. Гэтыя пошукі і гэтае шчасце скончылася тым, што з размытых дажджамі і засыпаных абваламі акопаў пад Баранавічамі да сённяшніх дзён тырчаць з жвіру пачарнелыя нямецкія чарапы, ногі, сточаныя магільным чарвяком, і высахлыя рукі.

Сляды нямецкага адчаю і смутку перад гібельным канцом льга напаткаць у шмат якіх месцах на Беларусі. На трынаццатым кіламетры ад горада Нясвіжа, на вялікім гасцінцы паміж Нясвіжам і Слуцкам, яшчэ і праз усе гады савецка-польскай граніцы стаяла старая карчма пры сяле Кукавічах. Гэтым гасцінцам у часе імперыялістычнай вайны многа прайшло палонных немцаў і аўстрыякаў. Палонныя часта займалі нанач усю стадолу і карчомную хату. У карчомнай хаце на сцяне праз усе гады красаваўся надпіс з таго часу на нямецкай мове: «Божа, вярні мяне жывога ў Аўстрыю». Ці пачуў бог малітву гэтага немца — невядома. Але гэты надпіс мог бы многаму навучыць кожную германскую душу, абы толькі яна зажадала не прымаць на сляпую веру фюрэрскі лямант аб тым, што пад нямецкія ногі павінен легчы ўвесь свет.

На ўездзе ў Нясвіж з усходняй стараны, паміж Новым месцам і гарадской Падкасцельнай брамай, на вуліцы, узбярэжнай Паненскаму возеру, мог захавацца і да нашых дзён дом арандатара радзівілаўскіх вадзяных млы-

ноў Навума Харлаба. У 1918 годзе ў гэтым харлабаўскім доме былі атручаны два нямецкія афіцэры, якія там кватаравалі. Акупанты не паспелі следства ці іншае мерапрыемства давесці да канца: усё гэта адбылося перад самым канцом нямецкай акупацыі.

У Капыльскім раёне, пры мястэчку Цімкавічах, ёсць так званы Ліхадзёўскі лес. Праз яго ідзе Скіп'ёўская дарога. У тым жа 1918 годзе на гэтай дарозе быў знойдзены труп нямецкага салдата. Тутэйшыя людзі ў той жа дзень ціхом закапалі яго, баючыся нямецкай расправы. І да самай Айчыннай вайны тое месца называлася (ужываючы мясцовы дыялект) «Гарманьская магіла».

Нямецкая акупацыйная зона на ўсходзе Беларусі ў 1918 годзе канчалася на Аршаншчыне і Магілёўшчыне. У Оршы граніца паміж акупіраванай і неакупіраванай зонамі праходзіла па лініі чыгункі паміж вакзалам і горадам. Там стаяла калючая загарадзь. Невядома чаму, але якраз у тым месцы немцы зрабілі могільнік сваім салдатам, сярод якіх пачаў панаваць тады тыфус.

Пад 1940 год магілы гэтыя былі ўжо размытыя даждждамі і апалыя, але яшчэ вельмі добра вызначаліся на роўнай зямлі.

На Случчыне ёсць адзінокія нямецкія магілы ў Скабіне і Грозаве, але найбольш нямецкіх магіл і курганоў далей на захад.

Ад Брэста і да Смаленшчыны, цераз усю Беларусь па лініі старое Маскоўска-Варшаўскай шашы, асталіся насыпы і капцы над нямецкімі касцямі. Ад Брэста і да баранавіцкіх акопаў пераважаюць найбольш гуртавыя магілы. Апошні, калі ісці на ўсход, такі курган ёсць ля шашы кіламетраў за два на захад ад Сіняўкі. Пасля Сіняўкі на ўсход усюды адзінокія магілы. На некаторых яшчэ да 1939 года аставаліся нямецкія надпісы на ўкапаных слупках.

На захад ад Баранавіч ішла вайна, і там курганы раслі пасля баёў. На ўсход жа ад Баранавіч па шашы ішлі ў наш тыл палонныя, а некаторыя рабілі спробу ўцякаць і брадзілі па чужой зямлі ў адзіноце. Так павялічваўся лік нямецкіх магіл тут.

Але ўсё гэта аніяк не можа зраўняцца з тым, што адбываецца цяпер на Беларусі. Што значыць палонны нямецкі брадзяга на Беларусі часоў мінулай імперыялістычнай вайны ў параўнанні з сённяшнім нямецкім тулягам, які ахвотна паверыў свайму фюрэру, што ён вышэйшы за

ўсё чалавецтва на свеце і яго шчасце ў тым, каб стаптаць і прысвоіць чужую зямлю. Як здзічэлы сабака, ён, адбіты партызанамі ад свае часці, баіцца чалавечага голасу і туляецца па глухіх кутках з адчаем і смуткам, шукаючы апраўдання сваёй марнай надзеі — захаваць жыццё і вярнуцца ў Германію. На месцы яго гібелі нават і магілы не астанецца. Цяжка будзе пералічыць нямецкія надмагільныя насыпы на месцы баёў на Беларусі ў нашы дні. Народнаму гневу няма межаў. Немцы прывалакліся на нашу зямлю, думаючы прысвоіць яе, аж яна прысвоіла іх сабе на ўгнаенне. Ніколі яшчэ не распладжвалася ў нас гэтулькі гругання. Раскормленае адборным нямецкім мясам, яно не скора яшчэ пачне худзець. Новы пласт нямецкіх касцей лажыцца цяпер паверх ранейшых напластаванняў ад чужацкіх паходаў на нашу родную зямлю.

# ДЗЕНЬ ДОБРЫ, БЕЛАРУСКАЯ ЗЯМЛЯ!

На Беларускай зямлі адбываецца апошняя дзея крывавай драмы, якая бадай за два з паловай гады напаіла яе крывёй і ўкрыла папялішчамі. Ідзе вызваленне Беларусі ад крывавых гітлераўцаў. Надыходзіць канец нямецкай акупацыі. Чырвоная Армія, раён за раёнам, ачышчае нашу родную беларускую зямлю ад нямецкай навалачы. Ужо вызвалены беларускія гарады — Клімавічы, Крычаў, Чэрыкаў, Нова-Беліца, Добруш, Гомель. Блізка дзень поўнага ачышчэння нашай бацькаўшчыны ад паганых чужынцаў.

Вялікі гераічны рух савецкіх народаў давёў Айчынную вайну да пералому на поўны разгром фашысцкіх захопнікаў.

Пачалося пад Сталінградам, прайшло праз Арол і Данбас. На ўсіх франтах, усюды слаўныя савецкія дывізіі і палкі б'юць ворага насмерць і ўкрываюць нашы сцягі повай славай. Можа ніколі так востра, як цяпер, не выяўляўся вялікі сэнс і разумны прынцып савецкай дзяржаўнай сістэмы, калі цесны саюз народаў, як вечная скала, стаў непахісны перад ворагам і калі разгром ворага на зямлі аднаго саюзнага народа ёсць перамога на шчасце другога народа. Блізасцю вызвалення адгукнуліся на Беларусі і разгром немцаў пад Сталінградам, і перамогі Чырвонай Арміі на Кубані і на Каўказе, і ўзяцце Харкава і Кіева.

Беларусь першая прыняла на сябе ўдар закаванага ў жалеза нямецкага цемрашала. Такі ўжо гістарычны лёс Беларусі. Можна сказаць: гэта было нашай нацыянальнай трагедыяй, што час ад часу на нашай зямлі адбываліся крывавыя падзеі Еўрапейскай гісторыі. Але, разам з тым, гэта было нашым гартаваннем і нашым нацыянальным фармаваннем. Гэта ж на вачах нашага толькі пакалення беларускі чалавек з пакутніка стаў ваяўнічым дзеячам свае радзімы. На вачах нашага пакалення на беларускай зямлі разыграліся дзве крывавыя драмы. Вайна з немцамі 1914—1918 гадоў. Тады стварыўся і астаўся як вобраз у нашым нацыянальным жыцці беларускі выгнанец, бежанец. Прайшла чвэрць стагоддзя, і зноў вайна з немцамі, але ўжо не параўнаная ні з якімі войнамі, Вялікая Айчынная вайна. І нездарма чвэрць стагоддзя іспавала і жыла поўным жыццём Беларуская Савецкая Са-

цыялістычная Рэспубліка. Ужо няма пасіўнага пакутніка-выгнанца. Ёсць, як здабытак нашай нацыянальнай гісторыі, беларускі партызан — дзейная, нацыянальна-свядомая асоба.

Вобраз Гастэлы — вось вобраз беларуса. Ён, з пагардай да смерці, рынуўся адзін на вялікія сілы ворага. Перамог і, хоць фізічна загінуў, стаў бяссмертным, вечна жывым у народзе. Беларусы генералы, палкоўнікі, лейтэнанты, байцы, Героі Савецкага Саюза б'юцца з ворагам у радах Чырвонай Арміі.

У крывавым канфлікце на нашай зямлі скрыжаваліся дзве сілы: дэмакратызм Еўропы поплеч з найвышэйшымі дасягненнямі прагрэсіўнага чалавецтва — савецкімі прынцыпамі жыцця і ладу з аднаго боку, і цемрашальства фашызаванай Нямеччыны — з другога. Беларуская нацыянальнасць, беларускі народ усімі сваімі пластамі гераічна змагаецца з цёмнымі сіламі германскай навалачы. Верныя сваім гераічным традыцыям, мы, беларусы, чэрпаем сваю нязломнасць у змаганні ў вялікім замілаванні да свае роднае зямлі, у бязмежнай да яе адданасці і ў непарушным сяброўстве з братамі нашымі — рускім і ўкраінскім народамі. Партыя Леніна выгартавала нас і вывела на шлях нашай дзяржаўнасці.

Ужо як мае быць выяснілася наша перспектыва: наша зямля ачышчаецца і неўзабаве ачысціцца ўся ад крывавых чужынцаў — немцаў. Месяц за месяцам і год за годам — і ўдзірванеюць выбітыя нямецкімі бомбамі і гарматнымі набоямі яміны на нашай зямлі, а ў ёй сатлеюць трупы нямецкіх заваёўнікаў. З новай сілай адродзіцца жыццё, і навекі астанецца новы гістарычны вопыт нашага народа, які праз новую практыку крывавага змагання ўзняўся на новую ступень свайго развіцця, свае гнуткасці, сілы, цвёрдасці і гістарычнай непахіснасці.

Мы святкуем 25-годдзе Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі ў часы новага беларускага ўваскрошання — у часы ачышчэння Беларусі ад нямецкай навалачы. І тым большае наша нацыянальнае свята. 25 год Савецкай Беларусі — гэта чвэрць стагоддзя нашай дзяржаўнасці і нашай волі.

На Беларускай зямлі Напалеон злез назаўсёды з свайго імператарскага каня і перасеў у мужычыя сані, каб абы толькі выратаваць сваю галаву. На месцы той напалеонаўскай трагедыі ўжо тлеюць косці гітлераўцаў. На Беларускай зямлі скончылася і першая ўсясветная імпе-

рыялістычная вайна з немцамі. Нямецкія ваякі ўжо з таго часу паспелі спарахнець пад Баранавічамі. Праз Беларусь вызначылася і дарога Савецкай Арміі туды, дзе хутка завершыцца змрочны лёс Гітлера і кожнага, хто ішоў за ім. Гэтае месца — на германскай тэрыторыі.

Многія гарады нашы ляжаць у руінах. На месцы сёл і вёсак вецер узнімае халодны попел. На месцы дамоў тырчаць з асмалкаў абкуродымленыя печышчы. Раз'юшаная зграя нямецкіх заваёўнікаў пасіраціла нашых дзяцей і абязвечыла душы нашых матак, адабраўшы ад іх дзяцей жыццё. Мы адбудуем свае паселішчы. Узнімем з руін гарады.

З перажытай крывавай драмы мы зробім свае вывады. Перш за ўсё — будаваць і надалей наша нацыянальнае жыццё пад слаўным сцягам вялікай партыі Леніна. Пад гэтым непераможным сцягам і надалей быць адзінадушнымі і нязломнымі ў будаўніцтве нашага жыцця, нашай культуры. Заўсёды змагацца за шчасце наша — за нашу Беларускую Савецкую Сацыялістычную Рэспубліку ў вялікай сям'і савецкіх народаў, у вялікім СССР. Мы будзем і надалей будаваць сваё савецкае нацыянальнае адзінства, адзінства нашага народа і нашай тэрыторыі і дбаць аб шчасці сваёй роднай бацькаўшчыны, і каб ніякія граніцы ніколі больш не рэзалі яе. І высока трымаць сваю нацыянальную волю і гордасць, ажыццяўленне якіх мы знайшлі ў Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы, сцяг якой хутка ўзвіецца над усёй нашай беларускай зямлёй. Чырвоная Армія ўжо на Беларусі і ачышчае яе ад чужацкай навалачы. Няхай жа гэтае ачышчэнне будзе навекі.

Добры дзень табе, родная, любая наша бацькаўшчына Беларусь!

*2-га ліпеня 1944 г.*

Можа, заўтра, а можа, паслязаўтра наша армія забярэ Менск. Падыходзіць канец нашым пакутам. Дзякаваць богу, і хвароба мая пакрысе пакідае мяне. Ад часу, калі я захварэў, прайшло ўжо год і сем месяцаў. Не было яшчэ такога, каб мая паправа спынілася. Увесь час павольна сочыцца ачуньванне. На гэта я спадзяюся на далейшае і гэта трымае маю душу ў жывой раўнавазе. Ужо і цяпер як мае быць, лёгка і многа, як і да хваробы, працую. Якое гэта шчасце! І як я бываю няўдзячан лёсу, калі часамі мяне апаноўвае смутак! Гэтымі днямі я заўважыў, што ўжо добра бачу ліст паперы ўвесь так, каб пісаць на ім роўным радком, які б шырокі ліст паперы ні быў. А яшчэ шэсць месяцаў таму, калі пачынаў перапісваць «Пошукі будучыні», мне была пакута выпісаць роўна загаловак і першы радок. Я цыркулем мераў раўналежнасць радка ад берага паперы. Учора паслаў у Цімкавічы паштоўку, хоць там, можа, яшчэ і немцы. Але пакуль паштоўка туды падпаўзе, то напэўна ўжо берлінскага гадаўя там не будзе. Сёння быў дождж. На двары мокра. Я пішу, бачу з вакна мокры дах, і ў душы маёй ціхая радасць, вялікая: як добра я ўжо бачу! Сем гадзін. Перад вечарам. Дома са мной толькі адна Іра, любая мая ўцеха! Заўтра да паўдня трэба напісаць артыкул для «Известий». Цяжка мне пісаць парускy, а ў іх няма перакладчыка з беларускай мовы... Трэба яшчэ думаць, як бы павячэраць. Ад дрэннай яды (і тае вельмі мала) я апошнім часам аслабеў.

*4-га ліпеня 1944 г.*

Учора нашы забралі Менск. Нямецкая навалач прэ з Беларусі на ўсе застаўкі. З гэтае прычыны ўчора ўвечары сабраліся: я, Цімох Крысько, Алеся Александровіч. Больш

нікога няма, усе нашы ў Гомелі. Я выпіў добрую шклянку віна, гэта ўпершыню пасля хваробы. І нічога. Дзякуй богу, я здаравею. Учора ўночы паведамілі ў зводцы, што ўзялі Цімкавічы, Вялікую Раёўку, Жавалкі... Родныя мае мясціны. Як мая душа рвецца туды! Яна заўсёды там. Там жывуць усе мае персанажы. Усе дарогі, пейзажы, дрэвы, хаты, чалавечыя натуры, пра якія я калі-небудзь пісаў. Гэта ўсё адтуль, сапраўднае. Пішучы пра Скіп'ёўскае Пераброддзе, я думаю пра Скіп'ёва каля Цімкавіч, паміж лясамі Скіп'ёўшчынай і Ліхадзёўшчынай, мілае малое Селішча, хараством якога заўсёды захаплялася мая маці нябожчыца.

*5 ліпеня 1944 г.*

Яшчэ няма шасці гадзін. Толькі што званілі з радыё. Ледзьве адпрасіўся, каб не пісаць сёння, а няхай ужо хоць заўтра пра заняцце нашымі Баранавічаў. Жаночы голас быў упарты і непадатлівы. Значыцца, Баранавічы, відаць, ужо забраны. Раз перадача для заграніцы, то трэба напісаць аб беларускай нацыянальнай трагедыі, рэшткі старых нямецкіх акопаў, былой польскай граніцы.

Учора заходзіў Гутараў пытацца, што ім рабіць: яны пішуць нейкі дослед аб Я. Купалу, а «Кліч да беларускага народа» і выступленне на першым беларускім радыёмітынгу з Казані зімой 1941 г. пісаў Купалу я. Баўдзей так проста і ставіць справу, а іншыя не ведаюць, што зрабіць: мне ці Купалу аддаць гэтыя тэксты. Мне і самому ўсё гэта нядобра, але тады не напісаць гэтага я не мог.

*8 ліпеня 1944 г.*

Вострае ўзбуджэнне з прычыны вызвалення Менску ападае. Я ўжо спакайней працую. За ўчора і сёння давёў да канца другі раздзел «Скіп'ёўскага лесу». Мучуся ад паняверкі, што батальныя сцэны мае не што іншае, як глупства. Хоць бы хутчэй ужо дапасці да таго, калі можна будзе на ўсе бокі паказваць душу Канстанціна Прыбыткоўскага. Думаў многа пра тое, што трэба вырысоўваць разнастайныя тыпы нашага народа. Буду кіравацца сам сваімі думкамі, якія сфармуліраваў у сваіх артыкулах — перадавых у № 1 часопісу «Беларусь» «Дзень добры, Беларуская зямля» і № 3 «За шчасце народа». Учора ўвечары быў нешта ў трывозе і неспакоі.

*9 ліпеня 1944 г.*

Зранку ездзіў з Цімахом у Ізмайлаўскі парк. Тры гадзіны мы адседзелі на пнёх. Я расказваў што-ніпто з гісторыі мястэчка Цімкавіч і характар і паходжанне цімкаўцоў і іх прозвішчаў. З сямі да дзевяці падвечар пісаў «Скіп'ёўскі лес». Думаю аб драме. Чытаў Л. Ляонава ў «Правде» «Взятие Великошумска», і паняверка мая, што «Скіп'ёўскі лес» пішацца вельмі дрэнна, зменшылася.

Думаю аб той горкай праўдзе, што ніколі не меў магчымасці пісаць тое, што самае важнае беларускай літаратуры і дзе б я сапраўды павярнуў бы горы. А то ўсё пішу на ўсялякія прамежныя тэмкі, пасля якіх думаў, што пазатыкаю горлы дурням і брахуном і тады ўжо возьмуся за тое вялікае, што хачу і магу напісаць. Дай божа па-сапраўднаму ачуняць. Пасля вайны буду пісаць як хачу і магу.

*10 ліпеня 1944 г.*

Сёння рана пашоў у рэдакцыю. Там пісаў, пакуль нікога не было. Цяпер каля шасці гадзін па паўдні. Сумна, пайсці няма да каго, нашы бадай што ўсе ўжо то ў Гомелі, то ў Мінску. Адзіная мая ўцеха ў працы, яна мяне ратавала заўсёды. Калі ўжо заеду ў Мінск, тады не будзе смутку. А сёння яшчэ да вечара многа пісаць трэба.

*8 жніўня.*

Колькі чаго парабілася за месяц! Ужо і ў Мінск незадоўга. Можа, ужо будзе свой сталы прытулак, і, можа, мне суджана яшчэ пабачыць мілыя Цімкавічы. А што, калі і хата мая асталася і стаіць? Гэта будзе вялікае шчасце. Там жа, у ціхім жыцці можна будзе ачуняць як мае быць і напісаць усе задуманыя раманы.

Прыязджала з Мінска Хайноўская. Яна асталася такая ж мілая, разумная і практычная ў самым найлепшым сэнсе. Усё умее і можа зрабіць і ўсё ацаніць праўдзіва. Яна казала: «Адна з вашых сёстраў увосень сорак першага году прыязджала ў Мінск шукаць вас». Анюта гэта ці Маша? Мілая Маша, у годы майго студэнцтва яна была мне як маці. У часы ўсіх маіх няшчасцяў гэта была шчырая сястра. Яна і Рэня — самыя мне блізкія. Калі жыва яна цяпер і здарова! Ужо больш як месяц ніяк не магу напасці на яе след. Апошнія дні вельмі трывожыўся аб гэтым. Зімою дзевяцьсот дваццаць шостага года многа пісаў пра яе ў дзённіку.

*9 жнівеня.*

Я сам не свой увесь гэты час. У Маскве страшна аставацца далей жыць. Гэты вялікі горад не дасць мне як мае быць ачуняць. І жыць не ў Беларусі больш не магу. А дзе жыць у Мінску? І як там жыць на попелішчы? Што там ёсці? Пашоў сёння рана ў рэдакцыю. Думаў, пакуль яшчэ там нікога не было, пісаць непатрэбную працу: перадавы артыкул у «Беларусь» № 5. Артыкул ужо напісаны, але цэнзар вымагае, каб там было як найбольш шаблону. Ратуй мяне божа ад гэтай работы больш. Аднак жа ў рэдакцыі нічога не рабіў, бо адразу найшло людзей, падняўся гармідар, і ўсе мае дуды вобземлю.

Сазваніўся з Глебкам у выдавецтве. Ужо з тону яго гаворкі ў тэлефон пачуў, што ён нейкі нецярплівы. І сапраўды. Са мною ён нічога не гаварыў, апроч дзвёх якіх фразаў, якія ён мог бы сказаць і не мне, і якія я мог бы пачуць і не ад яго. Я адразу і пашоў. І яму было ўсё роўна. Адным словам, яму ні да мяне і ні да кога, хто не п'е гарэлкі. Яго губіць не гарэлка, а тое, што ён менш за ўсё Пятро Глебка, а найбольш «Нонік», ці, як яго звала цешча, «Нёнік». Пястунчык. Пасля таго, калі Купала ўпаў з дзесятага паверху гасцініцы «Масква» і сканаў, Глебка сказаў быў мне: «Ён жыў як паэт, і памёр як паэт». У гэтай фразе ўвесь Глебка-Нонік. Ён хоча жыць, як «паэт», гэта значыцца, як матыль у бляску дня. Гэта вечны кавалерчык і п'яніца. «Суждены нам благие порывы, но свершить нам ничего не дано». Ён самы асвечаны і культурны з усіх сённяшніх жывых беларускіх пісьменнікаў і самы большы абладальнік яснай думкі. Вышэйшая асвета дала яму вялікую карысць. Яго талент узбагачан думкаю, ясным розумам. Кафедра беларускага універсітэта была б ашчасліўлена такім прафесарам. Але ж, бачыце, «жыць як паэт». Нёнік! Дык якое дзіва, што ён п'е цяпер дзень і ноч, калі яго спасцігла вялікае няшчасце! Хоць у маёй галаве дзесьці варушыцца думка, што ён цяпер, п'ючы дзе-небудзь замкнуўшыся абы з кім, хто трапіцца, часамі ўспамінае аб «паэтычнасці» ўсяго гэтага. Калі з ім няньчацца, ён прымае гэта як абсалютную няўхільнасць. Ён паабяцае прыйсці заўтра, а прыдзе праз два тыдні, а найчасцей зусім не прыдзе, калі абяцаў прыйсці. Яго ёсць за што любіць. Я люблю яго. Я даражу яго дружбай. З ім цікава гаварыць. У мінулую восень, калі я пераехаў жыць у «Якар», і зімою я так прагнуў, каб ён да мяне заходзіў! Мне была радасць, калі я бачыў, як з'яўлялася ў маіх дзвярах яго

мілая галава. Тым большая была мая радасць, што гэта было пасля цяжкай хваробы, калі не вельмі часта зайходзілі да мяне нават і тыя, што цеснай дружбай былі звязаны са мною праз многа год. Вядома, з хворым быць нецікава, гарэлкаю ён не частуе. Дык каб Нонік не акідаў мяне, я прыдумаў карміць яго ў кожную нядзелю абедам. Значыцца, ужо раз на тыдзень я мог гаварыць з ім. Абедаць прыходзіў ён ахвотна. Выходзіла, што хоць адзін друг не адвярнуўся ад мяне, калі я станавіўся пасля хваробы на ногі! Тады я, узрадаваны, пачаў часта частаваць яго гарэлкай. Дык ён вельмі ахвотна зайходзіў часта. Цяпер, калі я ўжо намнога выратаваўся ад рэштак хваробы і душа мая паздаравела, і мне не страшна, калі і два месяцы ніхто да мяне не зойдзе, я занядбаў гэтую агідную куплю дружбы за гарэлку. Пайковая гарэлка ідзе на рынак, Рэня выменьвае за яе прадукты. Я больш ем агародных вітамінаў, але звыш чатырох месяцаў не бачыў Глебкі. Ён жыў цэлы год са мною ў адной гасцініцы «Якар», я на трэцім паверху, а ён на чацвёртым. Таму назад з месяц я напісаў яму пісьмо. Яно вярнулася назад, бо ён паехаў у Мінск. 10-га жнівеня я зноў зайшоў да яго ў выдавецтва. У гэты дзень ён пагаварыў са мною, але ён злосны, раздражнены. Цяпер ужо ён мае патрэбу ў сяброўскай ласцы. Мне ўжо ён не патрэбен, калі ён забыўся, што дружба сапраўдная трымаецца не гарэлкаю. Бог з ім. Але мне хочацца паспрабаваць, ці не будзе яму якой-небудзь палёгкі ад шчырасці ў сяброўстве. Ён мучыцца. Яго Ніна паехала з немцамі і жыве ў Кенігсбергу. Глебкава пакута тут своеасаблівая. У гэтай пакуце многа холаду і чорствасці. Гэта ўласціва яго натуры. А блізкага чалавека ён не страціў. Сяброўскай блізасці ў яго з жонкаю ніколі і не было. Ён чорствы і сухі, а яна закаранелая мяшчанка, дурная, зайздросная і хцівая. 13 жнівеня 1944 г.

*20 жнівеня.*

Ужо больш за тыдзень прайшло, а яшчэ не сышло з мяне зусім уражанне ад мае гаворкі з П. К. Панамарэнкам. На тым тыдні ў пятніцу папрасіўся я на прыём. Я не мог больш цярпець. Я падрыхтаваў тэзісы і хвілін сорак дакладваў яму: 1) аб цэнзуры ў вобразе Дадзіёмавай, якая мову беларускай літаратуры хоча перайначыць на свой лад, 2) аб тым, што я не маю магчымасці пісаць свае раманы і 3) што я, як чорнарабочы, пісаў і пішу беспярапынна публіцыстычныя тэксты без подпісу, яны друкуюцца,

устаўляюцца ў тэксты рэзалюцый антыфашыстоўскіх, скажам, з'ездаў, друкуюцца ў зборніках Купалы як купалаўская публіцыстыка... А я хаджу спрацованы і хворы і жыву ў катуху. Гаворка ішла гадзін тры, да паўночы. Я паставіў пытанні проста. П. Панамарэнка ў часе гаворкі сказаў, што ён вызначае мерапрыемствы: адчыненне пры акадэміі навук двухгадовых курсаў — інстытуту мовы. Сабраць туды такую нізавую інтэлігенцыю, як сельскіх маладых настаўнікаў, і зрабіць з іх ахавальнікаў чыстаты беларускай мовы ў школах і нізавым друку. Адчыненне пры беларускім універсітэце факультэта журналістыкі. П. сказаў, што здыме з пасады цэнзара Дадзіёмаву. Узгаварыліся, як я сядзеў у турме, я сказаў, як і чым мяне катавалі. Уражанне ад гаворкі было добрае, я паспакайнеў і крыху супакоіўся. Я паказаў яму забракованы цэнзурай мой перадавы артыкул у № 5 «Беларусь». Там аб тым, што нямецкая акупацыя была для беларускага народа не толькі парою пакуты, але і парою ўзвышэння, гартавання і гістарычнага ўзняцця народа як нацыі і ўзмацнення яго нацыянальнай самасвядомасці. Народ пакінуў быць пастухом і стаў генералам. Наша шчасце, што мы належым да СССР, каб не — то што было б з намі? П. сказаў, што гэта яго думкі, «артыкул бліскучы» і цэнзуру ён «пе-ратрасе». Гаварылі пра ўсялякую драбязу, але мне важную: я папрасіў памагчы мне ў Мінску дастаць дзе жыць, хоць хату якую. Ён абяцаў. Назаўтра ён выклікаў з Мінска Лынькова. Чакаю хуткага пераезду ў Мінск, паспакайнець там душэю, узмацнець целам і пісаць, раман за раманам, а то ўжо тут не магу больш.

Нешта такі ў лесе здохла: час ад часу пачаў заходзіць Глебка. Яму трэба парваць усе сувязі з бялькевічаўскім мяшчанствам у Мінску і вытруціць з душы (не з душы, а з думак) памяць аб Ніне. Звязаўшыся ў маладосці з ёю, ён, гэты тады просты і шчыры сялянскі хлопец, ачарсцвеў і пачаў мяшчаніцца. Чутно ад людзей, што яна цяпер нават яшчэ выступае па радыё з Кенігсбергу.

Ужо дзён чатыры, як хварэю на грып. Хвароба пагоршвае настрой. Смутак. Міхала і Юрася, мусіць, няма жывых. Пісьмо з Цімкавіч. Маша і Анюта жывы. Дом згарэў. Каб быць у Мінску ў сваім ціхім кутку і пісаць!

*21 жнівеня 1944 г.*

Грып. Слабасць. Хіліць у пасцель. А ляжаць не магу. Думкі мучаць. І Рэня адчувае сябе дрэнна. І ёй вельмі нездаровіцца. Небарака, яна пэратамілася, гэтулькі ёй клопату і працы!

Толькі што зайходзіў на паўгадзіны У. Фінкель. Ён бядуе. У Беларускай акадэміі няма больш яўрэйскага аддзелу. У Мінску няма і, мусіць, не скора будзе яўрэйская газета. У Беларусі вельмі мала асталося яўрэяў. Уры Фінкель верны сын свайго народа. Патрыятычны сум яго — гэта шчырая пакута яго душы аб трагедыі свайго народа. Уры Фінкель належыць свайму народу і разам з ім варт вялікай пашаны. Гэта чалавек яўрэйскай культуры. Няхай да яго вернецца яснае шчасце душы.

Сённяшні момант беларускай гісторыі важан не толькі выгнаннем з Беларусі немцаў. Беларусь — усходняя славяншчына. Немец тут ніколі не будзе панаваць. Вельмі важным момантам сёння ёсць нам тое, што адбываецца ў Польшчы. Здаецца, што кладзецца канец польскаму зямельнаму магнацтву. Польшча без зямельных магнатаў гэта ўжо малое зло. Наўрад ці ў бліжэйшыя дзесяцігоддзі Польшча будзе сунуцца зноў рабіць на Беларусі сваю граніцу, хоць спробы даводзіць, што Польшча «мае права» апалячваць Беларусь, могуць быць. Як бы там ні было, а раман аб Рыгору Сухменьчыку калі-небудзь павінен быць напісан. Пісаць буду, ужо здаўшы ў друк «Вялікі дзень», «Пошукі будучыні», «Скіп'ёўскі лес», «Смага», кнігу аповесцей «Сумліцкая хроніка», «Млечны шлях», «Лявончыкава Ліда і Якубаўскі карчмар Сымон Біруля». Раман «Сыны Хведара Нявады» і драма.

Каб не выветрылася з памяці, запішу аб рамане пра Рыгора Сухменьчыка.

**Асобы рамана:**

1. Залеўскі (Эдвард Вайніловіч?), зямельны магнат.
2. Рыгор Сухменьчык, аконам, праваслаўны мужык з Кудзінавіч, салдат.
3. Сухменьчыха. Каталічка.
4. Анця. Дачка.
5. Яраслаў, сын.
6. Фэлька, Сухменьчыхын брат, Сцяпура.
7. Яго жонка.

8. Юрась, іх сын.

9. Бацька Фэльчыхі, сарвэтнік у Сумлічах — Цапры, Жупранах.

10. Другая жонка Залеўскага ў эміграцыі (у Польшчы).

11. Сын Залеўскага ад другое жонкі.

12. Васіль — Лукаш Брандэцкі.

13. Сцяпан Хлябцэвіч.

14. Хлябцэвічыха.

15. Зоя Хлябцэвіч.

16. Студэнт Адамчук, яго трагічная смерць пасля.

17. Муж Зоі Хлябцэвіч.

18. Фэлькава дачка, Юрасёва сястра.

### Дзе адбываюцца падзеі рамана

1. Рачкевічы, Залеўскага ўладанне.

2. Мястэчка Сумлічы, адкуль родам Фэлькава жонка.

3. Сцяпура Фэлька родам з Якубаўшчыны. Там на вузкіх палосах паміж двух лясоў паставіў сабе хату і жыў там. (Гэта калі пашыралася пасля рэвалюцыі мястэчка Сумлічы.)

4. Міроўшчына, прададзеная Залеўскім, дзе Рыгор Сухменьчык купіў сабе рату зямлі.

5. Горад Нясвіж. Каля яго дробны маёнтачак Раткава, дзе знайшоў сабе другую жонку з грашыма Залеўскі, пасля лета 1920 году.

6. Мінск.

7. Варшава.

1. У рамане павінна быць добра і дакладна сказана аб мясцінах і пунктах, дзе адбыліся падзеі ў розныя часы і дзе завязаліся і развязаліся справы.

2. Павінен быць распрацаваны дакладна лёс кожнага персанажа.

3. Распрацаваць квадры — абсягі — малюнкі рамана.

4. Часткі рамана. Раздзелы. Змест іх усіх і нумарацыя.

5. Назва рамана.

Няшчасны і мілы Фінкель, жыве ў «Якары» па чацвёртым паверху ў агульным нумары. Ён пісьменнік і вучоны. За час вайны ў яго памерла з голаду двое дзяцей.

На тым жа паверху ўсю зіму займала асобны нумар мадам Дадзіёмава, цяперашні цэнзар над усім друкам БССР. Да вайны яна з году ў год была ў такім чыне: «намеснік начальніка ўпраўлення справаў мастацтваў пры Саўнаркоме БССР». Самай важнай адзнакай гэтай установы была тая, што ў ёй ніколі, за год дзесяць, не было сказана ніводнага беларускага слова. А беларускае мастацтва было тым пунктам, навокал якога збіраліся сотні прайдзісветаў выяваць за медалі і ордэны. Такім парадкам ішло спустошанне мастацтва і з яго выветрывалася душа народа. Дадзіёмава не з гэтага вядомая асоба. Яна вядомая з іншага. Гэта хітрая і спекулянцістая мястачковая яўрэйка, якая дасягнула немалое пасады ў рэспубліцы. Яна член партыі. Але яна плюе на ўсё. У партыйнасці яна бачыць не ідэю, а кар'еру. У іншых умовах яна ўладала б мануфактурным магазінам. Яна некультурная і нават непісьменная (па-беларуску яна чытае дрэнна і зусім не ўмее пісаць). Яна адцуралася свае нацыянальнае яўрэйскае культуры і асіміліравалася. Куды? Вядома, як і кожны паразіт, яна ішла на гатовае. Працэс асіміляцыі ішоў у гатовую ўжо вялікую рускую культуру. Але яе прырода не дазваляе так адразу асімілявацца. Яна гаворыць па-руску так, што трэба смяяцца. Да якой жа культуры яна належыць? Да яўрэйскай? Не. Да рускай? Не. Да беларускай? Не. Яна выраклася яўрэйскай культуры, імкнецца і не дайшла да рускай і стараецца мець высокую пасаду пры беларускай. Наводняючы беларускія ўстановы, Дадзіёмава выгнала з іх беларускую мову. А цяпер, бачачы, што як бы дзьме беларускі вецер, яна, цэнзар, калечыць сваім алавіком мову беларускай літаратуры, думаючы гэтым паказаць начальству, што яна і ведае беларускую мову і займаецца ёю. Начальства гэтае (скажам, Гарбунова) лёгка ашукаць, бо яно само беларускае мовы не ведае і ніколі блізка ля яе не ходзіць. Усе гэтыя дні я чакаю: ці зніме П. Дадзіёмаву з пасады цэнзара, ці не? Калі не, дык — каму ж верыць і дзе шукаць ратунку?

А ўрэшце — аб чым думаць? Усё гэта глупства, не вартае пяра. Самае важнае — маё пяро і раманы. Пакуль жыву — дзяўбу пяром камень. Пяро трывалае.

*25 жнівеня.*

Здароўе крыху як бы лепш. І настрой лепшы. Працаваў сёння пад «Скіп'ёўскім лесам». Ужо гэта адно добра,

бо тыдпяў тры ўжо не браўся за яго. Заўтра пастараюся як-небудзь пасляць у Мінск міламу Максіму Лужанiпу пiсьмо. А блiжэйшымi днямi пáраю добрых слоў падзякаваць П. К. Панамарэнку за добрую гаворку. Назбiраюцца справы — зноў пайду да яго вырашаць. Гэта будзе ўжо не раней зiмы або ў канцы яе.

*6 верасня.*

Сёння закончыў трэцi раздзел «Скiп'ёўскага лесу». Можа, добра, а можа, i вельмi дрэнна. Такi я змучаны i духам i целам i так цяжка жыву, што не адчуваю. Патрэбен доўгi час у цiшынi i спакоi.

*8 верасня 1944 г.*

За шэсць дзён пераклаў «Позняе каханне» Астроўскага — так гнаў мяне ў карак тэатр. I ўжо месяц ляжыць гатовы тэкст i не забiраюць. Гэта ўсё азiятчына ў еўрапейскай краiне Беларусi. Я мог бы звацца не Чорны Кузьма, а чорнарабочы. Колькi за свой век я зрабiў гэтых перакладаў i напiсаў усяго, што без майго подпiсу запоўнiвае старонкi ўсёй нашай прэсы! I ўсё на кавалак хлеба! Хлеб наш насушчны, усiх нас пасушыць.

Быў сёння ў ГIХЛе. Дагаварыўся аб «Скiп'ёўскiм лесе» i зборнiку апавяданняў. Каб хоць у Мiнск, цiшыня i спакой, хоць i на попелiшчы. Абы цiхi кут i штодзень спакойна пiсаць.

*10 верасня 1944 г.*

Учора ўвечары i сёння да паўдня чытаў К. Федзiна «Горький среди нас». Усё гэта мне чужое, але я бачу: Федзiн сапраўдны пiсьменнiк i разумны чалавек. Я ўпэўнены: пра М. Горкага ён напiсаў праўду. Сапраўды, мусiць, так жыў i такi быў М. Горкi, вялiкi рускi iнтэлiгент з рукамi рабочага. З гэтай кнiгi вiдно, якое бяздонне памiж нашай тагачаснай iнтэлiгенцыяй, маладой, i той, да пакалення якой належыць Федзiн у Расii. Беларусы гаварылi аб адраджэннi Беларусi, г. зн. аб прыходзе беларускага народа да нацыянальнай дзяржаўнасцi, а рускiя iнтэлiгенты не мелi нi сваiх задач, нi мэт. Для iх рускi народ — гэта мужык з барадою. М. Горкi быў адзiн, непаўторны, ён узвышаўся над iмi ўсiмi. Ён бачыў свой на-

род усюды, дзе былі яго рысы, ён меў глебу. А гэтыя не маюць глебы ў народзе, таму яны не ведаюць пра што пісаць, шукаюць тэм і сюжэтаў, гавораць аб нейкіх «літаратурных знаходках» і сядзець макам на здрабнеласці рускай савецкай літаратуры. Для іх калгаснік — гэта той самы мужык, які толькі згаліў бараду, а не чалавек, дзе, хто мае вочы, убачыць і знойдзе і Эжэні Грандэ, і Івана Карамазава, і Андрэя Балконскага, і таго, хто не стаў яшчэ літаратурным персанажам, але ўжо стаў героем Савецкага Саюза. У вялікай літаратуры персанажы маюць сваю біяграфію. А каб пісаць біяграфію людзей, трэба ведаць, што народ — гэта мільёны індывідуальнасцей, кожны з сваім індывідуальным абліччам і лёсам, хоць і падначаленымі аднаму закону жыцця — нацыянальнаму і дзяржаўнаму.

Чамусьці пасля кнігі К. Федзіна я пачаў думаць праз з'яву невядомую і чужую ўсяму таму, што ў той кнізе: я думаю пра вечнае сваё: пра Францішка Багушэвіча. Кожная тая кніга добрая, калі яна ўзбівае чалавека на сталыя і важныя думкі.

*29 верасня 1944 г.*

Пятніца. Ужо якраз тыдзень, як у Менску. Яшчэ жыву на падлозе ў доме, дзе Саюз пісьменнікаў. Няма дзе адаспацца і адляжацца. Усе дні баліць галава, хіліць на сон і зрок пагоршаў. Але здаецца, гэта ўжо апошні мой злы этап. Як-небудзь агораю кватэру і буду дбаць аб здароўі і пісаць.

За гэтыя дні бачыўся з Р. Шырмам. Ад яго пачуў тое, што ўжо чуў ад П. Пестрака і М. Танка. Каталіцкае духавенства, дзе якое было раней і якое дзе цяпер з'явілася, стала агентурай пана Сасноўскага, паланізуюць сваіх парафіян і тлумачаць, што няма ніякай Беларусі, а ёсць Польшча. Усё ідзе ад віленскага біскупа Ялжбыкоўскага. Аб гэтым дакладна ведае і тужыць беларускі патрыёт мінскі ксёндз Шутовіч. Я цвёрда намерыўся пісаць старшыню Саўнаркома дакладную запіску, набраўшы фактаў. («Нацыянальныя польскія» сельсаветы ў Чарнагубаве і Карашчавіч.) Пальшчызна стараецца пакінуць польскага духу тут на наступныя пакаленні.

*3 кастрычніка.*

Аўторак. У нядзелю ўвечары Пестрак расказваў Лужаніну, як яго мучылі ў польскай турме. Алаўкі паміж пальцаў, пампавалі ваду праз нос, білі гумавым кіем, замыкалі рукі ў кайданы. Я слухаў. Пестрак умее цікава расказваць.

У яжоўскай турме ў Мінску ўвосень 1938 г. мяне саджалі на кол, білі вялікім жалезным ключом па галаве і палівалі збітае месца халоднай вадой, паднімалі і кідалі на рэйку, білі паленам па голым жываце, устаўлялі ў вушы папяровыя трубы і раўлі ў іх на ўсё горла, уганялі ў камеру з пацукамі, але рук у кайданы не замыкалі.

Сёння ўночы пацукі не далі спаць. Я ўпоцемку думаў аб Антаніне Лукашэўскай і двох яе сынох. Усё гэта можа пад маім пяром ажыць і жыць доўгім, поўным жыццём. І да мяне прышла шчырая радасць. Перад світаннем я заснуў без трывогі і суму.

Калі ўжо будзе тая кватэра і ціхі кут, каб пісаць!

Просіцца з пяра артыкул ў «Звязду» аб літаратуры.

*4 кастрычніка.*

Серада. Хмурна. Дождж. Пісаў «Скіп'ёўскі лес». Трэба далей так, кожны дзень.

*5 кастрычніка.*

Нічога не пісаў. Няма дзе падзецца і прыткнуцца з пяром. Чалавек з паўсотні за дзень перавярнулася.

Мала ўсяго, дык прыехала яшчэ і ўлезла ў мой кут, дзе я жыву на голай падлозе, нейкая Найдус з хлапчуком, які адразу пачаў рваць мяне за камызэльку. Гэтая яўрэйка лічыць сябе польскай пісьменніцай і прыехала жыць у Мінску.

У Беларусі асталося сем пісьменнікаў беларускіх, а членаў саюза пісьменнікаў у Беларусі звыш сотні. Лупсякоў ужо дванаццаць год піша, вучыўся ў універсітэце і яшчэ ўсё не ведае граматыкі. Каб усе яны пакінулі пісаць сваю халтуру, а сталі будаўнікамі, краўцамі, кавалямі, земляробамі або падвучыліся і сталі настаўнікамі, яны маглі б даць карысць рэспубліцы. Беларускай інтэлігенцыі бадай што ўжо няма, а гэтыя носяць яе імя і сціраюць з нашага жыцця беларускі характар.

Гэтая Найдус напусціла на ўсе два паверхі дому пісьменніка такога смроду, што Максіма Лужаніна цягне ванітаваць. Найдусяня мочыцца ў порткі, і яго маці, якая прыехала ў Мінск, узбагачаць польскую культуру на лагойскай рускай мове, нават і не паруліцца памыць сваё абасцанае стварэнне. Дагэтуль я ніколі яе не бачыў і не чуў, што яна ёсць на свеце. З першага спаткання яна пачала мне міласціва ўсміхацца, звысоку і ведаючы сваё вялікае дастоінства. З усімі яна адразу запанібрата, усіх навучае і ўсюды ўсаджвае свой нос. Пестрака яна называе сваім таварышам, «з ім я была ў Заходняй Беларусі ў падполлі». Яна высокая, як жэрдка, у акулярах і без спёгнаў. У сіняй спадніцы да кален, і на панчохах рагі нейкага бруду. Спадніца ледзь закрывае калені і фалдаю ўціснулася ў зад. Але затое яна адзета «па-еўрапейску» — голыя калені і вузенькая спаднічка. Гэтая саранча беспералынна загаджвае ўсё вялікае і добрае. Яна ж не хоча быць на сваім месцы: прадаваць у каапераціі або — чорт яе ведае, якую ёй даць льга было б работу, чыстую работу яна загадзіць і на горшую лянуецца.

Гэтая плойма аціраецца каля інтэлігенцыі і ўсё з прэтэнзіямі. Яна аблізвае языком словы: літаратура, навука, сацыялізм, камунізм, паэзія, драма, чалавецтва, Беларусь, народ, чалавечае шчасце, будучыня, патрыятызм, нацыя... Цяперашнім часам іх лексікон узбагаціўся словамі: «усиленный паёк, улучшенное питание, американские подарки через Красный Крест...» Гэта Дастаеўскага Лямшын за раялем. Прыжывальшчыкі і хлебаеды.

Так Бэнда лез у беларускую крытыку, Клімковіч у беларускую літаратуру, Александровіч у культуру і грамадскую дзейнасць (сабе на кар'еру), Дадзіёмава ў мастацтва і цэнзуру і Модаль — усюды, куды толькі льга лезці.

*6 кастрычніка.*

Пятніца. Пісаў вельмі мала. Горне на сон. Баліць сэрца. Клопат і думкі аб кватэры. Рэня і Іра спяць на падлозе. Учора ўвечары заўважыў, што ногі апухлі да кален. Сэрца! У турме ў мяне апухалі толькі ступені. Прага мець ціхі свой кут і пасцель і вылежацца як мае быць. А тут абяцаюць, што кватэра можа быць толькі праз два тыдні. Гэта значыцца, што не менш месяца трэба чакаць. А два месяцы то папэўна. Баюся, што не вытрымаю да пасцелі

і падушкі. Здань смерці мучыць мяне. Так я доўга не пацягну. І кому повем печаль мою? Хоць бы адзін хто блізкі і разумны, а Рэню буду берагчы ад трывог.

*11 кастрычніка.*

Сёння многа і, здаецца, добра пісаў.

7 кастрычніка зайходзіла да мяне не вядомая мне дагэтуль Марыля Шутовіч з Вільні, жонка ксяндза Адама Станкевіча. Яна прыехала ў Мінск, каб дайсці тут якоенебудзь рады: віленскі біскуп, пілсудчык Ялжбыкоўскі садзіць усюды па Беларусі на парафіі палякаў ксяндзоў, якія і прапаведуюць з амбоняў, што ўсе беларусы каталікі ёсць чыстыя палякі. Гэтая жанчына вельмі прыемная асоба, тыповая яшчэ нашаніўка. Да мяне прышла з просьбай надаць усяму гэтаму не рэлігійны, а палітычна-нацыянальны характар і так падаць у адпаведныя рэспубліканскія органы.

Прыехаў з Вільні мастак Сергіевіч. Мілы чалавек і з вялікім талентам. Зайходзіць часта. Пражыўшы з маленства і дагэтуль на Заходняй Беларусі, ён у нас аніяк не можа арыентавацца. Шукае падтрымкі і парад. Гэта нацыянальны мастак, поўны як мае быць.

*22 лістапада.*

Бадай што ўжо месяц, як у «кватэры», дадзенай мне Саўнаркомам. Але ж якраз як тая камера ў турме, дзе я сядзеў у 1938 годзе. Можна сказаць, што я ўжо дайшоў да апошняй мяжы. Бруд, цемень — вокны глядзяць у чорны трохкутнік з высозных муроў. Пісаць няма як і жыць няма як. А тут жа, па адным карыдоры, рамантуюць кватэру Рыжыкаву. Там светла і добра. Там Рыжыкаву можна будзе круціць патэфон і гуляць у «пульку». У нас няма ўласнага жыцця, мы ўсё аддаём дзяржаве. Мы аддалі дзяржаве свае душы і таленты, але мы не Рыжыкавы. Я жыву як апошняе пакідзішча. І не таму, што мне хто зла хоча, а таму, што ў нас не еўрапейская дзяржава, дзе інтэлектуальныя асаблівасці чалавека робяць яго жыццё арганізаваным. А ў нас азіятчына. Падхалімства, хабарніцтва, чыноўніцтва, паклёпніцтва — за апошнія годы паднялося на вялікую вышыню. Колькі нашай інтэлігенцыі без дай прычыны гніе ў турмах і на высылцы! У мяне ўжо няма 70 % здароўя. Я гіну і не магу выкарыстаць як бы трэба было свой талент. Сілы мае трацяцца і марну-

юцца без карысці. Доўгія годы мяне мучыла ГПУ-НКВД. А цяпер замест таго, каб рабіць тое, што мне трэба рабіць, я палю ў печы, цягаю ваду, змываю гаўно ў прыбіральні, краду дровы, дастаю з дошчак цвікі, мыю сваю парваную і вываленую адзежу. Тут вайна не да канца вінавата. Тут многа ад хамства. Апарат НКГБ і тысячы чыноўнікаў займаюць увесь горад — яны ўмеюць і любяць рваць адзін аднаго і ўсіх за горла, а я гэтага не ўмею рабіць, дык не магу нават дастаць хоць тоненькі праменьчык дзённага святла ў вакно і мучуся ў пограбе.

Божа, напішы за мяне мае раманы, хіба так маліцца, ці што?..

Дарагі братка Пятрусь!

Што з Трусам сталася — чорт яго ведае. Я проста расцэньваю гэта так, што не мае хлопец свайго ўласнага погляду на рэчы, бо невядомы такія прыклады, каб чалавек так хутка мяняў свае перакананні. Гэта проста абсалютная адсутнасць усякай глыбакадумнасці. Можа проста (чаму б і так не падумаць) паабяцалі хлопцу паслаць на курорт ці што-небудзь падобнае, от табе і ўся музыка. Што ты хочаш ад такога чалавека, які наогул яшчэ нічога не бачыў. Але чорт з усім гэтым. Заўтра даем у газету апраўяржэнне.

У іх адбыўся пленум. На пленуме аб усім гаварылася, не гаварылася толькі аб літаратуры. Найбольш гаварылася аб палітыцы, ды аб узняцці вытворчасці — якой? (Аб літаратуры ж ні слова). Чорт з імі. Нас усіх абурыла толькі подласць Труса. Але ясна толькі адно: літаратура ні подласцю, ні палітыкай не творыцца.

Нашу справу ў ЦК адлажылі да прыезду тт. Крыніцкага і Гэсэнь. А калі яны прыедуць — не вядома.

Ты пішаш наконт зборніка — безумоўна, складай, знойдзеш дзе-небудзь месца, пастараемся гуртам і выдрукуем.

Будзем дабівацца свайго, ніхто ж не пасмее адмовіць літаратурнай значнасці нашай групы. Верш твой у «Вёсцы» ўжо выдрукаваны. У «Вёсцы» я яшчэ папрацую, хутка высылаю ганарар. Верш твой у «Полымя» перадаў, але пайшоў у друк ці не — не ведаю. Папытаю й напішу.

Трус цяпер не хоча паказвацца на вочы — стараецца не сустракацца. Я, мабыць, хутка, на дзён два паеду ў Маскву, пагавару з Дубоўкай і зноў пачнем «бузацёрыць».

Будзеш пісаць Лужаніну — ад мяне яму прывітанне. А табе кланяецца Адам, якраз толькі што быў у мяне.

Пішы

Твой Кузьма

15/VII.26 г.

Братка Пятрусь!

Праз дзён 5—6 будзе часопісь. Заўтра-паслязаўтра высылаю «Пісьменніцкія нататкі». Збірай спешна другі нумар. Гані Траецкага і Бядулю. Траецкага давай столькі, колькі патрэбна для нумару, хоць усё да канца, калі будзе ў яго гатова. Пагавары з Адамам і Антошам — няхай даюць крытыку. Мая навэла калі і будзе, дык вельмі маленькая. Усё, што гатова, здавай адразу ж у Галоўліт. Пільна сяджу цяпер над раманам. Праз 2 тыдні будзе начыста гатова да 3-х аркушаў. Працую вечарам у гасцініцы, а кожны дзень бываю на прадпрыемствах. Сёння цэлы дзень быў на Беліцкай запалкавай фабрыцы «Везуві» — буйны пралетарскі асяродак. Быў і ў вёсцы. Як мы і нашы творы адарваны ад жыцця! Гэтая паездка вельмі шмат дасць для майго рамана. Шкадую толькі, што адзін паехаў. Паслязаўтра паеду на Добрушскую папяровую фабрыку, а заўтра на Сельмаш. Гані другі нумар — усё роўна першымі нумарамі мы творчае пагадненне зробім, адно падагнаць нумары трэба. А там разгорнем творчасць. Ніякому песімізму не павінна быць і кроплі месца. Няма падстаў. Літаратура спадзяецца на нас. Вітаю

Кузьма

Пабуду яшчэ дзён 4.
9/3-1930 г.

Пятрусь!

Дай, братка, цераз маю жонку рукапіс «Звягі» і мой (таксама і арыгінал) і рэдакцыйны — для аўтарскае праўкі пасля машынкі, бо там наблытана шмат. Заўтра зранку дастаўлю табе ў рэдакцыю.

Горне мяне ў пасцель — нейкая трасца на мяне ўссела, з жыватом качаюся.

Кузьма

13/IX.33 г.

13/IX.33.

Пятрусь!

Стылістыку выправіў, хіба можа чаго не заўважыў. Некаторыя твае пытальнікі асталіся мне незразумелымі: я нічога не знайшоў каля іх, што трэба было б правіць. Сяргей і Андрэй сапраўды былі пераблытаны — Андрэя ніякага няма.

У некаторых мясцінах я паадпраўляў назад «совецкая» на «савецкая»: гэта там, дзе гэтае слова гаворыць каваль і, здаецца, у адным месцы, Францкевіч. Справа ў тым, што я трымаюся думкі наконт таго, што трэба і праз мову герояў характарызаваць іх, хоць мова і не трымаецца граматыкі (у залежнасці ад героя, тыпа). Напр(иклад), я пакідаю за сабою права ўкласці ў вусны якому-небудзь свайму непісьменнаму персанажу слова «пляшпарт» замест «пашпарт» і г. д.

Таксама, кіруючыся гэтым, я выправіў «амерыканца» на «амарыканца». Бо гэта слова гучыць у вуснах персанажа (пэўнага). Гэтыя ўсе фразы, дзе тыя словы, стаяць у апав(яданні) у кавычках. Гэтыя папраўкі на стар. 3, 16, 23.

І яшчэ адно: я думаю назваць «Звягу» — аповесцю. Хоць дзея тут адбываецца і хутка, але карэнні яе ідуць здаўніны, тут біяграфічнасць герояў і г. д. Як твая думка? Калі ты таксама думаеш, што можна назваць «аповесць», дык напішы сам гэтае слова пад загалоўкам. Калі ж у цябе на гэта ёсць нязгода або няпэўнасць, дык пускай без азначэння якога б там не было жанру.

Выстарайся ў Зарамбоўскага, ці ў каго там, рэшту майго паасобніка (з машынкі) «Звягі», у мяне няма з пачатку да 21 стар., і аддай жонцы.

У жываце ў мяне няміласэрдная рэвалюцыя.

Кузьма

Цябе павязуць.

А я тут буду.

Пятрусь!

Я чуў, што ты нібыта заўтра едзеш на курэрт, а я тут ляжу хворы. То: або перадай Рэні зараз жа вершы ў альманах, або напішы мне, дзе яны ляжаць, зрабіўшы для мае арыентыроўкі спіс аўтараў.

Калі вершы не зусім гатовы, то я сам іх прыкончу (самае вернае дзела).

Альманах трэба здаць.

Няхай табе будзе прыемны курэрт. Аман.

К. Ч.

Друг мой Петрусец!

Цябе варта застрэліць, як падлу якую! Мала таго, што ты, заехаўшы на край света, мне не абазваўся. Дык ты нават і жонцы сваёй не пішаш. То гэта добра, што я яе разоў са два бачыў, а то б яна зусім ссумавалася б. Гэта адно. Цяпер другое. Не так ужо кепска і мы тут жывем. Не думай, што адно ты прахладжаеш сябе на курортах. Мы робім яшчэ лепш. Калі раней успаміналі з'езд у форме выступленняў і паездак, то цяпер пераключыліся на банкеты. І не кепска выходзіць. У ва ўсякім разе я думаю падацца к бондару і нацягнуць на сваю галаву якую-небудзь пару абручоў: баюся, каб не лопнула, кожны дзень трашчыць. Спачатку то я не лішне і бедаваў: начорта тая галава, абы розум быў. Але гэтымі днямі нехта (здаецца, ці не Кучар, калі не Хадыка) давёў мне дэталёва, што, безумоўна, калі не будзе галавы, то трасцы той і розум дзе-небудзь адзержыцца. І я паверыў. Разумееш? Сцяў зубы і паверыў. Цяжка было, але паверыў.

Горш за ўсё, што чым больш па банкетах ідзе ўлага, тым больш чарпільная ўлага без ужытку высыхае на стале.

Так, брат, хочацца на месяц які зачыніцца ў хаце і пісаць. Гэтымі днямі прачытаў «Зямлю» Э. Золя (Тваю, растрэсеную, узяў у Кандрата). Страшная кніга! Вялікі твор!

А сам я на тым тыдні ў рамане «Надзея Назарэўская» забіў даўбешкай па галаве Стафана Сэдаса, даўнейшага панскага сырніка, і рад. Так яму і трэба. Ён дзён тры ляжаў у рэчцы, і ракі грызлі яго за ляшкі. Мой герой Міхаіл Канатоўскі чуць не самлеў, убачыўшы гэты малюнак. І што ён зрабіў далей, яшчэ не прыдумаў: банкеты не даюць. Але ўжо ў галаве пачало вырысоўвацца.

Бывай. Пшапрашаёнц!

Твой Кузьма

(28.10.1834) Менск, Свярдлоўская, 49, кв. 48

Каб цябе, Нонічак, агонь спаліў, дзе цябе чэрці душаць! Я тут амаль дагаварыўся прыставаць сюды ў прымы, а ты недзе, ліха цябе ведае, што ты робіш. Тут я дазнаўся, што ты, падла, вельмі ж кашулі рвеш, і ў лазню не ходзіш, і дадому не прыходзіш, калі я тут цябе чакаю. Каб ты ўжо, бог даў, не чакаў сябе ніякае хэнці, калі ты гэтакі. Халера на цябе, дзе ты падзеўся! Свінячая ты спіна, конская ты грыва, сабачае сумленне, каровячае вымя, з-пад разніцы цюцька, аспіда ўнук і нашага крытыка крук. От як я табе выказаў, надобіна ты нядошлая. Чысла не знаю, бо календара не маю. Месяц на небе, а год у календары. Чысло такое ў нас, як і ў вас, каб ты не дажадаў больш ашукваць нас!

(1935 г.) Пісар — Чыкірышда-Янцута-Тхарловіч-Банкрут

Ноня!

Заўтра, 18/XI, каб ты мне быў у тэатры на «Салаўі». Білеты Табе і Ніне будуць у таго чалавека, які стаяцьме і прапускацьме.

17/XI. 37 г. К. Чорны

Мікола і Пятрусь!

Браткі мае родныя, ніяк не магу прыйсці цяпер на «планавае» паседжанне літ. габінета — працую. Давайце так: з 7 да 9 гадзін сёння ўвечары я буду працаваць у літгабінеце, а тады, у 9 гадзін, пойдзем да мяне і складом план. Роўна ў 9 збяромся ў літгабінеце.

26/XII. 39 г. Кузьма

Дарагі мой, мілы Нонік!

Даўно атрымаў тваё пісьмо і зрабіў па-свінску, што не адказаў табе ў скорым часе. Чытаў я тваё пісьмо, напісанае і Петрусю. Справа, бачыш, не толькі ў тым, што мы «агрубелі». Адзін агрубеў, другі змяк, як гліна, трэці пастарэў, і з яго ва ўсе бакі, як з дудак, свішча такая драбяза, якая была толькі ў зародку ў маладзейшыя яго гады. Тут, браце ты мой, над п'янак карытам часам адбываюцца такія сцэнкі, што хочацца заткнуць вушы і «уцякаў бы, бег, здаецца, сам не ведаеш куды». Не агрубелі, а здрабнелі! І думаеш — ці гэта пісьменнікі, ці гэта чэрці іх ведае хто. Адным словам, я, наколькі мне гэта ўдаецца, ста-

раюся быць сам з сабою. Галоўнае, чым я жыву — гэта сваёй працай. Я скажу табе проста — за апошнія гады я яшчэ і ў Мінску пачынаў аставацца сам з сабою, так нейк выходзіла. Я не гавару, што гэта добра! І ў асаблівасці гэта не добра з майго боку ў дачыненні да цябе. І гэтага больш, дарагі Нонік, не будзе. Пачытаўшы ў Броўкі пісьмо тваё, я адчуў сябе вінаватым. Мне стала брыдка, і асабліва таму, што тваё пісьмо ка мне вельмі мяне ўзрадавала: на мяне павеяла ад яго лепшымі часамі нашай дружбы і колішняй блізасці. А паспрачацца і пагаварыць на літаратурныя тэмы сапраўды хочацца. Вы гэта можаце рабіць з Айзікам. У мяне ж няма з кім. Праўда, тут Кандрат, але ён адзін, і ўсяго. А некаторыя іншыя сябры падаліся ў трохкапеечныя інтарэсы. Быццам бы над светам не ідзе вялікае змаганне за чалавечае шчасце, быццам бы па нашай роднай зямлі не прайшла вялікая крывавая драма! Ён, як той верабей, які дзяўбе конскае гаўно і думае, што гэта важна ўсяму свету. Сцэны, якія бывалі яшчэ пры табе і Айзіку, цяпер паўтараюцца часта, і з новым натхненнем. Вось і пагавары аб літаратуры!

Вашу газету я атрымліваю і, прачытаўшы, разам з нашай газетай адсылаю Рэні і Іры. Усе яны там прагнуць беларускага слова. Чытаю Лявона Бушму і думаю — няўжо гэта Лявон Бушмар, добры наш знаёмы, выкінуў з прозвішча літару «р» і пайшоў на газетную працу? А што ты думаеш? Відаць падвучыўся, пацёрся паміж людзей ды і гэтае! Перадай яму ад мяне прывітанне. А ці чытаеце вы нашу газету?

Мы цябе, Нонік, усе апошнія дні вельмі ўспаміналі з Дорскім. Ён з Ільінскім прыязджалі ў Маскву і былі тут дзён дзесяць. Справы іхняга тэатра добрыя. Сёння яны паехалі. Я чытаў ім першую дзею драмы. Былі заўвагі, і вельмі слушныя. Заўвагі такія, якія метамарфозы зрабіць з некаторымі персанажамі, каб глядач роў седзячы. Я падумаў і вырашыў паслухаць заўваг. Што ж да майго рамана, то як мае быць ён яшчэ не закончаны, але выйшла вялікая кніга — аркушаў пад дванаццаць.

Пра якія ж навіны яшчэ табе напісаць? Вольскага выклікалі загадваць літаратурнай часткай беларускай оперы. Наш рэдактар ужо не рэдактар, а невядома дзе будзе. Жыву я ў гасцініцы «Масква» і з 12-га паверху мне відзен захад. Калі заходзіць сонца, я думаю, што ў тым ружовым баку Беларусь.

Вялікае прывітанне міламу Іллі Гурскаму. А што да

Айзіка, то ты яму, вядома, прывітанне перадай, але я збіраюся яму пісаць сам пісьмо. Цвёрда веру, што неўзабаве збяруся. Бачыш — сабраўся табе напісаць. І яшчэ два прывітанні ад мяне: калі ў вас працуюць Ліля Бегічава і Лена Зіма — мілыя дзяўчаты, якія працавалі ў нас, то скажы ім, што я ім кланяюся.

Атрымаў я быў пісьмо ад вашага Пеці Бялькевіча. Ён разам з Насцяй, і працуе выкладчыкам у школе. Вось яго адрас: п/о Саботки Горьковской обл. Средняя школа № 1.

Бывай здароў, Нонічак. Цалую цябе.

5 красавіка 1942 г. Твой Кузьма Ч.

На ўсякі выпадак мой адрас:
Масква. Арбат,
Филипповский пр. 22.
Беларускае Постпредство
К. Ч.

Дарагі Нонік!

Ну што, і як, і дзе парабляеш? А я на ягадах трохі пасуся і патроху папраўляюся. Нічога не рабіў, ані, а апошнія дні пацягнула да працы, дык я час-часом бяруся на паўгадзіны за пяро. Але найбольш сяджу ў гультайстве. А яно, ліха на яго, даволі такі непрыемная рэч. Наглядзеў сабе куст піжмы і наглядаю, як яна расце і ўжо скора зацвіце. Ужо людзі тут кашамі грыбы цягаюць. Хочацца ўжо ў вашу родную кампанію. Каб ты толькі ведаў, якая вялікая асалода трымаць у руках пяро. Учора я пісаў, як у вераснёвую ноч свецяць зоры. Цалую цябе.

26/VII. 43. Твой Кузьма.

Нонік!

Заходзіў сёння да цябе, а час-часам званю табе вечарам. Як бы там ні было, нешта з мае фатыгі выходзіць чыстая фацэцыя ды і годзе, а турбацыя сплывае ў марнатраўства. Найлепшы інтэрас быў, калі ты жыў у Мінску. Тады ты сабе пішаш мне пісьмо, вязеш яго ў Маскву, нясеш пісьмо да мяне — вось і ёсць прычына нам пабачыцца.

Апроч усяго іншага — ці не параіш ты мне, дзе мне льга ўбачыць т. Горава (акадэміка)? З той прычыны, што я часта дома, пазвані, братка, мне ў Якар. Д 31009-27

1 верасня 1944 г. Твой Кузьма Чорны

## КАМЕНТАРЫІ

Беспадстаўна рэпрэсіраваны, К. Чорны ў 1938 годзе выйшаў з турмы цяжка хворым. У гады Вялікай Айчыннай вайны яго здароўе пагоршылася, але пісьменнік усе свае сілы і талент аддаваў барацьбе за вызваленне бацькаўшчыны ад фашысцкай няволі. К. Чорны напружана працаваў у розных жанрах. Публіцыстыка, апавяданні і раманы, напісаныя К. Чорным у гады вайны, з'яўляюцца сведчаннем шырокіх творчых магчымасцей празаіка. Усе творы пісьменніка прасякнуты трывожнай думкай пра гістарычны лёс беларускага народа. К. Чорны ўжо ў гады Вялікай Айчыннай вайны асэнсоўваў уклад беларускага народа ў перамогу над нямецкім фашызмам. У нататцы «Аб сваім новым рамане» (1942) К. Чорны пісаў: «Несучы на сваіх плячах цяжар, з крывавымі ранамі ў сэрцы і душы, у пакутах і смутку, савецкія народы сілай свайго ўдару па ворагу расчышчаюць шлях усяму чалавецтву да шчасця і радасці. Беларускі народ з гонарам стаіць у першых радах гэтага вялікага наступлення на армію вырадкаў і вылюдкаў, якія нарадзіліся ў нетрах фашысцкай Германіі».

Глыбока перажываючы трагедыю ваенных год, К. Чорны разам з тым гаварыў пра рост нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа. У 1944 г. у артыкуле, падрыхтаваным для часопіса «Беларусь», К. Чорны выказаў думку, што «нямецкая акупацыя была для беларускага народа не толькі парою пакуты, але і парою ўзвышэння, гартавання і гістарычнага ўзняцця народа як нацыі і ўзмацнення яго нацыянальнай самасвядомасці».

Напісаныя ў гады Вялікай Айчыннай вайны творы К. Чорнага — гэта мастацтва вялікай мабілізуючай сілы і глыбокіх філасофскіх абагульненняў. У публіцыстычных артыкулах К. Чорны гаварыў пра самаахвярнасць і веліч народнай душы. У шэрагу артыкулаў пісьменнік расказаў пра гераічных сыноў беларускага народа: генерала Л. Даватара, студэнтак Жэню Палтаўскую і Шуру Луковіну-Грыбкову, якія змагаліся ў тыле ворага і загінулі. Разам з тым К. Чорны ні на хвіліну не забываў пра подзвіг «ці-

хага» чалавека — працоўнага беларуса, для якога жыццё з працы сваіх рук заўсёды было няпісаным законам і ўсеагульнай нормай маральнасці.

У гады Айчыннай вайны, аднак, народ сутыкнуўся з нашэсцем «вырадкаў і вылюдкаў», вызваленых ад маралі. Фашызм, гаварыў К. Чорны, можна перамагчы толькі сілай і згуртаванасцю. Зброяй павінны стаць нават прылады працы — такі маральны імператыў мастацкай прозы і публіцыстыкі К. Чорнага ваенных год. Ціхая працавітасць — гэта вельмі пахвальная рыса, але час патрабуе, каб народ стаў змагаром. І вось самыя простыя прылады працы — лом, рыдлёўка, нож, якім рэзалі хлеб,— у руках мірных працаўнікоў становяцца зброяй — сродкам змагання з фашысцкаю пошасцю.

У апавяданнях К. Чорнага мастацкая сітуацыя падпарадкавана задачы адлюстравання псіхалагічных зрухаў, што адбываюцца ў свядомасці народа-працаўніка, якому далей немагчыма быць толькі пастухом. Спасціжэнне трагічнага характару эпохі ў творах малой формы К. Чорнага спалучаецца з шырокімі філасофскімі абагульненнямі. Пісьменнік часта выкарыстоўвае сімвалічныя вобразы. У апавяданні «Вялікае сэрца» такім сімволіка-алегарычным вобразам з'яўляецца вобраз дуба. Гэтае магутнае дрэва было ўцехай і прадметам гордасці людзей усёй акругі. Гледзячы на яго, цешыўся і спачываў душою Пархвен Катлубовіч. Ён спадзяваўся, што яго ўнук таксама будзе моцна трымацца карэннямі за родную зямлю і вырасце такім стройным і крэпкім, як дуб на дзедавым пляцы. Спадзяванні Пархвена не спраўдзіліся. Фашысты застрэлілі ўнука, а скалечаны імі дуб падобен на асмалак. Праўда, маленькі зялёны парастак усё ж пакідае надзею на тое, што дрэва яшчэ ажыве, што на ім могуць вырасці жалуды. Вобраз дуба ў апавяданні «Вялікае сэрца» — гэта сімвал гістарычнага лёсу беларускага народа.

У апавяданні «Прасторны дом» сімволіка таксама адыгрывае вялікую ролю. Збудаваны з добрага смалістага дрэва новы дом Банадыся Татарынчыка становіцца сімвалам роднага краю, бацькаўшчыны, аздобленай рукамі працавітых гаспадароў. У гады вайны ў ім сталі гаспадарыць ненавісныя чужынцы. Банадысь Татарынчык знайшоў выйсце: ён замкнуў рабаўнікоў і падпаліў свой дом. Калі вораг гаспадарыць у тваім доме, то спалі яго разам з домам — такі маральны загад нясе ў сабе ідэя апавядання. Характары і сюжэтныя калізіі, якія К. Чорны распрацоўваў у сваіх творах ваенных год, насычаны істотным філасофска-пазнавальчым сэнсам. Яны атрымалі далейшую мастацкую распрацоўку ў беларускай прозе пасляваенных год. У творах В. Быкава «Знак бяды» і «Аблава», як і ў творах К. Чорнага, таксама ў цэнтры ўвагі зна-

ходзіцца лёс беларуса-працаўніка, цярплівага і працавітага, але нязломнага ў змаганні з крыважэрнымі чужынцамі і іхнімі паслугачамі.

К. Чорны ўжо ў дні вайны змог па-паватарску паказаць адзінства чалавеканенавісніцкай практыкі сталіністаў і гітлераўцаў. Пра гэта пісьменнік расказаў у пачатай аповесці «Смага», якая друкуецца, захоўваючы правапіс, па рукапісе, што знаходзіцца ў Р. М. Раманоўскай — дачкі празаіка.

У цэнтры ўвагі аўтара тут з'яўляюцца яго любімыя героі — ціхія і працавітыя людзі, пазбаўленыя права на прытулак на сваёй роднай зямлі. Парабак Мікалай меў характэрнае прозвішча — Цішкевіч. Працавітую і маўклівую Тэклю называлі без'языкай. Пазбаўленыя класавым грамадствам права на паўнацэннае жыццё, яны насуперак злому лёсу сталі мужам і жонкай. Пасля рэвалюцыі яны перасталі жыць кутнікамі, але шчасце не было поўным: Тэкля памерла, і Мікалай Цішкевіч сам гадаваў сваю дачку. Вялікім шчасцем для бацькі было тое, што Алеся станавілася сталаю дзяўчынай, вучылася ў тэхнікуме, што яна добра разумела клапатлівую душу свайго маўклівага бацькі.

Ціхае шчасце бацькі і дачкі было, аднак, нядоўгім. Раённы начальнік Віктар Лагіза не меў намеру заставацца доўга ў ціхім і паэтычным мястэчку Якубавічы. Яго вабілі вышэйшыя пасады, і ён вырашыў ісці да мэты прасцейшым шляхам — вышукваць класавага ворага. У трыццатых гадах усяляк заахвочваліся даносчыкі і паклёпнікі, якія «праяўлялі пільнасць». Віктар Лагіза выбраў у якасці ахвяры Мікалая Цішкевіча і яго дачку.

Рукапіс аповесці «Смага» абрываецца на незакончаным сказе. Тым не менш ёсць дастаткова падстаў, каб адзначыць пэўную агульнасць лёсу Мікалая Цішкевіча з аповесці «Смага» К. Чорнага і Хведара Роўбы з аповесці В. Быкава «Аблава»: абодва яны ў гады культу страцілі права на бацькаўшчыну і свабоду. Тое, што дало працоўнаму чалавеку права рэвалюцыі, нібы ўкраў вялікі злодзей.

Напісаныя ў розныя гады лісты К. Чорнага да П. Глебкі таксама прасякнуты пачуццём трывогі і адказнасці за лёс беларускай культуры, за маральнае і палітычнае аблічча інтэлігента, за стан літаратуры. Упершыню яны былі апублікаваны І. Чыгрынам і Я. Кісялёвай у № 5 часопіса «Беларусь» за 1989 год.

*«Што з Трусам сталася...»* — незадоўга да таго група пісьменнікаў, у тым ліку К. Чорны, П. Глебка і П. Трус, выйшлі з літаратурна-грамадскага аб'яднання «Маладняк» і ўтварылі творчае

аб'яднанне «Узвышша», якое П. Трус неўзабаве пакінуў, вярнуўшыся ў «Маладняк». Як цяпер выявілася, П. Трус мусіў гэта зрабіць пад націскам пэўных, меўшых уладу асоб.

*«У іх адбыўся пленум...»* — пленум Цэнтральнага бюро «Маладняка».

*Крыніцын Аляксандр Іванавіч (1894—1937)* — у той час першы сакратар ЦК КП(б) Беларусі.

*Гесен С. М.*— загадчык Агітпропа ЦК КП(б)Б.

*«Верш твой у «Вёсцы» ужо выдрукаваны...»* — у газеце «Беларуская вёска».

*Адам Бабарэка (1899—1938)* — беларускі крытык.

*А. Траецкі* — пісьменнік, аўтар аповесці «Старасельшчына» («Узвышша», 1930, № 1, 2, 3).

*Адамовіч Антон (н. 1909)* — крытык, празаік. Пасля Айчыннай вайны ў эміграцыі.

*«Працую вечарам у гасцініцы»* — К. Чорны выязджаў у творчую камандзіроўку на Навабеліцкую запалкавую фабрыку (Гомельшчына).

*«Звяга»* — апавяданне К. Чорнага. Упершыню — часопіс «Полымя рэвалюцыі», 1933, кн. 10.

*Францкевіч* — персанаж апавядання «Звяга».

*«...узяў у Кандрата...»* — гаворка ідзе пра Кандрата Крапіву.

*«Надзея Назарэўская»* — рабочая назва рамана «Трэцяе пакаленне».

*Нонік* — хатняе імя Пятра Глебкі. Так яго звалі і сябры.

*«...каб ты мне быў у тэатры на «Салаўі...»* — маецца на ўвазе інсцэніроўка аднайменнай аповесці Змітрака Бядулі.

*«Білеты табе і Ніне...»* — Ніна Іларыёнаўна — жонка Пятра Глебкі.

*«Чытаў я твае пісьмо, напісанае і Петрусю...»* — гаворка ідзе пра Петруся Броўку.

*Айзік* — сапраўднае імя пісьменніка Алеся Кучара.

*«Вашу газету я атрымліваю...»* — падчас Айчыннай вайны Пятро Глебка працаваў у франтавых газетах «За Савецкую Беларусь» і «За свабодную Беларусь».

*Лявон Бушма* — псеўданім Іллі Гурскага (1899—1972).

*Іосіф Дорскі (1911—1964)* — беларускі драматург, доўгі час быў загадчыкам літаратурнай часткі БДТ-2 (цяпер т-р імя Якуба Коласа). Тэатр у часе вайны працаваў ва Уральску.

*Ільінскі Аляксандр Канстанцінавіч (1903—1967)* — народны артыст СССР, акцёр т-ра імя Я. Коласа.

*«Што ж да майго рамана...»* — хутчэй за ўсё маецца на ўвазе раман «Вялікі дзень».

*Віталь Вольскі (1901—1988)* — беларускі пісьменнік.

*«Атрымаў я быў пісьмо ад вашага Пеці Бялькевіча. Ён разам з Насцяй...»* — Бялькевіч Пётр Іларыёнавіч (н. 1907 г.), член-карэспандэнт АН БССР (1953 г.), хімік-тарфянік — швагер Пятра Глебкі. Насця — жонка П. І. Бялькевіча.

*«...патроху папраўляюся...»* — пасля інсульту (24.11.1942).

*Гораў Канстанцін Васільевіч (1904—1988)* — тагачасны прэзідэнт АН БССР.

*«Якар»* — гасцініца ў Маскве.

## ЗМЕСТ


АПАВЯДАННІ

РАСПЛАТА . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 6
МАЛЕНЬКАЯ ЖАНЧЫНА . . . . . . . . . . . . . . . 9
МАТЧЫНА БЛАГАСЛАВЕННЕ . . . . . . . . . . . . 16
БАЦЬКА . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 20
СМЕРЦЬ . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 29
АКСЕНІНЫ СЛЯДЫ . . . . . . . . . . . . . . . . 38
ПАГАНЫЯ КОСЦІ . . . . . . . . . . . . . . . . 48
МАТЧЫНА КРОЎ . . . . . . . . . . . . . . . . 50
АГОНЬ . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 53
НА ПАПЯЛІШЧЫ . . . . . . . . . . . . . . . . 56
ПРАСТОРНЫ ДОМ . . . . . . . . . . . . . . . . 60
ВЯЛІКАЕ СЭРЦА . . . . . . . . . . . . . . . . 65
ГОРА . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 80
ВОСЕНЬ . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 83
ЗАЎТРАШНІ ДЗЕНЬ . . . . . . . . . . . . . . . 85

АПОВЕСЦІ

СУМЛІЦКАЯ ХРОНІКА . . . . . . . . . . . . . . 134
СМАГА . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . 158

ПУБЛІЦЫСТЫКА

НАРОДНАЯ НЯНАВІСЦЬ . . . . . . . . . . . . . 176
ЖЫЛА І ЖЫЦЬ БУДЗЕ БЕЛАРУСКАЯ ЗЯМЛЯ! . . . 179
БЛІЗАК ЧАС РАСПЛАТЫ . . . . . . . . . . . . 180
В РАЗВЕДКЕ . . . . . . . . . . . . . . . . . 182
СПОР ОБ АРИЙСКОЙ КРОВИ . . . . . . . . . . . 183
БЕЛАРУСКІ НАРОД ЗМАГАЕЦЦА З АКУПАНТАМІ . . 184
ЧИСТОКРОВНАЯ ВОШЬ . . . . . . . . . . . . . 186
ПЕРАМОГА БУДЗЕ ЗА НАМІ! . . . . . . . . . . 187
У ІМЯ БУДУЧЫНІ . . . . . . . . . . . . . . . 190
БУДЗЕМ АДЗІНАДУШНЫМІ І НЕПАХІСНЫМІ . . . 192
НЕМЦЫ ЎСТАНАЎЛЯЮЦЬ ПАНШЧЫНУ . . . . . . 194
СУПРАЦЬ ЗВЕРА . . . . . . . . . . . . . . . 196
ЛЕЎ ДАВАТАР . . . . . . . . . . . . . . . . . 199
ЖЭНЯ ПАЛТАЎСКАЯ . . . . . . . . . . . . . . 202
ВЕРНАЯ ДАЧКА БЕЛАРУСКАГА НАРОДА . . . . . . 205
НАША АРМІЯ І НАРОД — АДЗІНЫ . . . . . . . 207
ДЗЕНЬ ДОБРЫ, БЕЛАРУСКАЯ ЗЯМЛЯ! . . . . . . . 209

